# Пятрусь Броўка

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ





МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

# Пятрусь Броўка

**ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕВЯЦІ ТАМАХ**

# 1

**ВЕРШЫ ПАЭМЫ**

**1926—1941**



**Рэдактар тома**
**М. Р. ЯРОШ**

**Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі**
**Э. А. ЗОЛАВАЙ, Л. М. МАЗАНІК, К. В. ПІЛІПОВІЧ**

**МІНСК**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1987**

## АД РЭДАКЦЫІ

Збор твораў народнага паэта Беларусі лаўрэата Ленінскай прэміі Петруся Броўкі ў дзевяці тамах — найбольш поўнае навукова-каменціраванае выданне яго мастацкай, публіцыстычнай, літаратурна-крытычнай і эпісталярнай спадчыны.

Апрача твораў, якія ўваходзілі ў сямітомны Збор твораў (1975—1978), падрыхтаваны пры ўдзеле аўтара, у новае выданне ўключаны вершы розных гадоў, што друкаваліся ў рэспубліканскіх і саюзных перыядычных выданнях і ранніх зборніках, але ў пасляваенныя Зборы твораў не ўключаліся. У новым Зборы твораў будуць змешчаны таксама вершы апошніх гадоў, больш поўна прадстаўлена крытыка і публіцыстыка, лісты, летапіс жыцця і творчасці.

У аснову размяшчэння твораў пакладзены жанрава-храналагічны прынцып:

першы том — вершы і паэмы 1926—1941 гг.;

другі том — вершы і паэмы 1941—1953 гг.;

трэці том — вершы і паэмы 1954—1964 гг.;

чацвёрты том — вершы і паэмы 1965—1974 гг.;

пяты том — вершы і паэмы 1975—1980 гг.;

шосты том — раман «Калі зліваюцца рэкі»;

сёмы том — апавяданні, аповесці, успаміны;

восьмы том — крытычныя і публіцыстычныя артыкулы;

дзевяты том — эпісталярый, летапіс жыцця і творчасці паэта [1].

Асноўным тэкстам для большасці твораў з'яўляецца іх апошняе прыжыццёвае выданне. Асобныя творы друкуюцца па часопісных, газетных публікацыях, лісты паэта — па арыгіналах. Выкарыстаны архіўныя матэрыялы і фотаздымкі Літаратурнага музея Петруся Броўкі.

Дадзены Збор твораў з'яўляецца навукова-масавым выданнем. Тэксты твораў зверапы з усімі прыжыццёвымі выданнямі і вядомымі на гэты час рукапіснымі крыніцамі. У выніку навуковай зверкі ў тэксце, узятым за асноўны, выяўлены асобныя недакладнасці, друкарскія памылкі. Кожная з унесеных паправак, у тым

[1] Магчыма, у некаторыя тамы пры вызначэнні храналагічных рамак будуць унесены пэўныя змены.

ліку і ўдакладненні датавання твора або асобнай яго часткі, у каментарыях дакументальна абгрунтавана і зацверджана рэдакцыйнай калегіяй.

У раздзеле «Каментарыі» прыводзяцца звесткі аб крыніцах асноўнага тэксту, крыніцах першадруку, аб даце напісання твора, змяшчаюцца некаторыя найбольш значныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах варыянты і разначытанні, раскрываецца гісторыя напісання і друкавання твора, узнаўляюцца літаратурна-творчыя, грамадскія ўмовы, у якіх ствараўся твор, даецца рэальны каментарый. У літаратурным каментарыі дадзена кароткая ідэйна-мастацкая характарыстыка твораў, уключаных у адпаведны том, раскрываецца іх месца ў творчасці пісьменніка і ў беларускай літаратуры.

Збор твораў П. У. Броўкі падрыхтаваны ордэна Дружбы народаў Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР.

Рэдкалегія выказвае падзяку галоўнаму захавальніку фондаў Літаратурнага музея Петруся Броўкі І. М. Рыдзеўскаму і супрацоўнікам музея за дапамогу ў падрыхтоўцы выдання.

## СВЕТЛЫ ТАЛЕНТ

І быццам за мільёны жыццяў
Я за адно сваё пражыў.

*Пятрусь Броўка*

У адным з апошніх сваіх вершаў Пятрусь Броўка пісаў:

Жыццё складанае бясконца:
І шчасця шмат, нямала й ран,
У кожнага ў вачах ёсць сонца
І свой у грудзях акіян.

Прайсці жыцця нялёгка далі,
Бывае, выпадае даль,
Што сонца промнямі запаліць
І аж заглушыць громам хваль.

Але скарацца ім нягожа,
Змагацца трэба, трэба жыць,
Хоць часам доўга боль не зможаш
Ні пагасіць, ні прыглушыць.

Гэта заклік да актыўнага жыццесцвярджэння, да грамадскай карыснай дзейнасці. Творчасць П. Броўкі пранікнута гуманістычным пафасам, палымянай партыйнасцю, глыбокай заклапочанасцю лёсам Радзімы і народа. Лепшыя яго творы сведчаць аб сталасці мастацкага мыслення паэта — аднаго з найбольш буйных прадстаўнікоў літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, акадэмік АН БССР, Герой Сацыялістычнай Працы Пятрусь Броўка адносіцца да слаўнай плеяды пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры — ён плённа працаваў на яе ніве больш чым паўстагоддзя. «Хочацца і ў вершах, і ў прозе па-сапраўднаму расказаць аб вялікім гераічным жыцці свайго народа»[1],— пісаў Броўка ў аўтабіяграфіі. Аптымістычная, шматфарбная па вобразах і разнастайная па гучанню паэзія Броўкі расла, сталела, угрунтоўвалася, набывала высокі ўзлёт, убіраючы ў сябе і жыццёвы вопыт пісьменніка, і вопыт будаўніцтва сацыялізма ў краіне. Цэлая гістарычная эпоха прайшла перад вачыма паэта. І ён — непасрэдны сведка і ўдзельнік працоўных і

[1] Советские писатели: Автобиографии. В 2 т. Т. 1.— М.: ГИХЛ, 1959.— С. 181.

ратных перамог савецкіх людзей — прыкладваў усе намаганні, каб быць летапісцам-мастаком, каб апець сучаснасць, упэўнены поступ нашага народа па шляху камуністычнага будаўніцтва.

Нарадзіўся Пётр Усцінавіч Броўка ў вёсцы Пуцілкавічы Барысаўскага павета Мінскай губерні (цяпер Ушацкі раён Віцебскай вобласці) 12 (25) чэрвеня 1905 г. Дванаццацігадовым падлеткам сустрэў Кастрычнік. «Усім сэрцам адразу адчуў сапраўдную волю» [1],— сцвердзіць паэт у аўтабіяграфіі. Актыўны, няўрымслівы, ён апынуўся ў кругавароце падзей, якімі жыла вёска, адчуў напружанасць палітычнай атмасферы, што панавала ў пагранiччы. Ён пачынае працаваць у савецкіх і грамадскіх установах. У 1918 г. паступае на работу ў Вяліка-Долецкі валасны ваенны камісарыят, затым працуе ў валвыканкоме, пасля рахункаводам у саўгасах Вялікія і Малыя Дольцы. Усё гэта самым непасрэдным чынам уплывала на станаўленне светапогляду юнака. Пра сваё справаводства ў валвыканкоме паэт успамінаў: «Вельмі многа мне дала гэтая работа, таму што і ў валасным цэнтры нямала адбывалася падзей, а ўдзельнічаючы ў іх, і я знаходзіўся ў самай гушчы жыцця нашай вёскі» [2].

У вершы «Мая савецкая ўлада» Броўка вельмі канкрэтна, непасрэдна выказаўся пра сябе, камсамольца і сельскага актывіста, праз шмат гадоў узнавіўшы ўласны «партрэт». Яўны аўтабіяграфізм, наўмысная апісальная інтанацыя не звужаюць аўтарскай задумы, хутчэй наадварот, яны якраз і прыдаюць успамінам паэта (верш у цэлым публіцыстычны) эстэтычную дзейснасць:

Насіў я
Сціплую апратку
Ды ганарыўся вельмі ёй —
У васільках касаваротку,
І з корту
Галіфэ-штаны,
І палатняныя абмоткі
З дзён грамадзянскае вайны.
І шапку з зоркай пяцікутнай
Ва ўсе пагодныя часы
З тым казырком, крыху прыгнутым
Дзеля найбольшае красы.

Тады, у першыя паслярэвалюцыйныя гады, надзвычай моцнай была цяга працоўных мас, асабліва моладзі, да грамадскай дзейна-

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1963.— С. 56.
[2] Тамсама.

сці, ведаў, творчасці. Малады Броўка неўзабаве становіцца важаком сваіх равеснікаў. У 1923 г. ён выбіраецца сакратаром камсамольскай ячэйкі, праз год — старшынёй Мала-Долецкага сельсавета. Тады ж ён пачынае дасылаць нататкі ў газеты. Крыху пазней Броўка ўжо знаходзіцца на камсамольскай рабоце ў Полацку, вучыцца ў школе для дарослых. Тут жа ён пачынае пісаць вершы. Першыя творы паэта былі апублікаваны ў акруговай газеце «Чырвоная Полаччына» (1926). Сам ён прызнаваўся: «Першы надрукаваны верш «Ой, не шапчы, мая бярозка» напісаў у Полацку. А было так: я быў адкліканы на працу ў Полацкі акруговы ЛКСМБ з пасады старшыні сельсавета. Давялося жыць у горадзе, але я не мог хутка развітацца з вёскай... Памятаю, часта хадзіў за горад і падоўгу глядзеў у свой бок, адкуль я прыехаў. Вось пад такім уражаннем я напісаў верш «Ой, не шапчы, мая бярозка» і паслаў у рэдакцыю «Чырвонай Полаччыны». Калі яго надрукавалі, быў вельмі ўзрадаваны, і ўжо нішто не магло спыніць майго паэтычнага захаплення. Многа чытаў, шмат пісаў, пачаў вучыцца на вячэрніх агульнаадукацыйных курсах» [1].

Настойлівая вучоба, упартае знаёмства з мастацкай літаратурай, чытанне класікаў і сучаснікаў садзейнічалі станаўленню творчай індывідуальнасці паэта. П. Броўка згадваў: «Люблю паэзію Пушкіна, Някрасава, Лермантава, Шаўчэнкі. Сваёй злабадзённасцю прыцягвае мяне і паэзія Дзям'яна Беднага. Папераменна захапляўся то Ясеніным, то Маякоўскім, знаходзячы ў кожнага геніяльнае... Шмат даў мне і «Маладняк». Мы ўсе ў ім раслі. Шукалі. Шукаў і я» [2].

На мэтанакіраванасць творчых пошукаў, на характар і змены літаратурных арыентацый, на сам змест паэзіі Броўкі вялікае ўздзеянне аказалі пераезд у Мінск, удзел у грамадскім і літаратурным жыцці, вучоба ва універсітэце (1928—1931). Паэт успамінаў, як і аб чым даводзілася пісаць: «У гады першай пяцігодкі мы пісалі пра ўсё. Хадзілі на заводы, чыталі, бічавалі прагульшчыкаў, гультаёў, рвачоў. Часта выходзіла рытарычна. Што ж, многа стала аднадзённай, але ніколі не шкадаваў працы, аддадзенай лозунгам і агіткам. Працуючы над імі, даводзілася быць у віры жыцця і многае пазнаваць» [3].

І ўражанні маленства, і родная прырода, і вялікія сацыяльныя змены, і непасрэдны ўдзел у грамадскай рабоце, у літаратурным руху — усё гэта стала жыццёвым, духоўным набыткам паэта. Біяграфія стала перадумовай натхнення, самабытнасці.

---

[1] Броўка П. Адказы на анкету ад 23.6.1974 г.
[2] Тамсама.
[3] Бровка П. О себе//Стихотворения и поэмы.— М.: Гослитиздат, 1959.— С. 6.

30-я гады — час інтэнсіўнага станаўлення таленту Петруся Броўкі. Праўда, на рубяжы дваццатых — трыццатых гадоў паэт перажываў цяжкасці творчага росту, звязаныя галоўным чынам з выпрацоўкай мастацкага стылю. Імкненне быць у паэзіі «арыгінальным» прыводзіла яго не раз да стварэння вершаў, у якіх жывое, сэнсава дакладнае слова падмяняецца штучнымі вобразамі-наватворамі («Мне сонца сёння — домна, а цэх — радзіма»), напышлівымі дэкларацыямі («Няхай бетоннымі нагамі ступае гордая эпоха»). Аднак пачуццё мастака, жыццёвы вопыт усё часцей падказвалі Броўку правільны кірунак творчых пошукаў, аб чым красамоўна сведчыць кніга вершаў і паэм «Прыход героя» (1935).

Спачатку ў яго паэзіі з'яўляецца герой калектыўны, пэўная грамада людзей, аб'яднаных адзіным парывам, настроем. Характэрны ў гэтых адносінах верш «Зямля», у якім аўтар імкнуўся паказаць лёс цэлага пакалення сялян, што прайшло праз рэвалюцыю і грамадзянскую вайну, стала гаспадаром роднай зямлі-карміліцы, здабыло доўгачаканую свабоду і шчасце.

Мы скавалі плугі надзвычайнай хады,
Сваю сілу з табою сасваталі,
Каб у нашы гады
Ты цвіла маладухай багатаю.

Яшчэ з большай сілай выявілася ў гэты час другая тэндэнцыя ў творчасці Петруся Броўкі — імкненне да шырыні, маштабнасці, дынамічнасці паэтычнага малюнка, да паказу чалавека як удзельніка рэвалюцыйных падзей (паэма «Праз горы і стэп», 1932). Броўка выкарыстоўвае прыёмы гіпербалізаванага, рамантычна-абагульненага паказу рэальных падзей. Бесперапынная атака белагвардзейцаў, тыфозная агонія, «раз'юшаны рокат» буруна — усё супраць знясіленых, знямоджаных голадам чырвоных байцоў. І ўсё ж яны выходзяць пераможцамі. У намаляванай карціне цяжкага паходу ўвесь час бачыцца маналітная, адзіная «па веры і гарту» людская грамада, нястрымная ў імкненні наперад, да перамогі. Гэтую нястрымнасць, імклівы рух, энергію паэту ўдалося ўзмацніць самім гучаннем верша, дынамічным, маршавым па рытмічнай структуры.

На коней, брат!
Там белы гад!
Мацней агонь!
. . . . . . . . .
І пайшлі
Маладымі і юнымі,
І пайшлі,
Ажно вецер прысеў.

Абапіраючыся на вопыт старэйшых пісьменнікаў, Броўка стварыў самабытную паэму аб гераізме радавых байцоў рэвалюцыі. Для самога Броўкі гэта быў твор этапны. Ён знаменаваў рашучы паварот ад лозунгавай патэтыкі да рамантычна ўсхваляванай размовы пра грандыёзнае пераўтварэнне краіны.

Аб далейшых пошуках Броўкі ў сферы ліра-эпічнай паэзіі красамоўна гаворыць паэма «1914», напісаная ў 1933 годзе. Пафас яе ў паказе антычалавечай сутнасці імперыялістычных войнаў, у выкрыцці віноўнікаў народных няшчасцяў і катастроф. Мастацкая палітра паэмы ўзбагацілася ў параўнанні з ранейшымі творамі Броўкі адметнымі фарбамі. Выкрываючы служак цара, паэт чэрпае сродкі маляўнічасці з сатырычнага «арсенала». У мэтанакіраванасці сатырычна завостранага малюнка, ва ўменні самой логікай разгортвання падзей падвесці чытача да абагульненняў значнага сацыяльнага зместу праявілася плённасць творчых пошукаў паэта, засваенне ім трывалых традыцый, якія ішлі ад У. Маякоўскага, ад Я. Купалы і Я. Коласа.

Мастацкае асэнсаванне падзей мінулага не змяншала пільнай увагі П. Броўкі да сучаснасці. Менавіта цяпер, у сярэдзіне 30-х гадоў, у паэзію Броўкі прыходзіць новы герой — актыўны пераўтваральнік жыцця, будаўнік і творца. Калгасны брыгадзір («Красавік») думае пра людзей, пра тую радасць, якую прыносіць ім вясна.

І вось устае перад ім
Шырокіх пратораў раздолле.
І звоняць зялёныя струны
Калгасных жытоў і пшаніц,
І лепшая песня дзяўчат,
Званчэйшая самая ў полі,
Да самага сонца бяжыць,
Сваёй маладосцю звініць.

Неабходна вылучыць апошні перадваенны зборнік паэта «Шляхамі баравымі» (1940), які, як сказаў П. Глебка, «вызначаюць вершы, у якіх цэнтральнае месца займае чалавек, яго пачуцці і думы, дарма, што гэтыя вершы напісаны часамі аб дажджы ці аб крыніцы... А праўдзівасць і непасрэднасць пачуцця вызначылі ў сваю чаргу і разнастайны характар рытмічнага рысунка і строфікі» [1]. Зборнік сведчыў аб творчай сталасці П. Броўкі. За адно дзесяцігоддзе яго талент настолькі ўзмужнеў, што яму сталі падуладны і паэтычныя маналогі пра час і чалавека, і пранікнёная лірыка,

---

[1] Глебка П. Паэзія барацьбы і перамогі: Артыкулы.— Мн.: Мастліт., 1973.— С. 66.

і сацыяльныя вострыя замалёўкі рэчаіснасці, і песенныя вершы, блізкія фальклору.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны П. Броўка — у арміі. Працаваў у франтавым і партызанскім друку. Пісаў вершы і артыкулы. У творчасці паэта з асаблівай мастацкай сілай гучала пачуццё гордасці сына савецкай зямлі за сваю прыналежнасць да ленінскай партыі, да сацыялістычнай Айчыны. Лірычны вобраз героя ў вершах П. Броўкі мужнее разам з краінай-змагаркай.

Глянь у сэрца маё,
Я прынёс яго з бою,
На агні яго можна
Мячы гартаваць.

У дакладзе «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя» на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук Беларусі ў 1942 годзе Янка Купала сказаў: «У мастацкіх творах беларускіх пісьменнікаў чуюцца вострыя боль і крыўда за пакуты і слёзы беларускай зямлі, часова захопленай фашысцкімі бандытамі, у іх кіпіць пязгасная прага свяшчэннай помсты і непахісная вера ў перамогу савецкага народа над вераломным і ненавісным ворагам. З вялікай паэтычнай страсцю гэта вера народа ў перамогу над ворагам выказана ў мужных радках верша П. Броўкі «Маці» [1].

Янка Купала прыводзіць апошнюю страфу Броўкавага верша. Думаецца, варта прыгадаць яго цалкам.

Ты ходзіш, маці, сцежкамі вайны,
І з вуснаў рвуцца ворагу праклёны,
З братамі прыйдзем мы, твае сыны,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Рабуе гвалтаўнік апошняе з двара,
Цябе давесці хоча ён да скону,
Ды грознай помсты блізіцца пара,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Крывёй звяроў напоўнім берагі,
Касцямі катаў высцелем загоны,
Ударым мы — парвуцца ланцугі,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Не раз мы зносілі насланую бяду,
Не раз знішчалі мы драпежнікаў шалёных,

---

[1] Купала Я. Збор твораў: У 7 т.— Мн.: 1976.— Т. 7.— С. 400—401.

Змяце зямля і гэтую брыду,—
І выйдзе Беларусь з палону!

Паэзія шукала самых разнастайных форм выяўлення гераічнага. Натуральна, што і П. Броўка ў гады вайны ставіў сваёй асноўнай задачай намаляваць велічны вобраз бясстрашнага абаронцы Радзімы. Ствараючы «Паэму пра Смалячкова» (1942), паэт імкнуўся на рэальных фактах барацьбы з захопнікамі выявіць гераічны характар савецкай моладзі, выхаванай Ленінскім камсамолам.

«Пра Смалячкова я напісаў пад уражаннем гераічнай абароны Ленінграда ў блакаду,— зазначаў паэт.— Я ганарыўся тым, што мой зямляк, такі малады, такі адважны, і я напісаў пра яго, спадзеючыся, што наша моладзь, якая змагалася на ўсіх франтах і ў партызанскіх атрадах, можа мець за прыклад Смалячкова» [1].

Перад намі праходзіць жыццё Смалячкова з дзяцінства і да гераічнай смерці. Гэта біяграфія — паэтычная. Пры ўсёй сваёй канкрэтнасці яна — жыццёвы шлях усяго юнага камсамольскага племя, якое прыносіла шмат ахвяр, каб выстаяла Радзіма.

У вершах пра вайну паэт звяртаецца і да прыёмаў апасродкаванага выяўлення пачуццяў, настрояў, роздумаў герояў. У яго паэзіі адчуваецца моцная цяга да эпічнай маляўнічасці, што вымагала адметных жанравых форм — паэмы ці балады, для якіх характэрны эпічны, апавядальны элемент. Шчодра чэрпаў сродкі вобразнай маляўнічасці з арсенала паэтыкі фальклорнага рамантызму, застаючыся творча самастойным, арыгінальным.

Як сына прымала,—
Зямля застагнала.

Гэта радкі з верша «Магіла байца». Наколькі сканцэнтравана тут пачуццё! Па жанру верш набліжаецца да балады, філасофскай паводле вырашэння тэмы, рамантычнай па каларыту. Сюжэт твора ўбірае ў сябе і рэальныя падзеі ваеннага часу, і сітуацыі казачнага характару, навеяныя народнай творчасцю. Арганічна спалучаючы іх, паэт дабіваецца асабліва яскравага ўвасаблення задумы — раскрыць неўміручы подзвіг савецкіх салдат, якія, перамагаючы смерць, вызвалялі родную зямлю, неслі ёй свабоднае жыццё.

Шумелі ля берага хвалі ласкава,
Раслі на кургане зялёныя травы,
Цвілі на кургане чырвоныя краскі,
На іх калыхаліся цёплыя росы,

[1] Броўка П. Адказы на анкету.

І кветкі не вялі на раннім марозе...
І воінаў храбрых ўсё гэта здзівіла:
Якая ў зямлі
Незвычайная сіла?
І так не дазналі тым радасным ранкам,
Што выраслі кветкі са слёз партызанкі.

Апошні радок асабліва шматзначны. Гэта дэталь завяршае мастацкі вобраз, дзякуючы ёй дасягаецца закончанасць паэтычнай думкі. Над магілай салдата квітнее жыццё — вось велічны помнік воінаў, адзнака яго бессмяротнасці.

«Магіла байца», як і іншыя, цяпер ужо класічныя творы баладнага тыпу («Кастусь Каліноўскі», «Надзя-Надзейка»), добра засведчыла, што таленту Броўкі падуладны і аб'ектывізаваны паказ жыцця, хоць як і лірык ён тут надзвычай пранікнёны. Толькі форма ўвасаблення роздуму і пачуцця своеасаблівыя.

З тых жа ідэйна-творчых пазіцый, але ў іншым жанрава-стылёвым плане асвятляецца гераіка мінулага і сучаснага ў паэме «Беларусь» (1943). Пра задуму твора паэт сказаў: «У 1943 г. напісаў паэму «Беларусь». У той час ужо былі відны абрысы нялёгкай перамогі. Да болю хацелася дадому, хутчэй ступіць на родную зямлю. Успаміналася ўсё перажытае на Радзіме. Вялікая любасць да роднай зямлі натхніла мяне на гэтую паэму. Увесь яе гістарычны шлях, цяжкі, але і радасны, уставаў перада мною, і галоўнае — гераізм народа ў вайне, які ўпэўніваў, што і на гэты раз мы пераможам» [1].

«Беларусь» — своеасаблівая паэма-кантата. І пра суровыя падзеі мінулага і сучаснага, і пра някідкія ды па-свойму чароўныя беларускія краявіды, і пра натхнёную працу савецкіх людзей апавядаецца ў ёй ва ўзнёсла-ўрачыстым тоне. Імкненне да велічнасці, маштабнасці выразна адчуваецца і ва ўрачыстых рытмах, і ў мажорных інтанацыях, і ў адборы выяўленчых сродкаў, і ў сэнсавым напаўненні радка. У паэме ажываюць традыцыйна-кніжныя вобразы («гул ратны», «дужая рацць», «зазвінелі мячы над Чарнечай гарою» і іншыя). Асабліва шырока выкарыстоўвае паэт разгорнутую метафару, якая нярэдка мяжуе з гіпербалай.

Расправіўшы плечы, магутны, высокі,
Стаяў ты, як волат, між родных далін,
Як бор, галавою дастаўшы аблокаў,
Над шумным, жытнёвым прасторам шырокім,
І вуспы цвілі, як агні журавін.

---

[1] Броўка П. Адказы на анкету.

Паэзіі Броўкі ваенных гадоў уласціва шырыня абагульнення, шматфарбнасць. Разам са шчаслівым узрушэннем салдата, што вось-вось вернецца да мірных спраў, у ёй чуюцца і раскаты далёкіх баёў, і плач асірацелых дзяцей, жонак, маці, і нянавісць да захопнікаў. Арганічнае зліццё гэтых матываў надае лепшым творам паэта значную сілу эстэтычнага ўздзеяння. Так, верш «Прачнуўшыся рана» (1945) пранікнуты глыбокім гуманістычным пафасам, хоць размова тут ідзе, здавалася б, толькі пра звычайную белую бярозу, апетую не адным паэтам.

Прачнуўшыся рана, пайшоў па ваду я
Яшчэ на світанні.
Сустрэў ля крыніцы бярозку малую,
Як некалі раней.

Што сталася з белым бярозавым плаццем?
Мне пала на вока —
Шрапнельны асколак кару пашкумаціў,
Параніў глыбока.

Чакала і ты нас, бярозка, аддана,
Як сэрца дзяўчыны.
Я раны агледзеў, спавіў іх старанна
Чысцюткай хусцінай.

Гуманістычным пафасам прасякнута і паэма «Ясны кут» (1944). Твор глыбока лірычны. Гарачае, трапяткое аўтарскае пачуццё ўсхвалявана б'ецца на працягу ўсёй паэмы. Паэт пранікнёна выказаў не толькі цяжкі боль, які запаланіў яго сэрца ў час сустрэчы са знявечанай ворагам радзімай, але і радасць вызвалення, і захапленне энтузіязмам людзей, што прыступілі да аднаўлення калгасаў.

Паэма «Ясны кут» адкрывала мірны дзень не толькі ў творчасці Броўкі, але і ва ўсёй беларускай паэзіі.

Для большасці твораў Петруся Броўкі, напісаных адразу пасля заканчэння вайны, характэрна прыўзнятае, усхваляванае ўспрыняцце жыцця. Светаўспрыманне сучасніка ярка выявілася ў лірычнай паэме «Хлеб» (1946) — выдатным творы беларускай паэзіі тых гадоў.

У паэме яшчэ чуецца водгулле нядаўняй вайны. Але напамін аб тым часе, калі «салдацкае поле ўзнімалі снарады», робіцца галоўным чынам дзеля таго, каб падкрэсліць шчасце міру, высакароднасць мар і парыванняў лірычнага героя. Сеяць, даглядаць пасевы, збіраць ураджай — для яго крыніца светлай радасці і натхнення. І нездарма ў час натхнёнай працы ў душы героя нараджаецца і выспявае самае паэтычнае пачуццё — каханне. Бадзёраму,

урачыста ўзнёсламу пачуццю героя адпавядаюць і навакольныя абставіны, усё ў якіх авеяна святочнай прывабнасцю, і родная прырода, якая жыве ясным, сонечным жыццём. З дапамогай вельмі трапных вобразных асацыяцый паэт стварае жыццярадасную карціну працы і маладосці, міру і красы.

Смачны хлеб працавіты.
Сейбіт ходзіць палямі,—
Сыпле, сыпле ён жыта
Залатымі дажджамі.

. . . . . . . . . . .

А дзе зернята пала —
Шум калоссяў, здаецца,
Што вясёлка зайграла
Сёння ў сейбіта сэрца.

Паэма «Хлеб» задумана як рамантычна-ўзнёслае ўслаўленне савецкага чалавека-творцы. І зусім правамерна, што, рэалізуючы задуму, паэт адбіраў тыя вобразна-выяўленчыя сродкі, якія давалі магчымасць з найбольшай паўнатой паэтызаваць светлыя, чыстыя душы нашых людзей. Броўка працягвае ў паэме лепшыя традыцыі беларускай паэзіі, у прыватнасці лірыкі Купалы («ляўкоўскі» цыкл).

Паэма «Хлеб», як і многія вершы, узнікла на высокай хвалі ўсенароднага энтузіязму, які вызначаў грамадскае жыццё пасля перамогі над ворагам. А яскравае супрацьпастаўленне таго светлага, што абяцаў мір, таму змрочнаму, што прынесла з сабой вайна, надавала лепшым творам Броўкі грамадзянскі пафас, глыбокую чалавечнасць і эстэтычную дзейнасць. Прачула, задушэўна напісаны вершы аб вялікім Леніне («Ля Маўзалея», «Там, дзе хадзіў калісьці Ленін»).

Сярэдзіна 50-х гадоў — «час жыццёвай пераробкі і ўзлёту» (П. Панчанка) у творчай біяграфіі Петруся Броўкі. Адна за другой выходзяць кнігі паэзіі «Пахне чабор» (1959), «Далёка ад дома» (1960), «Высокія хвалі» і «А дні ідуць...» (1962), «Між чырвоных рабін» (1969), «Калі ласка» (1972), «І ўдзень, і ўночы» (1974) і інш. Асноўнае, што вызначае ідэйныя асаблівасці паэзіі Броўкі гэтага перыяду,— усведамленне грамадскай важнасці тых перамен, якія адбыліся ў краіне, пачынаючы з сярэдзіны 50-х гадоў. Творы становяцца больш паўнакроўнымі, у іх узмацняецца гуманістычны пафас. Паказальная ў гэтым сэнсе паэма «Заўсёды з Леніным» (1956). Тое новае, што ішло ў жыццё краіны пасля XX з'езда Камуністычнай партыі, было ўспрынята Броўкам як здзяйсненне

мудрых ленінскіх запаветаў. «Быў Ленін на з'ездзе дванцатым і ўперад азначыў нам шлях» — такі лейтматыў твора.

Хрэстаматыйным даўно стаў верш «Пахне чабор», які па-новаму «адкрываў» Броўку — паэта акрэсленай рэалістычнай манеры пісьма, лірыка паводле вызначальных рыс таленту. Верш гэты — красамоўнае сведчанне таго, што сапраўдная паэзія здольна ўзняць на вышыню эстэтычнага гучання звычайны жыццёвы факт, які, аднак, назаўсёды застаўся ў памяці паэта:

Хіба на вечар той можна забыцца?
...Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы,
Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,
Быццам абсыпана промнямі зор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Выйсці б насустрач, стаць і прызнацца,
Вось яно — блізкае, яснае шчасце,
Клікнуць хацелася — голас замёр...
Пахне чабор,
Пахне чабор...

Гуманістычная аснова паэзіі Броўкі яскрава акрэсленая, шырока выяўленая. Паэт імкнуўся мераць свой ідэал чалавека мерай народнага ідэалу. Яго эстэтычнае, творчае крэда стала грунтуецца на прынцыпах сацыялістычнага гуманізму, дзейнага і наступальнага:

Хоць бы мне па хмарцы ў рукі,
Я б сыпнуў туды, дзе смага.
*(«Выйсці б, стаць плячом да зораў»)*

Верш Броўкі не спыніць нечакана ўвагу незвычайнасцю метафар ці параўнанняў, адмысловым гукапісам, наўмысна арыгінальным рытмічным ходам. Ён іншы раз быццам нейкі будзённы, звыклы па традыцыі, некалькі аднастайны, калі аднастайнасцю лічыць схільнасць паэта да простых рытмічных форм. Але вось гэты верш, як правіла, нясе багаты чалавечы змест, падкупляе сваёй яснай прастатой — і ў вобразе, і ў рытме. Мнагазначная традыцыйная прастата — адна з вызначальных рыс у мастацкім мысленні паэта, у стылёвым малюнку яго твораў. Такая прастата ў яе шчодрай эмацыянальнасці прыходзіць толькі са сталым мастацкім све-

тапоглядам, прыходзіць, як заваёва, як чаканы набытак. Нездарма вядомыя паэты, гаворачы пра творчасць Броўкі, цэняць у ёй шматзначную прастату. Міхаіл Святлоў у рэцэнзіі на зборнік «А дні ідуць...» (напісана ў форме сяброўскага паслання) прызнаваўся: «Я цябе люблю за тое, што ты ўмееш гутарыць. Будзь ты ў Палессі ці ў Арктыцы, ты гутарыш са мной. Гэта найкаштоўнейшы дар. Калі ўсе гавораць звонкім голасам, гавары з хрыпотцай. Але толькі твой голас не павінен гучаць як прастуджаны. Каштоўнасць паэта заключаецца ў яго своеасаблівасці. Калі ты гаворыш, я... адразу бачу цябе. Цябе — хто ўмее пісаць толькі добрыя кнігі» [1].

Адчуў гэта і вядомы латышскі пісьменнік Ян Судрабкалн. Маючы на ўвазе паэму «Голас сэрца» (1960), ён пісаў: «Усё ў гэтай паэме, як і ва ўсёй паэзіі Броўкі, сказана проста і ясна, без хітрасцей і аздабленняў, моцна і ярка, з жывымі вобразамі, дзе трэба — з сарказмам, і паэт, які авалодаў такой цяжкай прастатой, яснасцю і сілай, не бядняк, а вялікі майстар і багач» [2]. Паэма прысвечана памяці маці, замучанай гітлераўцамі. Адсюль і ідзе лірычная плынь твора. Наведаўшы былы канцлагер Асвенцім, паэт глыбей адчуў усю бязмежнасць людской трагедыі. А яна, трагедыя, мроіцца яму ў вобразе нябожчыцы маці. Яго ахопліваюць успаміны пра дзяцінства, пра маці — чалавека, з якім звязаны самыя светлыя старонкі жыцця. Таму так усхвалявана гучаць словы паэта, таму столькі пачуццяў выяўляецца ў кожным радку.

Сэрца хавае адну спадзяванку:
Можа, сустрэнеш, як раней, на ганку.
Скажаш: — Як без мяне тут гаруеш?
І са слязой, як заўжды, пацалуеш.

. . . . . . . . . . . . . . .

Сенцы адчыніш, паклічаш у хату.
Можа, не быў я ў тым месцы праклятым,
Дзе ты збылася ў пакуце пякельнай...
А каля печы зазвоніш патэльняй
Ды за сталом, за абрусам бялюткім,
Будзеш расказваць навіны ціхутка.

Паэма «Голас сэрца» прыцягвае ўвагу не толькі таму, што гэта твор, які «ўзрушае і гучыць, як арган, як плач над папялішчам матчынага сэрца» (У. Сасюра), а і таму, што ў ёй надзвычай яскрава адбілася абноўленае светаадчуванне і светаўспрыманне паэта, «бачыцца» рэалістычная канкрэтнасць стылю, шматзначная прастата паэтыкі.

---

[1] Літ. газ.— 1961.— 24 кастр.
[2] Правда.— 1961.— 11 кастр.

Творчасць Броўкі на апошнім этапе вызначалася сталай ураўнаважанасцю, засяроджанасцю на перажыванні, дакладнасцю і яснасцю вобразаў, інтанацыйнай шматграннасцю. Яго верш, як правіла, заключае багаты чалавечы змест, падкупляе яснай прастатой — і ў вобразе, і ў рытме.

Глыбокі гуманістычны пафас, засяроджанасць на канкрэтных праблемах народнага жыцця, на духоўным свеце чалавека, павышаная зацікаўленасць нацыянальнымі традыцыямі сталі вызначальнымі рысамі творчай самабытнасці паэта.

Пятрусь Броўка, вядома, перш за ўсё паэт. Але шматграннасць таленту дазволіла яму пакінуць прыкметны след у розных галінах духоўнага жыцця народа, а ў літаратуры, акрамя паэзіі, сфера яго творчых інтарэсаў — гэта і проза, і публіцыстыка, і крытыка.

Першыя вопыты Броўкі ў галіне прозы адносяцца яшчэ да канца 20-х — пачатку 30-х гадоў. Напісаная ім у 1931 годзе аповесць «Каландры» звяртала ўвагу навізной тэматыкі, каларытнымі замалёўкамі рабочага побыту. Другі прыход Броўкі, ужо сталага літаратара, у прозу звязан з раманам «Калі зліваюцца рэкі» (1956). Раман сцэментаваны адзінай ідэяй, стройны паводле сюжэтна-кампазіцыйнай будовы. З асаблівай павагай і захапленнем гаворыць Броўка аб моладзі, беларускіх, літоўскіх і латышскіх калгаснікаx — будаўніках на возеры Дрысвяты электрастанцыі. Нямала старонак рамана, напісаных пранікнёна, з падкупляючай шчырасцю, прысвечаны маладому інжынеру Алесю Іванюту і літоўскай дзяўчыне Анежцы, іх рамантычным сустрэчам.

Гаварылася ўжо аб надзвычай сур'ёзных зрухах у паэзіі Броўкі другой паловы 50-х гадоў. Падобныя зрухі адбыліся і ў прозе пісьменніка. І як у паэзіі, у празаічных творах ён звярнуўся да мінулага — да часоў Кастрычніцкай рэвалюцыі і першых гадоў Савецкай улады, да перыяду Вялікай Айчыннай вайны. На пытанне «Литературной газеты»: «Над чым працуеце зараз» (г. зн. на пачатак 1964 года) Броўка адказаў: «Раблю тое ж, што і ў канцы мінулага года, што прыйдзецца рабіць увесь бягучы год». І, усміхнуўшыся, працягваў: «Новыя вершы, артыкулы... карацей кажучы, сёння, як учора... І вельмі хачу напісаць кнігу апавяданняў пра камсамольскае юнацтва, маё і маіх равеснікаў» [1].

Цяпер такая кніга трывала заняла сваё месца на бібліятэчных і аматарска-чытацкіх паліцах. Гэта выдадзеная ў «Мастацкай літаратуры» кніга Броўкавай прозы пад назвай «Разам з камісарам», куды ўвайшлі творы, напісаныя ў апошнія гады жыцця,— апавяданні пераважна аўтабіяграфічнага характару і аповесць «Донька-Даніэль» — у аснове якой незабыўныя дзіцячыя ўражанні.

---

[1] Лит. газ.— 1964.— 11 студз.

У апавяданнях, як і ў аповесці, адчуваюцца і мудрая прастата, і празрыстасць радка, і павышаная ўвага да народнай ідыёмы, незвычайнага слоўца, і ўдалае выкарыстанне адшліфаванага стагоддзямі параўнання ці метафары. Гэтым тлумачыцца, вядома, і спакойная разважлівасць, калі размова вядзецца пра рэчы сур'ёзныя, і добразычлівасць гумару, калі пісьменнік апавядае пра чалавека несамавітага, няўдачніка, і сатырычная з'едлівасць, калі яму даводзіцца высмейваць і выкрываць людзей паганых, амаральных ці эгаістычных.

На пачатку 30-х гадоў Пятрусь Броўка, поруч з мастацкай прозай, пачаў спрабаваць свае сілы і ў жанрах нарысавай літаратуры. Пазней ён успомніць, як і пра што даводзілася пісаць: «Колькі ўзнёслых артыкулаў журналісты і мы, паэты, прысвяцілі тады новабудоўлям» [1]. Разам з Пятром Глебкам была напісана кніга нарысаў «Ураджай» (1938). Кніжка гэта — «нарысы пра заможны калгас», як пісалася тады ў газеце «Літаратура і мастацтва». Амаль праз 20 год выйшла ў свет другая кніга нарысаў пісьменніка «Месяц у Чэхаславакіі» (1952) — вынік паездкі ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў у Чэхаславакію.

Ярка заіскрыўся прыродны талент няўрымслівага пісьменніка-грамадзяніна ў літаратурна-крытычнай дзейнасці, у той сферы выяўлення чалавечага духу, дзе з найбольшай непасрэднасцю выказваецца самае неабходнае, жаданае — і вельмі асабіста-ацэначнае.

Заўсёдны клопат меў Пятрусь Броўка пра партыйнасць, грамадзянскасць, народнасць нашай літаратуры. На пятым з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ён страсна, тэмпераментна гаварыў: «Неабходна заўсёды дбаць аб грамадзянскасці нашай літаратуры, разумець свой час, добра адчуваць пульс жыцця. Мы жывём у гады вельмі імклівага развіцця грамадства, у гады нябачанага развіцця навукі і тэхнікі... Працаваць так, каб мастацкая літаратура была дзейсным памочнікам партыі, нашага народа — вось найпершая задача кожнага з нас» [2].

Дыяметральна шырокім было кола Броўкавай зацікаўленасці культурным і мастацкім набыткам чалавецтва. Пільную ўвагу паэта прыцягвалі пераклады на беларускую мову геніяльных мастакоў слова, вяршынь сусветнай паэзіі Вільяма Шэкспіра і Джорджа Гордана Байрана. Многа ў літаратурна-крытычным багажы Броўкі меркаванняў пра творчае аблічча вядомых савецкіх пісьменнікаў, пра іх адносіны да беларускага народа (з рускіх — пра М. Горкага, У. Маякоўскага, М. Ісакоўскага, А. Твардоўскага, А. Пракоф'ева; з украінскіх — пра М. Рыльскага, П. Тычыну, У. Сасюру; з літоў-

---

[1] Агитатор.— 1971.— № 5.— С. 23.
[2] Літ. і мастацтва.— 1966.— 13 мая.

скіх — С. Нерыс, П. Цвірку; з латышскіх — Я. Судрабкална і пра многіх іншых з розных савецкіх літаратур).

Вялікую жыццёвую дарогу — дарогу самаадданай працы і барацьбы — прайшоў Пятрусь Броўка.

Духоўны і творчы партрэт народнага паэта паўстае не толькі з літаратурных прац, але і з выказванняў, успамінаў сучаснікаў — пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў, вучоных і простых людзей, якім пашчасціла калі-небудзь сустракацца з Пятром Усцінавічам. Кандрат Крапіва гаворыць пра Броўку як «пра вялікага аптыміста, заўсёды дзейснага, бадзёрага». Пімен Панчанка бачыць у ім чалавека таварыскага, добразычлівага, душэўнага, які паважае людзей і якога паважаюць людзі. «Мне не адзін раз даводзілася быць з ім у далёкіх і блізкіх дарогах,— прыгадвае Панчанка,— і заўсёды з вялікай павагай і любоўю яго сустракалі ў Віцебску і Бягомлі, у Кіеве і Закарпацці, у Тбілісі і Ташкенце. У яго ўсюды многа сяброў. Здаецца, няма ніводнага савецкага пісьменніка, з якім бы не дружыў Пятрусь Усцінавіч» [1].

Варта прывесці і такі даволі паказальны факт. Сярод шматлікіх пісем чытачоў Петрусю Броўку было надзвычай дарагім адно — дакумент, пазначаны пячаткай. Незвычайны лёс гэтага пісьма. Перад намі выпіска з рашэння агульнага сходу калгаса імя Шаўчэнкі Арцёмаўскага раёна Данецкай вобласці аб выбранні Броўкі ганаровым калгаснікам.

Аб гэтай гісторыі расказала газета «Знамя юности». «З далёкага ўкраінскага сяла ў Мінск прыехала група калгаснікаў. Знаёмых, якія б маглі паказаць, пазнаёміць з беларускай сталіцай, у іх не было. І вырашылі госці звярнуцца да Петруся Броўкі. Яны чыталі яго вершы і рашылі: «хто так хораша піша, той сам душэўны чалавек і ў просьбе не адмовіць». Адшукалі паэта ў Саюзе пісьменнікаў, і, як ні быў заняты Пётр Усцінавіч, ён знайшоў час пазнаёміць украінскіх сяброў з нашым цудоўным горадам. Вярнуліся вандроўнікі дамоў, расказалі аднасяльчанам пра ўсё, і вырашылі яны: выбраць паэта ганаровым калгаснікам» [1].

Пра шырокае прызнанне творчай дзейнасці Петруся Броўкі на літаратурнай ніве сведчаць шматлікія пераклады яго вершаў, паэм, прозы на многія мовы народаў Савецкага Саюза і за рубяжом. Дастаткова сказаць, што ў перакладзе на рускую мову выйшла каля дваццаці кніг пісьменніка.

У абсягу творчай дзейнасці паэта былі такія сферы мастацтва, як кіно, музыка, тэатр. Пятрусь Броўка аўтар двух оперных лібрэта (музыка Я. Цікоцкага) — «Міхась Падгорны» (1939) і «Алеся»

---

[1] Літ. і мастацтва.— 1975.— 26 чэрв.
[2] Знамя юности.— 1979.— 1 лют.

(у сааўтарстве з Я. Рамановічам, 1944). На словы паэта напісана многа песень: «Александрына» (музыка У. Мулявіна), «Песня пра чырвоны сцяг» (музыка І. Лучанка) і іншыя.

Паводле твораў Пятра Усцінавіча ставіліся кіно і тэлефільмы. Яшчэ ў 1934 годзе па аповесці «Каландры» быў зняты мастацкі фільм «Хто твой сябра?». А ў канцы 1978 года выйшаў на экраны тэлевізійны мастацкі фільм «Побач з камісарам», створаны па матывах вядомых аўтабіяграфічных апавяданняў, якія па сутнасці ўзнаўляе юнацтва паэта. Музыку да фільма напісаў Ігар Лучанок. У фільме прагучалі песні на словы Петруся Броўкі, у якіх добра перададзены гераізм і рамантыка таго часу, калі жыў і змагаўся за Савецкую ўладу малы пісарчук Федзя.

Пятрусь Броўка вядомы культурны і грамадскі дзеяч. З 1968 года ён быў галоўным рэдактарам Беларускай Савецкай Энцыклапедыі — першага ў рэспубліцы выдання такога тыпу, выдання надзвычай адказнага, патрэбнага, каштоўнага.

Энцыклапедыя данесла да сусветнага чытача багацце працоўных і ратных традыцый беларускага народа, духоўныя скарбы роднай зямлі. Вялікая заслуга ў тым, што дванаццаць яе тамоў выйшла ў свет і атрымала высокую ацэнку як у нашай краіне, так і за яе межамі, належыць Петрусю Броўку.

Не адно пакаленне савецкіх людзей адкрывае для сябе Беларусь і яе народ, пранікаючы ў паэтычны свет твораў Петруся Броўкі. Творчасць народнага паэта і сёння ўдзельнічае ў нашым нястомным паходзе «па песню, па сонца, па шчасце камуны».

МІХАСЬ ЯРОШ

## ОЙ, НЕ ШАПЧЫ, МАЯ БЯРОЗКА...

Ой, не шапчы, мая бярозка,
Журлівым пошаптам галінаў,
Пайду сягоння ў поле позна —
Сустрэну любую дзяўчыну.

Сустрэну ў полі, дзе бярозкі,
У вечар росны,
Вечар мглісты,
І будуць пецъ зялёным лістам
У полі белыя бярозкі.

Чуць свет, чуць сонейка устане,
Пайду з касой на луг мурожны.
Трава квяцістая, густая
Будзе губляць сваю прыгожасць.

А сонца яркае устане —
Трава завяне у пракосах,
І я пайду па лузе босым,
Хай з сонцам сэрцайка спявае.

Дык не шапчы, мая бярозка,
Ў ліпнёвы вечар мне не сумна —
Вітаю свету новы росквіт
І Беларусь, маю красуню!

## НЕ БУДУ Я СТАЯЦЬ НА РАЗДАРОЖЖЫ...

Усход успыхнуў ясны і прыгожы,
Сплылі далёка маракі начы,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець удалячынь.

Вясна вакол, адгрукалі марозы,
Ручай паміж палеткамі журчыць,
Не буду я стаяць на раздарожжы,
Вачамі сумнымі глядзець удалячынь.

## ЗАЛАТЫМІ ЗОРКАМІ...

Ой, ды над узгоркамі
Зоры срэбра-ясныя!
Закахаўся ў зоркі я
У хвіліны шчасныя.

Ой, ды над узгоркамі
Сінія мяцеліцы!
Залатымі зоркамі
Думкі мае сцелюцца.

## ДАРАГОЕ

Бяжыць удаль лясная гаць
З вазамі жыта залатымі.
Ах, добра як, што не спазнаць
Цябе, карміцелька-радзіма.

І слоў ліецца гарачынь,
І славяць песні-падарункі,
Што выйшаў жнівень падлічыць
Снапамі нашыя рахункі.

Гляджу — і межы ўжо радзей.
Дні йдуць шырокай паласою,
А восень-ключніца ідзе
Такою ціхаю хадою.

Вось тыя купы, дзе быльнёг
(Там не адзін здароўе кінуў)
Калісьці ў сто аралі сох,
Цяпер — адна ўсяго машына.

Зусім другія краявіды,
Прыгледзься толькі і паслухай:
Ў нардоме служаць паніхіду —
Хаваюць межы і сівуху.



Майскім раннем я вас пакідаў,
Аксамітна-зялёныя ўзмежкі,
Майскім раннем цябе сустракаў
З незабыўнай ласкавай усмешкай.

Мы ля рэчкі хадзілі з табой,
А было гэта ўчора, здаецца,
Ой ты, рэчка і смутак ты мой,
Як мне хочацца з вамі сустрэцца!

## НА НОВЫЯ МЫ СТАЛІ РУБЯЖЫ

Вечары рубінныя,
Аўсяная замець...
Сустракай, радзімая,
Мёдам, пірагамі.

Белаю сарочкаю
Надары ты сына,
Бо пайшла упрочкі
Мачыха-мякіна.

І каўнер узорамі
Расфарбуй жа наскімі.
Ды не так, як ўчора мне,—
Васількамі-краскамі.

Ты яе, кужэльную,
Вышпігуй калоссямі,
Што бадзянне беднае
Выжыць давялося нам.

І па тым патрачаным
Сёння не маліся...
Пахваліся працаю
Цяжкай, пахваліся.

## ПАМЯЦІ ПАЎЛЮКА ТРУСА

Смутак няслі мы жалобнымі маршамі.
Навошта ж апошняя ростань наладжана?
Слова на смерць дарагому таварышу
Слязой перамыта і скрухаю зважана.

Лёс наш суровы. Мы ж чым награшылі?
Чаму гэтак рана сціскаюцца векі?
Бывае, што сэрца мяняе машына,
Толькі адно — ў чалавека.

Далёкага сёння сады не паспелі,
А краску у садзе адну смерць украла...
Здаецца, ўсё тыя агні, што гарэлі,
Ды звонкае песні на фронце не стала.

Мне крыўдна, паэта пакінулі сілы,
Хачу я пабачыць жывога, як ты.
...Як буйнымі ветрамі песня насіла
З мулярам цэглу па ўсходнях крутых.

Так! Майстра не стала.
Не быць недапетай
Той песні, што высіла ўзлёт галавы.
Хай муза замоўкла у сэрцы паэта,—
Муза іграе ў турбінах жывых.

Бывай назаўсёды! Астатні раз гляну ў.
Табе ужо разам з жывымі не быць,
А песні стаяць вартавымі, як раней,
На вежах няскончанай барацьбы.

## НАПЕРАД МАЛАДЫХ

Гады радзілі буры.
У стэп, у веліч гор
Хадзілі мы на штурмы
Пад песенны віхор.

У золаках паўночы
Ярчэй гарацъ агні.
А мы ўсё крочым, крочым
Без меж і без граніц.

Мы ўсё падаравалі
За мэту за адну,
Гісторыі скрыжалі
Пра гэта памянуць.

Грымелі навальніцы —
У бойках юны полк.
Мы не палеглі ніцам,
Мой любы камсамол.

Мы чуем —
                клічуць буры,
Праходзяць праз гады:
— Наперад ўсе, на штурмы,
Наперад маладых!

А дзесьці ў сіні вечар,
Дзе снег у сяйве зор,—
Палеткі ўсіх прывецяць
І прывітае бор.

Спаткаюць нас і хаты,
Дзе золь яшчэ імжыць,
Прасторы, як з-за кратаў,
Павыйдуць з-за мяжы.

Дык уставайце ж рана:
Заводы на хаду
Наказ нам адвітальны
Гудкамі пададуць.

Мы не баімся буры,
Калі завуць гады,—
На межы ўсе, на штурмы,
Наперад маладых!

## ГАДЫ, ЯК ШТОРМ

Кліча гудок стогалосы...
Тысячы ног на панелі.
Што гэта?
Можа здалося?
Вогнішча літараў:
 ЛЕНІН...
Халодны на вуліцах
Вецер лютуе,
І ў сэрцы балючы узняўся віхор.
Сцюжа...
Мароз...
Снегавыя завеі...
Самае цяжкае —
ЛЕНІН памёр...
Недзе аўто
На завулках галосіць.
На тварах рабочых
Трывогу стрэў.
Што гэта?
Можа сягоння здалося —
Над сцягамі
Рэе жалобны крэп.
Усюды... усюды...
Смутак і слёзы,
Стаў мільёнаў надзейны матор.
Хвіліна... не помню,
Лютуюць марозы,
А ў сэрцы балючы
Узняўся віхор.
Дзе ты,
Хто вёў у Кастрычнік галодных?
Голас аднекуль:
— Яго ўжо няма.
І правады заігралі жалобны,
Поўны глыбокага смутку, марш.
На сценах афішы:
«В я л і к а я  с т р а т а»,
Жорсткі ад літараў

Чорны агонь...
Бачу, смуткуюць за горадам хаты,
Што не пабачаць жывога яго.
Строі... за строем
Шарэнгі рабочых
Гулка ступаюць на мінскі брук.
Нейкая цвёрдасць
Ў нажмураных вочах,
Сіла, рашучасць у мускулах рук.
Ідуць і ідуць...
Плакаты, плакаты...
Сцягі жалобныя:
ЛЕНІН памёр.
Мільёнамі шыб заслязіліся хаты,
А ў сэрцы балючы узняўся віхор.
І раптам з трыбуны
Па натоўпу словы:
— Не стала настаўніка-бальшавіка,
Ціха! Спакойна!
Раўнуйся, калоны!..
Партыя Леніна ёсць
І ЦК.

* * *

Гады, як шторм, пранесліся па моры,
Учора тут былі, сягоння ўжо там.
Час да камуны мчыць, яснеюць зоры.
Далёка ўжо адпраўная вярста.
А на паўстанках дзён, на станцыях жывога
Растуць асілкі— волаты зямлі.
Імчыць цягнік надзейнаю дарогай,
Ў дымлівых фабрыках, ў садах мае палі.
Імчыць цягнік, яснеюць нашы далі,
Вядома ўсім — не спынімся мы тут.
Мы шчыра ўсе і горача віталі
Вялікім Леніным паказаны маршрут.
Хто на дарозе стаў? Дык ведай — сцеражыся!..
У качагарцы многа палкага агню,
Бо з нас ніхто не плакаў, не маліўся,
Калі цягнік нястрымана крануў.
Што слёзы аднаго, што роспач і надломы
У буры песень, веры і надзей?
Мы выйшлі ўсе паміж раскатаў грому —
І кожны дзень святло гарыць ярчэй.

## «ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЕ»

Ты між юнацкіх дум, як хваль,—
Маяк над горадам і вёскай
І кожнай літарай каваль
У нашай кузні камсамольскай.
Ты агітатарам стаіш,
Куеш для будучыні рэйкі.
Па шпальтах літараў тваіх
Прыйшоў калісьці я ў ячэйку.

Цяпер вось у фабрычны клуб
Пачуць таварыша такога
Бягу і радасна лаўлю
Тваё навостранае слова.
Люблю з табой сядзець удвох,
Тады прытульны сцены хаты,
Хоць цяжка ведаць пра братоў,
Якіх укінулі за краты.

І сэрца помстаю гарыць,
І рукі просяцца ў атаку,—
Як твой радок-кавалерыст
Лепш пікі коле бюракратаў.
Ты між юнацкіх дум, як хваль,—
Маяк над горадам і вёскай
І кожнай літарай каваль
У нашай кузні камсамольскай.

## ВЯСНОВАЯ РАЗМОВА

За годам
— год,
За годам
— год,
Старому ўжо — труна.
Ідзе ў рашучы пераход
Савецкая вясна.
Прыйдзі,
вясна,
прыйдзі пасоб,
Цябе я пакахаў.
Здабыткам казачных часоў
Здаецца нам саха.
Ідзе ў прастор
кудлаты дзед,
Што многа гора знёс,
Тапіць саху стары вядзе
І разам торбу слёз.
Я знаю — скора праімчыць
паводкаю рака.
Прымай,
савецкая вясна,
загады ад ЦК.
Устань,
ды золакам касі,
Ды высушы аблонь!
Я знаю — красак нам дасі,
Дай хлеба,
дай святло!
Такі сягоння
наш закон,
Старому ўжо — труна,
Сустрэньце ж
маршамі гудкоў,—
Ідзе вясна!

## МОЙ КІРУНАК

Праходжу я ў думах
квартал за кварталам.
Вясна шумнаsлісцем
даклад напісала.
Іду.
Як асілкі, стаяць рыштаванні,
Тут хутка
пасёлак фабрычны устане.
Прамчацца па рэйках
электравагоны —
Рубільнік індустрыі
ўключаны ў сёння.
Апошні завулак.
Павеяла дымам,
У брамы завода
ідуць маладыя.
Адвозяць, прывозяць
рабочых трамваі...
Я з імі сягоння
кірунак трымаю.

## СЁННЯ СЛОВА БЯРУ

*(Пра Усебеларускую выстаўку)*

Таварышы!
Сёння слова бяру,
Кажу я і шчыра і проста:
— Прыйшла
На вялікі парад Беларусь
З гадамі падполля
і росту.
На сходку сабрацца
— варштат і сноп
Клікалі год сякеры.
Куплены
Вельмі высокай цаной
Кожны наш крок
уперад.
Пераступаю ўрачыста
Парог:
— стаяць павільёнаў строі.
Плакаты гамоняць
агнём перамог
І баявым настроем.
І думы плывуць,
Бы ў моры
Чаўны,
Іх сэрцу майму не змераць;
Ў неразгаданыя
Дні і сны
Мне адчыняюцца
Дзверы.
Паліцы абдалі
Крыкам кніг,
А я, прыкаваны машынай,
Бачу, як б'ецца
У творчым агні
Сэрца маёй краіны.
На месцы не хочацца
Мне стаяць,
Вочы бясконца

Водзяць.
Здаецца, ізноўку
Даўжэзны шлях
Гісторыі ўсёй
Праходжу.
Наперад!
Наперад, як можна заняць,
Наперад!
На поўныя крыллі...
Хутчэй на бар'еры,
Дзе грае вясна
Савецкае індустрыі!
Наперад,
Дзе ярка гарадь агні,
На баявыя дарогі!
Жыцця не шкадуюць
За светлыя дні
Найлепшыя людзі
Эпохі.
Я роты варштатаў
Радком вітаю,
За імі заводы
Ў мільёны рук,
Гэта не выстаўка,
Гэта жывая,
Гэта камуна
— мая Беларусь!
Слава табе,
І чыгун,
і медзь!
Сэрца
Ў суладных гамах.
Я навучыўся гутарку мець —
З кожнаю дыяграмай.
Адна мне гаворыць
На поўны рот:
— Слухай!
Скажу ахвотна,
Быў у Мінскай губерні
Адзін завод,
У БССР жа
— сотні.
Гляньце на справы
Былых вякоў,

Старое
Горкім стане:
Штат манаполек,
Больш, чым школ,
Поўная краіна
П'яніц. Савецкай краіне
Вялікай быць,
Магутнаю
І багатай.
Выйшаў на сцэну
Савецкі быт,
Пераглядзі
Экспанаты.
Другая крычыць мне
— Слова прашу!
Вітанне вялікаму часу.
Мачыху мы
Спалілі — саху
Агнямі
Сваіх калгасаў.
Я веру,—
Камунаю будуць палі.
...Праходжу
Зноў першыя
Дзверы...—
На пляцы ў натоўпе
Стаіць Ільіч
З поглядам цвёрдым
Уперад.

## КАМСАМОЛЬЦАМ

Таварышы!
Хай сонца на месцы стане,—
Поўныя грудзі мы ім напоім!..
На вуліцу —
Полымя нашых жаданняў,
Вышэй пачуцці,— настрой барацьбою.
Бачыш —
У ворага за акіянам
На баявы спуск пакладзены пальцы...
Гэй, камсамол!
Дазорамі станем
На барыкадах сусвету змагацца.
Першымі ў бойку выйдзем на вуліцы,
Выйдзем упарта, выйдзем нястомна!
Мы — маладыя, як рэвалюцыя,
Поўны агню, як гартоўныя домны.
Пойдзем нястрыманаю ўсе паводкай,
Моцныя духам, як пяцігодка.



Хай ноч.
Хай дзень.
Няма святлей —
Калі акрэсленая мэта,
Табе маршруты мы даём,
Узбунтаваная планета.

Званчэй! Званчэй,
Мая ты песня,
Мне як не радавацца тут: —
Загнаў тугу балот на ўзлессі
У дамавіну АСІНБУД.

Ў чарзе за смерцю перапетай
Стаіць — панурая мяжа.
І я паэт — хаўтуры гэты
Сваёю песняй набліжаў.

Калі гарыць камун маяк,
Ў палон узяты хвалі неба,—
Даволі дым нам апяваць,
Пра новае падумаць трэба!

## ЧЫРВОНААРМЕЙЦАМ

Яшчэ гарачы свежы след,
Бацькі што пракладалі,
Як госцем быў ім чорны хлеб
На стомленым прывале.

Без вопраткі, нямытымі
Яны ішлі на бой.
На нашых сцягах — літары,
Абмытыя крывёй.

І мы ўдзень і ўночы
Трымаем свой штандар.
Мы пройдзем, кулямётчыкі,
Цераз вайны пажар.

Трымай нагу ў паходны такт.
Гарніст, іграй, звіні!
Мы звонкіх цэхаў, гулкіх шахт,
Палёў сваіх сыны.

Гатовы мы! Смялей вядзі,
Таварыш камандзір!
Партыйны лозунг твой і наш:
Пад пяцігодкі стройны марш
А-р-р-ш-ш!

## ЗЯМЛЯ

Узнімалася зямля, гаварыла жывою,
На каленях стаяла,
Прасіла нас:
— Укладзіце мне грудзі цёплым гноем,
Каб жар у грудзях маіх не пагас.

А мы рэзалі яе
На шматкі,
На кавалкі
Ды барлялі смыкамі яе чэрствы стан.
Падрасталі
Сымоны, Рыгоры ды Янкі,—
І раслі шнуры доўгія, як вярста.

Калі ж грукаўся снежань касцяною нагою,
Пошчак ветру у свірне на цымбалах іграў,—
Мы пяклі праснакі
Напалам з лебядою
І чакалі вясны,
Каб адтала кара.

А з мякіны акраец быў калючы і спорны,
Яго толькі каменным нутром і глыдаць.
І выходзіў з нас кожны,
Як зямля тая, чорным
Ці хваробу, ці смерць у маі спатыкаць.

Гэта толькі кавалак нашай доўгай дарогі
Ды галоднай тугі за парожнім сталом,
Калі вецер біў шыбы, узнімаючы скогат,
І прыходзіла смерць
Біць халодным чалом.

За плячыма гадоў тая чорная ноч,
Што стаяла удзень на бядняцкім двары.
Ды пакінуў слімень свой наседжаны корч,
Рукі гневу крутнулі яго дагары.

Мы спалілі яго злосцю палкіх вачэй.
Разам з тронам цара і пагонамі прystава.
Каб палала удзень
Наша сонца ярчэй,
Каб хапала нам
Хлеба чыстага.

Мы ж цябе зразумелі, зямля!
Кормім гноем цябе, кормім каліем,
Каб ты кожнае лета
Цяжарнай была
Не адным,
А трыма ураджаямі.

Мы скавалі плугі надзвычайнай хады.
Сваю сілу з табою сасваталі,
Каб у нашы гады
Ты цвіла маладухай багатаю.

Мы ж цябе даглядаем на новы лад,
Што цябе не спазнаць аж нават,—
Каб падносіла нам
Ты ўсягды да стала
Пірагі ды найлепшыя стравы.

## ПРА ВАЙНУ

### I

Гэта ізноў пагражае
Яна —
Узброеная да зубоў
Вайна...
І я спазнаю —
Гэта
Яна —
Машынай калек
Выходзіць вайна.
Бацькоў і братоў
На смерць заганяць,
Машынай сірот
Выходзіць вайна.
Дык вось
Калі зноў пагражае яна —
Узброеная
Да зубоў
Вайна.
Рыхтуйся, таварышы,
Так шугануць —
Гэтую вайну!
Каб усюды
Прадвеснікам волі
Яна —
Выходзіла вайна.
Каб бокам мінула
Нашы палі
Агідная вайна.
Каб ворагу
Вечна былі
Кастылі,
Тыя, што суліць
Нам.

II

Вы яшчэ, таварышы,
Кроў сваю не змылі;
Гэта з першым жніўнем
Прывітаў вас кат.
Катам жа
Гумовыя гутаркі
Абрыдлі,
Распачаць ім хочацца
Гутарку гармат.
Хіба даспадобы ім
Нашы справы смелыя,
Што расце краіна
Моцнай, бы граніт,
Глянь: наўсцяж ад Кіева
Аж да Негарэлага
Нас пужаюць дуламі
Польскія паны.
Што яны надумалі
Ды сваімі дуламі —
Панскія загоншчыкі,
Чортавы пагоншчыкі!
Ці не гэта можа:
«Ад можа да можа»?

III

Так яшчэ ніколі
Не праходзіў дзень,
Як праходзіць
Цяпер у нас.
Ты ціхага месца
Не знойдзеш
Нідзе
У які сабе хочаш час.
Ніколі жаданням тваім
Не астыць,
Што розум запаліў.
Цэлыя суткі
Горад грыміць,
Бясконца звіняць
Палі.
Часта

Пры месяцы
Трактар ідзе
І на раллі гасціць.
Нам не хапае
Сонца ўдзень —
Трэба і ўноч расці!
Кожнае ранне
Да позняй зары
Мы творчым жывём
Быццём,—
Мы і расцём,
Мы і гарым —
Такое у нас
Жыццё!
Дык няхай паспробуюць,
Чэрці цвердалобыя,
Што яны надумалі
Ды сваімі дуламі.
Ім пакажа кожны
«Можа аж да можа».
Дык гэта ізноў пагражае
Яна —
Узброеная да зубоў
Вайна?
Рыхтуйся, таварышы,
Так шугануць
Гэтую вайну!
Каб усюды
Прадвеснікам волі
Яна —
Выходзіла вайна.

## ЯНКУ КУПАЛУ

Курлоўскія ночы над краем гасцілі,
І смерць вандравала хадою бясконцай...
А недзе жалейка жывой галасіла
І клікала сонца!

Займаліся нівы напевам нястомным,
Да сэрца музыкі цягнуліся ў гуках,
І плакаў паэта і клікаў бунтоўна,
Да зор узнімаючы дужыя рукі...

Ён ведаў,
                што цемрадзь адыдзе і згіне,
Што звон кайданоў разаб'ецца аб скалы...
І выняў ён сэрца для роднай краіны,
Гэта з вашай дарогі — Янка Купала.

Калі ж узнімаліся хмары навалай
І полем шугалі суровыя сцені,
То сокалам песня ваша ўзлятала,
То скрыдлы ламала на вострых каменнях.

Было: спатыкала гадзіна такая —
Не ведала слова,
                дзе песняй спыніцца...
І вы адзінокай дарогай блукалі
І біліся сцежкай ізноў да гасцінца...

Бо ў цяжкай хадзе,
                калі коле жарства,
Часамі ўсплывала і слоў перагаса,
Але перайшоўшы імшары і твань,
Вы рвалі хваробныя звычаі часу.

Да вас надыходзілі мужнасць і гарт,
І чулі мы голас бадзёры і юны:
Вы клікалі нас, маладых арлянят,
Па песню, па сонца, па шчасце камуны.

## КАСТРЫЧНІЦКІ МАРШ

Дружна пройдзем
Кастрычніцкім маршам
Мы сям'ёй гарадоў
І плямёнамі ніў.
Маладая рэспубліка наша
Запаліла над святам агні.
І гараць яны!
І гараць яны —
Буйнай сілай змагання агні.

Па індыйскіх дарогах
Гараць яны,
Па маньчжурскіх палях
Палаюць яны,
Бліз вялікага Ніла
Іскрацца яны —
Буйнай сілай змагання агні.

Яшчэ вораг ідзе
Да гарматных змоў.
Пралетары, рыхтуйся
Да бойкі новай!
Нас пакліча сусвет,
Маладых і адважных,
На апошніх сутычках
Армейцамі быць.
Праз гады
Расстраляных франтоў,
Праз узмахі
Вялікай будоўлі
Сэрца помніць сягоння
Выразна
Гістарычныя дні
Барацьбы:
Дружыны рабочых
Шугалі на горад
З далёкае Охты,

Ад Нарвскіх варот;
На неўскіх прычалах
Стаяла «Аўрора»,
І біліся вострыя хвалі
У борт.

Магутныя штормы
Балтыйскага мора
Валы пачалі ледзяныя кідаць,
На неўскіх прычалах
Стаяла «Аўрора»,
Гарматы навёўшы
На Зімні палац.

І вораг прыціх,
І збянтэжыўся вораг.
Там царскія služкі,
Міністры былі...
На неўскіх прычалах
Стаяла «Аўрора»,
І першыя стрэлы,
Як гром, загулі.

Матросы скавалі
Шарэнгамі Неўскі.
На вокнах міністраў
Затросся ажур...
І з чубам пад ёрш
Ачмурэлы Керэнскі,
Падмазаўшы пяткі,
Памчаў за мяжу.

Шалелі буржуі,
Прасілі ратунку...
Ніхто не адважыўся
Ў буру грабсці.
І пяліўся дарма
Разбэшчаны юнкер
На чоўне дзіравым
Праз мора прайсці.

Бо ветразі
Вецер парваў і разнёс,

І сполах асеў
На быдлячыя вочы,
Бо грозна ішла
Найвялікшая злосць,
Бо грозна ішла
Перамога рабочых.

І позна было
Гэту сілу суняць
Ні грозьбаю,
Ні экзекуцыяй.
Гэта ішла
Не ў міністраў гульня,
Гэта ішла —
Рэвалюцыя!

Гэта працоўны
Магутны устаў,
Гэта сялянскія
Ўсталі калоны,
І суткі нязменна
Ільіч працаваў,
Загады змагання
Дыктуючы ў Смольным.

## ПРАДВЯСНОВАЕ

Я цябе першую бачу такой,
Гэткай бурлівай, такой маладою...
Слова,
Стань поплеч са мной.
Песня,
Стань поруч з вясною!

Каб зерне карэнні пушчала глыбей
І ў полі шумела шырокім разбегам,
Мы выйшлі насустрач табе
Праз белыя вогнішчы снегу:

Нам праца цяжкая ніколі не страх,
Ты сонцавай радасцю нас прывітала.
Адны —
Маладзелі на звонкіх палях,
Другія —
Мужнелі, знаходзячы сталасць.

Мы шмат на дарозе разбілі ачмут,
Прарвалі драты забабонаў свяцейшых,—
І гэтыя словы шчыра
Таму,
Хто стаў маладзейшым!

## БРАТЫ

Па-над стэпам
Спаткаў іх ад домен пажар;
Было сонцу там горача,
Нават і цесна.
Чорны пыл асыпаў
Іх асмужаны твар,
І вятры ім спявалі
Узнёслую песню.

А было іх чатыры,
Якіх я згадаў:
Сярго Каўтарадзе,
Тарас Піліпенка,
Алі Джасур
І Базыль Каляда.

І прыняў іх аднолькава
Ў шахтах забой.
Роўна свяціла ім
Штучнае сонца,
І чорнымі выспамі
Над галавой
Звісалі каменныя глыбы
Бясконца.
Мігцелі вагонкі
На іхніх вачах,
Бывала, што сыпаўся

Камень пад ногі...
І колькі гадоў так
Па днях, па начах
Прайшлі яны разам
Падземнай дарогай.
А ў іх над галоўмі
Буялі палі,
Яны ўспаміналі,

Што ў сённяшні ранак
Плылі над пасёлкамі
Хмар караблі,
Вялі іх удалеч
Вятры-капітаны.
Аднойчы на змене,
Прайшоўшы забой,
Шахцёры спачыць там
Прыселі на камень,
І думы пабеглі
Суладна, ракой,
І гутарка дружна
Пайшла берагамі.

І сказаў тады Каўтарадзе Сярго:
— Браты!
Раней я думаў, ў свеце так —
Для ўсіх вада,
для ўсіх агонь.
Аднойчы ж мне сказаў кулак,
Што Грузія — яго,
Я над кетменем суткі ныў,
Не мог і плеч разняць,
Я без кавалка хлеба жыў,
А ў кулака — палац.
Я за каня цягнуў хамут,
А нечы цвіў загон.

Ды не паверыў я яму,
Што Грузія — яго.
І вось паклікалі паўстаць —
Прабіў рашучы час,—
І мы мячамі далі знаць,
Што Грузія — для нас.

Застылі панскія сляды.
А ім наперакор —
Рыён бушуе малады
Па скалах нашых гор.
Там знікла крыўда і адчай.
Там новы свет узрос,—
Як скалкі, вочы у дзяўчат
І стройны стан бяроз.

Я запрашаю вас, браты,
У госці ў нашы сёлы,
Спяюць красуні нам тады
Там песні Грузіі вясёлай,
Кура там б'ецца на палях
І зор гарыць маяк.
Прыходзь, раз рукі ў мазалях,
Там Грузія твая.

А потым узняўся Тарас Піліпенка:
— І я да сябе
Запрашаю, браты.
Найбольшых прастораў
Не стрэнеш ніколі!
У нас — быццам зоры —
У вішнях сады,
А песні дзяўчат,
Як званочкі у полі.

У буйным калоссі
Палі шалясцяць,
І вочы губляюцца
Ў колерах сініх,—
Шырокі Дняпро там
Праходзіць наўсцяж
І сілу разносіць
Па вольнай краіне.
Плыве Дніпрагэсам
Абражаны месяц,—
Уторацъ турбіны
Магутнаму ходу,—
Праз безліч парогаў
І злы «Ненасыцец»
Радзянскія горда
Ідуць параходы.

І там, дзе гібелі
Ў бядоце бясконцай,
Жыццё маладое устала
Нанова.
У моцных праменнях
Дняпроўскага сонца
Гібее апошняя
Сцень куркулёва.

Як золата, ў нас
Узыходзіць зара,
Такою прыгожай
З прашыўкаю сіняй,
Там рост індустрыі,
Там вішні гараць,
Як родных спаткае усіх
Украіна.
І сказаў ім Алі Джасур:
— І ў нас цудоўная зара,
І караваны йдуць, як сны,
Пяскі зялёныя гараць,
І ўночы выюць барханы.

Як казка, сонца ў нас гарыць,
Яно нясе нам хлеб,—
Бавоўны моры да зары
Плывуць у вольны стэп.
Скрозь мінарэтаў чэзне чад
З каторае пары,
І шчокі смуглыя дзяўчат
Красуюць без чадры.
Калі кахаеш, малады
Ты, валасы, як шоўк,—
Бяры красуню, а калым
З алахам адышоў.

І будзе песня там звінець,
Дзе кончыўся іслам.
Зурною шчыра ў чайхане
Вас прывітаюць там.
І загавораць кішлакі
Там голасам сваім,
Пайшоў, як волат, праз пяскі
Пустэльняю Турксіб:
Яго сустрэлі там дары,
Там наша сонца — хлеб,
Бавоўны моры да зары
Плывуць у вольны стэп.

І край свой, як песню, братам прыгадаў,
Сказаўшы ад сэрца, Базыль Каляда:
— Здавён шумлівыя бары

Гудуць у нас,
Азёры люстрамі гарыць вакол,
Яны сустрэнуць нас у добры час,
Як родных, блізкіх сваякоў,
Там у жытах дымлівыя палі,
Дзяўчаты песням там ахвочы.
І быццам лён, так зацвілі
Агнямі сінімі іх вочы.
Была там некалі вайна,
Быў кожны куст крывёй заліты,
Але ўзышлі цяпер у нас
Усходаў новых аксаміты.

Асілкам новы дзень прыйшоў,
Дарогі выслаў моцным жвірам,
З прадвечнай багны балатоў
Там Асінбуд, як волат, вырас.
Там хвалі коцяцца Дзвіны,
Дняпро і Сож там у хаўрусе.
Браты! Мы верныя сыны
Савецкай вольнай Беларусі.

* * *

Так, таварышы!
Кожная з нашых рэспублік:
Яго,
        і твая,
                і мая —
Роўна гналі паноў,
Роўна білі разруху...
А вечар спакойны
Над імі стаяў,
І сяброўскія гутаркі
Шчыра ён слухаў.

Маці — наша зямля!
Яна зоркай гарыць
Па ўсёй нашай кулі,
Яна — шлях
Для усіх нас цяпер,
Па стэпах шырокіх,

Па лясах, па аулах —
Наша бацькаўшчына СССР.

Кожны з нас
Тут — яе найадданейшы сын,
Пралетар сусвету —
Брат наш, не раб,
І прымае Масква
Нервы нашых краін —
Рэвалюцыі свету штаб.

## КРАСАВІК

Вясна. Красавік.
І бярэцца пупышкамі сінімі сад.
Вясна.
Гэта сонца ўладарна ідзе
Па палях.
Вясна.
Гэта — коні стаяць
Над павышанай нормай аўса.
Вясна —
Гэта грукае ў сцены зямля.

Вясна.
І трактарны парк
Ад матораў гудзіць.
Брыгаднікі б'юць па руках:
— Паглядзім жа, «хто каго»?
Прыжмурыўшы вочы,
На сонца глядзіць брыгадзір,
Гарачая булькае кроў
Праз моцнае сэрца яго.

І вось устае перад ім
Шырокіх прастораў раздолле,
І звоняць зялёныя струны
Калгасных жытоў і пшаніц,
І лепшая песня дзяўчат,
Званчэйшая самая ў полі,
Да самага сонца бяжыць,
Сваёй маладосцю звініць.

А заўтра —
Па чорнаму целу зямлі
На ўсю шыр,
І наўпрост,
І наўкос
З песняй прамчыць трактарыст;
І будзе ён валам валіць,

І ўдарыць магутнейшы гром,
І першая партыя рос
Карункамі срэбра зайскрыць
Над пухам глыбокай раллі.

А потым — зярняты ў зямлі
Напоўняцца сілы вялізнай,
Праз чорныя грудзі праб'юцца,
Каб моцна пад сонцам
Стаяць.
І будуць усходы палёў
Вялікай вясны камунізма
З любімай Краіны Саветаў
Над светам зарою палаць.

Так доўга стаіць брыгадзір,
І думкі праносяцца ціха,
І поле плыве перад ім
У грэчцы, каноплях, аўсе...
Ля свірна ж брыгады гудуць,
Назаўтра рыхтуючы выхад,
І сыплецца зерне, шуміць,
Пакінуўшы цёмны засек.

Ён чуе, як клічуць адтуль,
Праз гоман вясёлы і рогат,
Ён чуе — жартуе з яго
Брыгада, і ўжо не адна:
— Чаго там суняўся, таварыш?
— Што гэтак задумаўся доўга?
І ён ўстрапянуўся, пайшоў,
І ён адказаў ім:
— Вясна!

## НА ЧЫРВОНАЙ ПЛОШЧЫ

Многа нас стаяла
На Чырвонай плошчы,
І кожны адчуваў
Братнюю руку.
Уся сталіца пела,
З розных месцаў госці
Сёння паглядалі
На Маскву-раку.

Так яно спявала,
Наша маладое,
Білася крыніцай
Па усёй зямлі...
Зоры ўсяго свету
Гарэлі над Масквою,
І самалёты птушкамі
Паміж іх плылі,—

Над самым Маўзалеем,
Дзе Ленін неўміручы,
Дзе маладосць шугала
Высока угары,
Дзе моцнаю кагортай
Стаялі яго вучні —
Нашыя настаўнікі
І правадыры.

І там перад трыбунай
Ад сотень гулкіх вуліц
Калоны дэманстрантаў
Штораз,
То больш
Раслі...
Ішлі там маладыя
З прастораў неабсяжных —
Адважныя дзяўчаты
І хлопцы там ішлі.

Праходзілі танкісты
Кальцом жалезным, цесным,
Парашутысты —
Госці завоблачных вятроў,
Там маладосць праходзіла,
Праверыўшая песні
За кайлам
У тунелях глыбокага метро.

І мы былі ўсе разам
Там, на Чырвонай плошчы,
І кожны адчуваў з нас
Братнюю руку.
Уся сталіца пела,
З розных месцаў госці
Сёння паглядаюць
На Маскву-раку.

## УЖО ВЕРАСЕНЬ

Ужо верасень.
Ветры-вандроўнікі
Аж праз вокны нясуць халады.
Як шары,
Наліліся антонаўкі
І да долу прыгнулі сады.
Горда сталі
Плячыстыя гумны —
Усё лета забралі яны,
І па хатах калгасных удумна
Падлічаюцца працадні.
І калі
Растрасае вечар
Жмені жоўтых асенніх лістоў,
Ўсе збіраюцца
На сустрэчу
Ад усіх чатырох бакоў.
Значыць,
Скончылі добра уборку,
Плённай працы сабралі дары...
Пад руку
З адмысловай танцоркай
Уваходзіць у клуб трактарыст.
Шчокі —
Быццам расквечаны макам,
Да дзяўчыны прыпала рука.
На грудзях яго
Зоркай адзнака —
Гэта ў гонар яго як стралка.
Дружным хорам
Таварышы стрэлі іх.
Сам сабою азначыўся круг.
І тады
Свой гармонік-прэмію

Расчыняе ударнік-канюх.
І тады —
Загуло, паняслося,
Закружыла да самай зары.
Да акон
Прытулілася восень,
І, як хлопцы, рагочуць вятры.

## РАДЗІМЕ

Мы прасторы твае
Сваім сэрцам абдымем,
За граніцы наўсцяж
Мы адкажам сваёй галавой.
Гэта наша зямля,
Гэта наша радзіма,—
Дзень высокі, як сонца,
Шугае над ёй.

Ён ідзе паўнагруды
Над пікамі гор,
Акіяны мінае,
Праходзіць палі.
Ён высокі
Такі, як крылаты дазор
Першай ў свеце
Магутнай Савецкай зямлі.

Мы на ёй за плугом,
За маторам, за радыё
Скрозь ударна стаім,
Нам адведзены час,—
Мы жывём за бацькоў,
За дзядоў і за прадзедаў,
Многа дадзена нам,
Многа спросіцца з нас.

Мы на гэтай зямлі,
Што крывёю бацькоўскай аздоблена,
Не кідаем старога
Жыцця ні сляда,—
Мы павінны зрабіць,
Што вякамі было недароблена,
Нават песні зложыць,
Якіх свет не складаў.

Каб ад гэтае песні
Мільёнам прачнуцца,

Каб чырвоны маяк
Над планетай лунаў,
Каб над светам гарэлі
Агні рэвалюцый,
Каб радзіма была
Для сусвету адна.

І мы дружна праходзім
Адзіным паходам,
Уся веліч камуны
Над намі ўстае...
Хай жа толькі ізноў
Загудзіць непагода.
Хай памкнецца шакал
На граніцы твае,—

Да апошняе кроплі
Мы пойдзем змагацца.
На палі, у тайгу,
У бяздонную сінь...
Павядуць нас на бойку
Чырвонаштандарцы,
Што знаёмыя з порахам
Розных краін.

І дазнаецца вораг
У байцы нястрымнай,
Што дарэмна кружыла
Яго галава,
Што ёсць наша зямля,
Што ёсць наша радзіма —
Ёсць на свеце Масква!

Скрозь прасторы яе
Сваім сэрцам абдымем,
За граніцы наўсцяж
Мы адкажам сваёй галавой:
Гэта наша зямля!
Гэта наша радзіма!
Дзень высокі, як сонца,
Шугае над ёй.

## ВЯСНА НА СТАДЫЁНЕ

Ах, сонца, як багата
Твае палаюць промні!..
Вясёлыя дзяўчаты,
Як хораша сягоння.
Вясна на стадыёне!
Вясна на стадыёне!
Планёры дружнай стайкай
Прамчаліся ў разгоне,
Глядзі, ў зялёных майках
На вуліцах калоны.
Вясна на стадыёне!
Вясна на стадыёне!
Як птушкі, ўсе ўзлятаюць
На бегавыя гоні,—
І кожны так чакае,
А хто хутчэй абгоніць?
Вясна на стадыёне!
Вясна на стадыёне!
Ах, маладосць, як жарты,
Як смех і радасць звоняць,—
Рыхтуешся упарта
Да працы, абароны.
Вясна на стадыёне!
Вясна на стадыёне!
А кветкам красавацца,
Гарэць агнём чырвоным.
Ах, наша ты юнацтва,
Як хораша сягоння.
Вясна на стадыёне!
Вясна на стадыёне!

## САДОЎНІК

Многа яблынь у садзе,
Каля плота прыніклі кусты.
Танканогія вішні
Абступілі вакол,
Грушы ўзнялі галовы,
І па голлі зялёным, густым
Захісталася возера цвету,
Беллю выслала дол.

Гэта шум сакавітай зямлі,
Свежай, поўнае сілы,
Пралятае па струнах кары,
Песні сонца бярэ...
І займаецца першая завязь,
Абсыпаючы белыя крыллі...
Ходзіць садам садоўнік
Шчаслівы між дрэў.

А яны у каралях вясны
Нахіляюць прыгожыя шыі
Да садоўніцкіх рук,
Быццам хочуць дазнацца пра што,
Як на гэтых руках
Выраслалі яны, як жывыя,
Станавіліся моцна на грунт,
Пачыналі гаворку лістоў.

Гэта ён пазнаваў
Шопат стройны і ценькі,
Слухаў грозны,
Узнесены бураю, гімн.
Гэта ён апранаў
Ім з саломы сукенкі,
Каб спакойны быў сон,
Калі дол засыпалі снягі.

Ён ад самага золаку тут,
Працавіты і пільны,

Прыглядаецца ціха вакол
І хваробы здымае заўчасна,
Абтрасае з наквецця чарвей,
Абразае сухія галіны...
Ходзіць садам садоўнік,
Шчаслівы і ясны.

Ён глядзіць, як чаромхі гарадь,
Разрастаюцца яблыні, вішні,
Як зусім на вачах
Пачынаюць яны налівацца,
І, здаецца, цяжэюць сукі,
Апушчаюцца ніжай і ніжай...
Ходзіць садам садоўнік,
Шчаслівы за працу.

## ВЯСНА РЭСПУБЛІКІ

Так было,—
Што завеі непраходныя вылі.
Цемра, ноч навакол,
Дзе ні глянь, дзе ні кінь...
Вецер грукнуў усходні
Нястрымнаю сілай,
І пабеглі снягі
Сугрунём да ракі.
Сёння ж сонца
Рэспублікай смелае рушыць.
І пяе ўсё вакол,
Весяліцца адно,—
Звоніць белае срэбра
На яблынях, грушах,
Яркім полымем
Свечкі гарачь каштаноў,
Дзень ступае зямлёй,
Урачысты і сіні,
Хмары небам плывуць
І радзей і радзей,
Поўных рэк
Па лугах выгінаюцца спіны,
Сок сасновы смалісты
Па ветках гудзе.
І калі па лясах
Хор імчыцца напеўны,
Салаўіныя сем'і
Струны ўзрушылі лір,—
На калгасных палях
Неспакойнае зерне
Залатымі цвікамі
Прабівае палі.
Вось яно,
На вачах вырастае, здаецца,—
Калектыўнае шчасце
Ад відна да відна.
Тут прыходзіць вясна чалавецтва,

Тут рэспублікі нашай
Вясна.
Дык успомнім цяпер,
Як яна вырастала
Пад змяіным шыпеннем,
Пад шакаллім выццём,
Дык успомнім пра тых,
Што яе здабывалі,
Што сябе аддавалі
За наша жыццё...
Вас, каторыя шлях наш
Абсыпалі зорамі,
Вас, што кроўю купілі
Асветлены шлях,
Клічам вас мы, таварышы,
Па дарогах гісторыі
Расстраляных,
Загінуўшых у нялёгкіх баях.
З Украіны,
З-пад Волгі,
З Дагестана далёкага,
Адусюль, хто ў бядоце,—
Вы змагацца ішлі.
Вы пад нашымі соснамі,
Вы пад нашымі елкамі,
Вы па нашых балотах
І дарогах ляглі.
Вы вясну тут у нас
Толькі думкамі бачылі,
Мы вас клічам
Сягоння яе сустракаць,—
Мы былі ўсе адзінай,
Вялікае нацыі,
Помсту ў сэрцы няслі,
Мазалі на руках.
Смерць спаткала вас тут,
І адважных, і мужных,
Зашумелі над вамі
Травы дываны...
Спіце, нашы таварышы,
Ваш спакой непарушны!
Мы стаім каля вас —
І браты і сыны.
Мы стаім каля вас

Кругам дружным і цесным:
Брыгадзіры, калгаснікі —
Бальшавікі...
Вам дзяўчаты прыносяць
Найлепшыя песні,
Піянеры ўскладаюць
Над вамі вянкі.
Ваша слава грыміць
Пераможна над светам,
І нідзе вашых думак
Агонь не пагас;
Ветры нашай радзімы,
Індустрыйныя ветры,
Пралятаюць над вамі,
Спяваюць пра вас.
Мы ў рэспубліцы нашай
Працавалі як трэба,
Мы ішлі, і расла
І мацнела яна.
І начэй мы не спалі,
І жылі чорным хлебам,
Але радасць цяпер
Найвялікшая ў нас,—
Што, як струны, між рэк
Вырастаюць каналы,
Каласуе зямля
Збожжам спелым, густым...
На сваіх трактарах
Мы ўсе нетры узнялі,
На сваіх самалётах
Высока ляцім.
Шмат здабыта ужо,
Яшчэ болей здабудзем,
Нашы дні абагналі
Старыя вякі,
Бо адменнага складу
Выраслі людзі
З гордым іменем цвёрдым —
Бальшавікі.
Вось яны за варштатам
Уключаюць рубільнік,
Вось ідуць яны
Ў стройных армейскіх радах,
Вось турбін разагналі

Магутныя крыллі,
Вось танкетак страі
Павялі яны ўдаль...
Вось яны па зямлі
Рэжуць скібы глыбока,
Вось яны ураджайны
Рыхтуюць дазор,
Вось спявае дзяўчына,
І ў полі шырокім
Ячмяні яе песню
Панеслі на бор,—
Як вясною запахла,
Зацвіла мята-рута,
Як прыемна таму,
Што семнаццаты год,
Як назаўтра з-за хмар
Паляціць з парашутам,
Як каханы яе
Павядзе самалёт.
Вось яшчэ пакаленне:
Дзеці шчасныя нашы,
За мадэлямі час
Для каторых ідзе,
Вось яны, малагодкі —
Чапаеўцы нашы,
Б'юцца з белымі ў садзе
Каторы ўжо дзень.
Сонца нашай радзімы
Ім пяшчотамі свеціць,
Ім дарога ў жыцці —
Толькі радасць адна.
Тут прыходзіць
Вясна чалавецтва,
Тут рэспублікі нашай
Вясна.

## ДУКОРСКІЯ ПАРТЫЗАНЫ

Белапольскія уланы
Лютымі былі —
Цёмнай ноччу партызанаў
На расстрэл вялі.

Ён ішоў пад бізунамі,
Па чатыры ў рад —
Закаваны кайданамі
Баявы атрад.

Перамучаныя ногі
Па пяску брылі...
Над апошняю дарогай
Хмары слёз плылі.

Партызанам кусцік кожны
Пеў пра тыя дні,
Як па гэтай па дарозе
Бегалі паны.

Партызанаў на світанні
Час апошні стрэў;
Цалавалі атамана:
— Ну, бывай,
Андрэй!

Мы з табой жыццё аддалі
За свабоду,
брат.
Развіталіся і сталі
Горда — рад у рад.

І калі не стала смелых,
Аж заплакаў бор,
З неба сіняга зляцела
Многа ясных зор.

## ДВАЙНЯ

Брыгадзір Іван Букаты
Зацікавіў сёння ўсіх —
Двух сыноў унёс у хату,
Прыгажунчыкаў малых.

А за ім спяшалі шпарка
І сяброўкі і сябры,
Абкружаючы даярку
Парадзіху Маню Брыль.

За акном бярозы лісцем
Зашумелі як мага,
Як паклалі у калысцы
Двух малых: «куга-куга...»

Калі шчодры стол накрылі,
Гаспадар гасцей прымаў —
Ўсе сябры загаварылі,
Выдумляючы імя.

Кожны здолеў там не мала
Усяляк перагадаць...
Толькі бабка прашаптала:
— Пётру з Паўлам трэба даць.

Ўсе маўчалі. Што сказаць ёй,
Кожны ў думках выбіраў...
І ў адказ старэнькай маці
Брыгадзір Іван сказаў:

— Што ты, маці, не жадаю
Так я зваць сваіх сыноў,
Хай героямі ўзрастаюць,
Я імёны даў даўно —

Падрастаць ім, выйсці ў людзі,
І не будуць шкадаваць,

Аднаго мы Кімам будзем,
А другога Клімам зваць.

Дзеці шчасныя бясконца,
Хай іх туліць ціхі сон,
Хай растуць у ясным сонцы —
Ў бацькі хопіць працадзён.

А малыя ўдвох ляжалі,
Даль ім светлаю была...
Між сабою разважалі
Роднай мовай: аб-ляб-ля...

## МЫШАСТЫ

Што ж не выйшаў ты на пасту,
Ганарлівы наш Мышасты?
Поўсць павісла хамлакамі,
Затуманіўся вачамі.
Што хвастом ты не матляеш,
«Му» свайго ты не гукаеш?
Свет, ці што, табе пастылы,
Меў жа ты якую сілу,
Што па ўсіх тваіх калонах
Сілы больш такой няма —
На сваіх рагах тачоных
Ты паўнеба падымаў.
Апетыт дзе свой падзеўшы,
З хлеву ты не выйшаў першы.
І каровы, як сіроты,
Не даклічуцца з балота.
Каб жа ты не лёг задарам,
Прывялі ветэрынара,
І дазналі мы прычыну —
Пераеў ты канюшыны.
Потым дзень цябе ад болю
Ратавалі горкай соллю,
На жывот гарчычнік клалі,
Шкіпінарам націралі,
Каб глядзеў ты зноўку зорка,
Лыжак пяць далі касторкі.

. . . . . . . . . . . .

І прайшло.
                Зляцела змора.
Ачуняў наш вельмі хворы,
Нас ласкавым вокам змераў,
Сам раскрыў шырока дзверы
І прайшоў,
                удзячны людзям,
З белым гальштукам на грудзях.

Праз кусты, ляшчыннік часты
Да кароў памчаў Мышасты.
Як прыбег жа ён, плячысты,
Затрубіў пастух ўрачыста,
Весялейшыя галовы
Паўзнімалі ўсе каровы.
І цяляты зухавата
Заскакалі каля таты.

## ВЕЧАР

Вечар. Гарманісты ходзяць...
Песні між дзяўчатамі стаяць.
Сем брыгадніц выйшлі ў карагодзе,
Сёмая — каханая мая.

І пайшлі кругамі па дарожцы...
Закружыў сукенак белых шум.
Што міргнулі з карагода вочы,
Я пакуль нікому не скажу.

Яна ж помніць, як вятры гукалі,
Як сінеў прастор над галавой,
Як мы з ёю песню зачыналі,
Як шумела жыта у жніво.

Я ж пад тым загадкавым пaглядам
Сам сябе не знаў як разгадаць,
Як не раз у іхнюю брыгаду
Я прыходзіў шчыра пасабляць.

Колькі мы снапоў з ёй пазнасілі?..
Мне ж адно спакою не дае,—
Дзе, якой зарою чырваніла
Яна вусны тонкія свае.

Дык скачы сягоння, колькі хочаш,
Я цябе у сэрцы пранашу.
Што міргнулі з карагода вочы,
Я пакуль нікому не скажу.

## КАНЕЦ ЛЕТА

Жнівень выйшаў. Восені пачатак.
І на ўзлессі жоўтыя сляды.
Сілы правяраюць птушаняты —
Б'юць па голлі крыллем маладым.
Правяраюць хорам галасістым
Крылляў адгадованых узмах,
Значыць, першы вецер ледзяністы
Ім другі пакажа сёння шлях.
Там на поўдні — сонца і крыніцы,
Дзень пагодны, цёпел і вялік,
Толькі верабейчыкі-тубыльцы
Разважаюць ціха: чык-чырык...
Па дарогах зярняты збіраюць,
Што схаваны пылам і жарствой.
Племя вераб'інае! Ты знаеш:
Тут зімой таксама хараство.
А пакуль на небе многа сіні,
Як ты, вецер, хмары ні гані...
А пакуль — лістота на асінах
Гулкімі шархоткамі звініць,
Сонца па-ранейшаму няспынна
Раскідае стрэлы па зямлі,
Як дзяўчаты, стройныя рабіны
Чырванню адменнай зацвілі.
Мы яшчэ з лясамі пагаворым,
Арахоў насыплем у прыпол,
Хай сабе, што восеньскія зоры,
Як апорты, падаюць на дол.
Хай сабе,
Што птушак будзе меней,
Мы і самі добра запяём!..
Нам дзяўчаты песнямі заменяць
Самых галасістых салаўёў.
Прыйдуць ветры,
Разгайдаюць струны,
Раскалышуць нетравыя сны,

Пройдзе сонца па гусцейшай руні,
Будзе ўсё падобна да вясны.
І калі часамі дождж заплача,
Шэрым зайцам скочыць па двары...
Не сумуйце, мы яшчэ паскачам
Да апошняй ранішняй зары.

## РАДАСЦЬ

Светлай раніцаю восень
Упрыгожана сягоння —
Сінь на небе,
Рунь на полі,
Зелянее шыр наўкол,
Загарэліся пажары
На шырокім голлі клёнаў,
І агнёў кавалкі жоўтых
Ціха падаюць на дол.

Шум знаёмы пад нагамі,
Як заўсёды гэтым часам,
Павуцінне вецер гоніць
І над дрэвамі снуе...
Гэта значыць — выйшла ранне
Ды пры ўсёй сваёй акрасе,
Гэта восень поўнай сілы
Над прасторамі ўстае.

І ў калгасе гэтым раннем
Загудзелі каля свірна —
Тут брыгаднікі, даяркі,
Брыгадзіры, канюхі,—
Там на ГАЗ на пяцітонны,
На калгасную машыну,
З новым жытам і пшаніцай
Ускладаюцца мяхі.

Гэта з поля наша праца
Тут сабралася на радасць,
Пэўны шлях свой адшукала
Нам на шчасце, праз вякі.
Мы стаім, глядзім, як горда
Поплеч з шоферам сядае
Самы лепшы па брыгадзе
Майстар першае рукі.

Ён здымае шапку ўгору,
І блішчаць сівыя скроні.
Ён сказаць нам нешта хоча...
Не чуваць ягоных слоў...
І ад свірна нечакана
Ўсе запляскалі ў далоні,
Паплыла машына ціха
Па дарозе на сяло...

Вось якая дружба сёння
Дарагая паміж намі,
Што здаецца, для сяброўства
Ты аддадзены увесь —
Насыпаем сваё збожжа,
Ганарымся працаднямі...
Хутка вернецца машына
І ў наступны пойдзе рэйс.

## ЗДРАДА

Што ж выходзіць,
Дарма граю —
Як калісьці па вясне...
Трэці раз я сустракаю,—
Не глядзіш ты на мяне.

І, праводзіўшы далёка
Прыгажосць тваёй касы,
Сам ад рэўнасці глыбокай
Націскаю на басы.

Каб я знаў, што ты такая,
Што сягоння пойдзеш з ім...
І дрыжаць мяхі з адчаю
На гармоніку маім.

А было —
Вясна гукала
Пад размах сваіх начэй,
А было —
Сама казала,—
Лепш няма маіх вачэй.

Так ад вечара да ранку...
Дзе ж ён дзеўся, той агонь?..
А цяпер ты ходзіш з Янкам...
Чым я горшы ад яго?

Чым табе ён болей здацен,
Што пайшла ты з ім гуляць?
Хіба тое, што на працу
Я не выйшаў разоў пяць?

Хіба тое, што нясмела
Валасоў я гладзіў шоўк,
Хіба тое, што над хмелем
На спатканне я прыйшоў?

Мне ж казалі часам дзеўкі:
Так і гэтак, так і так,—
Гарманісту без гарэлкі
Не пасуе аніяк.

Кіну ўсё я. Буду сціплы,
Сам сябе пасцеражу,
Нават боты з моцным скрыпам,
Як у Янкі, закажу.

Больш не буду я самотным
Грацъ ад болю чорных дум,
І на полі дзён на сотню
Я наперадзе пайду.

Толькі вечарам зайграю,
Каб ізноў, нібыта ў сне,
Ты вярнулася такая,
Як калісьці па вясне.

## НАД ЛЕПЕЛЬСКІМ ВОЗЕРАМ

Вецер з поўначы прыносіў песні,
Надазёрны разбудзіўшы гул.
Хвалі шэрыя збіваліся так цесна,
Як авечы статак на лугу.

Потым уздымаліся, як горы,
І грудзямі бераг іх прымаў —
Быццам хто кавалак кінуў мора
Гэтым месцам, людзям для забаў.

Бачыў я, як човен шлях свой значыў,
Вецер ветразі да долу гнуў...
І здавалася, што човен скача,
Як дэльфін, згінаючы спіну.

Мора прыгадалася харошым,
Быццам тут і чайкі, тут і пляж...
Плыў жа я па возеру па Прошу
Да маленькай выспы наўсцяж.

Думаў, што я ў Ялце, ці мо лепей
Тут Батум, а можа і Сухум...
Ажно гэта горад ціхі Лепель
Да маёй радзімы на шляху.

## ПАЛЕССЕ

Возера, глыбокае, як памяць,
Ад вады узняўся сіні дым,
І дубы шырокімі лістамі
Б'юць, нібы далонямі, над ім.

Па чаротах цішыня такая,
Толькі ўсплёскі самавітых рыб.
Ды дазорцы-качары гукаюць
Караваны сем'яў на зары.

Кнігаўкі галёкаюць па лесе,
Дзятлы выбіваюць: дук-дук-ду...
Гэта ты, багатае Палессе,
З надвясенняй прыгажосцю дум!

І ледзь сонца вылятае з бору,
Загавораць так, што не суняць,
Адусюль шумлівыя маторы,
І тады знікае цішыня.

Гукі абдымаюць кругам цесным,
І тугі маўклівай ані-ні...
Хлопцы і дзяўчаты: песні, песні...
Неба выгінаецца, звініць.

Адплываюць качары ў асокі,
Зайцы уцякаюць сугрунём,
У гушчар забіўшыся далёкі,
След губляе матчын ваўчанё

І дрыжыць, пужлівае, ад гора;
І сава спрасонку не крычыць;
Барсукі стаіліся па норах
У чаканні ціхае начы.

Навакольны звон ім недарэчан,
Што балоты высушыў у рад...

І апошні чараўнік на печы,
З барадой зялёнаю да пят,

Захмурыўся, клунак пыльны выняў,
Паглядзеў трывожна на абраз
І, расклаўшы косці на цаглінах,
Над вадою шэпча многа раз...

Толькі чарам зачапіцца нечым,
Ападаюць крыллі чорных мар:
Праз акно, як толькі рушыць вечар,
Электрычнасць б'е яму у твар.

Вось такой прарэзлівай віхуры
У жыцці ягоным не было.
Ён дарэмна вочы свае жмурыць,—
Прылятае ў вушы многа слоў.

Гэта б'ецца несуцішна радасць,
Скогат, страх звярыны прэч пайшоў.
Гэта позна вуліцай брыгады
З песняю вяртаюцца дамоў,—

Што жыццё яснее з кожным годам,
Паляшук як выйшаў у народ,
Як плывуць на Тураў параходы,
Як лісты прывозіць самалёт;

Што усюды вораг больш не страшан,—
Ні ў палях, ні ў небе, ані ў чым;
Што вакол пяе радзіма наша,
Чалавецтву шчасце несучы...

Як жа выйдзе месяц над узлессем
Да сябе ўсе зоры сабіраць,
Спіць маё багатае Палессе,
Толькі пагранічнікі не спяць!

## ДЗЕД ТАРАС

За сялом,
На прыгорку,
Дзе лесу пачатак,
Перамытая сонцам,
Дажджамі і часам,
Дажывала старэчая хата
Дзеда Тараса.

Мы яе аднавілі,
Працавалі ў дзве змены...
(Час зусім быў малы —
Дзеду грукала сто.)
Мы паклалі падруб,
Пакляй выбілі сцены,
З дошчак зладзілі новых
Падлогу і столь.

І мы йдзём да яго
Прывітаць з Новым годам
У адноўленай хаце,
Каля ганка бяроза,
Яго аднагодак,
Нас чакае на варце.

Добра знаем,
Што зроблена мала...
Нам жа вочы не засціць,—
Што яшчэ ў ёй не ўсё,
А кавалак вялікага шчасця
Мы ўсе ў сэрцы нясём,
Што калгасны пастух
Дзед Тарас будзе рады;
Знае ён,
Што таго аднаму не зрабіць —
Колькі дзён
Камсамольская наша брыгада
Паляпшала яго дабрабыт.

Мы цяпер
Ну зусім у святочным настроі
Узыходзім
На ганак яго весялей...
Пераходзім парог —
Пахне свежай смалою,
Першым снегам
Іскрыцца
Абрус на стале.

Можа сотню маланак
Раскінулі лямпы на сцены,
Што, як люстры, кругом.
Сустракае Тарас;
Валасы яго белаю пенай
Узняліся над гордым ілбом.

Гарнітур з-пад іголкі,
І кашуля з узорам на дзіва,
Ён вітае ўсіх нас
З урачыстасцю нейкай...
І ківаюць са сцен
Пагарджальна-маўкліва
Берасцяныя трубы,
Ражкі і жалейкі.

Потым
Садзіць усіх
Каля століка ўздоўж,
Дзе бліны,
Як гара, узняліся...
І малодшая ўнучка
У трыццаць гадоў
Нам падносіць з павагаю
Поўныя місы.
Роўна ставіць у рад
Кубкі з мёдам пахучым,
І здавалася нам,
Быццам толькі з ракі
Рыбы б'юцца хвастамі
На патэльнях пякучых,
З пушчаў самі ў талеркі
Прыйшлі барвікі.

Смажаніны кругом,
Толькі ведай — бяры,
Агуркі пасярэдзіне
Леглі градою,
Залатыя галовы
Схілілі сыры,
І па хаце запахла
Кругом сырадоем.

І па хаце
Пабеглі гаворка і смех.
Мы ж,
Узняўшы ўсе кубкі,
Сказалі Тарасу:
— Ты заслужаны ў нас чалавек.
Табе сотня гадоў...
Не злічыць працадзён,
Што ты маеш ў калгасе.

І ў цябе
Яшчэ многа юнацкай крыві,
І як сонца
Прыносіць вясну у прыполе,
Як рассыплюцца стрэлы
Вясёлай травы,
Ты яго спатыкаеш
І праводзіш на поле.
Тваё войска выходзіць
На багатую пашу,
І ты граеш яму,
Ды з любоўю такой,
На трубе берасцянай
Зялёныя маршы,
Што чуваць, як у вымя
Ідзе малако.

І за сотню гадоў,
Што сягоння сустрэлі мы,
І за тыя, што будуць
Яшчэ у жыцці,—
Мы цябе адзначаем
Музычнаю прэміяй:
Толькі знай, што круці!

І мы бачым,
Як горда яго галава,
Як яснее яна
Ад вялікага часу...
І да самае раніцы
Ленскі спяваў
Першы раз у жыцці
У хаціне Тараса.

## ЯНКА-КОННІК

Помніць Янка голад,
Здзекі і пажары.
Помніць, як рабочыя
Пралівалі кроў,
Як аднойчы
Бацьку павялі жандары...
І дахаты
Бацька болей не прыйшоў.

Як прыйшлі чырвоныя
І паноў не стала,
Было Янку толькі
Чатырнаццаць год...
І паехаў Янка
Коннікам удалым
На далёкі,
Польскі,
На суровы фронт.

Па дарогах
Помстай ветры бушавалі.
Уцякалі ворагі
Воўчаю гайнёй.
Трыццаць дзён іх секлі,
Трыццаць дзён скакалі...
А пад самым Бугам
Выпаў люты бой.

На палкі уланскія
Клаліся удары.
Цэлы дзень у бойцы
Янка праскакаў.
І тады пад вечар
Ён пазнаў жандара,
Што аднойчы з хаты
Бацьку забіраў.

І прыпомніў Янка
Сваю крыўду, гора,
Як прасіўся, плакаў,
Як ён бацьку зваў...
— Вось табе за бацьку!
Вось табе за гора!..
На пясок
Жандарская пала галава.

А за тое Янку,
Што быў смелы, горды,
За адвагу, храбрасць
Ды на ўсіх франтах,
Далі Янку-конніку
Нагароду — ордэн,
Што гарыць так ярка
На яго грудзях.

## УРАДЖАЙ

Гоман каласісты
На дарозе стаў нам.
За сцяной пшанічнай
Лесу не відно.
Мы праходзім полем...
Гэта ж так нядаўна,
Як па ім ішлі мы
З першай баразной.
Як на ім за працай
Заставалі ночы,
Туманы ўздымаліся
Рана ля ракі,
Як крылатай птушкай
Вылятала сонца
І зямлёй усходаў
Беглі аганькі.
Як паўдзённы вецер
Па дарогах весніў,
Як дажджоў калматых
Многа праплыло,
Як дзяўчаты нашы
Запявалі песні,
Колькі зернят чыстых —
Столькі ясных слоў.
Мы ідзём
І славім нашае багацце,
А яно навокал
Так шуміць, звініць...
Мы ідзём брыгадамі,
Аглядаем працу,
Спелымі жытамі
Шэпчуць працадні.
Сінімі аўсамі
Пралятаюць мары,
Возерам блакітным
Заіскрыў лянок,

Ячмяні вусатыя
Просяцца да твару,
Коўдры канюшыны
Сцелюцца ля ног.
Грэчка запалала
Густацветам яркім,
Задыміў над полем
Красавання пыл...
Хутка жнівень прыйдзе,
Пабягуць жняяркі...
І пастануць свечкамі
Жоўтыя снапы.

## З АРМЯНСКІХ МАТЫВАЎ

### СВЯТА Ў АРДАШАЦЕ

Гэта можа толькі прыгадацца ў марах,
Як спявала поўная душа,—
Як звінелі зурны, як гудзелі тары,
Як стаяў у песнях Ардашат.
Сонца налівала
Кубкі ясным хмелем
Для вясёлых, радасных людзей,
І нібы сады там
Голасна шумелі,—
Так спявалі вуліцы ў той дзень.
Толькі раз
Суцішша перабегла святам,
Кожны там жаданае страчаў...
І чуцён быў вецер,
Вецер з Арарата,
Як ляцелі песні Мкрчан...
Зангезуры славіла буйнае паўстанне,
Як прагналі ў бойках
Дашнакоў...
І здалося — хвалі змоўклі
На Севане,
Стронга падышла да берагоў.
І калі шугалі словы
Небам сінім,
Што навек загінула тое, што было,—
Воплескі такія
Пранесліся далінай,
Быццам крыллем грукалі
Тысячы арлоў.
Вось дык весяліўся
Ардашат парадны,
І здымалі шапкі за гарой гара...
І нібы палітая
Сокам вінаградным,
Яркая ўзнімалася зара.
Праз глыбокі вечар,

Праз начныя хмары,
Шчасцем была поўная душа...
Гаварылі зурны, і гудзелі тары,
І стаяў у песнях Ардашат.

## ЗАНГА

Ты пралегла між скал,
Як палёт бумеранга...
Барадатыя хвалі твае
Захавалі глыбокую памяць...
Хіба ты па каменні цячэш,
Неспакойная Занга,—
Гэта слёзы стагоддзяў, як вар,
Узняліся над чарапамі.
Ім не бачыць
Такога пунсовага гулкага рання,
Што раскрыла ўсе дзверы
На праспектах,
пляцах Ерэвана...
Я хадзіў між народа твайго
І хаджу з хваляваннем.
Я спытацца сягоння хачу,
Дзе сляды Абавяна?
Я Арменію бачыў усю
І шчаслівы за наша спатканне.
На трыбуне сталіцы стаяў
Як жаданы таварыш і госць.
Я паэмы народа пачуў.
Я гасціў у Наіры Зар'яна,
Шум садоў вінаградных адтуль
Да сябе на радзіму прынёс.
Я хадзіў між армянскіх далін
Лістападаўскім сонечным ранкам,
Я узняўся вышэй,
Паблукаўшы між гор па расе...
Будзеш слухаць, Дзвіна,—
Я не раз праспяваю пра Зангу,
Яна радасць народу цяпер
На прастор, быццам сокал, нясе.

## ЛАГЕРНАЯ

Нас кліча вясёлае поле і гай,
Бывай жа да восені, школа, бывай!..
А заўтра наш поезд памчыцца удаль,
Дзе сонца іграе, дзе пеніць вада,
    Дзе вецер над полем шуміць і шуміць,
    Дзе песенька наша удаль паляціць,
    То рэчкай памчыцца, то выйдзе на бор,
    То звонка закружыць высока ля зор.

І цэлае лета ад гэтай пары
Звінець будуць смехам у нас лагеры;
Мы будзем купацца, гуляць, загараць
І дружна вясёлыя песні спяваць,
    Дзе вецер над полем шуміць і шуміць,
    Дзе песенька наша удаль паляціць,
    То рэчкай памчыцца, то выйдзе на бор,
    То звонка закружыць высока ля зор...

Як восень надыдзе да жоўтых палёў,
Мы вернемся ў школу бадзёрымі зноў...
А заўтра нас прыйдуць усіх сустракаць,
А заўтра нас лагеры будуць чакаць,
    Дзе вецер над полем шуміць і шуміць,
    Дзе песенька наша удаль паляціць,
    То рэчкай памчыцца, то выйдзе на бор,
    То звонка закружыць, высока ля зор...

## САМАЯ ШЧАСЛІВАЯ

Тут прастор палёў, лясы і горы,
Глыбіню азёр і сілу рэк,
Нават сонца яснае і зоры
Пакарыў упарты чалавек.

Зоры над садамі віснуць роем,
Зоры над сталіцамі бруяць,
Тут само паветра для герояў...
Вось яна — рэспубліка мая.

Хочаш, плаў руду — чакаюць домны,
Хочаш — ураджайнасць уздымай,
Хочаш — караблі вядзі на поўнач,
Хочаш — вышай неба узлятай.

Біся з каракумскімі пяскамі,
Каб жыццё пустэльні расцвіло;
Тысячы кірункаў перад намі —
На заводы, шахты, на сяло.

І на кожным шчасце сваё стрэнеш,
І на кожным будзеш ты расці,
І на кожным цвёрда і напэўне
Ты да мэты прыйдзеш у жыцці.

Партыя усюды шлях асвеціць,
Мы за ёю крочым смела скрозь.
Самая шчаслівая у свеце —
У краіне нашай маладосць!

Мужнасцю яе нам ганарыцца,—
Непахісны гордыя страі.
У яе вачах — глыбінь крыніцы,
І на вуснах — смеху ручаі.

Маладосць любімае айчыны
Узнімаў ты, беларускі бор,

Гадавалі стэпы Украіны,
Гадавалі грудзі стромкіх гор:

Ля Крамля шуміць яна прыбоем
І душою напаўняе шыр,
Дзе над плошчай, над Масквой-ракою
Песні ўсе пра шчасце і пра мір.

Партыі любімае мы дзеці.
Мы яе жаданняў буйны рост.
Самая прыгожая у свеце —
У краіне нашай маладосць.

Ёй не страшны вецер золкі, люты,
Ні буран, ні штормы, ні віхор...
Вось яна ляціць на парашутах,
Пагасціўшы недзе каля зор.

На замку граніцы ўсе трымае,
Хай вада, хай багна, хай гушчар...
Нават нашы школьнікі пазнаюць
Ворага замежнага у твар.

Партыі мы скажам: наша маці,
Мы гатовы ўсе ісці на бой,
Пазавеш — і будзем мы змагацца
Для радзімы радаснай сваёй.

Маладосць у нас з арлінымі сэрцам.
Хай жа знае непатрэбны госць:
Самая адважная у свеце —
У краіне нашай маладосць!

## НА ПОЛІ
## ПЕРШАЯ РАСА

На полі першая раса.
І сталі яблыні цвісці...
Мы толькі увайшлі у сад,
Як многа нам з табой ісці.

Твае зялёныя уборы
Зусім падобны да вясны,
Я не скажу, што вочы — зоры,
Але як водбліскі яны.

Глядзяць задумліва-глыбока,
У іх праўдзівае жыве...
Бывае — гнеў там адзінока,
Як небам хмарка, праплыве.

І зноў яны цяплом сагрэты,
І мы смяёмся і пяём.
Адно другога мы прыкметы
Даўно здалёку пазнаём.

Ну што нам лепшага яшчэ —
Вучыцца, жыць, спяваць, расці...
Твая рука ў маёй руцэ,
Як добра нам з табой ісці!

Шляхоў у нас прыгожых шмат,
Над імі зоры усплылі.
Які прыгожы гэты сад,
Куды мы толькі увайшлі!

## ВЯСНОЙ ПТУШЫНЫ ЗВОНКІ ЛЁТ...

Вясной птушыны звонкі лёт
І белы па садах агонь,
І, як дзявочы карагод,
Чаромхі кругам ля акон.

Мы б'ём, вясна, табе чалом,
Мы доўга мусілі чакаць,
Ах, колькі песень за сталом,
Што іх ніколі не сабраць.

Яны плывуць уздоўж ракі,
Далёка нікнуць на ляту.
Пяюць сяброўкі,
З медуніц
Вянкі прыгожыя плятуць.

Плятуць з рамонкамі яшчэ,
Каб потым шчасце адружыць,
Ніколі болей на рацэ
Пра лёс не трэба варажыць.

Для іх сям'і, братоў, сясцёр
Такое шчасце усплыло...
Ах, як прыгожа пра жыццё
Пяюць сяброўкі за сялом!

## ПАСІЯНАРЫЯ

На ворага ішлі,
На бой,
Высока сцягі несучы.
Ён паў.
Зямлю сваю прыкрыў
Прабітымі грудзямі...

Над паміраючым байцом
Дрыжалі зоры уначы,
І скалы падалі ў гарах
Сіера-Гвадарамы.
Над ім стаяў шалёны гул,
Усё ляцела пад адхон,
І вецер кулям падпяваў
Смяротнымі шляхамі.
Баец кранууся,
Паглядзеў...
Далорэс там убачыў ён,
Стаіць, схіліўшыся над ім,
З запалымі вачамі.

Яны задумлівым цяплом
І ласкай матчынай гараць,
Бялее срэбрам галава,
Любімая такая.
Няўжо сюды яна прыйшла?
Прыйшла пакуты,
Боль суняць...
— Пасіянарыя!..— шаптаў ён.—
Маці дарагая!..

Я паміраю... Мы на бой
Тут з генераламі ішлі;
Цябе прашу я аб адным,
Нястомная
Між намі:
Там, у Валенсіі маёй,

Напэўна бачыла калі,
Стаіць хаціна ля гары
Над белымі садамі...

Там неба сіняе...
Адсюль
Яно, прыгожае, відно...
Там сонца ў поўдзень
З вышыні
Далінай ярка свеціць...
І там штораніцы ўстаюць
І паглядаюць праз акно
І жонка — друг мой,
І сястра,
І любыя мне дзеці.

Калі прыедзеш ты туды,
Табе насустрач пабяжыць
Мой сын, дазнацца пра мяне,
Аб лёсе маім страшным...
Цябе прашу я аб адным,
Пасіянарыя,— скажы,
Што за рэспубліку памёр
Я мужна і адважна.

Няхай жыццём аберагуць
Яны рэспубліку сваю,
Няхай ідуць у барацьбе
Заўсёды разам з вамі,

Хай возьме родная сястра
Вінтоўку гэтую маю
І выйдзе на смяротны бой
З праклятымі панамі.

Пасіянарыя, бывай...
Я знаю — смерць мая прыйшла,
Любіў жыццё, свабоду я
Душой сваёй агністай...—
І супакоіўся баец...
Руку Далорэс узняла
Вялікай клятваю сваёй
Жанчыны-камуніста.

І зноў у першыя рады
З адважнай, мудрай галавой
Чырвоны сцяг узнесла ўвысь
Магутнымі рукамі.
І чуўся голас — зваў, каб жыць,
Ісці на смерць,
Ісці на бой...
І скалы падалі ў гарах
Сіера-Гвадарамы...

## ЯКУБУ КОЛАСУ

Твой сад густы, а ён расцвіў, высокі,
Там шум паэм, дзівосных песень сказ...
Я піў не раз іскрыстыя іх сокі,
З крыніц тваіх жывіўся я не раз.

Я там з героямі бунтоўнымі сустрэўся,
Мінулага прайшлі перада мною дні.
Там дзед Талаш у глыбіні Палесся
Ішоў са стрэльбай волю бараніць.

Я да зямлі прыпаў. Твае гучалі словы.
Яны праўдзівымі, прыгожымі былі,—
Я ў іх вясну пачуў, напеў бароў сасновых
І сілу рэк Бярозы і Сулы.

Твой голас разгарнуў магутнейшыя крыллі,
Праз цемру пралящеў у наш вялікі час.
І дарма ворагі чмутою паланілі
Твой поўдзень сонечны сягоння сярод нас.

Хай сад квітнее ў радаснай краіне,
Ягоны шум прасторамі звініць...
І доўга будзеш ты пад небам сінім
Ісці, спяваць, паэт, і жыць, і жыць!

## ПЕСНЯ ДЗЯРЖЫНЦАЎ

Дзяржынцы,
Мы пільнасці нашай не страцім,
Мы знаем задачу сваю,
За намі краіна — рэспубліка працы,
Вялікі Савецкі Саюз.

Шуміць над прасторам
Сасновае голле.
І песні з вятрамі плывуць.
За намі
Дзяўчаты працуюць на полі,
Шахцёры на шахты ідуць.

За намі
Палаюць крамлёўскія зоры,
За намі сталіца Масква.
І рэкі, як срэбра,
І люстры-азёры,
І стэпаў густая трава.

За намі
Даліны, дзе граюць крыніцы,
І поле пшаніцай шуміць...
Не пройдуць бандыты
Савецкай граніцы,—
Дзяржынцы на варце граніц.

## МААБІТ

Германія. Паны, рабы,
Жандарскія парадкі.
І таўстасценны Маабіт
Суровейшае кладкі.

Адны запоры уначы
Якой работы варты,
Надзейны дзверы
І ключы
У самай пэўнай варты.

З людзей, праверапых не раз,
Дазорцы падабраны —
Па некалькі забойстваў стаж,
Па сотні
Катаванняў.

Але ёсць сіла.
Маабітам
Той сілы не стрымаеш...
І быў адпушчаны
Дзімітраў
Не іхнімі ключамі.

Свабода —
Вось яе ключы,
Што турмы ўсе расчыняць.
Замкі той сіле
Ніпачым
І краты —
Павуцінне.

## ПАГРАНІЧНАЕ

Я табе пра радасць
Сёння раскажу.
Я табе пра радасць
Сёння напішу.

Па заставах весці
Слаўныя ідуць —
Смелым пагранічнікам
Тут мяне завуць.

Ноччу цёмнай восеньскай
Дождж халодны ліў.
Я з адным таварышам
У дазоры быў.

Раптам чуем крокі
Па кустах густых,
І сабака верная
Навастрыла слых.

Мы за тымі крокамі
Ночкаю ідзём.
Па равах, па сцежках,
Па імхах паўзём.

Толькі чуем —
Ворага патаемны свіст...
— Стой і рукі ўгору!..
— Гэта хто?
— Чэкіст!

Уцякае вораг,
Не здаецца, не!
Куля прагучала —
Раніла мяне.

Ноччу цёмнай восеньскай
Дождж халодны ліў...
Кулі мае меткімі,
Вернымі былі.

Ранены, па ворагу
Я страляў як мог —
Лёг бандыт-чужынец,
На балоце лёг.

## ГОД ДВАЦЦАТЫ

Скажуць вам прасторы самі,
Нашы вёскі, нашы хаты,
Як у бойках тут з панамі
Узнімаўся год дваццаты.

Скажуць вам пра гэта хвоі
Гоманам сваім вячыстым,—
Як ішлі мы грамадою,
Як вялі нас камуністы.

Скажуць сінія азёры,
Дзе мы раны абмывалі,—
Як ішлі мы полем, борам
І сябе не шкадавалі.

Вам раскажуць пакаленні
Пра вялікія паходы,
Як здабыта вызваленне
Беларускага народа,

Як яму адкрылі вочы,
Асвяцілі ясным сонцам
Шлях, што быў цямней ад ночы,
Ночы восеньскай бясконцай.

Жыў народ жыццём пакутным,
Слязьмі снедаў, слязьмі мыўся...
Але ён устаў магутным —
Панскай Польшчы не скарыўся.

Ён пазнаў сябе народам,
Выйшаў з цемры, з сутарэнняў,
Да яго прыйшоў з Усходу
Брат са сцягам вызвалення.

Помніць доўгі шлях варшаўскі,
Помняць Нёман і Бяроза,

Як ляцеў апрычнік панскі,
Пакідаючы абозы.

Дарма рушыў вораг з боем,
Пагражаў агнём шалёным,—
Гнаў народ яго сцяною
Слаўнай Арміі Чырвонай.

Мы ішлі ў адной кагорце,
Каб разбіць без жалю гада;
Бацька з сынам быў на фронце,
Дзед падвозіў ім снарады.

І ніхто не быў там лішнім,
Як ішлі байцы-героі:
Маці мылі нам бялізну
І хадзілі за сахою.

Мы крывёй купілі волю,
Стаўшы шчыльна брат да брата...
Не вярнуцца пану болей,
Як прагналі у дваццатым!

## ПЛЫВІ, НАША ПЕСНЯ, ДАЛЁКА

Плыві, наша песня, далёка,
Па ўсіх акіянах плыві!
Над светам палаюць высока
Крамлёўскія зоры Масквы.
Пры зорах магутная прыстань,
Дзе ў шчасці заводы, палі;
Сюды, на маяк прамяністы,
Са свету ідуць караблі.
Праходзяць яны непагоды,
І тут сустракае іх дзень,
Дзе ў братнім яднанні народаў
Саюз наш наперад ідзе,
Дзе песні, як сокалы, ўюцца,
Дзе мужныя твары людзей,
Дзе радасна гэтак смяюцца,
Як болей на свеце нідзе.

## РАНІЦА

Вясною захапляюся я ўсім:
Зялёны бор шуміць над галавой,
У новым гомане пярэстыя палі.
Я чую, як ідуць ласі
Прабітай сцежкаю на вадапой
І пралятае тупат па зямлі.
А сонца абдымае усяго.
Ад галавы да ног
Я ўвесь палаю і гляджу на ўсход.
Пастух на вёсцы затрубіў як мог
Сваё тру-гу...
Курыны карагод ля сметніка стаіць,
І певень б'е крыламі,
Нібы узнімецца і паляціць
Над полем веснавым,
                над гаем,
                        над лясамі...
Я чую бег імклівых рэк,
І говары травы, і смех рамонкаў.
Кранаюцца маіх павек
Праменняў ясныя пярсцёнкі.
Я чую, як ідуць углыб
Дубоў магутныя карэнні,
Калёс я чую дружны скрып
З мяхамі, поўнымі насення,
І коней храп у ядраным паветры...
А з поўдня любага
                успененыя ветры
Прыйшлі, абвеялі кругом.
Мая радзіма!
Родны дом!
Напеў бароў, раздолле пожань!
Мне ўсё тут люба і прыгожа:
І песні радасных сяброўак
За працай спорнаю і шчырай,
Палі, узнятыя нанова,
Увішны голас брыгадзіра,

Паход калгасных трактарыстаў...
І раннем, што пяшчотай туліць,
Над маладым, зялёным лістам
«Ку-ку» вясновае зязюлі.
Я чую возера усплёскі,—
То сом палюе на зары,
Ён спудзіў шчупака.
Высока у садку
У свой прыгожы дом
Забіўся шпак, прынёсшы чарвяка,
І дзеці аганькамі язычкоў
Бяруцца за сваё сняданне...
Прывет, жаданая вясна,
Маё абуджанае ранне!

## СМЕРЦЬ ТАВАРЫША ХАХЛОВА

Гудзелі вяршаліны дужых дубоў,
Грымелі грымоты над полем і борам,
Калі на граніцы таварыш Хахлоў
На варце стаяў у дазоры.

Па небу суровая хмара плыла,
Маланкамі шлях прабівала...
І ночы трывожнай густая імгла
Ад бляску на момант знікала.

Такою хвілінай дазорнага слых
Напружана сочыць як можна,
Здавалася, поўнач на нетрах лясных
Чаруе пуцінаю кожнай.

Здавалася, з цемрадзі хмурых кустоў
Няпрошаны гад выпаўзае...
Дарэмна, дазорны таварыш Хахлоў
Сумненняў і страху не знае.

Не пройдзе нягоднік, забойца і шпік
Ні пушчай, ні дальняй лагчынай,
Трымае Хахлоў загартованы штык,
Узняты любімай краінай.

Ён ведае говары шумных лістоў,
Хай гоман зрываецца громам,
Бруенне крыніц і напеў ручаёў
Яму па-сяброўску знаёмы.

Па зараслях ён асцярожна ідзе,
Часамі прыгнецца, падзе на калені...
І поўнач мінула. А бура гудзе,
Ламаюцца сосен карэнні.

Для буры ні варты няма, ні мяжы,
Яна над штыкамі праходзіць высока...

А лесам праносіцца шорах чужы,
Варожыя шастаюць крокі.

І гоман далёкі узняўся і знік,
У ветрах шумлівых растаяў...
Таварыш Хахлоў да вінтоўкі прынік,
Гасцей незазваных чакае.

Вось крокі ясней і бліжэй па суках...
Не пройдуць!.. Ніякаю сілай!..
А ззаду раптоўна бандыта рука
За шыю Хахлова схапіла.

Дазорны, пастаўлены роднай зямлёй,
Магутны і сэрцам і целам,
Ён вырваўся з рук і, заліты крывёй,
Ударыў па ворагу смела.

— Ні з месца! — І палец націснуў курок.
Калі не здаюцца — страляюць...
Ён бачыць, што маўзер выпаў і змоўк,
Што злосны драпежнік канае.

Хвіліна. І цемрай таемнай ізноў
Прамчаўся агнямі узбуджаны сполах,
Два новыя стрэлы... Таварыш Хахлоў
Панік галавою да долу.

Падбеглі бандыты. Напружаны міг.
Здавалася, вырвуць вінтоўку...
Ды не! Хай сагнуўся праверany штык,
Хахлоў не пакіне сяброўку.

Яе даручыў яму вольны народ,
І ён абавязак свой знае,
Вінтоўкі не даў... А яго навылёт
Прабіўшы, бандыты знікаюць...

Гудзелі вяршаліны дужых дубоў,
Грымелі грымоты над полем і борам,
Калі на граніцы таварыш Хахлоў
Геройскі памёр у дазоры.

## РЫБАК

Туман адплыў на ўзлессе ад ракі...
Яшчэ дрымотна...
                                        І стаяць у сне
Чароты ў паплавах і хмызнякі,
Але шумліва на пясчаным дне:
Прачнуліся рухавыя малькі,
А з-за травы пражэрлівы шчупак
На іх наважыўся...
Даўно рыбак
Расклаў цішком смалісты курадым,
На жэрдках саганок павесіў свой.
І часам здасца плотка там жывой,
Калі яна варочаецца ў ім.
Пад свежым ветрам палымнее жар.
Рыбак сядзіць задумна пры агні,
І ў водблісках вады спакойны твар
Ахоплены павевам цеплыні.
І мроіцца яму, нібы праз сон,
Як ён спаймаў асілка-акуня.
Устаў. Вузельчык выняў з кішаня,
Прыправу розную усыпаў ён,
Задумаўся аб смачнае ядзе.
Знаёмы пах прыемна казытаў,
Раптоўна ўсплёск далёкі на вадзе
Яго зусім на момант счараваў;
Але з усмешкай думу стрэў адну —
Пакроіў хлеб,
Расклаўшы востры нож,
І лыжку па яду ён працягнуў.
А побач з рыбай біўся поўны кош.

## ШЧОРС

Пад сцягам радасным, чырвоным,
Трывожнаю парой
Мікола Шчорс вядзе калоны
Багунскія на бой:
«Чакайце, ворагі,
Сустрэчы,
Вам Кіеў не забраць!»
Далі мы клятву пад Унечай,
Не страшна паміраць.
Міколу Шчорса ўсе пазналі
Па шаблях і клінках,
Не раз бандыты уцякалі
Пад Злынкай у лясах.
Штыкоў навостраную ласку
Пад выбухі гранат
Адведаў гетман Скарападскі
І павярнуў назад.
Не быць драпежніцкім атрадам
На роднае зямлі!
Міколу Шчорсу даў парады
Сам Ленін у Крамлі.
І чуе Шчорс, як вораг гоніць
Да Кіева палкі.
Пятлюра сунецца на поўдні,
З паўночы — палякі.
Зямля нагрэтая дыміцца,
Ад шабель стэп звініць.
Ты помніш,
Вёска Белашыца,
Начдыва на кані?
То ён знясілены, сухотны
Пад градам куль імчыць.
То ён за стужкай кулямётнай
З багунцамі ляжыць.
То крыкне голасна далёка,
Што чуцен слоў палёт:
— Трымай, Бажэнка, правым бокам,

На ворага ў абход!
То ён з усмешкай загаворыць:
— Качура, не здаваць!
Ты знай, Багунію мы, горад,
Тут будзем будаваць.
Над стэпам пыл вісіць клубамі.
Што коннікі нясуць,
Ужо разбітымі шляхамі
Пятлюраўцы бягуць.
— Наперад, хлопцы!..
Бі штыкамі!..—
Начдыў не даказаў,
Ён паў над жоўтымі пяскамі,
Як быццам задрамаў.
Ён паў, задумлівы, суровы,
На спапялелы дол...
— Не стала Шчорса!..— жальбы словы
Прамчаліся вакол.
— Наперад, хлопцы! Знішчыць гада!
Для слёз цяпер не час.
Мацней прыціснулі прыклады
Вінтовак да пляча.
— Дружней, багунцы! Бі атакай.
Начдыў навечна змоўк...
І вось разбіты гайдамакі,
Пятлюра ледзь уцёк.
Адбой. І на руках герояў
Ляжыць адважны Шчорс...
Прайшлі гады. На месцы бою
Шуміць пшаніца скрозь,
Стаяць асветленыя хаты,
Пад гоман спелых ніў
Аб тым цяпер пяюць дзяўчаты,
Як паміраў начдыў.
Ляці ж ты, песня, небам сінім
Праз Корасцень на Сноўск!
Спявайце, ветры Украіны,
Як жыў Мікола Шчорс!

## НЕЎМІРУЧЫ

Вясна.
Як ён любіў вясной
Цвіценне дрэў, птушыны спеў,
Як доўга ён удаль глядзеў
На мора сінь...
Гудзеў прыбой,
Да ног ягоных прыпадаў,
Аб скалы біўся,
Ракатаў,
Каціўся грознаю гарой,
Скараўся пеннай галавой
І з гулам гальку нёс...
А скрозь,
Нібы вялізны снег кружыў,—
Палёты чаек...
Ён хадзіў
Крамністым берагам тады,
І ў памяці плылі гады,
Як у дзяцінстве рос, як жыў,
Як вырваўся
Крылатай песняй
Яго магутны
Буравеснік,
Як бліскавіцай шугануў
Пад чорным небам,
Як пачуў
Яго замучаны народ
І запалаў агнём усход...
Як усміхаўся ён,
Калі
Па небу сіняму плылі
Сям'ёю самалёты.
Строй
Непераможны іх вітаў,
Што славу ўсёй радзімы нёс...
Радзіму ён любіў да слёз.
Не знаў,

Што гад ягоным следам поўз,
Яму лісліва гаварыў
І джала ўпотайку вастрыў.
О, каб ты мог цяпер устаць!
Іх след пракляццем спапяліць,
Зямлю над гадамі прыбіць,
Навек іх, катаў, зганьбаваць.
Прысуд над катамі сустрэць
За смерць сяброў, за сына смерць.
Маўчыць крамлёўская сцяна,
Мы беражом яе спакой.
Ты з намі, Горкі!
Мы — з табой!
Радзіма ў нас ва ўсіх адна;
Мы рады ёй жыццё аддаць,
І будзем так, як ты вучыў,
Сваю радзіму берагчы,
Як ты — любіць і шанаваць!

## РАЗВІТАННЕ

Зямля мая! Журботны марш...
Зямля мая ў журбе.
Валеры Чкалаў! Сокал наш,
Няўжо няма цябе?

Навечна абарваны шлях.
Няўжо табе не жыць?
Па акіянах, па марах
Твой спеў не прагучыць.

Ты ж вёў высока над Крамлём
Крылатыя страі,
Ты ж быў адважным важаком
Арлінае сям'і.

Няўжо табе не ўзляцець.
І шум матора змоўк?
Перад табой жа часта смерць
Адходзіла набок.

Я не хачу жалобных дум,
Што час спыніўся твой,
Ды чую непазбыўны сум
Над свежаю труной.

Схіляе галавы народ,
Цябе праводзіць ён.
Я чую чкалаўцаў палёт,
Іх многа, іх мільён.

## ПАЛЕСКАЯ ДАРОГА

Як змеі, нікнуць каляіны
Праз хмыз, забіўшыся ў гушчар...
Я помню гэтыя мясціны
Праз глыбіню дзіцячых мар —
Вятроў асеннія літанні,
Гаворка сумная бяроз,
Стары гусляр на скрыжаванні...
Разбітай арміі абоз...
Узлёты шуму баравога,
Густы ажынавы настой...
Вякамі бітая дарога
Над самай Прыпяццю-ракой!
Цябе, далёкую, прысніўшы,
Ля мора кінуўшы сляды,
Усе шляхі перахадзіўшы,
Я зноў вяртаюся сюды.
І тут, паслухаўшы з калгаса
Вясціну добрую пра дом,
Свяжэй за тэлеграмы ТАССа,
За першы красавіцкі гром,
Краіны слухаю дыханне...
Я нібы мару, нібы сню,
Мяне узносяць разважанні
Над светам, нібы ўпершыню
Я з думаю стаю адзінай,
Пад гоманы ліпнёвых траў,
Што ўсёй любімае краіны
Яшчэ як трэба не пазнаў.
Аднак мне помняцца узоры,
Што ў небе піша Днепрастан,
Па-над Крамлём маскоўскім зоры,
Што свецяць аж за акіян;
Вышыняў снежнае адзенне,
Якія зведаў чалавек,
Садоў і траў перасяленне
І новыя кірункі рэк.
І ўсюды слухаў я душою,

Як правярае пульс зямля
Са ўсходняй яснаю зарою,
Са Спаскай вежаю Крамля.
І ўсё, што ведаю жывога,
Туды хінецца галавой...
Я зноў, палеская дарога,
Сваімі думамі з табой.
Аднойчы тут, у час работы,
Трывожна ўзнімуцца гудкі,
Прамчаць над борам самалёты,
На бойку рушацца палкі.
Як толькі гэты гул пачую,
Паходны ранец развяжу
І моўчкі кніжку запісную
Паміж патронаў палажу.
Пайду пад грукаты гарматы
У паходным маршавым страі,
Сваіх таварышаў багата
Сустрэну побач у баі.
Мо ў часе наступу начнога,
Пасланы ротаю ў дазор,
Цябе сустрэну я, дарога,
Паміж другіх лясоў, азёр.
Сябры, што край абаранялі,
Сумеўшы ворага разбіць,
Са мной прысядуць на прывале
У цень сасновы адпачыць.
І мы успомнім, як сядзелі
Калісьці разам на піру,—
Тбілісі, Шота Руставелі,
Джамбула гучную дамбру...
І прыгадае не адзіны
Дарогу першую сваю...
А я сяброў сваіх гасцінна
З бярозы сокам напаю.



Усцін Адамавіч Броўка,
бацька паэта.



Алена Сцяпанаўна Броўка,
маці паэта.

## ПРАВОДЗІНЫ

Рана, рана маці ўстала,
Ледзь успыхнулі зарніцы...
Сына рупна сабірала...
Едзе хлопец на граніцу.

Настаўляла словам шчырым,
Частавала свежыною,
Мёдам чыстым, свежым сырам
І пахучым сырадоем.

— Ты мяне паслухай, сынку,
Як цябе я гадавала...
Маці беражна з хусцінкі
Зорку з гонарам вымала.

— Бацька твой — баец славуты,
Гэта бацькава адзнака,—
З яснай зоркай пяцікутнай
Біў пілсудчыкаў-палякаў.

Прад яго апошнім боем
Я з пашанаю схілюся...
Ён адважным паў героем
За свабоду Беларусі.

Сваім бацькам ганарыся.
Будзеш, сынку, на граніцы,
Зорку ўспомні, мужна біся,
Як палезуць чужаніцы.

Будзь жа смелым і адважным,
Зоркім цёмнымі начамі...
Пакланіўся сын уважна
Перад маці і сябрамі.

— Я з вялікаю пашанай
Памяць бацькаву прымаю.

Пагранічнікам адданым
Буду —
Цвёрда абяцаю.

Каб атрутаю крыніцы
Вораг нам не зацярусіў,
Каб цвілі ляны, пшаніцы
На Савецкай Беларусі.

Каб у росце найадменным
Уздымаліся заводы...
Каб Масква святлом праменным
Асвятляла ўсе народы.

Развітаўся сын калгасны,
Перад ім дарога славы...
Едзе хлопец, едзе шчасны
На заходнія заставы!

## ПРАЗ БЕЛАРУСЬ

Запушчаны бальшак з прысадамі бяроз,
Абапал балаты з пахілаю вярбой...
Па жоўтаму пяску рыпіць нязграбны воз,
І ўслед ідзе юнак з панурай галавой.

Часамі наплыве лясоў вячысты шум,
То сумны далягляд заменіць у палях,—
І краю не відно палёту горкіх дум...
Далёкі з Вільні лёг да Пецярбурга шлях.

Каторы дзень абоз бесперапынна брыў,
А Вільні чорны след яшчэ ў душы не знік,
І ён успомніў ноч, пабоі, злосны крык,
Як нішчыўся душы юнацкае парыў.

Ён паглядаў вакол. І тут, і там турма,
Пахмуры небасхіл, як толькі ўбачыць мог!..
Стаяла Беларусь жабрачкай, без імя,
Імшарышчы, дрыгва, куп'ё ды дзікі мох.

Праходзіць сёлы ён. Жыве прыгонны жах,—
На прызбе дзед сівы, падобны мерцвяку,
Унукі бліз яго у зрэбных лахманах,
Худыя, босыя барляюцца ў пяску.

І хмары прабягуць над стомленым чалом,
Змахне ён рукавом журботную слязу:
— Дзяцінства ты маё! Хаціны над Дняпром,
Ды гэта ж я між іх пакутлівы сяджу.

О доленька, не плач! Паслала ты сама
Мяне за казачка на паншчыну ісці...
Куды я йду? Чаго? Што стрэну у жыцці?
Ці ёсць на свеце бог? Не, мабыць што, няма!

Мае жаданні ўсе — разбітыя нашчэнт,
Праходзяць чарадой бязрадасныя дні...
Хачу аб крыўдзе той заплакаць я на свет!
Украіна мая! О горачка мені!

Зноў цемра на душы. На міг блісне зара,
Далёка дзесьці там нібы яснее лёс...
Ён паглядаў туды, дзе томіцца сястра...
На поўнач жа ішоў дакучлівы абоз.

## У КАНІВЕ

Таполяў варта над ракою,
Задумны, сіні краявід.
Перад славутаю гарою
Стаім, спяваем «Заповіт».

Зямля, што сэрцамі сагрэта,
Ты зварухнулася ў цішы...
І словы мужныя паэта
Пераклікаюцца ў душы.

Да берага прыпалі хвалі,
Устала ранняя зара,
Яны шчаслівыя, што зналі
Жывую постаць кабзара.

Вось гэтаю сцяжынкай, мусіць,
Хадзіў ён ночы да відна...
І можа быць на Беларусі
Такая сцежка не адна,

Дзе ты пачуеш —
У бяседзе
Бары сасновыя гудуць —
Аб падарожніку-суседзе
Размовы доўгія вядуць.

Прайшоў ён дзікія мясціны,
Прыволжа шумныя палі...
І адусюль шляхі-пуціны
Сюды да Канева вялі.

Былі шляхі яго цяжкімі,
Уподлеч гора з ім брыло...
Глядзі ж, паэт, на край любімы,
На украінскае сяло,—

Шумяць пшаніцаю даліны,
Цвітуць вішнёвыя сады,

Ты чуеш песню Кацярыны,
Над стэпам гоман малады:

«Ідуць дзяўчаты ў поле жаты,
Та, знай, співаюць, ідучы...»
І вецер стэпавы, крылаты
Нясе іх спевы ўдалячынь...

Таполяў варта над ракою,
Над іх галовамі блакіт...
Перад славутаю гарою
Стаім, спяваем «Заповіт».

## ЗАХОДНІМ БЕЛАРУСАМ

Палілі вас агнём, знішчалі вас мячом,
Не смелі гаварыць вы моваю сваёй,
Вы плакалі крывёй пад панскім бізуном,
За вас хварэлі мы і сэрцам і душой.

Даволі слухаць больш пакутны спеў бароў,
За волю вы пайшлі, для любых ніў і сёл...
І болей крумкачу, што падае на дол,—
Ніколі не узняць драпежных кіпцюроў!

Даволі мучыў вас пракляты польскі кат!
Руку братэрскую прымі, таварыш — родны брат!
Хай згіне польскі пан! Прабіў рашучы час!
Чырвоны, вольны сцяг навек з'яднае нас!

Заходні беларус! Ты выйшаў грамадой,
Каб з намі аб'яднаць любімыя палі,
Бо мы адной сям'і, бо мы адной зямлі,
Нам з нашай маткай жыць — чырвонаю Масквой!

## ПЕСНЯ ВЫЗВАЛЕНАЙ ЖАНЧЫНЫ

Адышло з панамі гора
Ад майго двара.
Па-над Нёманам-ракою
Светлая зара.

Будуць помніцца заўсёды
Гэтыя дзянькі,
Як грымелі танкі ў полі,
Як ішлі палкі.

Мы выходзілі насустрач
Баявым братам...
І вяшчун чырванакрылы
Пакланіўся нам.

А пасля паплыў на Захад,
На апошні бой...
Досыць,
Нёман мой шырокі,
Плакала з табой.

Больш у мора не пакоціш
Несуцешных слёз,
Заспявай жа ты на хвалях
Пра жаданы лёс.

Глянь,— ад хаты адляцела
Чорнай ночы мгла
І спрадвечная мякіна
Знікла са стала.

Зашумелі урачыста
Новыя палі.
Сёння мы і нашы дзеці
Волю здабылі!

## ТАНКІСТЫ

Прарвацца ў тыл,
У сем назад,—
Такі атрыманы загад.

Праплыта сонная рака...
Далей — шляхі наўпрост,
Кладуцца дрэвы старчмака
На ўвесь сасновы рост.

І танк, як песня,
Сугрунём
Праходзіць гушчары...
Хутчэй! Над вежавым акном
Кавалачак зары.

На поле выскачыла бронь,
Гудзіць сыпучы жвір.
Стаяць ля спускаў «на агонь!»
Стралок і камандзір.

Праз міг на выгане сяла
Жывая гутарка пайшла.

І, аб'яднаўшы сілы ўраз,
Па зграях белых рот
Загаманіў гарматны бас
І звонкі кулямёт.

Радзее зброду брудны збор:
Танкісты ў бой пайшлі.
І самы першы пан — маёр
Схіліўся да зямлі.

Але адна з тайных засад
Падкралася ў абход.
Пакунак кінулі гранат,—
І змоўк у танка ход.

Стырно знясілела ў руках...
Апошні стрэл — панам!
І вось прыклады па шчытах
Узнялі злосны гам.

У вочы пырснула агнём...
Сказаць старэйшы змог:
— Ну што ж, таварышы, памром?..
— Памром!..— сказалі ўтрох.

І перад імі паплыло,
Чым кожны міг жылі:
І твар каханай,
І сяло,
І вежы на Крамлі.

І кожны стомленым чалом
У родны бок глядзеў...
Шугала полымя кругом,
І чуўся грозны спеў,—

Ляцеў у далечы вякоў
Магутны гімн бальшавікоў.

## З ПАХОДАЎ

Пад нашым націскам адход
Прыспешылі паны.
Прыйшлі мы ў вёску Чорны Брод
На трэці дзень вайны.

Нясуць нам дзеці і жанкі
Ад шчырае душы
Насустрач ружы і вянкі,
І яблыкаў кашы.

Гудзіць, як бор, сялянскі сход:
І слёзы... і прывет...
Пераждагнаўшыся на ўсход,
Здымае шапку дзед:

— Стары...
Да вас прыдзёўбся ледзь,
Сказаць пра сум адзін —
Ляжыць засечаны насмерць
Старой бабылкі сын.

Здалося, стрэхі курных хат
Прыгнуліся з бяды...
Падаў каманду лейтэнант
Пастроіцца ў рады.

Пайшлі.
І запякло ў грудзях
З навеяных журбот.
І разам з намі, па баках,
Ішоў увесь народ.

Прыйшлі.
Над згорбленым дварам
Вісіць заслона хмар.
Старая маці неўпрытом
Цалуе мёртвы твар.

— Устань жа, маці!
Дзень прыйшоў!..
Прачніся ад жуды...
З паходных кубкаў у сыноў
Напіся ты вады.

Яна жывіць.
Праз доўгі шлях
Сагрэлася ў баях...—
Бабылку ўзнялі на руках,—
І слёзы у вачах.

Паспакайнела ад спагад,
Абцёрла твар рукой...
Праплыў засмучаны пагляд
Над хмурай грамадой.

І раптам, зняўшы свой убор,
Увысь крутнула ім:
— Дык вось за што мой сын памёр!..—
Гаворыць нам усім.

І над узлётам галавы,
Над сівізною скронь,—
Мы бачым:
Яркі і жывы
Трапечацца агонь.

Яна, стрымаўшы горкі плач,
Звяртаецца не раз:
— Ён з ёй выходзіў сустракаць
Сягоння рана вас.

Такая выпала пара...
Што я зраблю цяпер?..
Яго забіў сярод двара
Уланскі афіцэр.

І нам здаецца ліхадзей
Дзюбастым каршуном...
Мы над ахвяраю цясней
Становімся кругом.

І выплыў сам жалобны спеў
Над жудасцю пакут.

І тры разы прагрукацеў
Па мёртваму салют.

Праз міг
Над петрамі лясоў
Загаласіў трубач...
— Мы іх дагонім. І за ўсё
Адпомсціцца... Не плач!..

Пачуеш бой, глядзі смялей,
Ты ведай —
Ніпчым зброд!..
І мы пайшлі яшчэ далей
Праз вёску Чорны Брод.

## ПЯТРУ ГЛЕБКУ

Колькі нам шчасця таго было трэба —
Кавалачак сала,
Лустачка хлеба,
Ціхі агеньчык на летняй начоўцы,
Пожых, завостраны добра, з ядлоўца.

Пахлі з купчастых імшар галабоні,
Блізка на выпасе фыркалі коні...
Мы па-сяброўску
Не ведалі сваркі,
З моху сівога круцілі цыгаркі.

Роўна ў нас думы над борам віліся...
Зоры дзялілі з нябеснае высі,
Марылі.
Часта ў дзіцячых узлётах
Крылялі на дыванах-самалётах.
Раннем навыскач імчалі шляхамі,
Коней назваўшы сваіх гарбункамі.

Сёлета ўлетку прыехаў дадому.
На месца старое з'явіўся, вядома.
Той жа мурог травяністы і росны,
Тыя ж смалістыя, рослыя сосны.

Тая ж і рэчка з дарогі спаткала,
Тая ж зязюля над лесам кувала...
Родныя мясціны,
Нам дарагія!
Толькі з табою мы сёння другія.

## МАЛАНКА

Ці то поле,
Ці гулянка —
Усе ўздыхаюць:
— Ах, Маланка!..
Хто Маланку раз пазнае,
Супакоіцца не можа —
А прыветная такая,
А рухава, а прыгожа!..
У якой бярозы белай
Стан ты выпрасіць сумела?
Дзе, скажы, крыніцы тыя,
У якіх ты вочы мыеш?
Дзе заранка тая пала,
У якой красу забрала?..
Мы з Маланкі воч не зводзім,
Аж утрох за ёю ходзім.
Садавод нясе ранеты,
Палявод — гарох паспеты,
Я ж — паэмы і санеты.
А ў Маланкі камень-сэрца,
Як спаткае — насмяецца!
Я ж мяркую дні і ночы —
Любіць,
Ды сказаць не хоча...
Плескача мне з рукаўца!
Шах!.. Ды выйшла за ўдаўца,
За ўдаўца, за брыгадзіра...

. . . . . . . . . . .

Вось цяпер
Гарую шчыра —
Ні да гуляў, ні да ежы...
Колькі выбегаў я сцежак,
Ці то гром,
Ці то маланка,
Я спяшаўся...
Ах, Маланка!..

## МЯЦЕЛІЦА

То разбяжыцца,
То пухам засцелецца,
Гойкае,
            кружыць,
Спявае мяцеліца.

Сядзе пры садзе
За дрэвамі блізкімі,
Ў шыбіны ўдарыць
Сыпучымі пырскамі.

Скача, бялеючы
Белай сарочкаю...
Не!
      Не заснуць табе
Гэтаю ночкаю.

Лесам,
         гаямі,
Крутымі разлогамі,
Сэрца,
          гукаючы,
Ходзіць дарогамі.

Рэха па звонкаму бору
Галёкае...
Едзе каханы
З граніцы далёкае.

Бліжай і бліжай
Вёскі аколіца,
Думы аб любай
Сняжынкамі рояцца.

Скора ўжо, скора
Два сэрцы сустрэнуцца...
Гойкае, кружыць,
Спявае мяцеліца.

## КРЫНІЦА

Пры лесе, пад горкай
Бруіцца крыніца.
У светлай крыніцы
Вадзіца-жывіца.

Там ночкаю месяц
Збірае уборы,
Пад пошапты бору
Палошчуцца зоры.

Я помню, калісьці
Прыходзіў уранку,
Паіў на світанку
Трубу-берасцянку.

З ручайкі малое
Памыўшыся чыста,
З прыпевам, са свістам
Іграў галасіста.

Купаллем дзяўчаты
Прыходзілі з мятай.
Аб лёсе багата
Ўздыхалі дзяўчаты.

Збыліся жаданні
Па іхняй прымеце:
І ў хаце, і ў клеці,
І ў кожнае дзеці.

Я раю, як толькі
Спякотаю горка,
Спусціся са ўзгорка,
Зачэрпні вядзёрка.

Пры лесе, пад горкай
Бруіцца крыніца.
У светлай крыніцы
Вадзіца-жывіца.

## ДОЖДЖ

Ані расы каторы дзень.
Пад сонечны касцёр
Сады, спавітыя ў сухмень,
Ранялі свой убор.

Ні месца засені.
Прынад
Не захаваў і лес.
Тарфянішчаў багністы чад
Змяёй у грудзі лез.

З балотаў высыпала тля
І мірыяды мух...
На часткі трэскала зямля,
Абходзячы свой круг.

Але ўсплылі грамады хмар
Кірункамі вятроў,
Дыхнула вільгаццю у твар
З-пад хмараў-караблёў.

І вось на нівы, на кусты,
На жаўталісце,
скрозь —
Ударыў колкі і густы,
Нібы іголкі, дождж.

Прабіўшы плыні духаты,
Пайшлі расліны ў рост...
І птушак жоўтыя раты
Лавілі неба з гнёзд.

Маланкі стрэламі ўстаюць,
У бубен сыпле гром...
І я, захоплены, стаю,
Абдожджаны кругом.

Часамі рукі працягну,
Нібы хачу ў палёт.
Набраклі мускулы.
Спіну
Пасек крамністы шрот.

Да хмар імкнуся, крычучы
Ад свежых, поўных сіл:
— Сячы смялей,
У твар сячы,
Змяці дашчэнту пыл!

Памкнецца ўгору спорны сок.
З ім разам паплыву...
Цераз вясёлкі бачыць зрок
Зялёную траву.

## ПАЭТ

Няхай жыве ў вяках
Нягаснучае слова,
Нязнаўшае захутаных заток.
Між плошчаў рыфмаў-пік,
Навостраных сурова,
Я чую твой у заўтра гулкі крок.

Стаялі груды слоў,
Узняўшыся гарою,
Работы шмат нястомленым рукам —
Адкінуўшы асцё
І выбраўшы жывое,
Прарвацца ўвысь,
наперакор вятрам.

І, разагнаўшы хмар
Набег бунтоўна-жорсткі,
Адкрыўшы даль нязведаных шляхоў,
Па роднае зямлі
Праходзіць Маякоўскі
Паміж палёў і гулкіх гарадоў.

Радкі высокіх дум
Не нікнуць у знямозе,
Збіраюцца крылатыя ключом...
Ідуць сябры яго,
Успёршыся ў дарозе
На мужнае паэтава плячо.

Імчыцца іх напеў,
Узняўшыся ў аблокі,
Пуцінамі прастораў агнявых —
Нясуць яны ў вякі,
Трымаючы высока,
Сцягі яго партыйных, мудрых кніг.

## СУСТРЭЧА

Моцна спала дзяўчынка на мулкай дзярузе,
Да кастравай кудзелі прыпаўшы нічком,—
Можа сніліся дзеўчынцы
Кветкі на лузе
Ці задзёрысты певень з густым грабянём,
Што залезе уранку з курамі ў каноплі
І крычыць праз бухматы гушчар...
Можа сніла дажджу крышталёвыя кроплі?..
Не, дзяўчынка!
То слёзы упалі на твар.
Гэта плакаў твой бацька,
Спала ты. Упяцёх наляцелі аднойчы,
Над пасцелькай тваёю ашчэрыўся штык.
Не забыцца ніколі цяжкой гэтай ночы,
Калі ў хаце пачуўся балесны твой крык.
Нават стужкі растрэслі твае па хаціне,
Ціха, дзеўчынка бедная, змоўч!
Гэта пяць каршакоў па таемнай пуціне
Павялі твайго бацьку праз ноч.

Год праходзіць.
Мінае другі. І чацвёрты.
Кліча бацьку дзеўчынка дарма на зары...
Ёй нічога не скажуць суровыя нетры,
Толькі стогнуць вятры.
Доўга ў неба глядзіць, стаючы на прыгорку,
І шукае разгадку
Цёплых матчыных слоў:
«Пачакай! Як узыдзе чырвоная зорка,—
Тата прыйдзе дамоў!»
Ёй здалося, што зорку пазнала жывую:
Вунь яна! Узыходзіць з-за дальніх ракіт.
Прыйдзе!.. прыйдзе!..
Хусцінку падорыць такую,
Як вясновы блакіт.

Спадзявайся, дзяўчынка! Табе невядома,
Што за кладдзю пахмурых цаглін
Гэты колер даўно ўжо яму незнаёмы,
Толькі чорны адзін.

Восень лістам заслала дарог каляіны
Паміж доўгага шляху свайго...
Ты трымала, дзяўчынка, праменні рабіны
І гукала яго.

Можа, мольбы далёка праз пушчы ляцелі,
Бо пуцінай, па клічу тваім
З лесу выехаў коннік у шэрым шынелі,—
І жаданая зорка на ім.

Ад рыдання твае скалануліся плечы,
Ты хавала надзею адну.
— Тата!.. татка!..— крычала яму насустрэчу.
Ён жа злез
І цябе прыгарнуў.

Ты прыпала вачамі да пятліцаў зялёных,
Не заўважыўшы з радасці той,
Што наўкола стаялі ў слязах эскадроны
Разам з бацькам, названым табой.

## АПОШНІ ХЛЕБ

Позна.
На прыпеку трэскі гнілыя,
Слёзы пусціўшы,
павολі згараюць...
Сеўшы за столікам, дзеці малыя
Дружна бяруцца за хлебны акраец.

Управяцца хутка са смачнай вячэрай.
Лягуць,
паслаўшы кажух на палаці.
«Што ім прысніцца,
Птушкі ці зверы?..» —
Цяжка ўздыхнула маўклівая маці.

Засек надоечы вымела дбала,
Ў жорнах змалола заморкаў прыгоршні,
Толькі яна, засмучоная, знала —
Гэты кавалачак хлеба апошні.

Ласкі ў людзей напрасілася досыць.
Глянула ў шыбы —
Шукае чагосьці...
Грукаюць яблыні мёрзлыя косці,
Ноч, як ваўчыха ўпацёмку, галосіць.

Спіць адубелая ў снезе хаціна.
«Можа, пакінуць усё
І памерці?
Пойдуць жабрачкамі тры сіраціны...»

Не! не згаджаецца матчына сэрца.
Б'ецца трывожна да самага рання,
А ў грудзях балюча,
а ў грудзях так горка...
Недзе на ўсходзе, здалося світаннем —
Быццам чырвоная бліснула зорка.

## НА СКРЫЖАВАННІ

Я гэта ў памяці збярог.
Навечна захаваю.
На скрыжаванні трох дарог
Сказала нам старая:

— Пазнала я нямала бед
На нашым сумным полі...
Вось тры пуціны ў белы свет,
Што мелі мы ў нядолі.

Адна — не высахлі сляды,
Што госці наязджалі.
Па ёй збіраліся сюды,
Да ніткі рабавалі.

Другой — у путах кайданоў —
Ступалі цяжка ногі.
Па ёй адводзілі сыноў
У турмы і астрогі.

Аб трэцяй як ні раскажы,
А лепшае не зналі.
Па ёй насілі мы крыжы
І там адпачывалі.

Я гэта ў памяці збярог.
Навечна захаваю.
На скрыжаванні трох дарог
Заплакала старая.

## МАГІЛА

У байцы за Гродна
                    забіты яны.
Салют развітальны заціх...
Над свежым курганам
Чатыры сасны
Гамоняць з вятрамі аб іх.

І ветры,
        праплыўшы па вострым галлі,
Далёка над краем шумяць:
Пад зоркай сваёю
На роднай зямлі
Спакойна героі ляжаць.

Захутаны раны сяброўскай рукой,
На тварах —
Смяротная цень.
Была пераправа праз рэчку цяжкой...
А мне ўспамінаецца дзень:

Мы ў пушчы.
Пад ботамі шамкае мох.
Не кратае цемра павек.
Як шабля крывая,
Над лесам вятох
На золаку хмары рассек.

Ударыў прамень па сцягу палкавым.
Паротна прымаем загад.
Штыкамі на захад
Сурова глядзім,
Дзе гіне замучаны брат.

У наступ!
Хвілінаю некалькі слоў
Прайшлі над шарэнгамі рот.

Мой лепшы таварыш,
наводчык Пятроў,
Выдатна навёў кулямёт.

Што ўспомніў ён
гэтай світальнай парой?
Мо сонцам расквечаны май...
І стрэлы ляцелі
Чарга за чаргой,
Пакутны ратуючы край.

І бой разгараўся
штораз гарачэй,
Гарматны праносіўся шквал.
Мы біліся.
Беглі...
На сотай вярсце
Абвешчаны першы прывал.

Пад'ехала кухня.
З паходных бачкоў
Мы смачна пад'елі тады.
Мой лепшы таварыш,
наводчык Пятроў,
Зачэрпнуў з крыніцы вады.

— Таварышы!
Гляньце,— краіну азёр
Кідае знясілены звер...
За гэты мурожны,
шаўковы прастор
Гатоў я памерці цяпер.

Ён выпіў,
Не кінуўшы кроплі на дне,
Падняўшы кулак у гразьбе.
Мне крыўдна:
Навошта на тыдзень раней
Ён сам напрарочыў сабе.

У байцы пад Гродна забіты яны.
Салют развітальны заціх...
Над свежым курганам
Чатыры сасны
Гамоняць з вятрамі аб іх.

## СКРЫПАЧ

Садок у колькі вішань, сліў.
Пад вокнамі касач.
Хацінка ціхая.
Там жыў
Стары Андрэй-скрыпач.

Акружку абыдзі людзей,
Пачуеш ты спярша:
— Андрэй?!
Ды гэта ж чарадзей,
Вясёлая душа.

Адкуль такую сілу ўзяць,
Падумаеш, дык жах!..
Ці плакаць будзеш, ці скакаць,
Усё ў яго руках.

А ён, загадкавы сілач,
Звычаі меў свае —
Абходзіў куст, каб не сагнаць
І птушкі, што пяе.

Праз ноч, са скрыпкаю адно
Гаворыць смык-пяюн...
Крадком мы беглі пад акно
Паслухаць звоны струн.

І разважалі найшчырэй,
Па розуму свайму:
— Жыве Андрэй! Няма дабрэй
Нікому, як яму.

Бо павялося так здавён,
Па-дзедаўску яшчэ:
Радзіны — ён,
Вяселле — ён,—
Заўсёды на куце.

На йгрышчах сыпле без падмен,
Пакуль пачне світаць...
Кадрылю ў пяць
Ці сем кален,
Сплючы, ён мог іграць.

І жыў Андрэй у нас
Як бог.
Ад рання да цямна —
Яму і скварка, і пірог,
І чарка не адна.

Бывала,
З саду усяго
(Ён быў вартаўніком)
Паслухаць яблыні яго
Збіраліся кругом.

І вось аднойчы ў вёсцы плач:
— Памёр Андрэй-скрыпач!..
А мы,
Што многа год таму
Стаялі пад акном,—

З-пад гэбля зладзілі яму
Як след сасновы дом.

Калі ж панеслі на плячах
Па шляху векавым
На смольных стружках
Скрыпача...
Мы ўсе пайшлі за ім.

І перадалі смутак наш
Прасторам жоўтых ніў —
Зайгралі мы Андрэеў марш,
Што нам аддадзен быў.

# БОР

Бор грозны. Бор гудзе.
Кашлатых сосен строй грамады хмар ірве,
Асенніх чорных бур па дрэвах крык плыве...
Бор грозны.
Бор гудзе. На барацьбу заве.
Карою шпарка йдуць угору плыні смол,
Кладуцца пляйстрамі на плямы свежых ран,
І задрыжыць зямля, калі вячысты стан,
Знямогшыся ў баі, падзе на цвёрды дол.
Але супроць вятроў зялёнаю сям'ёй
Стаяць браты кругом, скарыўшы нетраў глыб...
І з гулу навальніц, за дужаю спіной,
Не гаснуць вочы хат атуленых сяліб.

* * *

Мы з табой хадзілі часта ў поле
Па азёрным краі, веснавому.
Слаўная дарога па жытному,
Не забыцца гэтага ніколі!

Палыхала сонца ў аксаміце,
Калыхалі ветравыя крыллі.
Мятлікі-пылiначкі на жыце...
Сэрцы з імі разам гаманілі.

Шумнае і песеннае веча
Прыпадала долу каласамі.
Перад ім схіляліся мы самі.
Наша незабыўная сустрэча.

А пасля жыты даспелі шпарка,
Наліліся буйнай галавою.
Круг за кругам рэзала жняярка...
Помніш? Развіталіся з табою.

Без цябе я выйшаў. А прасторы
Рунню неўгамоннаю пакрыты...
Прыязджай!
У чэрвені пад борам
Будзе зноўку красавацца жыта.



Гэты, кветкамі-пухам абсыпаны сад
Дваццаць год пасадзілі назад.
Разгулялася скрозь маладая краса,
На духмяных лістах серабрыцца раса,
Пала чырвань-зара на зялёны прыпол...
Што ж ты сумна глядзіш за палётамі пчол?
Час вянкі нам уздзець над юнацкім чалом,
Па пчаліным шляху свой агледжваць дом
І на першы прамень, што прабіўся вясной,
Разам рупіцца ў поле жыццятя раніцой.
Там ліпоўнік густы, светлавокі язмін,
Будзем разам збіраць мёд з пахучых далін...
Сядзем потым спачыць пад лістом пад адным.
Згодна ты?..
Ты маўчыш...
Паляцім?!
Паляцім!

## ЗАСТОЛЬНАЯ

Хутчэй накрывайце сталы абрусамі,
Віно маладое стаўляйце збанамі.

Сягоння гулянне
Да самага рання.

Хай скрыпка з цымбаламі гучна зайграе.
Напоўніце кубкі да звонкага краю.

Часіна такая —
Хай сэрца спявае!

Дружней пачынайце вадзіць карагоды.
За наша дзяцінства, за юныя годы!
Гуляй, малалеткі,
Вясновыя кветкі!

Да дна выпівайце... Яшчэ налівайце,
Па свірнах у засеках наша багацце.
Жыта, пшаніца...
Можам хваліцца.

Падымем жа гэтай шчаслівай парою
За сокалаў неба, за нашых герояў!

Каб добра кружылі,
Каб ворага білі!

Няхай жа вітальная кружыць бясконца
За спорную працу, за яснае сонца,
За край наш любімы,
За нашу радзіму!



П. Броўка, старшыня Маладолецкага сельсавета Ушацкага раёна. 1924 г.



П. Броўка, інструктар Полацкага акружкома ЛКСМБ. 1925 г.

## ПАЛЯВАННЕ

Брыду адранкам ля ракі,
Збіваючы расу,
І самапал на два куркі
На выпадак нясу.

Не загамоніцца нідзе,
Ні знаку на сляды.
Стаіць па грудзі у вадзе
Ляшчыннік малады.

Зеленавострых чарацін
Аця жалела рць...
З пуховак сосен і ялін
Не можа сонца ўстаць.

Не знаць у гэту цішыню
Ні качак, ні чыркоў!
Як паляўнічы, наманю,
Вярнуўшыся дамоў.

Але, пускаючыся ў шлях,
Я вабікі прыпас...
З кустоў у блізкіх паплавах
Азваўся мне бекас.

Уміг надзеямі жыву,
Пашанцавала мне!
Бягу праз дзіды, крапіву,
Куляюся ў багне.

Перамагаючы гушчар,
Падкраўся я цішком.
Перада мной рачны жыхар
Нырае за мальком.

Усплыў. Здаволены сабой,
Цярэбіць мокры пух...

Пускаю шротавы набой
На задрыжаўшы круг.

Па ўсім!
Устрапянуўшы, птах
Ударыў мне чалом
І знік у дальніх чаратах,
Махаючы крылом.

Ну што ж?..
Ізноўку падвяло,
Няхай! Не першы раз...
Іду, знябыўшыся, ў сяло,
Мяркуючы расказ.

## ПРАМОВА ФАКТАМІ

Стой!
Вартавы, як заведзены, крочыць...
Вільня. Лукішкі. Пярэдні план.
Гэта турма раве да паўночы
Крывёю рабочых,
Крывёю сялян.
На твары ў жандара —
Вялікае свята.
Лозунг жандараў: калоць і біць!
Заціснуты ў душныя казематы
Геній, вучоны і барацьбіт.
Хочуць трупярняй жывога мяса,
Кратамі сэрца скаваць ад бур.
Гэта — культура
Іхняга класа,
«Дэмакратычней» з усіх культур.
Учора. Сягоння.
Астрожная брама,
Жалезам зубоў
Ашчэрыўшы рот,
Косці краіны свінцом надламала,
На грудзі паставіла панскі бот.
Дарэмна пільнуеш, турэмнік нязменны,—
Сэрца рабочых на кожным рагу!
Думы, як зоры, праз чорныя сцены
Стрэламі волі бягуць.
Тут дыялектыка: дзе радасць, дзе гора.
Званчэй баляванне,—
Нам больш клапот.
На лакавых ботах сонца і шпоры,
Ашчэрыўся дратвай
Юхтовы бот.

* * *

Паўстань, гісторыя, скажы!
Дрыжы ў трывозе, польскі пан!
(Жывыя помнікі — крыжы

Распятых шляхтаю сялян.)
Над Беларуссю ноч была,
Пажар гуляў замест заранкі.
Скакаў раз'юшаны улан,
Хрышчоны доларам і франкам.
Ішлі ў ангельскіх паліто,
Ішлі, плявалі ў твар чужынцы.
Стаяла вёска сіратой
У пісягах каля гасцінца.
І золлю,
Ветрамі,
Марозам
Шукала шчасця каля зор;
З-пад хмурых весніц беглі слёзы,—
Журбою поўніўся прастор;
Стаяла, думаўшы аб леце,
Лавіла ўсходнюю зару.
Ці знойдзеш ты
Жывое месца,
Каб ран не мела Беларусь?
Дрыжалі ў сполаху парогі,
У поле вораг кінуў смерч.
Па ўсіх запутніках, дарогах
Шпацыравала госцем смерць.
Прыедуць.
Звяжуць.
Павядуць...
Раслі турэмныя палацы.
Ды толькі ўкрадкай, па ваду
Ішоўшы, мацеры паплачуць.
Хто гора гэтага не стрэў?
Ты помніш енкі і літанні?!
На кожнай вуліцы — расстрэл,
У кожнай хаце — катаванне!
А між мільёнаў новых крат,
Між мук і горычы пякельнай
Стаяў палац, гуляў сатрап,
На спінах нашых граў вяселле.

* * *

Было слёз-азёраў многа,
Кожны клікаў сваю долю.
Бушавалі легіёны...

Пан жа быў рахман і весел.
А мы сцежкаю, дарогай
І лагчынаю, і полем
Беглі гора і праклёны
Пахаваць у цёмным лесе.
Сосны стромкія прымалі
У свае абшары крыўду,
Гадавалі нашы думы,
Прыкрывалі нас ад золі,
Вольнымі мы ў лесе сталі,
Знялі — хутка нашы прыйдуць;
Загалосяць звонка струны,
Будзе радасць, знікнуць болі.
У лясах расла краіна,
А з-пад сёл ішлі клапоты
Разам з чорстваю скарынкай...
Кожны быў адданым сынам,
Біўся з ворагам заўзята,
Нёс з сабою кулямёты,
Нёс патронаў стужкі, скрынкі.

* * *

Так стварыліся атрады,
Сцяг паднялі атаманы,
Падалі каманду дружна:
— Гэй!
За кроў! Усе змагацца!
З панскіх губ апала радасць,
І разбіўся кубак п'яны;
Знікла сіла,
знікла мужнасць,—
Занялі агні палацы.

* * *

Вясной мільёнам кілават
Наспела помста,
Злосць наспела.
— Дакуль жа будзе так, скажы?..
І глоткай ў тысячы гармат
Чырвоны фронт ударыў смела:
— Беларусь
павінна
жыць!

Беглі з фронту легіёны:
— Як, панове, тут змагацца?
Беларус біў,
Біў расіец,
Украінец біў бандытаў.
І няслі мы сцяг чырвоны,
Сімвал вольнасці і працы,
Ў бойках кулямі прабіты...

. . . . . . . . . . .

# ПРАЗ ГОРЫ І СТЭП

*Паводле гістарычных матэрыялаў*
*Самарскай кавдывізіі*

## МІНЕРАЛЬНЫЯ ВОДЫ

Мы клялі вас тады,
Мінеральныя Воды
І абвеяны снегам
Суровы Каўказ,—
Белы гад нас прыціснуў
Крыжовым паходам,
І распетрылі чэрці нас.
Шмат загінула там,
Каля ног Машука:
І Пятроў — кампалка,
І Мічурын — яздок;
Хто вёз кулю ў сабе,
Хто прабіты рукаў...
...Адыходзілі мы на Маздок.
Галадухі кружыў
Над галовамі чад,
Смерць скакала ў сядло
Самазванаю госцяй.
З мора ўдарыла золь
І пайшла падлічаць
Ігальчастымі пальцамі
Нашыя косці.
Мы міналі пяскі,—
Яны горш морскіх рыфаў,
Адыходзіць без боек —
Нудна, як і без спраў.
А на кожнай вярсце
Лез няпрошаны тыфус —
З нашых лепшых хлапцоў
Ён даніну збіраў.
Едзеш,
Чуеш —
Трывожны ў таварыша голас:
— Я на дзікія скалы
Ўжо больш не хадок...—
Скажа так,

І пакоціцца труп яго долу...
...Адыходзілі мы на Маздок.
Толькі сэрца агню
Аніяк не пагодзіць,
Да зубоў тады злосць
Пераела ўсіх нас.
Мы клялі вас тады,
Мінеральныя Воды
І абвеяны снегам
Суровы Каўказ.

## МАЗДОК

Ледзяністы сек пясок —
Непрыхільна стрэў Маздок:
Стэп за горадам шалела —
Насядалі зграі белых.
Тыфус чорнаю рукой
Гнаў нас у прыёмпакой,
Не адзін баец там змоўк!
...Ледзяністы сек пясок.
Забуруніў злосна стэп,
Выеў вочы кураслеп,
Дзевятнаццаты гадок!
Непрыхільна стрэў Маздок!
Толькі нас не праймеш
Аніякім паралюшам.
Паў адзін пад каня,
А другі — на кані.
Прыскакалі да нас
Баявыя таварышы,
Проста дзіва — не хлопцы —
З далёкіх станіц.
Так збіраліся мы
У шалёных варунках,
Каб без жалю разбіць вас,
Князі і паны!
Коні розных масцей,
Стрэльбы розных гатункаў,
Толькі людзі па веры
І гарту адны.
А над стэпам буруны
Па-хаўтурнаму вылі,
Быццам лёг у труну

Акалечаны свет.
Зноў ударылі ворага
Чорныя сілы,
Не паспелі сабрацца
Мы нават як след.
Горла вуліц хрыпела
Ад вострых падкоў,
І заходзіўся горад
У тлуме вар'яцкім.
Як звяры, дасякалі
Там нашых братоў,
Прыкаваных да ложкаў
Тыфознай гарачкай.
Распляваўся агнём
Распадлюга-кадэт,
З трох бакоў нас прыціснуў
Смяротны пажар...
Мы ж прарваліся зноўку
У мачыху-стэп.
...Адыходзілі мы па Кізляр.

## МАЧЫХА-СТЭП

Чулі вы,
Што такое бурун?!
Гэта —
Дзікія лавы вятроў,
Гэта пекла раз'юшаны рогат;
На пухоўках пяскоў
У такую пару
Акалее шакал,
А не знойдзе дарогі.
Так спаткаў злосны стэп
Нас, разбітых і змучаных,—
Так сустрэў нас тады
Горш за мачыху стэп.
Ні вады!
Ні аўса!
Вецер грае разлучыны,
Золь з пяскамі танцуе
Шалёны тустэп,
Д'ябла мачыха-стэп.
Чалавек!..
Там губляе сябе чалавек,

Нават конскія слёзы
Зрываюць супоні,
Хоць бы толькі на міг
Паказалі зару...
Ледзяныя ж крыжы
Там схавалі навек
Батарэю з жывымі байцамі
І коньмі...
Чулі вы,
Што такое бурун?!
Гэта рвуцца дарогаю
Бур дынаміты,
Гэта значыць — жывому
Ў дарозе каюк!
Гэта скача зямля
Найсвяцейшага Віта,
Адчуваючы быццам
Пагібель сваю.
Мы ж прайшлі гэта пекла,
Хоць і шмат пагублялі,
Непахісна пранеслі
Чырвоны штандар,
Яшчэ больш гартаванымі
Ў полымі сталі!
...Так з'явіліся мы у Кізляр.

## КІЗЛЯР-БАНДАРЭНКА

І тады падыпоў
Нечуванаю контрай,
Павязаў нашы рукі,
Напаіў чыгуном —
Без ніякіх дазволаў
На гэта па фронту —
Тыфусовы пагром.
Клаў пячаці вар'яцтва
На нашыя зрэнкі,
Набіваў дзікай смагаю
Нашы раты...
Дзе ты, лепшы наш доктар
І брат, Бандарэнка?
Помніш ты?
Помніш ты?!

Камандзір эскадрона
Таварыш Сізоў
Голы выскачыў з шабляй
На аспежаны пляц,
Праклінаючы ўсіх —
І чарцей і багоў,—
Ў непрытомнасці
Зваў ваяваць.
Помніш ты,
Як Вайноў
У трызненні глыбокім
З ложка кінуўся вобзем
І, расплюшчаны ніц,
Плакаў дзіцем,
Што недзе далёка
Сямірэчча
Капае ў агні?
Нас кідала хвароба
На падлогу і сценкі,
Раз'ядаў нашы косці
Бацылавы вар,—
Ты ж адзін з імі біўся,
Наш брат Бандарэнка,
Помніш, доктар, Кізляр?
Ліха вам!
Ліха, д'ябальскі тыфус,
Ліха вам, буруны
І ўсе барханы!
З-пад дзесятага века
Труны
Нас узняла
Кастрычніка кроў,
Мы усталі
Ізноў!
Распраклятыя паралюшы,—
Хто нас змог?
Сабірайцеся, таварышы!
Па канёх!..
Даёш галоп!
На Мелітопаль!
Даёш галоп!
На Мелітопаль!
На коней, брат!
Там белы гад!

На коней, брат!
Там белы гад!
Мацней агонь!
Дабіць яго!
Мацней агонь!
Дабіць яго!
І пайшлі,
Маладымі і новымі,
І пайшлі,
Ажно вецер прысеў.
Цераз чорныя ночы
Стэповыя
Паскакалі адважныя ўсе.
Даёш галоп!
На Мелітопаль!
Даёш галоп!
На Мелітопаль!

## 1914

### МАБІЛІЗАЦЫЯ

Перш-наперш
Ударылі царкоўныя званы,
І рукі пацягнуліся
К ілбам.
І доўга балбаталі
Прасторамі званы
Адвечнае:
Блям-м... Блям-м...

І калі ад царквы
Аж да самае брамы
Сталі праваслаўныя,
Жагнаючы раты,
Айцец Анемпадзіст
З мышынымі вусамі
Выкаціўся бочкай
З крыжам залатым.

Божаская служба
Надарыла шчодра,
Тлустасць выпірала
Нават з тоўстых рук,—
Чатырыста вароў
Ягонага прыходу
На цвінтары стаяла,
Сагнуўшыся у крук.

Слухмянымі, пакорнымі
Стаялі багамольцы,
Стаялі і баяліся
Рукамі варухнуць...
Найбольшае спякоты
Ліпеньскае сонца
Кожнаму смаліла
Бязлітасна ў спіну.

Айцец Анемпадзіст
Вачыма вёў па людзях
І толькі што сабраўся
Казанне пачынаць,—
Жагнуў напаўсажонкі
Тоўстыя грудзі
Блізка каля бацюшкі
Сам старшына.

І тады прарвалася,
Нібы ў гэта лета
Перуны ударылі
У пагодны час:
Блямкалі званіцы,
Поп цягнуў фальцэтам,
Пісар гойкаў з паперці
Цараў указ.

Спрытна ён выводзіў —
Валасны распуснік,
Аж да самых сэрцаў
Слоўмі працінаў.
І шаптаў Сымон
Доўга сабе вуснамі:
— Ласкаю боскаю...
Значыцца... вайна!..

Пісар захадзіўся
Аж да белай пены,
Паліваў галовы
Бацюшка расой.
Чатырыста двароў
Стаяла на каленях
З выцвілай, калматаю
Саломай валасоў.

Прыбіла да зямлі іх
Указам гэтым страшным,
І кожны з іх успомніў
Свой дом, свой плот, свой куст...
І толькі за аградай
Прагуліваўся стражнік,
На самы тоўсты палец
Накручваючы вус.

Яго вушэй не кратала
Гугнявае маленне,—
Ягоны абавязак
За вуліцай глядзець.
Над крыллямі какарды
Займаліся праменні,
Да чорцікаў начышчаны
Матляўся «селядзец».

А там, паклаўшы богу
Паклонаў тых багата
І лужыны пакінуўшы
Жаночых горкіх слёз,
Чатырыста двароў
Вярталася дахаты,
І кожны клумак гора
Свой за плячыма нёс.

Ноч ляжала вуліцай
Чорнаю, суровай,
Гулялі навабранцы
На скрут галавы —
Каля сотні вёдзер
Выпілі хрыстовай,
З сельскай манапалькі
Ачышчанай крыві.

Ноч хадзіла вёскай
П'янаю па людзях...
І калі прыходзіла
Хмельная пара,—
Плакалі, спявалі,
Білі сябе ў грудзі
Сумныя ваякі
За бацюхну-цара.

Так ішло жыццё ўсё —
Латкаю на латках,
Кацілася пякельнае
Гэтак праз вякі.
Ладанкі з зямелькай
Майстравалі маткі,
Торбы у дарогу
Ладзілі жанкі.

Сыпаліся слёзы,
Беглі над прыполам,
Быццам хто па сэрцу
Працягнуў нажом.
І ў Сымона ў хаце,
Аж па самы золак,
Жонка прастаяла
Перад абразом.

Бо калі ж сустрэнуцца,
Па якім там леце,
Як жа жыць адной тут
З гэтае пары,—
Чатыры седуны
Плакалі на печцы,
Выставіўшы голыя пузы,
Як шары.

Потым ўсё знямела,
Быццам стала пусткай,
І як выйшаў ранак
Вокнамі крыляць,—
Апошні рубельчык
Выкруціла з хусткі,
Аддала Сымону
На далёкі шлях.

А пакуль Сымон
З жонкай ноч прагутарыў,
Як адной дагледзець
Галодныя раты,
Нейкаму сынку,
Недзе там на хутары,
Сніліся пагоны
З прасветам залатым.

І як толькі борам
Сонца уздымалася,
Глянулі на выган
Ўсе апошні раз —
Амаль двароў чатырыста
Дарогаю хісталася,
Крыўдна ўспамінаючы
Бацюхну-цара.

І калі за вокнамі
Роўла немым голасам:
— На каго ж па-а-кінулі!..
Любы, не ідзі!..—
Айцец Анемпадзіст
На бок толькі варочаўся,
Шукаючы аддыху
Ад тоўстай пападдзі.

**АТАКА**

Глянь наперад — смерць!
Абярніся — краты...
А сапраўднай волі
Ніяк не прычакаць.
Ноч.
Снягі, як горы,
На снягах салдаты
327-га Сімбірскага палка.
Моляцца Ісусу,
Моляцца Месіі,
А на небе ціха,
Ціха ані-ні...
Свет залёг ў траншэях,
Выцягнуўшы шыю,
І ў вачах зялёныя
Калышуцца агні.

І мільярд асколкаў
Стыне ў небе сінім...
Дзівяцца салдаты —
З вечара спакой...
Першы раз
Такая выпала часіна,
Што прыходзяць думкі
Разам,
Чарадой.
Што балюча вельмі
Яны сэрца кратаюць,
На затвор не ложыцца
Гаротная рука.
І пайшла гаворка
Такая між салдатамі
327-га Сімбірскага палка:

— Што мне за патрэба
Быць тут рызыкоўнікам,
Я жыцця хвалёнага,
Добрага не знаў...
Вось каб мне палацы
Такія, што ў палкоўніка,
Ах бы пазмагаўся!..
Ах бы пастраляў!

Паглядзі,
Як ходзяць афіцэры зверам.
Толькі знай страляй тут
Ды на іх рабі.
Я б паноў уласных
Ды іхніх афіцэраў
Стужкай кулямётнай
Да зямлі прыбіў...

Так прамовіў трэці,
І чацвёрты, й пяты.
Кожны крыкнуў з роспачы:
— Болей не магу!..
— Хто забалбатаў там,
Будзьце вы пракляты! —
Закрычаў сурова
Унтэр Перагуд.

Ён наліўся злосцю,
Хуценькі, як пстрычка...
— Хто цару наважыў
Сёння здрадзіць, як? —
На пагонах
Свежыя два гарэлі лычкі,
Срэбра зіхацела
На яго грудзях.

— Мы адвагу мусім
Несці ў сваім сэрцы.
А вайну прыкончым,—
Нам усё дадуць.
І ў мяне
Таксама жонка ёсць і дзеці,
З перамогай толькі
Я да іх прыйду.

Вось тады спакойна
Будзем разжывацца,
Дома знойдзем долю
Шчасную сваю,—
Кожнаму герою
Пры уласнай хаце
Дзесяцін на дваццаць
Хутар адаб'юць.

Будзе наша поле
Добра каласіцца.
Мы ж яго здабыткі
Толькі ведай браць!
Да акон засеем
Жытам і пшаніцай.

Дык паслужым, братцы,
За цара!..
— Ур-ра!..—
Закрычаў фельдфебель,
Падышоўшы пабліз,
Пачакаў падтрымкі
І зусім прыціх...
Толькі завярнулі братцы
Ўсе аглоблі,
Ў рукавы захікалі,
Бегучы ад іх...

І канец размовам,
Без разбору чына
Пляснуліся вобзем
Пяхотныя рады...
Прыляцеў здалёку
Свежанькі гасцінец —
Гахнуў па акопах,
Толькі пыл ды дым...

Толькі сэрца сціснулася,
Быццам абцугамі,
Толькі свет заняўся
Полымем гарэць...
І зямля, здавалася,
Чэзла пад грудзямі,
І такой звычайнай
Прылятала смерць.

І калі ўжо
Золак на усходзе плакаў
І крыві на снезе
Пеніла рака...
— У атаку! —
Гойкнулі грозна афіцэры
327-га Сімбірскага палка.

Ўсё закалацілася
Ў гаме апантаным,
Толькі здані шэрыя
Скрозь бягуць,
бягуць...

І за ўсіх наперадзе
Унтэр наш адданы,
Штык узняўшы горда,
Сёмка Перагуд.

Толькі здані шэрыя
Шэпчуць:
— Божа... божа...
Дай сябе нам, божа,
Дзецям зберагчы...

А па ўсёй імперыі
Скрыгаюць абозы,
І равуць каровы,
Гуртам ідучы.

Толькі некаторыя
Цешацца утрое,
Бавяцца распустай,
Смачнаю ядой...
А па ўсёй імперыі
Ўсе двары герояў
Да акон зачахлі
Горкай лебядой.

Покуль у атаках
Шчыра на ўсе грудзі
Наш герой па ворагу
Б'е мацней штораз,
Над нішчымным варывам

Жонка Перагуда
З дзецьмі камянее
Ўжо каторы час.

А на фронце
Самая крывавая пагода,—
Не зямля пад сонцам,
А адны равы...
Вось ужо
На трэцім радзе
загароды
Б'ецца з лютым ворагам
Унтэр баявы.

І калі ваякаў
Засталося мала —
Толькі чад трупярны
Па зямлі ішоў,—

Заіграць адбой
Сказалі генералы
З-пад дваццатай сховы
Тайных бліндажоў.

Поле уздымалася
З чалавечым хлудам,
Колькі з іх хацела
Яшчэ доўга жыць!..
Першага з пазіцыі
Неслі Перагуда;
Ах, як зіхацелі
На грудзях крыжы,
Як блішчалі гузікі
На мундзіры гладкім.
Унтэр быў спакойны,
Як трываць ён мог...
Усё было як трэба,
Усё было ў парадку,
Не хапала дробязі —
Толькі рук ды ног.

І сказаў палкоўнік:
— Можна і без гэтага
Ў свеце жыць багатым.

Дасць узнагароду
Царская рука...
«Вось табе і хутар!..» —
Падумалі салдаты
327-га Сімбірскага палка.

## ЗВАРОТ ГЕРОЯ

### I

Пад крывою сахой
Затупелі нарогі,
Камянямі ляглі
Па шнурах дзірваны.
Бабы енчылі полем
І прасілі у бога
Сканчэння вайны.

Абцугамі душылі
За горла клапоты,
Перасыпалі рукі
Мазалёў вужлакі.
Вечарамі жанкі
Галасілі употай,
Снілі ў душныя ночы,
Што прыйшлі мужыкі.

Да касцей знебыліся,
У ратунак зняверылі,
Бо хадзіла вайна —
Акрываўлены звер.
Трэці год
Ваявала імперыя,
І салдацкім шынелікам
Прыбралася смерць.

Бабы клікалі бога —
Ён наводзіў марціры,
Бог распешчаны,
Сыты панок!
Ён па штабах хадзіў
У генеральскім мундзіры,
Дзе там слухаць такому
Пакутных жанок.

Яму некалі думаць,
Што ступелі нарогі,
Што скавалі зямлю
Камянём дзірваны,
Што прасілі жанкі
У яго дапамогі,—
Бог сядзеў ў першай ложы
Тэатра вайны.

Ён забраў мужыка,
Забраў бацьку і сына
Прычашчаць іх атрутай,
Гарматным агнём.
Бог прымаў ў кабінеце
«За яго, за цара і айчыну»,
Пад крыжамі дарогі
Ішлі да яго.

А пасля дзірваноў,
Неўзабаве, па часе —
Голад выслаў на вёскі
Заклапочаны бог.
Голад брыў, як кашчэй,
У худой апранасе
Ад суседа к суседу,
Ад парога ў парог.

Нагала вымятаў ён
Бяздонную жменяю,
На стале лепшай стравай
Стаяла трава.
Хмары чорнага волава
Плылі загуменнямі,
Па-вар'яцку крычала
Праз ночы сава.

Грудзі боль працінаў,
Жываты наддінала,
За айчыну любоў
Несла гурмы пакут.
Раптам вестка:
Прыйшоў кавалер
Ўсіх крыжоў і медаляў,
Найадважны ваяка
Сымон Перагуд.

Ён прыйшоў, як казалі,
Без ног з-пад Карпатаў,
Не хапала грудзей
Для медаляў яго.
Ён прыйшоў, як казалі,
Найадважным салдатам,
Перайшоўшы драты,
І ваду, і агонь.

Па пятнаццаць на штых
Надзяваў чужаземцаў,
Будзе знаць,
Хто на веру й цара паўстае.
Аскабалкамі рук,
Што пакінулі немцы,
Гладзіў ён
Заслужоныя грудзі свае.

Ён законна адпушчаны,
Толькі не збеглы!
Перагуд не стрывае
Абразы такой.
Валасны старшыня,
З барадою ў дзве цэглы,
Кіраваў каламажкай,
Дзе ехаў герой.

Яго везлі з пашанай,
Быццам новае цуда,
Нібы гэтаму цуду
Цаны йшчэ няма,
Побач земскі начальнік
Падпіраў Перагуда,
Станавы Верхаплюйкін
За плечы трымаў.

Быццам везлі яго
З ганароваю вартай,—
Пільнавалі вакол
Перагуда яны.
Так з’явіўся герой
На абшары свайго уладарства,
Дзе не пройдуць усцяж
Нават дзве бараны.

Пад дугою званкі
Заліваліся звонка...
Вось і хата,
Каторую часта ён сніў;
З-за разбітае брамы
Выпаўзла жонка
І, знясілеўшы, пала
На вуліцы ніц.

Беглі з поля суседзі,
каб зірнуць,
Паразважыць,
Што там вуліца так
Ля Сымона гудзе.
Кандыбалі дзяды
З барадою у сажань,
Акружалі жанкі
З чарадою дзяцей.

На калёсы стаў земскі,
Як сасна тая гонкі.
Перагуда узяў,
Над галоўмі узнёс.
Суцяшалі кабеты
Сымонаву жонку,—
Паглядзі, быццам зоры,
Медалі ён прывёз!

А яе слёзы крыўды
Наскрозь працінали,
Рваўся з сэрца крывавы
Дакору агонь,
Валасы яна рвала:
— Не хачу я медаляў!
Лепей рукі і ногі
Аддайце яго!

А пакуль той натоўп
Сунімалі ад гуду,
Земскі ўскінуў героя,
Што абсмалены пень,
Ён патрос угары
Жыватом Перагуда
І паставіў яго
У сябе ля калень.

Земскі гойкаў з калёс,
А кабеты стаялі,
На калёсы глядзелі,
Расчыніўшы раты.
— Слава! слава герою
Ўсіх крыжоў і медаляў,
Што прайшоў непашкоджаны
Ўсе франты;

Што прайшоў непарушны
Баявыя паходы,
Дзе за веру змагалася
Наша зямля.
Мала хто даслужыўся
Такой нагароды,—
Першы чын генерала
Медалі чапляў.

Атрымаў за айчыну
Заслугі такія,
Бо прайшоўся між куль
У раз'юшаны град.
Вось такіх
Не забудзе ніколі Расія,
Хай жыве
Сымон Перагуд наш,
Ура!

І зароў станавы
Па ваколіцы гулка,
Валасны старшыня
Распусціў дзікі гойк,
А бязногі Сымон,
Быццам тая качулка,
Гойкнуў раз пад начальства
І, збянтэжаны, змоўк.

Усе стаялі нямымі,
Як прыбітыя сцені,
Дзікі гік станавога
Да іх сэрцаў не йшоў,
Жонка білася вобзем
І прасіла збавення,
Яна ногі шукала
Заместа крыжоў.

Так, казалі, прыйшоў ён
Без ног з-пад Карпатаў,
Ахрышчоны агнём
І франтамі пакут,
Так, казалі, прыйшоў ён
Найадважным салдатам,—
Заслужоны ваяка
Сымон Перагуд.

## II

І зноў плылі над вёскай дні
У чорных хмарах алавяных,
Галечу неслі ўсім яны,
Згрызоты новыя і раны.

Гармат грымеў шалёны гром,
А цар на смерць няшчадна гнаў,
На чорных скрыдлах груганом
Па свеце лётала вайна.

Зямлёй ліліся кроў і гной,
На ямы зрыліся палі,
Калекі з фронту чарадой
На месца збуранае йшлі.

У іх спадалі дні ачмут
І разгараўся злосці жар,
Бездапаможны Перагуд
На лаве тумбаю ляжаў.

Кругом валодала мана,
Былі яе дарогі просты —
Падаткі сыпаў старшыня,
Не ўспамінаючы геройства.

Улады йшлі з уціскам новым,
Адно, што ведалі,— караць,
Забраў апошнюю карову
Той прыстаў, што крычаў «ура».

Сымон жа крыўду дзён спазнаў,
Цану спазнаў ён абяцанкам,—

Зубамі ўсе медалі рваў,
Як непатрэбныя бляшанкі.

Ён рваў крыжы і раскідаў,
І сэрца рвалася ізноўку,
Бо жонка поўзала, як здань,
І дзеці пухлі з галадоўкі.

Забіты, кінуты на здзек,
Ярмо зрываючы прынук,
Качаўся ён, паўчалавек,
Крычаў зняможна: — Прэч вайну!

Прарваўшы счараваны круг,
Яму яснелася зара.
Ён аскабалкамі біў рук:
— Далоў вайну!
Далоў цара!

## З ПАЭМЫ «ТАК ПАЧЫНАЛАСЯ МАЛАДОСЦЬ»

### СХОДКА НА РЭЧЦЫ

Вецер дзьме шалёны,
Дрэвы нібы ў трасцы,
Хвалі узнімаюць
Свой вар'яцкі шум...
Самая пагодка
Ў чоўне прагуляцца,—
Спюжа забіраецца,
Ранячы душу.

Дзе ж такой часінай
Маладым падзецца?
Хіба йсці на ложак
Заваліцца спаць?
Грай жа, чортаў вецер!
Данімай да сэрца!
Сёння камсамольцы
Едуць пагуляць.

Каб ляцелі пырскі
У разгоне пырткім
І кружыла з песень
Хмелем галава,—
Хай там за фіранкамі
Кіснуць гімназісткі,—
Камсамольцам сёння
Човен падавай!

Дзе ж вальней параіцца,
Дзе ж вальней сустрэцца?
Самая часіна
З бурай ваяваць.
Адплывае човен
Па крутлявай рэчцы,
Іх пяцёх сабралася
Ў чоўне пагуляць.

І бунтуюць хвалі
Снегавою пенай...
Толькі хвалям вёсел
Хлопцаў не стрымаць.
Застаецца горад
У імжы асенняй,
Сіратліва коміны
Ў шэрані стаяць...

І ўжо полем ходзіць
Апантаны вецер...
Больш нясцерпна твары
Распякае золь.
І прыўзняўся першы:
— Хлопцы, паглядзіце!
Хоць мы і смяемся,
А на сэрцы боль.

Мы цяпер далёка
Адплылі ад згубы.
Хлопцы, досыць смеху,
Будзем гаварыць.
Толькі знайце тайну,
Каб знямелі губы.
Мы ж для калектыву
З гэтае пары.

Добра, што паспелі
Сёння тут сабрацца.
Маю я на мэце
Вам паведаміць:
Партыя ў падполлі
Разгарнула працу.
Мы ж павінны партыі
Працай пасабіць!

На змаганне клікаць
Маладых рабочых
Супроць акупантаў
І супроць паноў...
І гарэлі ў хлопцаў
Агнявыя вочы,
Бунтавала ў грудзях
Маладая кроў.

— Знайце ж канспірацыю...
І працуйце сцісла...
Каб ні слова гадам,
Пападзеш калі...
І, здаецца, з ветрам
Вылятала Свіслач,
Буйнаю паводкай
Мчала на палі.

— Будзе ў нас патрэба —
Мы збяромся зноўку...
А цяпер за працу
Як мага раней.
Трэба йсці у масы,
Працаваць па тройках...
Яўка на кватэры
Будзе у мяне.

Мы ж павінны ведаць —
Перамога скора.
Хутка нашай зоркай
Запалае свет...—
Засядаў на чоўне
Сярод хваль суровых
Першы камсамольскі
Мінскі камітэт.

Узнімаў гамонку
Там адзін... другі...
Вырасталі плечы
Пад кашуляй мулкай,
Быццам уставалі
Гнеўна берагі
І грымелі скалы
У разгоне гулкім.

Нарастала бура,
Стала ў чоўне цесна.
Як стрымаць, не знаўшы,
Пачуццё сваё,
Дзеўчына сказала:
— Хлопцы, дайце песню,
Хоць на ціхі голас
Песню запяём...

Ружавелі твары,
Як чырвоны мак,
І яснела ў полі
Дзікая пагода.
Узляцеў,
                як сокал,
Наш сусветны марш,
На прасторы ўзвіўся,
Як вяшчун свабоды.

Ён на горад мчаўся,
Ён ляцеў на вёскі,—
Дзе бізун жандара,
Дзе расстрэл і здзек...
То спяваў на чоўне
Сэрцам камсамольскім
Першы і падпольны
Мінскі камітэт.

Камсамол не знае
Ні тугі, ні суму,
Камсамольскім сэрцам
Ў сцюжу не астыць.
Заспявалі дружна,
І ляцелі думы
Недзе там за Мінскам,
Дзе стаяць франты.

*Армія Чырвоная —*
*Першая у свеце*
*Выйшла на рашучы*
*І астатні бой.*
*Б'юцца камсамольцы-*
*Чырвонаармейцы,*
*Б'ецца ўся Рэспубліка*
*І гарыць крывёй.*

*Яны знаюць добра —*
*Перамога блізка...*
*Яны йдуць наперад*
*З баявым штыхом...*
*У лясах бясконцых,*
*У тайзе сібірскай —*

*Б'юцца камсамольцы*
*З гадам Калчаком.*

*Розныя палкоўнікі*
*Наляцелі хмарай,*
*Кожнаму ўладання*
*Дай кавалак свой!*
*Б'юцца ж міліёны*
*З імі пралетараў,*
*Б'ецца ўся Рэспубліка*
*І гарыць крывёй.*

*Тут жа з ласкі боскай*
*Край паразбурылі,*
*І з-пад ласкі панскай*
*Вісельня рыпіць...*
*Трэба ж у падполлі*
*Рыхтаваць нам сілы,*
*Каб на Беларусі*
*Ворага пабіць.*

*На касцях спраўляе*
*Вораг тут вяселле,*
*Кіпцюры да горла,*
*Да грудзей узнёс...*

Дружна ўсе спявалі,
Думы ўслед ляцелі
Па усёй краіне,
Змучанай да слёз.

Човен плыў на горад.
Дзесь касцёл затрынкаў...
Пачалі кварталы
З-за імжы яснець.
Дзеўчына сказала:
— Замяняй пласцінку,
Пачынай «Каробачку»,
Будзе спакайней.

Човен рэзаў хвалі
Вострым носам шпарка.
Гралі балалайкі
Як мага званчэй.

Пад'язджалі к саду.
Дзівяцца канаркі —
Ў гэткую пагодку
Гульні на рацэ?..

Сам ішоў палкоўнік
Пад руку з какоткай...
Хіба ж ім дазнацца
Хоць праз цэлы свет,
Што вярнуўся з першай
Патаемнай сходкі
Першы у падполлі
Мінскі камітэт.

## У ПАДПОЛЬНАЙ ДРУКАРНІ

Сіні золак зоры гасіць,
Б'ецца птушкай у аконцы.
За падпольнай пыльнай касай
Набіраюць камсамольцы.

Хай што шрыфту выбар малы,
Што ён збіты і нянові,
А кладуцца у рэалы,
Як маланкі,
тыя словы!

Набіраючы, тут мараць
Пра агонь тых пракламацый.
Хай, што пот цячэ па твары,
Ў стоме карчанеюць пальцы!

Хай! затое сінім ранкам
Будзе радасці ў іх поўна —
Заблішчаць жывыя гранкі
Сваёй сілаю бунтоўнай.

Як пачнуць жа друкавацца,
Вось тады ў імпэце гонкім,
Што аратары, заскачуць
Пракламацыі з «Бастонкі».

Так, без стомы, познім часам,
Без святла, амаль упоцем,

*Калі так — гайда дахаты,*
*Малаваты наш атрад.*
*Кінулі са дзве гранаты,*
*Мост спалілі ды назад.*

*Да сваіх. Хто сцежкай, бродам,*
*Хто балотам, хто уплаў...*
*Нас усіх да нагароды*
*Камандзір палка падаў.*

Ужо вечар у хаціне,
Гасне ў комінку карчак...
Добрай весткай Кацярына
Не нацешыцца ніяк.

Паглядзіць, перагартае,
На нязграбныя радкі...
Колькі раз адны чытае
Сэрцу родныя сісткі!

Пазаве дачку, і слёзы
Ад уцехі пабягуць...
А сялом рыпяць абозы,
На заход праз ноч ідуць.

Дзень і ноч дымяць бясконца
Пылам дымныя палі.
Тое лета грэла сонца,
Як ніколі на зямлі.

Без абутку, без адзення
Плыў дарогамі паход...
Мужнай сілай вызвалення
Быў ахоплены народ.

Кацярына жне і косіць,
Пагладае на сяло.
Два пісьмы яшчэ пад восень
З Беластока ёй прыйшло.

Быццам з ім пагаварыла,
Быццам бачыла сама,
Колькі радасці насіла...
А пасля — няма й няма...

Не чуваць. Туман садамі
Белым кужалем вісіць.
Ужо лісце пад нагамі
Аж па забарсні шуміць.

Грушы, яблыні навокал
Парастрэслі падалы,
Журавы ключом высока
Завялі: «курлы... курлы!..»

Заружовіўся бруснічнік,
Спяць асокі над вадой...
На двары прыйшоў кастрычнік.
Дзе ж Мікола,
                    што з табой?

Надышлі вятры, марозы,
Першы снег ужо ляжыць...
Кацярына у трывозе,
Па начах яна не спіць.

Наплываюць здані роем,
Можа, дзе забіты ён?
Адыходзяць нашы з боем.
Можа, трапіў дзе ў палон.

Вось і люты на сыходзе...
Мір, сказалі, надышоў,
Шмат вярнулася дамоў,
А яго няма, ды годзе.

Папытаецца, паплача,
Толькі весткі ніякой...
Можа, хто Міколу бачыў,
Ды сказаць не хоча ёй...

Часта гляне, выйдзе з хаты,
Ціха ў полі за ракой...
— Не відно,
                    дачушка, таты,
Нешчаслівыя з табой.

І табе сірочай долі
У жыцці не мінаваць...

Хутка выйдуць людзі ў поле,
Будуць сеяць і араць.

Будзе жыта красавацца,
Пройдуць песні па сялу...
Мы ж адны у гэтай хаце,
Як сарокі на калу...

Кацярына з вокнаў бачыць —
Ходзяць людзі чарадой,
Поле дзеляць, не іначай,
Адабранае крывёй.

Пройдзе хто кірункам роўным,
Потым сыдуцца гуртом,
Змераць сажнем самаробным
І азначаць шнур капцом.

Абуджае дол шырокі —
Заспрачаюцца калі —
Крык хвалюючы, глыбокі,
Крык адвечны па зямлі.

Гэты крык да сэрца блізка
Кацярына прыняла.
Лёс успомніўся бабыльскі,
Як на хутары жыла.

Як задарма працавала
На чужога сіратой...
Усю ноч зямля стаяла
Неадходна перад ёй.

Мець бы свой загон.
Дагледзець,
Па кавалку засяваць...
Раніцой прыйшлі суседзі:
— Што ж на полі не відаць?

Пойдзем разам з намі сёння,
На узгорку пры гайку,
Тры гектары мы адгонім
На цябе і на дачку.

І была тады уранку
Так усцешана яна.
Сам адмераў ёй дзялянку
Сельсавецкі старшыня.

— Абжывайся, Кацярына,
На прыпірышчы сваім,
Мы цябе адну не кінем,
Дапаможам крыху чым.

Кацярына выцірала
Твар свой стомлены, бляды...
Першы раз сябе пазнала
Гаспадыняю тады.

І пайшлі кругом клапоты.
Як парадзіць, што зрабіць,
Як зажыцца адзінотай,
За што рукі зачапіць?

Як вясна на рэкі ўпала,
Запалалі сонцам дні,—
Свой палетак узарала
На папрошаным кані.

Па адной збірала жмені
І пшаніцу і гарох,
Колькі мог, яшчэ насеннем
Камітэт ёй дапамог.

За сяўнёй сама хадзіла,
Хоць і позьнія часы...
А пасеяўшы, прасіла
Шчасця, цёплае расы.

Калі ж коўдраю густою
Зашумела ярына,
Кожны дзень удзвюх з дачкою
Наглядаць ішла яна.

Прыпадзе да збожжа ніцам
І расчуліцца да слёз:
— Ты расці, ячмень, пшаніца,
Уздымайся, мой авёс!

Многа беднаму не трэба,
Усяго патрэбы той —
На зіму кавалак хлеба
Ды сукенка для малой.

Каб вас буры абмінулі,
Хмары з градам абышлі...
Возьме ў рукі і прытуліць
Жменьку свежае раллі.

— Паглядзі,
                    дачка, на поле,
Гэты кут нам родны стаў.
Вось за гэту нашу долю
Бацька з панам ваяваў.

Глянь уніз — ручай дыміцца,
Блізка возера, сяло...
Лепшай месціны, як быццам,
І на свеце не было.

Падрастай жа,
                    Кацярына,
Можа, сілы мы збяром
І сюды сваю хаціну
Пад лясок перанясём.

І пасадзім сад навокал,
Там зязюля закуе...
Узнімаліся высока
Мары светлыя яе.

Лета. Жнівень нахіліўся
Да сярпоў і да касы.
Жоўтым воскам наліліся
Медзяныя каласы.

Дзень спякотны і вясёлы
З песняй жніўнаю прыйшоў...
Ледзь раса падзе да долу,
Поўна поле галасоў.

Кацярына рук не чуе —
Так стараецца яна.

А сваю дачку малую
Пакладзе у таганах.

На хвілінку толькі, можа,
Адхінецца пакарміць,
За жнівом палоскі збожжа
Аж да вечара стаіць.

Так адна усё пажала
Не пазней за добрых жней.
А па восені сабрала,
Змалаціла у людзей.

Захавала ўсё, як трэба,
Што пад лавы, што на печ...
І зіму з уласным хлебам
Не баялася сустрэць.

Па кавалку ашчаджала,
Гаспадарнаю была,
Пад вясну яшчэ прыдбала
Гадавалае цяля.

Аглядзела ўсё наўкола
Ды патроху зажыла...
Толькі ў горы па Міколу
Слёз суцешыць не магла.

А гады ішлі няспынна,
Многа вёсен перайшло...
Уздымалася краіна,
Будавалася сяло.

Шмат каго, амаль палова,
Перабралася даўно
Ў хаты з бёрнаў смольных,
новых...
Хто наладзіў і гумно.

А па гумнах сцірты хлеба,
Сена звезена з лугоў...
Ды не ўсе жывуць, як трэба,
Многа ёсць і беднякоў.

То няма ў каго мужчыны
І не можа сіл узняць,
То, як наша Кацярына,—
І адна, і без каня.

То скалоціць град дазвання,
То пажар, то недарод...
Так і мучацца звычайна,
Б'юцца рыбай з году ў год.

Набрыдзе якое ліха,
То яшчэ чаго няма...
А на хутары, паціху,
Акапаўся зноў Кузьма.

Агародніцтвам заняўся,
Засадзіў вялізны сад.
Новым колерам прыбраўся
З галавы да тоўстых пят.

Заўжды ветлаю усмешкай
Ён суседзяў сустракаў.
Лішкі поля пад абрэзку
Сам пакорліва аддаў.

Парабчанак зноў трымае,
Як раней усё адно,
Ён загад ахоўны мае
З НКЗ ужо даўно.

Стаў актыўнічаць і болей —
У бязбожнікі ўступіў
І клянецца, што ніколі
Ён за солтыса не быў.

Увесь час,
дзе толькі людзі,
Жыць культурна заклікаў.
Нават два значкі на грудзі
Сам сабе прымайстраваў.

Толькі дарма ён, багаты,
Думаў чмутам абысці...

Вось прыйшоў дванцаць дзевяты
Год узлёту у жыцці.

Зашумелі буйна вёскі,
Загудзеў шырокі дол...
Поля вузкія палоскі
Сабіраліся вакол.

На сяле збіралі коні,
Збрую пачалі складаць,
Неслі сохі і бароны
На адзін вялізны пляц.

І гудзеў, узняты часам,
Чалавечых сіл прыбой...
Нараджаліся калгасы
Працавітаю сям'ёй.

Па начах і днях няспынна
Гаманіў кругом народ.
Помніць добра Кацярына —
Раз паклікалі на сход.

Як прыйшла ў нардом, у залу,
Дзе клубіўся сіні дым,
Там да ночы прастаяла
Познім вечарам адным.

Па кутках усіх кабеты
Не маглі дзяцей суняць...
За сталом ад сельсавета
Пасядае старшыня.

Побач сельскія мужчыны
Кураць моцны самасад,
Паміж іх адна жанчына,
Гарадская на пагляд.

І яна гаворыць.
                    Чутна,
Як пытае, колькі раз,
Як заве сялян прысутных
Запісацца у калгас.

— Вось збыліся вашы мары,
Для усіх цяпер зямля!
Хто тут сэрцам пралетарый,
Падыходзьце да стала.

Выйшла некалькі дзябёлых
Пад камандаю Кузьмы,
Пакланіліся да долу
І сказалі: — Гэта мы

Да ўсялякай працы звыклі,
Просім толькі аб'яднаць:
Мы сялу пакажам прыклад,
Як сумесна працаваць.

Хоць у нас нямнога сілы,
Неяк справімся адны...
І усіх сялян здзівіла:
Што задумалі яны?

Загула трывожна зала,
Усхадзіліся жанкі...
Кацярына адчувала,
Што хітруюць кулакі.

Закрычаць яна хацела,
Каб пачуў увесь народ,—
Гэта іх яна сустрэла,
Як ішлі сюды на сход.

У завулку, каля брамы,
Прытаіўшыся кружком,
І Кузьма стаяў з сынамі,
І даўнейшы аканом.

Поп Андрэй з бычынай шыяй,
Два гугнявыя дзякі,
Два ураднікі былыя
І з фальваркаў шляхцюкі.

Самагоншчык — сажань ростам...
І шаптаў усім Кузьма:
— Калі што... Дык вельмі проста!
Болей выхаду няма.

Не паспела Кацярына
Думкі выказаць свае,
Як прыезджая жанчына
Кулакам адказ дае:

— Пасмяяцца вы, няйначай,
Тут прыйшлі сягоння з нас...
Вас патрэбна раскулачыць
І забраць зямлю ў калгас.

Паглядзелі косым вокам,
Зажагнаўся поп Андрэй,
І усе на колькі крокаў
Падаліся да дзвярэй.

Зашапталіся паціху...
Хтосьці лаянку загнуў.
А Кузьма сагнуўся крыху,
Тройчы з гора кашлянуў.

Нехта з вуліцы галёкнуў
І прамчаўся на кані...
Зазвінела шкло на вокнах,
Паляцелі камяні.

Лямпа грукнула са столі.
Цемра. Лямант. Дзікі крык.
Стогны несліся ад болю,
Гулка бахнуў драбавік.

Тупат ботаў несупынны.
Крэслы, зэдлікі трашчаць...
А з падлогі Кацярына
Не магла ніяк устаць.

Затапталі ў гвалце, ў тлуме,
Агарнуў балючы сон,
Толькі раз апошні чула
Крык суровы: — Наўздагон!..

У кутку пустое залы,
Апрытомнеўшы, адна
Ледзь адужала, устала,
Так знясілела яна.

Нават хустку, што згубіла,
Не патрапіла знайсці...
Каля сценкі адпачыла
І сабралася ісці.

Ды ніяк не знойдзе дзверы,
Быццам хто забіў знарок.
Раптам чуе, нехта ў цемры
Застагнаў і потым змоўк.

З галавы да ног па целу
Перабег калючы жах,
Што асіна, задрыжала,
Забалела у грудзях.

Што рабіць — яна не знала,
Хто тут гіне уначы?
Моўчкі, вобмацкам шукала,
На каленях паўзучы.

І пазнала Кацярына,
Што у покуце нічком
Брыгадзір ляжыць — жанчына
З акрываўленым чалом.

Ледзь кранула. Пагукала...
Не адказвае, маўчыць...
Да самой яе прыпала,
Прасвятлела: будзе жыць!

Пра свае забыўшы мукі,
Усхапілася тады,
Кубак трапіўся пад рукі,
Узліла на твар вады.

Прыўзняла, абмыла рану,
Што чарнела над ілбом:
Галаву яе старанна
Абвязала фартухом.

Вочы хворая адкрыла,
Свет пабачыла ізноў...
Світкай зрэбнай атуліла,
І пайшлі удзвюх дамоў.

. . . . . . . . .

Як прыйшлі яны ў хаціну,
Узыходзіла зара...
— Гэта я тут, Кацярына,
Гэта я, твая сястра!..

Ты мяне усё пытаеш,
Што было ўначы з табой?
Не хвалюйся, дарагая,
Вельмі шкодзіць неспакой.

І сяброўку абняла,
Зеллем-мятай напаіла,
Спаць з малою палажыла
Ды людзей шукаць пайшла.

Што рабіць, яна гадала...
Ўсе пакінулі адну.
Па дарозе напаткала
З сельсавета старшыню.

Бег ён з гумнаў за ракою
Па дарозе крыжавой,
Ўвесь запэцканы гразёю,
З перавязанай рукой.

Усхвалёваны адзіным,
Ён, здалося, ледзьве жыў...
Запытаўся: — Кацярына,
Ці не знаеш ты, скажы?..

Можа, ты у гэтым горы
Можаш мне дапамагчы:
Дзе інструктар, што учора
Выступала уначы?

І калі пра ўсё старэнна
Колькі раз перапытаў,
Кацярыне пра здарэнне
Ён сваё апавядаў:

Як бандытаў даганялі,
Як у лесе ў хмызняках
Двух сыноў Кузьмы спаймалі
І вясковага дзяка;

Як яны з абрэзаў білі,
Імкнучыся уцякаць,
Як кінжал яму ўсадзілі
У руку па рукаяць.

А ў хаціну Кацярыны
Сабіралася сяло...
Там да хворае жанчыны
Шмат таварышак прыйшло.

Перавязвалі ёй раны
Чыстым кужалем наноў
Два чырвоных партызаны,
Парабчанкі з хутароў.

І здаволена жанчына,
Што ў бядоце не адна.
Старшыню і Кацярыну
Стрэла з радасцю яна.

Цэлы дзень рашаў у хаце
Сход вясковы беднякоў,
Што рабіць ім, як змагацца,
Як пазбыцца кулакоў.

Як навесці свой парадак,
Толькі думкаю жылі...
І усе пасля нарады
З пераконаннем пайшлі,

Што жыццё іх парадніла,
Што цяпер, у гэты час,
У яднанні, ў дружбе — сіла,
Што адзіны шлях — калгас.

А да хворае пад вечар,
Як займалася змяркаць,
Прыскакаў з раёна фельчар,
Каб у больніцу забраць.

Не схацела. Кажа: — Потым
Буду я адпачываць.
Дзе хварэць, калі работа
Нас не можа тут чакаць.

Дарма ён прасіў няспынна,—
Не зазваць яе нічым,
Засталася. З Кацярынай
Гаварыла да начы.

Ледзь газніца мігацела
З абымшэлага кутка...
Моўчкі слухала, сядзела
Кацярыніна дачка.

— Ёсць над вуліцамі зоры
З незгасаючым святлом,
Ёсць дзівосны свет, ёсць горад,
Што далёка за сялом.

Там, дзе гэтулькі багацця,
Мы жылі на пустыры.
Нас было пяцёра ў хаце:
Тры браты і дзве сястры.

Помню год цяжкі, бядацкі,
Як памерлі па вясне —
Маці з голаду, а бацька —
Партызанам на вайне.

Хай віхор і той адзіны
Нашы слёзы не знясе,—
Як з гнязда, што вецер зрынуў,
Разляцеліся усе.

Ды на фронт. Хто далей, бліжай,
Біць нягоднікаў-паноў —
Дзве сястры з чырвоным крыжам,
Трое коннікаў-братоў.

Як прымчалася па свеце
Дваццаць першая вясна,
Хто прыйшоў з апошняй сечы?
Я вярнулася адна.

Гэтай ростані да болю
Мне ніколі не забыць.
Мне за іх паклала доля
Працаваць цяпер і жыць.

Шчасцем гордым надзяліла
За усю маю сям'ю...
Свой завод я палюбіла,
Быццам маладосць сваю...

Ноч плыла на чорных крыллях,
Месяц распаліў касцёр,
А сяброўкі гаварылі
Нескančона пра жыццё.

Быццам з даўняга знаёмы,
Быццам кроўнымі былі...
Ранenька ў сяло з райкома
Два таварышы прыйшлі.

Падрабязна распыталі
Аб нападзе кулакоў,
Беднату усю сазвалі,
Сход прызначылі ізноў.

І сяброўцы Кацярына
Марна раіла ляжаць.
Нават хворую жанчыну
Не магла яна стрымаць,

Што, нягледзячы на мукі,
З Кацярынаю пайшла...
Тая хворую пад рукі
Да нардома давяла.

Там, за доўгімі радамі,
Шмат узбуджаных галоў;
Ні Кузьмы з яго сынамі
І нікога з іх сяброў.

Пахаваліся бандыты,
Іх адкінуў грозны час!
І сям'ёй з'яднанай, злітай
Быў народжаны калгас.

Толькі нехта раз адзіны
Злосна выкрыкнуў з кутка:
— Што такое? Кацярыну?
З горкім дзіцем на руках?

Кацярыну сход прымае.
Багацеяў жа усіх
Раскулачыць тут рашае
І забраць маёмасць іх.

У Кузьмы, відаць, чакалі,
Мабыць, вызнаў ад каго,
Бо таўшчэзныя завалы
Запіралі двор яго.

Доўга грукалі у браму.
Нават груку не чутно.
Ледзь зайшлі, нарэшце, самі,
Абышоўшы праз гумно.

Па хлявах раўлі каровы.
Выў сабака у сянях...
Што убачылі? У словах
Не пакажаш гэты жах.

Подсцілка крывёй заліта
На вялізным дзенніку.
Многа тут цялят забітых,
Іх галовы убаку.

Гаспадар, увесь у поце,
Не спыняўся, працаваў,
Ён чырвоныя па локці
Рукі ўгору уздымаў.

Расчыніліся вароты,
І людзей убачыў ён,
Кінуўся да іх. А потым
Прыдушыў глыбокі стогн.

Стаў і плакаць і смяяцца,
Выцер кроў на рукаве
І апошняму цяляці
Секануў па галаве.

Ад сябе сякеру кінуў,
Супыніўся, задрыжэў...
Як заўважыў Кацярыну,
Аж у твары пачарнеў.

Слёзы пырснулі на грудзі,
Раўчукамі пацяклі,
Як яго пазвалі людзі
І апісваць пачалі.

Што спытаюць,— утрапёна
Ледзь праз вусы прабурчыць,
То закрыта, то замкнёна,
То не знае, дзе ключы.

А у свірнах пад замкамі
Быў яго таемны склад,—
Там стаяў напагатове
Самагонны апарат.

Між падлог знайшлі адзенне
Розных армій і часоў;
Сёдлаў некалькі ваенных,
Многа збруі і падкоў.

А у свірнах, пад замкамі,
Поўны засекі дабра.
Столь закрыта кумпякамі,
Кублы сала, што гара.

Назапашана багацця,
Толькі ўзяць ды падлічыць.
Што па клунях, што у хаце,—
Цэлай вёскай можна жыць.

Кацярына не стрывала:
— Паглядзіце на яго,
Гэты гад забраў нямала
І Міколы і майго.

А Кузьма ў адказ рыдае:
— Божа, воля будзь твая,
Бо за ласку папікае,
Што яе прыгледзеў я.

Мы сям'ёю працавалі,
Як усе. І так жылі...
Вы ж маіх сыноў забралі,
Загубіць мяне прыйшлі.

Я сваім гарбом зажыўся,
Кіньце вы дарэмны спіс!..
Доўга кляўся і бажыўся
Панскі солтыс, хітры ліс.

Не пасобілі крыўлянні,
Ні гразьбы, ні жальбы слоў,
Дзень апошні панавання
Кулака Кузьмы прыйшоў.

А навокал пад снягамі
Зашарэліся гаі.
Снежань срэбнымі ключамі
Замыкае ручаі.

Завялі вятры над голлем
Несканчоны, дружны спеў.
Першы санны шлях на полі
Палазамі зарыпеў.

Таварышку ў горад дальні
Кацярына правяла,
Ад прыязнага спаткання
Успамінамі жыла.

Той зімоваю парою
Узмацняўся, рос калгас,
Са сваёй малой дачкою
Працавала першы час.

Хоць людзей было нямала,
Ды для ўсіх работы шмат —
Даглядала, гадавала
І авечак і цялят.

Многа першыя часіны
Мела клопатаў яна,
Ды шчаслівая Кацярына,
Што ўжо болей не адна.

Што не быць ёй голай, босай...
Роўна з роўнымі жыла.
Нават хата, ёй здалося,
Стала бліжай да сяла.

На душы было вясёла,
Аж хацелася спяваць!
Між дзяцей дачку са школы
Як прыемна сустракаць!

Прыбяжыць у захапленні,
Прыхінецца галавой,
Потым сядзе на калені
І чытае доўга ёй,—

Чым зямля багата наша,
Як на свеце многа дзіў...
Падрабязна перакажа,
Што настаўнік гаварыў:

— Трэба ехаць полем, борам,
Можа тыдзень, можа два
У такі вялікі горад,
Як Чырвоная Масква.

У тым горадзе уночы
Ад святлейшага святлей.
Пасярод Чырвонай плошчы
Ёсць прыгожы Маўзалей.

Ён гранітны і высокі,
Варта перад ім стаіць...
У цішы яго глыбокай
Неўміручы Ленін спіць.

З поўдня, поўначы, з усходу,
Ад сусвету усяго
Ўсе плямёны і народы
Там наведваюць яго.

Пры жыцці сваім з панамі
Ён заўсёды ваяваў.
Ты скажы мне, слухай, мама,
Ільіча мой тата знаў?

Кацярына зажурыцца,
Так на сэрцы забаліць...
І пачне сваёй дзяўчынцы
Пра Міколу гаварыць.

Часта у часіну тую
Ўспамінае аж да слёз,
Як на ростані малую
На руках у лес ён нёс,

А дачушка прыхінецца,
Шэпча маці колькі раз:
— Ціха, мама... Мне здаецца,
Тата вернецца да нас.

І не кіне больш ніколі,
Ціха, мама, ты са мной...

. . . . . . . . .

Адышла зіма. На полі
Задымілася вясной.

Людзі дружнаю сям'ёю
Выйшлі разам працаваць;
Пяць брыгад арэ ярное,
Тры канчаюць будаваць.

Над калгасам гул сасновы
Не спыняўся той парой...
І цялятнік вырас новы
На узгорку над ракой.

Многа там стаяла дробных
З гэтае зімы цялят,
Кожнаму куток асобны
І прадуманы дагляд.

Як яны усе рыкалі,
Калі хто пачне гукаць!
Па імю усіх назвала
Кацярыніна дачка.

Ды па слыху іх адразу
Пазнавала галасы.
Часта з маці гнала разам
Днём на пасту пад лясы.

Там прастораў тых багата
З роснай, смачнаю травой,—

Луг мурожны. Ходзіць статак
Неўгамоннай чарадой.

Дзве імклівых ручаіны
Напаўняюць звонам дол...
Паглядае Кацярына
На палеткі навакол.

Жыта буйна каласіцца,
Нахіляецца чалом.
Ячмяні, аўсы, пшаніцы
Пазаслалі ўсё кругом.

А ляны...
Як глянуць вокам —
Сінім полымем цвілі...
Як прыгожы і шырокі
Вы, калгасныя палі!

Дружнай працы плён шчаслівы
Наусцяж шуміць сцяной...
— Глянь, дачка, на нашы нівы,
Як багаты мы з табой!..

Гэта ўсё для чалавека,
Што раней бядою жыў.
Наша ўсё — лясы і рэкі...
Так твой бацька гаварыў.

Паглядзі, якія далі,
Як смяецца сонца нам!
І яны удзвюх спявалі,
Падпяваючы вятрам.

І імчаўся спеў па свеце,
Абуджаючы прастор,
Спеў шчаслівы, спеў ад сэрца
Да высокіх, сініх зор.

Ліпень сонечны, багаты
Над палеткамі ішоў...
Сустракалі людзі свята
Вызвалення ад паноў.

Кветкамі і зелянінай
Упрыгожвалі двары.
Перад хатай Кацярына
Пасадзіла дрэўцы тры.

Прыгадала пра былое,
І здалося ёй тады,—
Быццам зноў усёй сям'ёю
Пазбіраліся сюды.

І нібы у шумным голлі
Нахіліўся галавой —
З ёю радзіцца Мікола
І з маленькаю дачкой.

Так стаялі дрэўцы цесна,
Абшчапіўшыся вянком...
А здалёк шугалі песні,
Пралятаючы над сялом,

Быццам хто рассыпаў краскі
І пусціў на свет плысці...
На былым дзядзінцы панскім
За народам не прайсці.

Там, у зборышчы квяцістым,
Хоць да вечара скачы...
Два калгасных баяністы,
Цымбалісты, скрыпачы.

Як зайграюць,— проста дзіва,
А дзяўчаты падпяюць.
У «Лявонісе» імклівай
Пары стройныя ідуць.

Поўны твары маладыя
Непазбыўнаю красой...
У далоні б'юць старыя,
Дзеці кружаць чарадой.

Над галоўмі хустак крыллі —
Быццам мятлікаў палёт...
Дзве сяброўкі падхапілі
Кацярыну ў карагод.

І паплыў іх круг вясёлы,
Нібы лебедзі ракой...
У жыцці яшчэ ніколі
Не было так лёгка ёй.

І ў той радасці няспыннай
Чуе сэрцам ад усіх:
— Ты шчаслівa,
Кацярына,
Між таварышак сваіх.

Скончылі гуляць. А потым
З падарункамі прыйшлі.
Кацярыне за работу
Першай прэмію далі.

У пакунку невялікім
Брыгадзір падаў самой
Для дзяўчынкі чаравікі,
Плацце з вышыўкаю ёй.

І яна на ўсе вітанні
Адказаць не мела слоў...
У шчаслівым хваляванні
Да сябе прыйшла дамоў.

Зноў няспыннаю хадою
Дні за працаю пайшлі.
Рос калгас. Не раз вясною
Абнаўляліся палі.

Рос калгас.
Мацнелі справы.
Не пазнаць зусім сяла.
Па усёй акружцы слава
Кацярыніна расла.

Аб цялятніцы старaннай
Разважалі людзі шмат.
Пад яе наглядам дбайным
Каля соцень трох цялят.

Кожны шчырaю пашанай
Кацярыну сустракаў...

На цялятніку ж аддана
Працавала і дачка

Побач са сваёю маткай
Пры цялятах пры малых.
Ды было ў яе цялятка
Больш любімае за ўсіх,—

Хай з характарам бадастым,
Але хто зраўняцца мог —
З поўсцю мяккай і махнастай,
З белай краскай паміж рог.

І за гэтую прыкметку,
За вясёлы спрытны бег —
Наракла цялушку Кветкай,
Прыручыла да сябе.

Каб чуваць было пястушку,
Як гуляе па кустах,—
Павязала шыю стужкай
Са званочкам на грудзях.

А ў паўдзённую спякоту
Мыць ганяла да ракі.
Маці цешыцца работай,
Захапленнямі дачкі.

Разам выпала ёй шчасце
За даўнейшыя гады:
Усяго даволі ў хаце —
І адзення і яды.

Зніклі слёз бяздонных ночы,
Зніклі гора і нуда.
Хоць у восені аднойчы
Надышла яшчэ бяда.

Не забудзе Кацярына,
Так узрушана была,
Як малая у хаціну
З плачам подвечар прыйшла;

Як сцяжынкай праз палеткі
Прывяла да пожні той,

Дзе ляжала хворай Кветка
З пахмурнелай галавой.

Як дзяўчынка са слязамі
Дарма клікала не раз,—
Кветка з мутнымі вачамі
Ледзь рыкала у адказ.

Ад спіны дыміла пара,
Не магла узняць і ног...
Выклікаць ветэрынара
Парашылі там удзвёх.

Кіламетраў дваццаць, пэўне,
Трэба ехаць, каб пазваць.
Папрасілі у праўленні
Па яго каня паслаць.

— Што вы? Коні й так заняты...
Заганялі мы усіх...
Заатэхнік барадаты
Пасмяяўся нават з іх:

— Захварэла?
Што ж такое?
Хваляваліся б вы менш!..
Гэта, мусіць, ад апою,
Даглядайце самі лепш.

Ды на гэтым Кацярына
Не спынілася, аднак.
І, пакінуўшы дзяўчыну,
Цераз ноч пайшла адна...

Цемра.
Шляху не прыкмеціць.
З двух бакоў, як здань, гушчар.
Ігальчысты дождж і вецер
Білі ў грудзі, білі ў твар.

Сосны гнулі долу шыі,
Слаўшы голле па кустах,
Нават птахі лесавыя
Пахаваліся ў дуплах.

Толькі думка грэла сэрца,
Як пасобіць у бядзе.
І дабралася да месца,
Хоць займаўся новы дзень.

У калгас з'явіўся рана
З ёй ветфельчар малады,
І, агледзеўшы старанна,
Ён усім сказаў тады,

Што ў цяляці тым лядашчым,
Што не можа больш устаць,
Страшная хвароба яшчур.
Трэба Кветку закапаць.

Хоць малая і багата
Слёз тужлівых праліла,
Ды застаўся цэлым статак
Для калгаснага сяла.

Толькі з той пары нягожай,—
Застудзілі так вятры,—
Кацярына злегла ў ложак,
Прахварэла тыдні тры.

Як устала, вельмі рады
Ўсе таварышкі былі,
Ад імя сваёй брыгады
З падарункамі прыйшлі.

Аж да позняе гадзіны
Дружна гутарка ішла...
Дзён праз колькі Кацярына
На рабоце зноў была.

На цялятніку любоўна
Аддавала працы час...

. . . . . . . . .

Вестка новая раптоўна
Абудзіла ўвесь калгас.

Разгубіліся жанчыны...
Быццам снег на галаву:

Выклікалі Кацярыну
У Чырвоную Маскву,

Як найлепшую з брыгады
Ад калгаснае зямлі,
На вялікую нараду
У сталіцы,
у Крамлі.

Кацярына так узнята
Не была яшчэ ў жыцці.
Хвалявалася занадта,
Не магла ў сябе прыйсці.

Тое ранне не забудзе,
Сабіралася калі,
Як з усёй акружкі людзі
На праводзіны прыйшлі.

Як прасілі на астанні
Перадаць паклон Маскве...

. . . . . . . . . . .

Па снягу скрыпучым сані
Павязлі яе у свет.

Колькі дзён,
нібы хвіліны,
У дарозе перайшлі...
Засядала Кацярына
Дэлегаткай у Крамлі.

Светлай залаю краіна
Гаварыла і цвіла...
І ніколі Кацярына
Так шчаслівa не была.

Многа ласкі там сустрэла,
Многа цёплых шчырых слоў.
Колькі побач з ёй сядзела
Родных сёстраў і братоў!..

Дэлегаты слова бралі,
Пачыналі гаварыць.

Аб усім апавядалі
Там палёў гаспадары.

І чуваць былі ў разгоне
Ясных думак, новых спраў
Галасы Бярозы, Дона,
Зангі, Церака, Дняпра.

Чуўся гул снягоў Хінгана,
Прыуральскіх шум лясоў,
Пах садоў Аджарыстана,
Рух паўночных рапакоў.

І дачка сваёй краіны,
Беларускага сяла,
Дэлегатка Кацярына
На трыбуну узышла.

— Чахлі мы на голых нівах,
Мерлі з голаду вясной,
Мы жывём цяпер шчасліва,
Бо знайшлі кірунак свой.

Маем яслі, клубы, школы,
Нам адкрыўся цэлы свет.
Ад жанок, дзяўчат вясёлых
Асаблівы наш прывет.

І мінулага з праклёнам
Мы парвалі кайданы,
Нам відно, як за кардонам
Ходзяць польскія паны.

Ды панам ніколі болей,
Як раней,
 не панаваць,
Не ўладарыць нашым полем,
Нам і сеяць і збіраць.

Кончыла. Сышла. І ў зале
Запалаў вачэй агонь,
Сэрца білася, сціскала,
Можа, гэта толькі сон?

І ад шчасця Кацярына
Не магла сябе знайсці.
Чула сэрцам — той хвіліны
Не забудзе у жыцці.

Хіба ведала учора,
Што шчаслівa будзе так...
Над Чырвонай плошчай зоры
Палыхалі, што маяк.

Сцяг чырвоны слаў надзеі
Чалавецтву усяму.
Падышла да Маўзалея.
Пакланілася яму.

За прыгожы час, за шчасце
Аддала яна паклон,
За дзяцей, бацькоў, багацце,
За ясноту новых дзён.

Не заснула ноччу тою,
Аб Крамлі ўсплывалі сны...
А назаўтра ўсім героям
Уручалі ордэны.

Як дачка свайго народа,
Многа маючы заслуг,
І яна ўзнагароду
Прыняла з гарачых рук.

Абкружыў яе жаданы
Круг сяброўак дарагіх...
Да яе, усхваляванай,
Падышоў сівы камбрыг.

— Запытацца мне дазвольце.
Вы з Палесся, можа?
— Так!
— У дваццатым ваш на фронце
Ці не быў які сваяк?

— Ваяваў мой муж Мікола.
З дзіцем я была малым.
Мне пісаў з-пад Вільні. Болей
Не пачула я аб ім...

І панікла галавою.
Камандзір пачаў расказ
Пра забітага героя,
Пра яго астатні час.

Біўся ён з панамі многа,
Паў пад Віліяй-ракой...
Рысы твару дарагога
Уставалі перад ёй...

Вось ён родны аж да болю,
З пікай востраю рука,
Вось імчыцца дымным полем
Ён пры штандары палка.

Перашкодаў ён не знае,—
Не ў характары яго.
Вось васьмёра абкружае
З панскай шляхты аднаго.

Качаны галоў іх проста
Адлятаюць пад рукой...
Палажыў пяцёх, а шосты
Свіснуў шабляю крывой.

І прастор зялёным долам
Захістаўся у вачах,
Смерцю храбрых паў Мікола,
Паў са сцягам на грудзях.

Кацярына ледзь стрывала,
Сутрымала слёзы ледзь...
Вось калі яна пазнала
Чалавека-мужа смерць.

Крэмль. Праменных зор рубіны
Асвятляюць горда высь.
Ходзіць плошчай Кацярына
З таварышкаю Шамкіз,

Што прыехала здалёку,
Ад батумскіх берагоў...
Многа ў гутарцы глыбокай
Шчырых і гарачых слоў.

Як ім родны месцы тыя,
Дзе займалася зара!
Ноч. Вартуюць вартавыя
Светлы сон правадыра.

Дзіўным казачным убраннем
Над Масквой агні плывуць...
У шчаслівым хваляванні
Дзве таварышкі ідуць.

Многа ў іх жаданняў,
сілы.
Многа шчасця у сясцёр.
Што дарогі іх злучыла?
Што з'яднала іх жыццё?

Дружбай шчыраю, гарачай
Параднілі сэрцы два
Ордэн Леніна за працу
І Чырвоная Масква...

— Ты бывай, Масква! Заўсёды
Твой у сэрцы светлы час! —
Кацярына мужнай, гордай
Ад'язджала у калгас.

Зноў гушчар лясоў зялёных,
На палях снягоў абрус.
Беглі шумныя вагоны
Да граніцы ў Беларусь.

Абуджаўся перад імі
Вечаровы ціхі дол.
Неабсяжная радзіма
Гаманіла навакол.

Кацярына воч не зводзіць
Ад акна. Здаецца,
зблiз,
Па другіх шляхах, на поўдзень
Едзе добрая Шамкіз.

І што ўсе сябры з яснотай
Многа новых дум вязуць,

Узлятаюць самалёты,
Караблі удаль плывуць.

Іх чакаюць у брыгадах,
На вакзалах, ў гарадах,
Пагранічнікі ў засадах,
Дзеці ў школах і садах,

Што шчаслівыя бясконца
Матак радасных вітаць...
За зямлю пад гэткім сонцам
Лёгка нават паміраць.

Так за думамі гадзіны
Адляталі чарадой...
Ноч прайшла. І Кацярына
Зноў на станцыі сваёй.

Сустракалі у раёне,
І пасля вітальных слоў,—
На калгаснай парцы коней
Варачаецца дамоў.

Пазглядае Кацярына
На бярозавы бальшак:
Вось знаёмыя мясціны,
На гары стары вятрак

Кружыць крыллямі-рукамі,
Сабіраючы вятры...
Сакавік ідзе палямі,
Запявае у бары.

Ручаінамі прыбраны
Ён, вясновы чарадзей.
Сэрца б'ецца несціхана,
Сэрца просіцца з грудзей.

Вунь гаі — падаць рукою,
Дзе маленства адышло.
Блізка млын па-над ракою,
Хутка роднае сяло.

Бліжай месца дарагое,
Хаты вокнамі глядзяць...

І здзівіла: што такое —
Людзі з кветкамі стаяць.

Як пад'ехала, сяброўкі
Падхапілі ўсе яе.
Ці не сон прыйшоў ізноўку?
Не, яна не пазнае...

Не пазнаць нічога зблізку.
Як змянілася кругом!..
На прыстанішчы бабыльскім
Новы пяцісценны дом.

Дзе ж, хаціна ты старая?
Не відно таго кутка...
І смяецца, абдымае
Маці родная дачка.

У шаўковым, новым плацці
Запрашае ўсіх за стол...
Слёзы матчыны ад шчасця
Пакаціліся на дол.

Падышоў і прывітаўся,
Да дзвярэй яе павёў
Самы стары у калгасе
Дзед сівы пад сто гадоў,

Прымаўляючы няспынна,
Хлеб трымаючы ў руках:
— Кацярына!.. Кацярына!..
Бабылёвая дачка...

## ДЗЕД І ЎНУК

Шумлівы раннем гушчары.
Сасна пяе сасне,
Дзюбасты дзяцел на кары
Дэпешы б'е вясне.

Прабег шарак, узняўшы хруст,
Прачнуўшыся ад сну,
Птушыны піск з куста на куст,—
Бы спудзіў хто жаўну.

Па багавінню
Бусел шлях
Пракладвае ўброд,
Вавёркі скачуць па суках,
Памыўшыся, на ўсход.

Прыпалі качкі да вады
Сабе яду шукаць.
Ды пугачы, нібы дзяды,
Па чорных дуплах спяць.

Глушак, такуючы, ўзляцеў,
Пакінуўшы чабор...
Ідзе юнак праз чысты бор,
Птушыны ловіць спеў.

Сарочкі вышыты каўнер
Расхрыстаны на ім.
Куды прыйсці, яго намер,
Не знае сам аб тым.

У торбе праснака акрай.
Спявае у хлапца,
Турчыць свісцёлка-самаграй
З лазовага дубца.

Лятуць высока галасы,
Мацнеючы штораз.
Маўкліва слухаюць лясы
Праўдзівы сэрца сказ.

...Над ціхай рэчкай на гары,
Зарыўшыся ў пясок,
Хаціна, быццам грыб стары,
Схілілася набок.

Зачахла там адна-адной,
Нікога анідзе...
Адзін асвер-крумкач пры ёй
Ды бусел на гняздзе.

Там жыў з даўнейшага пастух
Не мала зім і лет.
Па вечарах сядзелі ўдвух
На прызбе ўнук і дзед.

Глядзелі, як з мурожных траў
Туманы пабрыдуць,
Як месяц сеткі закідаў
На сонную ваду.

Як серабрыцца над кустом
Макуха-машкара
Ды як палохаў сом хвастом
З крутлявага віра.

Стары дастане капшучок,
Шурпатым кіпцюром
Адломіць губы.
Красівом
Здабудзе аганёк.

Вакол сівое галавы
Спаўецца дым-павук...
І загаворыць, як жывы,
Прасмалены цыбук.

А дзед
Нагаркі страсяне
Ды зноўку, як прывык,

Па небу варажыць пачне,
Што кажа маладзік.

Калі высока срэбны коўш
Захутаны цяньком,
Напэўна ведай, будзе дождж,
А можа нават гром.

Не выйшлі зоры на папас,
Пахмуры небакрай...
Надвор'я будзе зменны час,
А сонца не чакай.

Так памяркуючы цішком,
Як дзень, другі пражыць,
Ідуць спачыць,
Каб залаком
Над лесам затрубіць.

А ранкам з пугамі ў руках,
З акрайцам на плячах,
Па выгарах,
Па чаратах
Ляжыць іх доўгі шлях.

Лугі, гаі, балоні скрозь,
Імшары не адны
За лета ўпоперак і ўдоўж
Апоўзаюць яны.

А пасвіць болей не мага,
Адсыпле ім сяло
Па гарцу жыта ад рага
На зімняе жытло.

Не многа трэба для душы —
Цяпло, крыху яды.
Сядзяць на печы і ў цішы
Не ведаюць нуды.

За хатай воклічы завей,
Марозных трэск ільдзін...
Пакуль вясновы ветравей
Не разгайдае стынь.

Тады трава памкнецца ўраз,
Праб'е кару зямлі...
За трубы зноўку брацца час,
Выходзіць на палі.

А там —
На пожні, на трысцё
Са дня на дзень пахол...
Такое іх было жыццё
Нязменна з году ў год.

Ды хмар нагнала чараду.
Узбунтавала ціш.
Як людзі кажуць, што біду,
Сплючы, сабе наспіш.

Няшчасце восенню прыйшло:
Пасля цяжкіх пакут
У дзеда ногі адняло...
Рабі што хочаш тут.

Не затрубіць вясной яму,
Як некалі было...
А ўнуку пасвіць аднаму
Адмовіла сяло.

Ляжыць трывога на жыцці —
Ад голаду памрэш,
А ў пана — поле не прайсці,
А ў пана — цэлы лес.

За панскае — не будзе грэх...
Рашылі ўдвух на тым.
І ўнук праз ноч
У лес пабег,
Прынёс цішком пруты.

Схаваўшыся ад хцівых воч,
Ад злоснае душы,
На адзіноце дзень і ноч
Плялі яны кашы.

І на кірмаш
Тайком, няўзнак
Прыносіў іх юнак...

І быў на тыдзень так ці сяк
На хлеб які пятак.

Ды толькі гора з году ў год
Стаіць над бедняком.
Як рысь, аднойчы ўскочыў войт
У хату з бізуном.

У дзеда выпала на дол
Пагнутая лаза,
У дзеда пала на прыпол
Гарачая сляза.

А далей катавання жах...
Сказаць — не хопіць слоў!
Калі на ссечаных плячах
Рубцамі легла кроў.

Захаладзіў душу мароз
Ад невыносных мук...
І ў сэрца кату востры нож
Паслаў уміг унук.

І цёмна стала.
Скрозь імгла...
Ён выскачыў на двор.
Пайшоў.
Сцяжынка прывяла
У гэты шумны бор.

У торбе праснака акрай
Спявае у хлапца,
Турчыць свісцёлка-самаграй
З лазовага дубца...

Лятуць высока галасы,
Мацнеючы штораз.
Маўкліва слухаюць лясы
Праўдзівы сэрца сказ.

Пачуўшы воклічы жальбы
Над шолахам лісця,
Прынялі сосны і дубы
Са скаргаю хлапца.

Загаманілі гушчары,
Схіліліся кругом...
І стаў ён з гэтае пары
На пушчы жыхаром.

Абсталяваў усім як мог
Вялізнае дупло.
З галля страха.
Расклаў цяпло.
А ложкам — шэры мох.

Што трэба, ўсё непадалёк —
Рака і шмат грыбоў...
На снеданне апенькі пёк
І смажыў акунёў.

Пасля да вечара адзін
Па хмызняку брыдзе,
Паземак збера ці малін...
Ды на спачын ідзе.

Засне, стаіўшыся, нічком.
Спакойны сам у тым —
Разбудзяць птушкі, залаком
Сабраўшыся над ім.

Так перабыўшы колькі дзён,
Пакінуў гараваць,
Надумаўся дасціпна ён,
Як дзеда ратаваць.

Далёка пушчу абышоў,
Наскрозь, па ўсіх кутках...
Знайшоў на выгары астроў,
Схаваны ў балатах.

Калі сысці з узгорка ўніз —
Крыніца там адна,
Лапчасты ельнік,
Буйны хмыз
Кругом, нібы сцяна.

У заварожанай глушы
Нярушаны спакой...

На гэтым месцы парашыў
Зрабіць прытулак свой.

Запрацаваў адзін за трох.
На скорую руку —
Маленькі зруб ён сам, як мог,
Паставіў у цішку.

Ён рад прыстанішчу свайму.
Наплёў ізноў кашы...
Грыбоў і ягад на зіму
На сонцы насушыў.

То вырве зблізку пень калі,
То спаліць мох ушчэнт...
І так кавалачак зямлі
Аблюбаваў як след.

Тарфянне зносіў, каб расла
Налета збажына.
І праца спорная ішла
Ад ранння да цямна.

Але няспынная нуда
Не дасць забыцца ў сне...
То дзедаў зрок,
То барада
На момант мільгане.

То здасца часам: доўгі стогн
Прарвецца з-за бяроз...
Заплача каня дзе,—
А ён
Расчулены да слёз.

Мяркуе ночы, як жа быць,
А дні далей ішлі...
У верасні агні брусніц
Заззялі на зямлі.

Пачахлі пышныя кусты,
Заветрыла вакол,
З дубоў зрываліся на дол
Мядзяныя лісты.

Зажухнуў верас баравы,
Спахмурыўся ручай,
Высока ў небе журавы
Плылі ў далёкі край.

Па жоўтай, восеньскай глушы
Праплыў трывожны гук...
На дзедаў покліч у душы
Пабрыў назад унук.

Мінаў імшарышчы, карчы,
Забыўшыся на сон,
Ішоў тры дні і тры начы.
Прыйшоў.
І бачыць ён:

Няма хаціны. Хоць бы след.
Пясок ды попел скрозь.
Хлапец гукае:
— Дзеду!.. Дзед!..
А вочы поўны слёз.

Згарэлі родныя вуглы.
Адзін пустыр цяпер.
Гняздо пакінулі буслы,
Стаіць, як здань, асвер.

* * *

Кружыць, кідаецца вецер асенні,
Быццам на свеце шукае кагосьці...
Хлопец самотны прыпаў на калені,
Доўга трымаючы прыску прыгоршчы.

Ледзьве узняўся, стрымаўшы рыданне,
Цяжка з дзяцінствам сваім развітацца,
Выйшаў на поле і стаў на кургане.
Глянуў —
Бялеюць за рэчкай палацы.

Ліпы старыя заснулі радамі,
Месяц у хмарах над імі ныраё...
Сціснула грудзі туга абцугамі,
Згадка страшная яму наплывае...

Сцюдзёна дужа. Няма куды дзецца,
Там жа, дзе гмах збудаваны заўзята,—
Ляжыць на пухоўках пан і смяецца:
— Слаўна гарэла бядняцкая хата!

Хлопец удалеч глядзеў спахмурнелы.
Твар пабялелы.
Не шчокі — бяроста.
Думкі ляцелі, як вострыя стрэлы,
Вочы заслала гарачая помста.

Ён, прыгадаўшы былую нягоду,
Колькі па лесе галодны бадзяўся,
Тройчы прад зорамі дзеду пакляўся.
Рэчку прайшоў па знаёмаму броду.

Краўся кустамі,
Па сцежках віхлястых,
Да чорных разораў схіліўшыся нізка...
Поўз па равах, па ляшчынніку частым,
Покуль дзядзінец не вынырнуў блізка.

З дзедам прыходзіў сюды ён калісьці.
Сэрца забілася горача, шпарка,
З ветрам ляцела пажоўклае лісце...
Недзе ля стайні азваўся сабака.

Раптам набеглі ўсялякія страхі.
Толькі паволі адпала трывога.
Чорную коўдру паслаўшы на дахі,
Цемра ахутала.
Ціха. Нікога.

— Ну, памажы ж мне, таемная ночка!
Досыць пазнаў я нядолі, няшчасця.
Хату спаліў ён. Яму ж і сарочка!..
З плеч яе зняўшы, парваў на шкумацце.

Рушыў у змроку паўночнае цішы.
Да свірна прабраўся ён паступова.
Чыркнуў запалку і, зрэб'ем накрыўшы,
Пхнуў у застрэшша сасновай будовы.

Пыхнулі іскры. Выраслі скора
Ў ціхі агеньчык, імкліва-жывучы...

Дым, як вужака, павіўся на гору.
Хлопец адбегся на ўскраіну пушчы.

Сочыць.
Ні знаку пажару сялібы.
Можа падкінуў не гэтак як трэба?
Потым усцешыўся.
Полымя выбух
Сыпнуў снапамі у чорнае неба.

Вецер узняўся. Сурова загушкаў...
Болей і болей пайшло разгарацца.
Скрозь паляцелі чырвоныя птушкі...
І заняліся пакоі палаца.

Помста зрабіла пакутніка дужым.
Дзіўны малюнак яму прыгадаўся —
Быццам на вогнішчы корчыцца вужам
Той, хто нядаўна з бядоты смяяўся.

— Хай жа адпомсціцца гэтая восень.
Я ж пачакаю да лета другога!
Кінуўся сцежкай між елак і сосен...
Гэй жа! Прымайце вы сына ляснога!

* * *

Эй, Беларусь лапцюжная, слухай,
Наша вёска не будзе больш плакаць.

Міхась Чарот

Не, сягоння мы не заплачам —
Нашы вочы гарадь агнём.
Дзе былі для паноў палацы,
Там прамовы вядзе аграном.

То раней была схована воля,
То раней гнулі спіны ў крук,
Сягоння — даёш шматполле!
Замест коней — трактары ў плуг.

Хто бядняк — у пашане і першы —
Беднаты цяпер смелы голас...
У кожнай хаце пачуеш вершы,
Што пяялі Купала і Колас.

Дык чаго мы сягоння заплачам,
Нашы вочы гараць агнём.
Дзе былі для паноў палацы,
Там цяпер — сялянскі нардом.



*Прысвячаю Якубу Коласу*

Засмяялася чырванню раніца
І разліла ў полі праменні...
Ночка цёмная — блудная п'яніца
Засталася ў адных летуценнях...

Праляцелі вятры па-над борам
І папесцілі ласкай асіну...
Запялі лісточкі ў ёй хорам,
Раптам песню учулі... Застылі...

І застыла, заснула асіна,
Разгадаць быццам песнь тую хоча...
Дзе такая, такая краіна,
Адкуль ласкаю вецер скагоча...

Вецер кудры свае паразгойсаў,
Зашаптаў ён, абняўшы асіну —
Я прынёс прывітанне з Заходу
Маладой Беларусі-краіне.

## ДНЯМ НОВЫМ ПЕСНЯ

У жыцці мы сягоння вольныя,
І звініць слоў гарачых рассып,
Дык заграй жа, гармонік, «Лявоніху»!
Дык прырэж жа на ўсе галасы!

Праплыло, знікла гора з бядою,
Праплыло, нібы хвалі Дзвіны.
І вясною, як май маладою,
Мы спаткалі прыгожыя дні.

Іскры золата дзень парассыпаў
На палі, на запылены брук...
Ў прыгожасці ружова-агністай
Рань радзіла другую зару.

Дык спявайце, зялёныя сосны!
Дык шумі ты над рэчкай, чарот!
Заплятуць нечаканыя вёсны
Нашы думы ў вянок пазалот...

Развіталіся з вёскай, лугамі,
Развіталіся ранняй вясной...
Знаю: хутка стальнымі плугамі
Мы шырокай прайдзём баразной...

Дык спявай!.. Нам сягоння весела!
Дык, гармонік, «Лявоніху» грай!
Раскідай салаўінымі песнямі
Нашу радасць у сінюю рань!

Знаю: хутка стальнымі плугамі
Мы шырокай прайдзём баразной...

Дык спявай!.. Нам сягоння весела!
Дык, гармонік, «Лявоніху» грай!
Раскідай салаўінымі песнямі
Нашу радасць у сінюю рань!



Стары друг мой! — стальная каса,
Ты, напэўна, сумуеш па мне?..
Будзем росы з табой рассыпаць,
Што каралямі ззяюць ў траве.

А як сонца прысядзе за лес
І зардзеецца захад малінай,
Будзе песня ад нас ўдаль ляцець,
Запалошчыць узгоркі, лагчыны.

Ў захад ветлы, ліпнёвы — празрысты
Будзе ветрык гуляць у паветры,
А мы з другам маім, гарманістам,
Будзем кідаць мелодыі ветрам...

Прыйдуць, прыйдуць да нас шмат дзяўчат
І мая златакосая Ганна...
Мы на прызбе усядземся ў рад,
Песні будзем спяваць да зaранак...

Дык прыйду... Не пакіну пяяць
На палёх тваіх, родная вёска.
Няхай песняй шуршыць сенажаць,
Хай вясна рассыпае пялёсткі...



Гудок прарэзліва гудзіць...
Ты ж выйдзі, любая, ка мне,
я твой паслухаць хачу смех,
абняць з табой палі, снягі,
паслухаць, як гудок гудзіць...

Там за варштатам ўсе яны...
Усе, аб кім я ўночы сніў,
хто галавы ды не схіліў
ад панскай кулі, ад карцечы...
Цяпер за працаю яны.

І ты там, любая... Ты там!
Дзе пасаў воркат, дзе агонь,
стаіш бадзёрай, маладой,
хоць увушшу машынны гам,
хоць пот ліе... А ты ўсё там.

І я за гэта так люблю
твой пругкі стан і сіні зірк,
маю душу ён маладзіць.
Таму прашу... Прыйдзі ка мне,
я твой паслухаць хачу смех.

## ЗІМА

Зіма! Зіма!
Сінеючая гладзь
мярэшчыцца ў вачох
срабрыстым пералівам.
Хто можа
мой запал
марозным днём
стрымаць,
хто спыніць
мой разгул
вясёласці бурлівай?

Мая душа
ў марозы б'е
званчэй,
прыемней перабор
напруддзя лірных
струн.
Сняговы мой абшар,
пуховая пасцель,—
на санках з тваіх гор
маланкай палячу!

Усплываюць чары дум,
ўсплываюць чарадой,
сцень вечароў даўгіх
марозных ў ражаство,
як клікаў
я мароз
праз шыбы
на куццю,
пужаў марозам дзед
заўсёды перад сном.

Сягоння
я сталей
і не заву цябе.

Бо ўжо не веру я
ў стары дзядовы сказ.
Мне толькі
весялей
марозамі ляцець,
з бубёнцамі ў санях
сняговы пыл
ўздымаць!

Закутаўся ў снягу
зялёны мой
сасняк.
І хмельна галавой
ківае ў белы
свет.
Ой, не хачу я лгаць.
Нікому не салгу,
што я мароз
люблю,
бы той вясновы
цвет.

## КАМСАМОЛ

За плугам, за кніжкай
 з сярпом і кавадлам
вочы агнёвыя
 верай бліпічаць...
Шпарка наперад
 ступнёй камяністаю
крок адбівае
 юнацтва рацъ!

* * *

Ой, у лесе, лесе
 кідаю песні.
Трэллю жалейкі
 я сосны буджу.
У лесе на пасцве
 дужа мне весела...
Вечарам — сход,
 у ячэйку пайду.

Ой, у полі, полі
 рэжу разоры,
пакуль не сядзе
 на поле змрок.
З плугам ваюю
 і з сіўкай гаворым —
трэба ісці сёння
 ў палітгурток...

* * *

Звоняць кавалды,
 сыплюцца іскры,
Цяжка і душна...
 Але ж я рад
біць малатком
 у стальную падушку.

А вечарам слухаць
    пайду я даклад.

Дзень увесь
    за працай.
Вечар — вучоба.
    Проста маланкай
коцяцца дні...
    Дружнаю раццю
за працай свабоднай
    Йдзем мы наперад
да светлых зарніц.

* * *

У лесе і ў полі,
    клубе, заводзе,
ўсюды — юнацкай
    бадзёрасці смех.
Упартай работай
    мы свет новы
        родзім...
Эй, камсамолец!
    За молат і
        серп!

## МЫ НА ЛЕНІНСКІМ ШЛЯХУ

Я помню дзень —
марозны студзень.
На белы снег
палеглі цені.
Прыйшоў дамоў
з марознай сцюжы,
а бацька ў слёзах —
«памёр Ленін!..».

Набеглі вочы
расой-слязамі,
раўком па твары
ў дол пацяклі...
На што пакінуў,
каму аставіў,
наш дарагі,
ты нас,
Ільіч?

...Мятлюга выла
і завывала,
нясла жалобны
слёзны сказ.
Яго няма...
Яго не стала...
На паўдарозе
кінуў нас...

А на услоне
стары дзядуля
засмучан, цьмяны,
сівы твар...
Сэрца старое
жальбой хвалюе —
«пакінуў нас
наш гаспадар!..».

І раптам ціш...
Святлеюць цені,
надзей ў душы
узнік агонь...
Стальную партыю
пакінуў Ленін,
пакінуў Ленін
камсамол!

Узвёў на шлях,
бягучы к сонцу.
Вакол чырвоны
красуе цвет.
Пакінем плач,
мацні калоны,
бо з намі
Ленінскі савет!

Сягоння йдзём
стальной дарогай.
Што дзень бліжэй
агні камун.
Нас збіць з дарогі
ніхто не зможа,
бо мы на
Ленінскім шляху!..

За тры гады
прайшлі не мала,
Не трэба слёз!
Не трэба ліць!
Яго няма,
але ён з намі,
усюды наш
жыве Ільіч!

## ДУМЫ

Навокал сінь...
Навокал гладзь...
Сасонкі ў шэрані
стаяць,
хістаюць плаўна
галавой,
нібы смяюцца
нада мной...
Ну што ж?
Ну што ж?
Што спахмурнеў
ў вачох блакіт,
бо я радзіўся
ў плыні хмар,
а вы ж не зменіце
свой твар!
Калісь было...
І я смяяўся,
І бег тых дзён
быў прыгажэй,
і пахам кветак
упіваўся,
ад ласак шчырых
увесь дрыжэў...
На што?
На што?
Чаго сумую
ў зялёну ноч
і ясны дзень?
Спаткаю зноў
я маладую
вясну у радасці
людзей...
Пайду ў палі,
дзе лёс варожыць,
дзе хвалі — мора
каласоў...

і свой напеў
            там кіну
                        ў пожні
пад шэпт
            ільняных валасоў!
Абніме вецер,
            абніме грудзі,
паклон прышле
            ды пацалунак...
Не будзе сэрца
            скрыпець і нудзіць
у дні, што ў золаце карунак!

## ГОРАД

Горад! Горад!.. Каменныя вуліцы
І адвечны раскацісты гул.
Да грудзей тваіх хто не прытуліцца,
На асфальт не паставіць нагу.

А заводы, гудкі і машыны
Я спазнаў, як калісь васількі...
І цяпер дах увосланы дымам,
Прыгажэй за пунсовы блакіт.

А чаму? — Мо таму, што ў дыме
Столькі тысяч з мазолямі рук!
І грудзямі у сажы худымі
Новых дзён нам саткалі зару.

Мо таму я люблю гэты лёскат,
Грукат, песні сталёвых машын,
Што для нашае зрэбнае вёскі
Тут куюцца плугі, лемяшы.

Мо таму, што я ведаю, знаю,
Што ўжо блізка, так блізка той дзень,
Як над полем зялёным заграе,
Разліецца сталёвая звень.

Дык за тое так сёння вясёла,
У сэрцы вера расце — ў светлы лёс,
Што у родным у бацькавым полі
Новых дзён закрышталіў усплёск.

* * *

Дык пайду я уперад
Па дарозе без сцежак крывых.
Шмат у сэрцы маім яшчэ веры,
Сілы шмат у грудзёх маладых.

Ну, бывае... Хто цёмнаю ноччу
Гадам сіпне: «Не вер... Перастань!»
Але больш загараюцца вочы
І на сэрцы пружыніцца сталь.

* * *

Горад! Горад... Каменныя вуліцы
І адвечны раскацісты гул...
Да грудзей тваіх хто не прытуліцца,
На асфальт не паставіць нагу.

## ПРЫВЕТ ВЯСНЕ

Хутка, хутка ў полі зашуршавіць лісце,
Хутка вецер спёку прынясе з-за гор.
Залатой вясною люба смехам пырскаць,
Пахам дрэў ўпівацца пад зіянне зор.

Залатой вясною я пайду той сцежкай,
Што ідзе далёка у зялёны бор.
Пакланюся руні, курганам, узмежкам,
Зеляніне, ўслаўшай дзіўна касагор.

А з плугам уранку выеду на поле,
Буду пець, араці — з песняй я ару.
Хай гудзяць, спяваюць, хай шумяць таполі!
І вітаюць сёння ясную зару.

Я за працай вольнай не стамлюсь ніколі,
Не завянуць рукі, не астыне кроў.
Ад жыцця мы возьмем, што найлепш і болей,
Бо не дарма ж траціць юнацтва гадоў.

Дык сягоння шчыра я вясну вітаю,
Можа, яшчэ рана, але што ж — няхай,
Бо так люба, добра жыць у родным краю,
Дзе ўладар рабочы, дзе ўладар ратай.

## АДЫШОЎШАЙ

Паглядзі ты сама ў свае вочы,—
То не вочы — паблеклы туман.
Мо таму, што згарэлі ўночы
Пад хрыпоты гармонікі п'янай,
Паглядзі ты сама ў свае вочы...

А жыццё!.. Поўна бруду і гразі,
Безадказная лаянка, хмель.
Ніхто ў сэрца за словам не лазіць,
Скарыстаць каб хвілінай цябе.
А жыццё поўна бруду і гразі.

Ты заўсёды стаіш на панелі,
Ловіш выпадку грош зарабіць.
І грашам аддаеш сваё цела,
Бо гаворыш: «Мне ненашта жыць».
Ты заўсёды стаіш на панелі.

І сатлееш ты там, і згарыш,
І ніхто добрым словам не ўспомніць.
Ў дамавіну сайдзеш без пары,
Не спазнаўшы, чаму сэрца звоніць.
І сатлееш ты там і згарыш.

Ну, няхай, што было то калісьці,
Як ішла зарабляць сабе хлеба:
Маладосць твая вяла, як лісце,
І злятала, не кінуўшы следу.
Ну, няхай, што было так калісьці.

Ну, а сёння чаго ты стаіш тут
І гандлюеш без сораму воч?
Ці не хочаш ісці на работу,
Ці не чуеш, гудзіць як завод.
Ну, а сёння чаго ты стаіш тут?

Паглядзі... Абглядзіся наўкола,
Паглядзі і падумай сама.

І сярод камяніц, і у полі
Працы вольнай бязмежны размах.
Паглядзі, абглядзіся наўкола.

Дык ідзі... Шчэ сягоння не позна
Разам йсці і да мэты адной.
Станеш вольнаю ты і цвярозай,
Станеш зноў прыгажэць маладой.
Дык ідзі, шчэ сягоння не позна.



П. Броўка ў творчай камандзіроўцы-зборах
VII Самарскай кавалерыйскай дывізіі. 1931 г.



П. Броўка і Я. Купала.
Кіславодск. 1940 г.

## АБ САБЕ

Бярозкі!..
Любыя бярозкі,
вы зноў хістаеце чупрынай
там на палёх
радзімай вёскі
у шэпце ветраў
ля даліны.

Вы зноў
вітаеце прыгожасць
вясны з вішнёваю усмешкай,
а я ў жыццёвым карагодзе
згубіў да поля
свайго сцежкі.

А я адзін
вось тут стаю
на гэтай
гораду панелі
і патаемны шум лаўлю
будынкаў хмурых,
пасівелых.

І тут я...
Першы пакахаў
зірк незнаёмае дзяўчыны.
І сэрца гнецца далавах,
кіпіць ў нязнанай гарачыні.

Яе...
Вось тут я пакахаў,
а пра яе
зусім не знаю.
У кветках залатога дня
сваё ёй сэрца расхлістаю.

Мама!
Ты, можа, думаеш, што я
забыў цябе
і ўжо пакінуў.
Дык знай ты, родная мая,
што ты заўсёды ў сэрцы сына.

Я думаю
вось тут цяпер
аб тэй чарнявенькай дзяўчыне,
а роем думкі ў галаве
ткуць залацістыя тканіны.

Ты выйдзеш, мама, на дарожку,
дзе слёзы
сыпала мне ўслед,
і будзеш доўга стаяць моўчкі
з пяшчотнай думкай аба мне.

Матуля родная,
ты ў слёзах
дзён шчасця будзеш марыць мне
і сына роднага прыгожым
не раз
убачыш ува сне.

А каб я мог
табе, матуля,
пра ўсё жыццё сваё сказаць,
ты б знала, як сыночка туліць
тых неабсяжных вуліц гладзь.

Ты б знала мо,
чаму я кінуў
палі
і гушчы стромкіх сосен,
і ты мне, родная, сказала б
спяяць мо песеньку на ростань.

* * *

Я так люблю
заход ружовы
і промняў
залацісты куль.

А больш люблю
раскат сталёвы
і вуліцы нязмоўчны гул.

Дык вось таму
я не прыйду
туды, дзе рос
і дзе радзіўся,
бо для мяне
радзіма тут,
дзе праца з песняю
зліліся.



У брыльянтных росах
срэбрам льюцца далі.
Дзень палошча косы
ў золаце, крышталях.

А па-над узгоркам
сонейка смяецца,
то прыжмурыць вока,
то адчыніць века.

А ў радзімым полі —
ўсюды льюцца песні,
то пяюць таполі,
новай казкай весняць.

Не бываць ўжо «голым»
у бядзе, у горы,
бо штоночку болей
чырванеюць зоры.

Бо штодзень, то болей
зеляненюць гоні.
І ў квітнёвых долах
ярчэй кветкі звоняць.

Вецер й то упарты
ўжо змяніў натуру,—
толькі водзіць жарты
з дзеўкай белакурай.

З дзеўкай белакурай,
стройнаю бярозкай
і разносіць ў полі
песенек пялёсткі.

Не гудзіць, не стогне,
не жальбуе сэрца

і з напевам нудным
ля вуглоў не ўецца.

Толькі часам штосьці
вецер засумуе,
ціха загалосіць,
бы дзе стогн пачуе.
Каля хат патрэцца
і гаворыць: «Лётаў,
аж параніў сэрца
я сваё на дроце».

«Там вось за мяжою
ліецца кроў руччамі,
чуў, як ў панскіх турмах
бразгацяць ключамі».
. . . . . . . . . .

* * *

Дык скажы ім, вецер,
шапані на вушка,
што ім лёс засвеціць,
шчасцем будзе гушкаць.

Больш ўжо не параніш,
вецер, сваё сэрца.
Хутка! Хутка ранне,
калі дрот парвецца.

А на родных гонях
дзень даўно казычыць,
кветкі ў полі звоняць,
спеў бяроз крынічыць...

## М. БАГДАНОВІЧУ

На чужыне ў далі не чуў песень і слоў
Ты аб роднай сваёй Беларусі.
...Граў на ліры аб ёй, паіграў і замоўк,
І замоўк у жыцця завірусе.

Але песня твая, што злятала са струн
Залатой і нязмоўчнае ліры,
Адшукала табе родны кут — Беларусь
І зарніцай ў палёх заіскрыла.

Яна йшла на палі, на запылены брук,
Скалыхнула бязмежную гладзь.
Дарагі наш пясняр! Хто б так мог Беларусь
Мала ведаць і гэтак кахаць?

Але гора... Спрадвечнае гора,
Слёзы, стогны і енкі братоў
Грудзі сціснулі боллю-дакорам
І жыцця супынілі разгон.

Твая песня жыве. Яна вечна.
Яна будзе стагоддзямі жыць.
Ёй бурліць і хвалюецца рэчка,
Ёй шумяць каласы ля мяжы.

Хай жа, хай на далёкім узмор'і
Па-над хатай апошняй тваёй
Прывітаннем засвецяцца зоры
Беларускіх зялёных палёў.

## АБ ЧЫМ ЗВІНІЦЬ ДУША...

А дні ляцяць... мяняецца аблічча.
І на душы не так звініць струна.
І тую, ля якой калісьці гнуўся ніцам,
Цяпер гатоў зусім не дакранаць.

Штодзень ўсё новыя і новыя усплёскі.
Іначай сэрца б'е і зірк вачэй гарыць.
І тую, што кахаў калісьці ў роднай вёсцы,
Не помню сам, з якое ўжо пары...

Ах, што са мной? Душа, скажы, скажы мне!
Чаму мяняецца каханне? Для чаго?..
Не раз казаў, што вочы тыя сінія
Я не запомню ў тысячах гадоў.

Чаму ж цяпер іначай гавару я,
Што чорных воч няма і прыгажэй.
І песню з палкіх слоў складаю залатую.
Ўсё ёй адной... Адной... Адной.

Ці можа гэта быць? Ці можа гэта стацца,
Што я другой пачну зноў варажыць,
Што прыйдзецца калі мо развітацца,
Не дачакаўшы праблiскаў зары?

Не! Не! Ўжо болей не хачу я...
Каго любіць?.. І што за чалавек,
Каб кінуцца каханнем ўрассыпную,
Як ліпа ў ліпені кідае жоўты цвет?

Адной пяю і аб адной я мару
І болей не хачу ніколі нікаго.
Вазьму сваю бясструнную гітару
І напяваць пайду ў даль за сяло.

І там, дзе так шумяць старыя ліпы
Праз сцень гадоў карункамі лістоў,

Я голасам такім пакорным, сціплым
Зноў запяю... Пра што? — ўсё пра любоў.

А травы слухаць будуць мяне, знаю,
Мяне ж ніколі ім не зразумець.
Шаптацца таямніцай будуць з гаем,
Я ж буду пець, і пець, і пець...

Але прыйдзе адна, адна, што зразумее,
Яна у свеце цэлым прыгажэй.
І на вачох яе стамлёны жар замлее
З уздыхам палкім з песенных грудзей.

Таму пяю, таму і не сумую
І так упэўнена дарогаю іду,
Што не патрачу свежасць маладую,
Што не патрачу светлакрылых дум.

## О, БЕЛАРУСЬ...

О, Беларусь...
        Так цяжка ўспамінаць.
О, не! Той год
        ніколі не забудзем,
калі ў крыві
        купалася мяжа
і помста так
        паліла сэрца, грудзі.
. . . . . . . . . . .

Стаялі хаты
        шэрыя, у мгле.
Груган-драпежнік
        лётаў па-над вёскай.
О, хто ў той час
        душою не хварэў?
Хто ласкі не адведаў
        панска-польскай?

Лілася кроў...
        Нясліся стогны, енкі.
Стагнаў мужык
        пад панскім бізуном.
А ў палацы
        жандары і паненкі
спраўлялі баль,
        руччом лілі віно...
. . . . . . . . . . .

О, тыя дні
        так цяжка ўспамінаць,
бо ў успамінах —
        брудныя малюнкі.
О, каб умеў
        тады ўжо страляць,
яснавяльможных збіў бы
        пастарункі.

А вось цяпер
усе стралянь умеем.
І кожны з нас
не пусціць дарма кулі,
хоць за сто вёрст
па ворагу пацэлім,
нездарма ж ў волі
рукі адпачнулі.

І помста шчэ
палае у грудзёх.
А сілы хопіць,
знаю — разлічуся...
Хай загудзіць
трывогаю гудок,—
замест пяра
вазьму вінтоўку ў рукі.

А колькі нас,
ад молату, сахі!
Эх, Чэмберлен!
Не злічыш і мільёнаў,
як выйдзем ўсе
краіну бараніць
ад абжырал,
ад залатых пагонаў.

О, Беларусь!..
Красуй жа і цвіці.
Якой была,
такою ўжо не будзеш.
Калі ў вачох
адвагі б'юць агні,
калі палаюць
ў помсце грудзі...

## ЗВОНЫ СЭРЦА

Залівайся, гармонік, за зрубам,
Грай, тамянка, ды каб весялей!
На спатканне пайду я да любай,
Сэрца вымачу ў хвалях надзей...

Выйду ў поле у вечар чароўны...
Ой, ці прыйдзе туды альбо не...
Дзе пазвіслі зялёныя клёны
Галавою віхрастай к зямле.

Даль укрылася з зелені коўдрай,
Спяць аўсы у таемным шаптанні...
Гэтак весела там і так добра
Прасядзець удваіх да світання.

На абрус сіні высыпяць зоры,
Месяц пойдзе між іх карагод.
Зікнуць роспач, журба і дакоры,
Захліпнуцца за дальняй гарой.

О, як хочацца там распластацца,
Песні пець на ўсе поле і шыр...
Вось чаму за туманнаю гаццю
Ў пералівах звіняць каласы.

Дык іграй жа! Іграй жа, тамянка,
Сып акорды, ды каб весялей!
Ўжо за лесам згараюць заранкі,
Пацалункі пакінуць зямле.

## ТАГАНЫ

Шуршаць нахіленыя нізка
Сярпом бліскучым каласы.
А воддаль звешана калыска
На дроўляныя таганы.

О маці, маці, колькі з іх
Сваіх дзяцей ты ўзгадавала.
На гэтых коліках прастых
Іх у знямозе ты люляла.

І калі з гэтых таганоў
Дзяціны плач разносіў вецер,—
Ты йшла з пахілай галавой
Пяшчотай матчынай уцешыць.

А колькі раз было і так,
Што плач без ўцехі захліпаўся...
Ты не магла яго суняць,
Хоць боль у сэрцы і лілася.

Пякліся грудзі палыном,
А рукі жыта нахілялі.
Бо блізка панскі аканом
Махаў і пудзіў бізунамі...

. . . . . . . . . . .

Таго няма ўжо... й таганы
На полі жытнім не звісаюць...
Мо хіба часам цыганы
Аб іх напомняць шалашамі.

## НЕ СУМУЙ, МАТУЛЯ!..

А за плотам гнуцца ў чырвані рабіны,
Ападае лісце на пажоўклы дол...
Праважае сёння Тэкля свайго сына,
Выцірае ціха вочы падалом.

— Не сумуй! Навошта... родная матуля,
За цябе, за волю я служыць іду.
Помніш, было горка, як ляцелі кулі,
Абсыпалі поле і забыты луг...

— Помніш, выла восень — зверам ашалелым,
І душыла душы бедных мужыкоў...
Вось за тое сёння з гонарам і смела
Бараніць краіну я ісці гатоў.

— Не таму, сыночак родненькі, сумую,
Што ты пойдзеш сёння бараніць Савет,
Мы адчулі добра непагадзь ліхую,
Мы спазналі добра ласку й панскі хлеб.

А таму што неяк, неяк сэрцу сумна,
Дзве зімы і вёсны пройдуць без цябе...
А на пачарнелых ад марозу гумнах
Сыпле, бы праз сіта, жорсткі белы снег.

— Не сумуй, не трэба, лепш паганарыся,
Што твой сын на варту за Савет ідзе,
І перад вачыма — сцежкі завіліся,
Што ад шэрай хаты павялі ўдаль след.

## ЧУЮ ЗВОН...

Чую звон
я з вялікай званіцы.
Гоман медзі
ўсцілае прастор.
Мо таму
мне сягоння не спіцца,
думкі носяцца
ў далі віхрам...
Гэты звон
шчэ маленькім падслухаў.
Помню,
быў мне
дванаццаты год.
О! Той год
неяк грозна так рухаў
(на паноў йшоў працоўны народ).
Часам звон
у далі захліпаўся...
(Горкі дым быў
гарматаў і стрэльбаў.)
Не адзін
з галавой развітаўся,—
хто свабоды шукаў
і хлеба.
Не адзін крывёю пякучай
разліваў асфальт на панелі.
Не адзін,
не адзін лёг пад кручаю,
кроў разліў
па імшарах
і ельніку.
А звон
усё гучэў, разрастаўся:
клікаў нівы,
варштаты ў адно...
Гэты звон
Кастрычнікам зваўся,

што прагнаў
фабрыкантаў,
паноў.
Патушылі пажары,
на попеле іх
краіна мая,
як пралеска, ўсцвіла.
Дык сёння таму
жарам вочы гарадь.
А звон
ўсё звініць,
усё кліча, яшчэ
наперадзе шмат
барацьбы й перамог...
Калі будзе трэба —
мы пойдзем усе,
маладых і бадзёрых
нас многа!

## 10 ГОД

Дзесяты Кастрычнік!
Дзесяты!
Сёння спаткалі мы.
Святкуюць драўляныя хаты
вольнасць Савецкай зямлі.
Святкуюць і хмурыя трубы
(над крышай не сцелецца дым),
Кастрычнік!
Кастрычнік мой любы!
Кастрычнік ты мой малады!
Табе
усяго толькі дзесяць
(малы ў гэты год шчэ дзіцё).
З табой жа зрабілі за дзвесце,
Сусвет ты кладзеш да ног [...]
Калоссі,
шуміце! Шуміце!
Кастрычнік напеў
для вас склаў.
Дзе косці разносіў
трухлявыя вецер,
там вольнасць
краіны ўзрасла.
Мацней, барабан,
грымі піянераў!
Вышэй жа,
таварышы, сцяг!
Кастрычнік ў дваццаты
вядзе нас уперад,
Кастрычнік уперадзе нас.
Адзін за адным
стальнымі радамі
ідзём,
бачым Ленінскі шлях.
Мы дружна сягоння
Кастрычнік вітаем,
вітаем Кастрычнік:
У-р-р-а-а!



М. Лынькоў, М. Паслядовіч, Я. Купала,
М. Танк, П. Броўка ў час сустрэчы з чытачамі.
1940 г.

## УСПАМІНЫ

Успомню часамі,
і хочацца плакаць:
дзе ты, мой родненькі, дзе?
Помню ў апошні
цябе раз у хаце —
слёзы ліліся ўвесь дзень.
Ты быў тады
задумёны, суровы...
на плечах вісеў карабін.
Боллю твае апушчаліся бровы,
а ты мяне к сэрцу тулїў.
Ты гаварыў мне,
а твар усё хмурыў:
— Дзетка, бывай мой, бывай!
Клічуць мяне там,
дзе боек віхуры,
пыхае ў полымі край.

* * *

Санліва ківаў
галавамі сасоннік,
туман шэры мхі ўсцілаў...
Што да таго,
калі толькі спрасоння,
спаў альбо ты і не спаў?
Ломіцца ціха
суччa ад ветак,
кусты абдымаюць твой стан...
А ты толькі знай:
крой; але метка,
туды дзе варушыцца пан.
Цэліць Курыла,
рухі ў напруддзі,
вочы стралою у даль...
Помніцца добра —
вёска за прудам,
сям'ю дзе сваю пакідаў.

Горыч шчэ болей
хапае за сэрца,
у думках: што трэба панам?
Бачыць —
а ротны ускочыў і першы
з крыкам:
— Хлопцы! У-р-р-а!
Маланкай схапіўся,
імчыцца без сцежкі,
ног ён не чуе —
нясуць,
а губы так шэпчуць:
— Сцервы... Эх, сцервы!..
Не быць вам сягоння тут.

* * *

Змоўк назаўсёды.
Ў лясу развітаўся
з думкай аб вольнасці дзён.
А з сэрца сачылася кроў
і ціклася
пад сумныя шэпты сасён.
Ротны з прамоваю:
— Сёння мы рана
ворагам далі напіць.
Дайце цяпер і братоў пахаваем.
Бачыш —
Курыла ляжыць...

## ЧЫРВОНААРМЕЙЦУ

Ну, як забыцца,
як не напісаць
ліста табе, мой любы дружа,
цяпер у нас —
снягоў парча,
марозы скачуць, вее сцюжа...

А зоры ў небе,
ў небе зоры,
нібыта свечкамі гараць...
Ты пішаш —
ходзіш на дазоры,
ты пішаш —
вучышся страляць.

Калі чытаў,
дык рад быў дужа,
што ты у роце выбіў прыз.
Я так і знаў,
што ты, мой дружа,
не падзеш галавою ўніз.

Я знаю:
ў светлы Першы май
ты пройдзеш вуліцай парадам.
Вас будуць ўсе —
глядзець, вітаць
з чырвонаармейскаю прысягай.

А ты, вінтоўкі
ўзняўшы штык,
я знаю, з гонарам ты скажаш:
— Я камунар... Я бальшавік,
калі патрэбна —
касцьмі лягу
за волю роднае краіны,
а з рук аружжа я не кіну.

Бацькі твае
па-стараму жывуць.
Прывезлі бёрны
ладзіць хату,
падзарабілі, ездзячы на рум,
к таму ж —
ім скінулі падатак.

На вёсцы моладзь
ходзіць ў клуб,
там то спектаклі, вечарыны...
Ага... Анюта ўзяла шлюб
з Міколам, Карпяёнка сынам.
Цяпер
вясёла ў нас,
хоць і зімой,
снягамі пырскае мятлюга.
А ты вучыся, брат,
каб цяжкаю парой
адбараніць бацькоў, радзіму, друга.

## ДАЎНЕЙШАЕ

Гулка у лесе
        крычала сава...
Ціха ўздрыгнулі
        ля рэчкі асокі.
Месяц купае
        свой твар бледнавокі,
шэпчацца ціха
        ля бору трава...
Ціш-ш-а...
        Ой, ціш-ша!..
— Янка, то ты? —
        — Я, дарагі мой!..
— Ну, стань тут,
        са мною,
        сёння на вёсцы
паны-палякі.
        Нашы схаваліся
там, за гарою,
бачыш?
        Ці бачыш?!
        Вёска гарыць!..
...Полымя
        водбліскі сыпле па полю,
зайцамі скача
        па жытніх застрэхах...
Толькі засмужаны
        шызы таполю,
з гора прыжмурыў
        ліцсвяныя векі.
Крыкі ля хатак,
        стогны... І енкі...
Янка!..
        Сымоне!..
Чуеш ты, бачыш?!
        Бедныя вёскі... Бедныя маткі,
бедныя,
        бедныя,
бедныя людзі.

Маеш вінтоўку?
Ці маеш зарады?!
Бах... звяк!..
Бах... Бах-х...
Пок... Пок.
Дзынь... Дзынь...
Янка?!
Патрон ужо толькі адзін,
Янка, даруй!
Бывай, белы свет!..
І Янка патрон
скарыстаў на сабе...
Гулка у лесе
крычала сава...
Ціха ўздрыгнулі
ля рэчкі асокі.
І ў кашлатых
сасён галавах
месяц купае
свой твар бледнавокі...
Шэпчацца ціха
ля бору трава...

## ЧАКАННЕ

Ціха спусцілася ноч,
далі купаюцца
ў сівым тумане.
Толькі гаворыць
завод
голасам сіплым і надарваным.

Ведаю сам:
яна там!
Але стаю ля Дзвіны і чакаю.
Слухаю вуліц раз'юшаных гам.
Жарты
на ўзбярэжжы ўспененых хваляў.

Гляджу і любуюся:
радасць вакол
так і гуляе у водары зыбкім.
Любай краіне
даю я паклон,
за шчасце вясёласць
спявае малітвы.

Вецер прылёг
і схаваўся ў трысці,
месяц лунае
на згібінах вежаў.
Ты ж абяцала
напэўна прыйсці.
Я ўсё чакаю, чакаю,
а дзе ж ты?

Сэрца, пастой!
Ах пастой, не гручы...
Вунь і яна ўжо
так рупна шагае.
Любая!..
Любы!..

Так добра спачыць,
бачыш, і зоры
прыветна міргаюць.

Вецер знянацку
панёсся наўсцяж...
Хвалі ж бурліва,
разгонна ракочуць...
Сядзь, дарагая, сядзь,
дай палюбуюся
ў сінія вочы.
Сядзь,
абдыму, абдыму,
пацалую,
сэрцу ж
так цёпла ў грудзёх...
Славіць давайма
вясну залатую
сёння на беразе ўдвох.
Ціха спусцілася ноч,
далі купаюцца
ў сівым тумане.
Толькі гаворыць
завод
голасам сіплым і надарваным.

## НЕ ВЫГІНАЙ СВАЕ ДАЛОНІ

Не выгінай
свае далоні
і пасмы кос
не раскідай,
калі у садзе
цвітуць півоні,
а ў ночы
светлякі гараць.
Не выгінай
свае далоні!

І безнадзейны
погляд воч
ты не кідай
дарэмна небу.
Хоць мо на сэрца
села ноч,
але слёз
роспачы не трэба,
бо кожны
да жыцця ахвоч.

Ну, што з таго,
калі ён здрадзіў,
калі другую
ўжо кахае...
Любоў, няйначай,
звонкі садзік —
цвіце,
красуе, ападае
і зноў
нанова расквітае.

Ты маладая,
ты прыгожа,

а у жыцці шмат
розных змен...
Ты пакахаць шчэ
палка можаш,—
пабач,
як месячык плыве
па шэра-сіняй
дарозе...

## ДАЙЦЕ НОВУЮ МУЗЫКУ

Дайце
новую музыку!
новыя струны!
і мелодыі дзіўныя дайце!
Я хачу:
каб замест паніхіды хаўтурнай
новы марш —
Беларусі іграць.

Я хачу:
песні новыя скласці,
ў словах шчасця,
забыўшы пра гора.
Я хачу:
на трактар ускласці
і на вёску
завезці горад.

Я хачу:
каб ў вяселлі вясёлым
нас, бадзёрых,
сышлося там многа:
песняй звонкаю
сыпаць над полем,
над імшарамі,
лесам і логам.

Дайце
новую музыку!
новыя струны!
і мелодыі дзіўныя дайце!
Я хачу:
каб замест паніхіды хаўтурнай
новы марш —
Беларусі іграць.

*VI выпуску Полацкага педтэхнікума —*
*прысвячаю*

* * *

Разлівайся,
вясёлы гімн,
бачыш, к працы
ідуць яны.
І на полі
ў зялёнай вясне,
хаты шлюць
найгарачы прывет.
Многа, многа,
ой, колькі ім
трэба выкінуць
свежых сіл!
Колькі трэба
гадоў, гадзін,
каб у вялікія
выйсці дні.
Каб у вясёлым жыцці
цвісці,
многа пройдзена,
шмат ісці.
Час вялікі,
адказны час,
пашкадуе хто
сілы з вас?!
Сустракайце
ізноў, палі,
ад вас выйшлі,
да вас прыйшлі.

## ПРА НОВАЕ

Пастой!.. Пачакай!..
Я такою не бачыў цябе,
знаеш, ты прыгажэйшаю стала.
Ля мяне разляглася арцель
з ціхазвоннымі ў вечар садамі.
Ты ўжо тут!
Дарагая, тут!
Дзе так многа красы і змагання,
дзе ля возера шастае луг,
услаўляючы шчаснае ранне,
ты ўжо тут!
Ну, сядай...
Павядай мне, калі
ты на новыя сцежкі.
А ля млявых у соне ракіт
салавей зацягнуў аб любімай
ля ракі.
Ах, Пятрусь!..
Знаеш сам, многа змен,
многа новага, ўсё не раскажаш,
па залеташняй шчэ вясне
была сходка у нас, у Жарах.
Гаманілі, крычалі шмат,
знаеш, брат-беларус асцярожны,
адзін кажа: «й па-стараму можна»,
а крычалі задужа шмат.
Колькі там з гарачынню галоў
рагаталі, пацелі, тужылі...
Пакуль ўрэшце ўсім нашым сялом
на арцель перайсці парашылі,
ўсім сялом.
Ну, а больш...
Сам ты бачыш цяпер,
слоў не трэба, не трэба слоў.
Сонца ўжо асядала за лес,
промнем грала, нібы памялом,
за сялом...

Ідзе з поля запылены трактар,
няма стомы, напеў адзін.
А за дзень ён ўсяго адшарахаў
чуць не з малым сто дзесяцін,
ідзе трактар...

* * *

Знаю, любімая, знаю,
шчасце вітае над краем.
Хутка балотныя стэпы
будуць Амерыкі лепей.
Месяц плыве над ракою
з ціхім і сонным дакорам,
што ўжо яго любаванню
шкодзіць электрыкі ззянне.
Двор ля пакояў убраны
лепш, чымся пават у пана,
Піхта ў шаўковым тумане
арцельны вартуе ганак.

* * *

Родная!..
                    Гэтак прыгожа,
гэтак прыгожа вакол!..
У ціхім шаптанні бярозы
ветру дарылі паклон.
Новае,
               дужа ўжо новае
ўсюды красуе,
                              цвіце.
Ах вы, ўзгоркі сасновыя,
новы ўбачылі свет.
Я ж не чакаў і не думаў
такою цябе сустрэць,
пад палка-кляновыя шумы
ў вочы твае глядзець.
Бацька таксама з табою?!
Бедны, стары карчмар...
— Сёння ён трактарам гоц
пад капюшыну араў...

Родная!.. Як перадаць мне
шчасце такое, каму?!
І ў алкаголі акацый
яе дакрануўся я губ.
Так.
Ну, бывай, дарагая!
Весела, добра так...
У жоўта-лілёвую завяць
зоры лажыліся спаць.

## НА ВУЧОБУ

Плывуць па пероне
апошнія зовы...
Бывай!.. Не запомніш мяне?!
І ружовасць на шчоках
і з сэрца здаровы
вяснянкамі коціцца смех...
Ах, колькі дарог!
І якія прамыя!
Ідзі толькі смела,
ідзі, не глядзі!..
Там вербы —
у сінюю ноч — залатыя
фабрычным падмосткам
трымаюць агні.
Ля іх буду я,
і яна пэўна будзе.
А пакуль за кніжку,
за лекцыю сядзь.
Няхай словам сталі
гартуюцца грудзі,
хай Леніным, Марксам кіпіць галава.
Ці чуеш,
ці бачыш, у садзе вішнёвым
пра новае Заўтра іграе аркестр?
Пайду без сумнення
к дарогам я новым,
пайду... І чакаю цябе.
Ты прыйдзеш, я знаю,
дарогі не здрадзяць,
ты прыйдзеш?!
Я ведаю добра цябе...
І тут твой задорны
ў фабрычных фасадах
гарохам рассыплецца смех...

## ЗНОЎ НА ВЁСЦЫ

Прыехаў.
Іду па дарозе
і як гаспадар аглядаю.
Чагосьці здалёку бяроза
зялёнаю хусткайківае.

Прайшоўся сасновай алеяй,
ў пякоце ядленец замлеў...
— Дзень добры, дзядуля Ярэма!..
І ты ўжо
ўпісаўся ў арцель?

— А як жа ты думаў,
сынок мой!..
Так лепш
і куды спадручней.
Нічога... І хлеба даволі,
і сэрцу нібы весялей.

Стаіць...
Прыпыніўся на хвілю,
паклаў на ўзмежак тапор,
а вецер пяшчотна гуллівы
гуляе з сівой барадой.

Пятрок мой!..
Спачатку баяўся
ў «камунію» гэтую йсці,
бо думаў, што косці старыя
не будзе каму аднясці.

Цяпер жа... Ніхто...
Аглядзеўся,
раблю ўсё па сіле сваёй,
як бачыш, крыху
прыадзеўся,
ніхто ўжо не кпіне, што голь.

Ну, добра!..
Бывай жа, мой любы,
тут трэба вось скончыць прасек.
Здзіўленне мяне агарнула
аб зменнай такой паласе.

На полі гручэлі машыны,
і песні —
віселі ўгары,
а сонца пазлотай абліла
паводдаль прыжмураны лес.

Ярэма, мой стары знаёмы,
з дзяцінства
я знаю яго.
Калісьці палезжы па грушы,
адчуў яго тоўсты кіёк.

Здаецца, калі тут...
Нядаўна
Ярэма мой быў не такі,
і слова «камунія»
кляў ён,
а сёння ўжо так палюбіў.

Запалі чаромхі
на сэрца,
а ў вачох заіскрыў агонь,
што людзі ў далёкае верацъ
і смела ідуць да яго.

Іду зноў
па стужцы-дарозе,
вясёлы... Бадзёра спяваю.
А здалёку ветла бяроза
зялёнаю хусткай ківае.



Дні цякуць, нібы кроплі праз сіта,
не стрымаць хады пэўнае ног...
Абдымаюцца ў полі ракіты,
павяваючы радасным сном.

Зоры й тыя у срэбным убранні,
б'юць ў далоні і скачуць на дол,
бы дружкі й шафярыцы з сватамі
за вясельным гуляюць сталом.

Нейк хаўтурна замоўклі капліцы,
крыж пахілы мінуўшчыну спіць,
што даўно ўжо званы на званіцы
сабіралі папу пятакі.

Час дарэмна мы траціць не любім,
у нас новы — машынны звон.
Толькі часам са дзве-тры бабулі
ля налою пакінуць паклон.

Нас завуць... Мы ідзём і спяваем,
творым новае: песні і цвет.
Не адну шчэ душу пахаваем
ў будаванні жыцця, ў барацьбе.

Дні цякуць, нібы кроплі праз сіта,
не стрымаць хады пэўнае ног...
Абдымаюцца ў полі ракіты,
павяваючы радасным сном.

## У ВОЛЬНЫ ЧАС

Апошні сноп зары растаяў...
Застыглі сцені ля вакон.
І клён да брамы нахіляе
сваё зялёнае чало.
На гумнах вечару узоры,
а ў полі — сіняя тайга.
Ты помніш, я прасіў учора
мяне ля рэчкі пачакаць.
Ну, стань бліжэй! Са мною разам.
Над полем месяца вянок...
Бярозы дум наміты вяжуць
на рушнікі былых шнуроў.
Такі размах! Такая воля!
Люблю вясны барвовы смех.
Здалёк гудкі гудуць да болю,
каб ў поле крыкнуць галасней.
Ды пранясціся у прасторы,
каб страпянулася душа.
Жалезны конь там тараторыць
ды баразною кладзе шаг.
О, моц вялікая і злая!
Хто роўны, хто? Скажы, скажы!..
Пабач, у грэчцы пахаваны
адбіткі старае мяжы.
А дзесьці — дзе над пералогам,
залапаталі таланы.
Нам дадзена загэтак многа,—
смяяцца, радавацца, жыць.
Мая радзіма — звонкі Май,
люблю цябе, люблю такую.
Ты беражы і захавай
сябе на бойку зямляную.

## ПАЛІ ЗАВУЦЬ

Гады ізноў завуць гарэць...
Ты помніш: ў полымі аблог
Каля варот хадзіла смерць
На высачэзных кастылёх.

Тады нямеў фабрычны двор
І вецер кідаўся на тракт...
Мы прамянялі на сядло
І свой рубільнік, і варштат.

На скрыжаваннях барыкад
Наш твар ад пораху сінеў.
Мая прабітая рука,
Як сымбаль бойкі у мяне.

Ты помніш говары страмён?
Праз горы, рэкі і равы
Мы смерць вазілі і праклён
У нашых шаблях баявых.

І мы свой скончылі паход,
Адгаварыў апошні штурм...
. . . . . . . . . . .
Тады прынеслі на завод
Мы свае рукі і душу.

* * *

А я цяпер інакшым спецам
Спаткаў нахмураны вакзал.
Мне даў райком другое сэрца,
Другія думы і запал.

А на дварэ вясны запеў
Зіму дашчэнту пакрышыў...
Я праз вакно майго купэ
Гарэў ля топак і машын.

На пожні селі журавы,
Вагон дарожны мёў пясок...
I я з пасёлкам веснавым
Прачнуўся на гудок.

Мне зноў жадалася у цэх,
Узняць знаёмы ватэрпас.
Аднак ляжала у руцэ
Пуцёўка у калгас.

А з ёю столькі дум ішло,
Ну, проста вырашыць не мог.
I тут радзіму я знайшоў
У параскіданых палёх.

Цягнік імчаўся па начох...
Мне трэба станцыя адна!
Я прабаваў сваім плячом
Вагоны падагнаць.

I мне, здавалася, крычаў
Вясновы наш калгас:
— Адсюль вагоны паімчаць
На поўнач, на Данбас!

I не радкамі, баразной
Напісаны іх план.
Дык гэта вось паўстанак мой,
Савецкая зямля!

Ды звалі ўперад купы хат
За прадзівам галін,
I я пакляўся пакахаць
Як свой завод — палі.

## САВЕЦКІ ПАРАД

Сонца-аратар
        над вежамі стала.
Тысячы комінаў
        выйшлі на сходку.
Кожнаю вуліцай,
        кожным кварталам
горад змагаецца
        за пяцігодку.
Провад для маршу —
        найлепшыя струны
ад гэтае музыкі —
        свету прачнуцца.
Ля кожнае топкі —
        драбніцы камуны,
пажары і буры,
        агні рэвалюцый.
Да міліметру
        разлічаны сілы,
кожны рабочы
        улічаны мускул,
адвечнае багны
        асушаны мілі,
загаварылі турбінамі пусткі.
Імчаць цягнікі
        ад савецкіх вакзалаў,
да новых паўстанкаў
        і станцый далёкіх.
Вясна-камуністка
        ударніцай стала
з сяўнёй за плячыма
        у полі шырокім.
З нас кожны сягоння
        нічым не пагрэбаў.
І ў гэтых астатніх
        вялікіх паходах
смачнее кавалак
        чорнага хлеба,

калі карпусы
        ўзнімаюцца горда.
Сонца прымае
        фабрычныя маршы...
Шарэнгі заводаў —
        савецкі народ.
Моладасць ўключым
        ў рубільнікі нашы,
сэрца і рукі
        хай возьмуць варштат.

## ЦЭХАВЫЯ БУДНІ

*Ударнікам Добрушскай папяровай*
*фабрыкі «Герой Працы» прысвячаю*

I

Словам камуны кліча уперад —
папера.
Б'ем мы ударна бастыліі і цемры —
паперай.
Думкі далёка шугаюць наперад —
з паперай.
Лепшы ударнік, чуеш, і цяпер нам —
папера.
Дамо пяцігодцы колькі ёй трэба —
паперы.

II

Стаім
ля штурвалаў.
Ідзём поўным ходам.
Нам кожны кавалак,
што золата,
дораг.
Змагацца з запалам
і згінуць —
не шкода.
Стаім
ля штурвалаў.
Ідзём поўным ходам.
Мы тэмпы
паскорым,
каб стройным
паходам
прайсці
семафоры
чацвёртага году.

III

Бачылі, як
рукамі трэцяга,
пульсам
вялікага
нашага плану
прынялі заводы
машыннымі сэрцамі
электрычныя нервы
турбін Асінстану.
І загаварылі маторы —
скора.
І закруціліся колы —
вясёла.
Завуць правады:
— Сюды!
Сюды!
Сюды,
дзе пот
ударных рот.
Мы важым сябе
вагой рэвалюцыі.
Патрэбен —
змагайся ўсімі рукамі,
Ідзі ў квартал,
на пляц,
на вуліцу!
Бяры ў палон
і жалеза
і камень.
І расці кварталам
нашым,
І расці камбінатам
раптам.
Мы льём бетон
на многа тон,
каб мог стаяць
камун палац.
Бач:
у канвульсіях
мучыцца нэп,
яго шкадаваць
не варта нам.

Глядзі:
бальшавіцкі
калгасны хлеб
ступае
ў свае элеватары.
І запрацавалі жняяркі
шпарка.
Вясна ў сяўбе,
у барацьбе
карчуе нэп
за новы хлеб.
Кожны дзень
і кожны год,
згінаючы
свой стан
рухавы,
крадзецца вораг
за мяжой.
Ў кішэні
ножык
і дукаты!
А мы плячыма,
што пранеслі фронт
ад мора да Варшавы,
рукамі,
што міністраў кідалі
за краты,
нагамі, што прамералі баі
ў абмотках —
я знаю,
што ніколі
не прыстанем,—
мы вынесем,
як грунт,
паставім пяцігодку
на пляц камун,
без меж
і акіянаў.
І сілай руд
Магнесабуд
свой кінуў марш
у Гомсельмаш
на поўны ход,
на штурм балот.

## IV

І ў гэтыя дні,
калі
творчымі жыламі
звязаны
нашы
ўдарныя звенні,
вораг
з усмешкаю
кракадзілавай
сціскае штылет
у глыбокай кішэні.
Устаньце ж,
вялікіх гадзін
камісары!
І так, як тады,
без жалю,
да смерці!
Патройце ўдары!
Патройце ўдары!
Па гадах,
што жаляць
у самае сэрца.

## V

Вярста
за вярстой
мы рвёмся
наперад.
Мы б'ёмся
за торф,
за руду,
за паперу.
Паўстанкі мінаем.
Хай сцюжа
і спёка,
хто рэйкі
ламае,
кладзецца
на рэйкі.
Навошта
паходні?

Нам — светлыя ночы!
Дарогу дай,
шкоднік,
ударным
рабочым!
І, моцныя,
гартам,
такога
мы стрэнем,
патроіў
пагарду
на іх галерэю.

VI

## ПРАГУЛЬШЧЫК

Яму напляваць
па вытворчыя планы.
Кінуў варштат,
што на фронце
вінтоўку.
І ходзіць вясёлы,
як сцелька, п'яны...
Ноч прамільгнула
ўся паўлітроўкай.
Кліча гудок.
Прагульшчык
не ўстане.
Скаваны ён
чадам атруты
ў пасцелі.
А там —
дзе баі,
невялічкая рана
свідруе
завода
магутнае цела.
Прагулы —
гадзінамі
не перамераць,
патрэбы —
хвілінай
растуць наўкола.

Тысячы метраў,
што хлеба, паперы
не стала ў краіне,
не стала у школах.
Дні прабягаюць
разгорнутым строем,
а вораг ля ног
прытаіўся вужакай.
Прагульшчык
кідае
магутную зброю
ў час небяспечны,
у часе атакі.
Месца пустога
мы не пакінем.
Шумеце, каландры!
Ўзвівайцеся, пасы!
Ганьба
такому
вырадку-сыну
нашай
вялікай
рабочае класы...

VII

РВАЧ

Свой ціхі ён
і рвацкі такт
парывамі
не зменіць.
Захована
яго душа
глыбока
у кішэні.
Ён разважае
дзень і ноч
і рвацкай галавою,
што фабрыка
яму — адно,
а сам —
зусім
другое.

Калі ударнай
ў барацьбе
і быццам
што жывая,
машына
просіцца на бег,
і рвач яе
трымае.
Пра дабрабыт
уласна спіць,
а там,
хоць гасні
сонца!
Спаборніцтва
перацаніў
скваплiва
на чырвонцы.
Гатовы
плакаць і маліць,
хвілінай кожнай
хныча:
— Расцэнку
ўтрое павяліч,
і выпуск
павялічу.
Не бачыць,
як гады бягуць
на шлях камуны
шпарка.
Ён прадае
за ўласны густ
ідэю па кавалку.

## VIII

## НЯДБАЙЦА

Гразь ціснe,
гразь душыць
машыннае сэрца,
і говар матораў
канае у глуме.
І быццам у моры,
абсыпаны смеццем,

нядбайна стаіць,
пазяхае ад суму.
Далёка шнайдэзы,
кіруйся ломам!
(Нічога сабе ў нядбайцы замена.)
Даволі
разваг,
савецкі Абломаў:
— Абы дацягнула
калекай да змены!
Выгнаць дашчэнту
дзікія здзекі
нам трэба
як можна
цяпер ў барацьбе,
машыну
любіць,
як чалавека,
як сябе.
Той пільнасці сцяг
высока ўзніме,
хто змычкі старыя
дашчэнту
спаліў,
каб сэрца машыны
ішло, як гадзіннік,
каб люстрам
накаты цвілі.

---

Пяцігодка —
ў чатыры,
пяцігодка —
ў тры! —
лозунгам
будзе нашым.
Кінулі сілы
ўсе на прарыў
заводаў
ударныя маршы.

## IX

## УДАРНАЕ

Наш поступ наперад — удар
і парадак,
мускулы клічуць
моваю простай:
рвацтва і глуму
разбіць барыкады,
з машынай
узяўшы сяброўства.
У творчым запале
час ідзе,
нават хвілін
не злічыш.
Праносіцца бурай
і ноч
і дзень
творчая пераклічка.
З поля камбайны
завуць варштат,
клічуць маторы
нас.
На плечы паклаўшы
сотні шахт,
заве наўздагон
Данбас.
Машыны пускаем
на ўвесь разбег.
Нікне, як дым, вярста,
потам заліты,
ударны цэх
пачаў бальшавіцкі
старт.
За кожным завулкам
вораг прыціх,
трымаючы нож
рукой.
Першым, здаровым
у бой прыйсці —
чуеш, у нас
закон.
Выбіць прагулы,
выбіць прастой,

змесці іх ўсе
сляды,
даць пяцігодцы
мільёны тон
нафты,
паперы,
руды.
Ударнікамі
сталі мы
разбіць нядбайства
быт,
каб дні нашы
дынамілі
агнямі барацьбы.
Каб тэмпамі
мы новымі
ішлі наперакор,
пагодзім мы
размовамі
і сэрца
і матор.
Заняць,
каб так
змагацца нам
і смела ўдаль
ісці,
аванпасты
на фабрыцы,
аванпасты
ў жыцці.

X

На штурм
каландры,
рохлы
пас!
На штурм
ідзі рука —
разбіць
пікеты шкоднікаў
гарматамі брыгад.
Нядбайцаў
выйшлі у паход

мы якасцю
пабіць,
каб між радкоў
калоў яго
наш бальшавіцкі
штых.
Да перамогі
блізка нам!
Ў атаку
скора час,
каб выйшла
камуністкаю
папера
у калгас.
Каб шкоднікі
заскрыгалі,
што ім канец
прыйшоў,
каб друкаваўся
прыгавар
на нашых
аркушох.
Каб так гарэў,
як порах,
запал
ударных рот,
пускай маторы скорым —
«Камуна ля варот».

## ТАДЫ ПАЧЫНАЮ З ПАЧУЦЦЯМІ СПРЭЧКІ...

Калі забушуе
мятлюга і сцюжа,
дрыжаць ліхтары
і мігаюць, як свечкі,
і ветры кідаюць
ахапкі стружак,
тады пачынаю
з пачуццямі спрэчкі.
Тады я бяру —
распінаю самоту,
тады мне, што ветрам —
на вуліцы цесна,
тады я шукаю
на вуліцы ноты,
тады пачынаецца
песня.
І, можа, вы скажаце —
лішні мой жэст
часамі наіўны,
зусім не да месца.
Што зробіш?
Калі тады грудзі — аркестр,
а сэрца нервовы,
гарачы хармейстар.
Жаданні тады
скалануць і ахопяць
нястрымным разгонам
душы чалавечай...
Мне хочацца стаць
з камяніцаю поплеч —
такім жа высокім,
шырокім у плечах.
Цябе я даўно
і не помню, як выракся.
Словам, па працы
павінен расці я.

Чаго ж гэта ты,
непраглядная лірыка,
топкія пальцы
кладзеш мне на шыю?
Ты плачаш,
што рана цябе я пакінуў,
табе без паэта
маркотна і цесна.
Пляваць, што чакае
такая дзяўчына
прыгодаў кахання
ў альбомныя песні.
Любоўны рамантык
цяпер я нягеглы.
Я гэтай рамантыкі
вырасту вышай.
Мне трэба, каб слова
падносіла цэглу,
а вершы ў альбом
і другія напішуць.
Я голую лірыку
выкіну ўночы,
Хай месяц
халодным агнём яе паліць.
Муляр-таварыш,
я твой, я — рабочы,
у нашай будоўлі
мы роўнымі сталі.
Высока стаяць
нам абодвум не страшна.
Ты клічаш мяне,
і выходжу я першым,
каб звонкіх паэм
і муроў неабсяжных
з табою узносіць
паверх
за паверхам.

## АТАКА

Краіна не багата
прагульшчыкаў трымаць,
Што кінулі варштаты —
сіротамі стаяць.
Завод ізноў трывожна
Над горадам загуў...
Таварышы, не позна!
Атакай на прагул!
Мы тэмпамі высокімі
штурмуем дні свае.
Яшчэ гудок далёка,
а цэх ўжо анямеў.
Завод ізноў трывожны:
яшчэ далёка 100.
Таварышы, не позна!
Атакай на прастой!
Мацней гартуйце звенні
ударніцкіх брыгад.
З рукамі у кішэні
камуну не спаткаць.
Завод ізноў трывожны:
давайце больш падмог!
Таварышы, не позна,
Агонь па лятунох!

## ПАРАДНЫ МАРШ

Ці ў бойках нам
    заплакаць і сагнуцца.
Каму прысніцца
    гэтае,
        каму?!
Мы полымя
        у бурах рэвалюцый,
і мы сыны
    узнесеных камун.
Над рыштаваннямі
    грымелі навальніцы,
над рыштаваннямі
    хадзіла часам смерць...
Ці з нас хто лёг
    пакорліва
    і ніцма?
Ці хто стаміўся
    працаю цяпер?
Завуць гады
    на смелы,
    пэўны крок.
Мы штурмамі гудкоў
    краіну перастроім
і свой апошні
    камень і парог
пяройдзем мы
    надзейным строем.
Над краем новыя
    пажары заняліся,
мы сэрцамі
    пажары запалілі...
І мы змагаемся,
    і гэтым ганарымся,
што першымі жыццё
    камуне падарылі.

Мы знаем:
    стрэнем маршы сонца
і жах вайны
    бязлітасна прагонім.
Няхай наш Май
    вядзе бясконца
сусветнай
    арміі калоны.

## СЛОВА
## Ў КАМСАМОЛЬСКІХ СПРЭЧКАХ

*(Прамова на X з'ездзе ЛКСМБ*
*10 студзеня 1931 г.)*

У бойках
за права
быць сынам камуны
мускулы б'юцца
у плане сустрэчным.
Дазвольце, таварышы,
вершам з трыбуны
слова ўзяць
ў камсамольскіх спрэчках.
Партыя знае
самых найлепшых,
партыя знае
самых здаровых.
Партыя кліча,
і мы ідзём першымі
з самай гарачай,
юнацкай кроўю.
Працуем мы там,
куды нас паставяць —
зямлю узнімаем,
капаем руду.
Таварышы!
Вельмі вялікая
справа —
праверыць сябе
на хаду.
Вялікая сіла,
мы ў творчым плане
кіруем пасамі,
ніпгчым прастой.
Мы бальшавіцкае
заданне
павінны выконваць
на ўсе,
на сто.
Загартаваным
у бойцы будзь.

Нішчы
пядбайства горы.
Мы выйшлі
слухаць уважна
пульс
кожнага матора.
І хіба мы
на паўдарозе станем,
калі так шугае
рухавік?
На парадку дня
ў нас першае пытанне —
барацьба за якасць
і за лік.
І з брыгад па цэхах,
і з брыгад
на полі,
адкідаючы гультайства
і ману,
Мы гаворым:
ты не камсамолец,
калі ты ўдарнасць
прамінуў.
Калі ты ад бойкі
ўцёк,
гультая ў сабе
не перамог.
Хіба так
змагацца за жыццё
нас бацькі
вучылі на франтох?
Мы — сыны барацьбы —
адкідаем параднасць.
Час — гэта самыя
моцныя сродкі.
Камсамольцы выходзяць
ударным атрадам
ў вялікія дні
пяцігодкі.

Нас клікалі шахты —
мы далі ў шахты,
Нас клікала мора —
мы далі па мора,

нас звалі акопы —
мы далі ў акопы
усюды сваіх
маладых і здаровых.

І вось, каб цяпер
пачаць пераклічку
творчых каморак
краіны нашай —
галасоў камсамольцаў
не пералічыш,
не перамерыш
і не ўзважыш!
З-пад зямлі
і з-пад гор —
камсамолец шахцёр,
майструе трос
камсамолец матрос,
на ліцейным — ваграннік
камсамолец ударнік,
на вучобу ідзе
камсамолец студэнт.
Такім не загадаеш —
стойце!
Энергія — шырэй
ракі.
Гэта растуць, ідуць
камсамольцы —
маладыя бальшавікі.

І калі б'юцца ў нас
творчыя жылы,
і, як байцоў,
і, як палітыкаў,
партыя нас навучыла
сябе правяраць
самакрытыкай.

І ўсе нашы дні,
стаўляючы ў строй,
праз бальшавіцкі вопыт,—
мы бачым самы
сапраўдны рост,

знішчаем свае недахопы.
І павінен ведаць
камсамолец

у гэтыя рашаючыя
дні —
мала быць
ударнікам на полі,
трэба ведаць
поля арганізм.
Трэба ведаць,
што гарыць, што гасне,
дзе машынай ўзяць,
а дзе рукой.
А нас многа
сёння ў калгасе,
толькі мала ў ім
планавікоў.
Досыць нам работы
самапасам,
трэба свет
нанова пераліць!
Слухайце,
таварышы з калгасаў,
станьце
камандзірамі зямлі!
Каб ракой буяніла
пшаніца,
каб аўсы шумелі
навальніцай,
каб сцяной стаяла
канюшына,
каб была
нястомнаю машына.
Зямля кліча
новае механікі,
каб жыты
вазёрамі гулі.
Выхадзі,
камса-ўдарнікі,
на палі!
Каб агні ў нас
буянілі
ў маладых.
Спаласуем магістралямі
балоты,
мы спраўляем
новую кашулю.

Прэч, мяжа!
На балотах нашых забушуе
сенажаць.
Мы сваю краіну
перамералі,
ў цяжкім поце
мы пазналі толк.
Камсамольцы
сталі інжынерамі,
камсамольцы
на усіх франтах.
На рабоце
толькі нам
цвісці,
гартаваны мы агнямі
кожны.
Мы пасобім партыі
нясці
бальшавіцкі сцяг
непераможны.

# КАВАЛІ

Мне сонца сёння — домна,
а цэх — мая радзіма.
Бі, молат, мнагатонны,
бі, молат, без спачыну,

Кавадла, будзь гартованым,
круціся, сталь, вужакаю!
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Мы цвёрдымі калонамі —
рабіць прыйшлі не жартамі.
Хай дым і гар заслонаю...
Працуйце, вентылятары!

Кавалда, будзь гартованым,
круціся, сталь, вужакаю!
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Жалеза хай іскрыцца,
хай вусны паліць жарам,
я тэмпы павялічу
на тысячу удараў.

Кавалда, будзь гартованым,
круціся, сталь, вужакаю!
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Сюды мы прыйшлі ў поце,
і кожны працы рад.
Зрабіць у нас клапоты —
ударніцкім варштат.

Кавалда, будзь гартованым,
круціся, сталь, вужакаю!

Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Нам дзень важней за век,
калі бракуе часу.
Штурмуйце, ваганеткі,
вы будучыню нашу!

Кавалда, будзь гартаваным,
круціся, сталь, вужакаю!
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

Мы дзень у дыме чорным
бярэм свае загары.
Запішам свае горны
у спісы камунараў.

Кавалда, будзь гартаваным,
круціся, сталь, вужакаю!
Да выхаду гатовы мы
з касілкамі, жняяркамі.

## ВЕЧАР

Пакуль пакаваў я
рыфмы да рэчы,
каб добрага зместу
і добрай шліфоўкі...
Аднекуль паціху
падкраўся вечар,
ці то ад Пярэспы,
ці то
з Камароўкі.
І думы з'іначыў...
І крыкнуў:
— Чакай!..
Ты вершы дапішаш
ў пакоі
і потым...
...І сінімі бырзгамі
сыпнуў трамвай,
што вёў да вакзалу
людзей і клапоты.
Прайшлі маладыя...
Любы да любага!
Манеўраным строем
і песню пачалі...
І вуліцы выйшлі
ў кашулях каўбояў
паслухаць,
як моцна
жыццё заспявала,
як рэха,
што пыл
узнімае граніты
і кружыць кварталамі
бесперабойна:
— Таварыш!
Краіну сваю
барані ты,

таварыш!
Рыхтуюцца
новыя войны!
Я бразгнуў па доле
рыфмованым глянцам,
я ў іх адшукаў
свой аблік
аўтагенны.
Сягоння мае дружбакі —
нававбранцы
і сам я валодаю
стрэльбай не дрэнна!
А трэба —
мы сядзем
ў тачанкі,
на коні.
Мы знаем,
чакае нас
першая рата!
І, можа, таму
гэтак прагна сягоння
мы вучым —
гранаты,
каб біць — па гранатах.
Газетчык
пра Польшчу крычыць,
пра Кітай,
што нашага брата
кідаюць пад кручу...
Паслухай,
газетчык,
я сам прачытаў
і мне ўжо самому
да смерці балюча.
А вечар грыміць...
А вечар не змоўк...
І мчыць мне
па розных клавішах
пра стогны і енкі
маіх дружбакоў,
заходніх братоў
і таварышаў:
«І праўды той —
нідзе!

Жандар, дык ён
і гож!
І дзень у нас
не — дзень,
і дождж у нас
не — дождж
І праўды той —
няма,
пад звоны
ланцугоў
і дзень у нас —
турма
і дождж, нібыццам
кроў...»
Мне ж крыўдна,
што цяжка
рукою пасобіць
хапіць за гарляк
азвярэлага ката,
каб кінуць
і тлустасць яго
і вантробы
у тыя, што ён зладаваў,
казематы.
А вечар агні электрычныя
стругаў
і кідаў,
што зор,
залатыя прыгоршчы...
...Прамчаўся рамізнік
з даўжэзнаю пугай
і знік у завулку,
і змоўк яго
пошчак...
А з рогу,
аднекуль з каменных
узгоркаў:
— Слухайце!
Слухайце!..
Слухай...
Апошнія весткі
калгаснай прыборкі
радыё гойкнула
ў самае вуха.

— Хараша з сенам!
А з лёнам —
вузка!
Планаў няма.
Падыход стыхійны!
...Гэта зусім ўжо
інакшая музыка,
чымся «Танго»,
што ад пражскіх
радыйніц.
Так.
Поспех прыборкі
мацней за віно,
мацней за «Танго»,
што буяніць і пеніць...
...Вечар згасаў.
Надыходзіла ноч
прыходам да фабрык
трэцяе змены.

## У НОВЫ ГОД

У горадзе вялікім,
        разгоне нястрымным,
у маршах ударных
        рабочых рот
чуеш, як б'ецца
        ў целе краіны
савецкай індустрыі
        кроў.

Чуеш, як гулка
        ад сотняў станцый
над цемрай адвечнай
        паліць агні
выйшла на сцэну
        электрыфікацыя,
памножаная на камунізм.

Гэта яна
        гэтак мужна ўстала
сілаю рэчак
        і балатоў.
Як грозны суровы прысуд
        капіталу,
рукой дапамогі
        нашым братом.

І дарэмна рыхтуе нам кулі
        кат,
каб наша святло
        гасіць.
Ты вырасла,
        наша рэспубліка,
на многа мільёнаў
        сіл.

Ты вырасла,
        наша рэспубліка,

на шмат мільёнаў
        рук.
Ты вырасла,
        наша рэспубліка,
на новыя тысячы
        труб.

І выйшлі мы
        непакорнымі,
і пройдзем мы
        свой паход.
Ты скончыў
        работу чорную,
рашаючы трэці
        год.

І вось у тваё разлічыны
чацвёрты да нас прыйшоў,
і на табе —
        цэмент у Крычаве
і ў Магілёве
        шоўк.

І на табе —
        сонца арэскае,
завецца яно —
Асінбуд,
і на табе —
        хлеба палескага,
яго колькі хочаш
        тут.

На новы мы лад
        настроены,
далёкі
        ад курных хат.
Дамы,
        што палацы,
                                будуе нам
Бабруйскі камбінат.

І мералі вас
        на адсоткі
і фабрыкі і зямля,—

каб пэўнай
    расла пяцігодка —
наш бальшавіцкі
    план.
Мы ведаем —
прыйдзе багацце,
нябачаны ўмалот,
як ты падсумуеш
    працу,
чацвёрты, заключны год.

І ў новых тады стасунках
узніме фашыст
    выццё,
і мы падаб'ем рахункі
за нашых братоў
    жыццё.

А накуль усё
    перамер ты.
І маршам
    ударных рот
страчайце,—
прыйшоў чацвёрты,
    чацвёрты заключны год!

## НА ПАГРУЗАЧНАЙ

Сонца жоўты камок
піў балотную вільгаць,
і выростала пара
ад тлустай зямлі...
Сабіраліся хмары,
як паводкаю крыгі,
вечаровае поле
дажджамі заліць.
Мы ж насілі кашы,
пакаваныя торфам,
з-пад нажоў фрэзероўкі
на каменны перон,
насыпалі вагонкі
аж па самы коптар
і пускалі па тросу
на яду бункяром.
А за гоні ад нас
праз кусты і лагчыны,
дзе вусы распусціла
крывая антэна,
забаўляла гармонікам
свой адпачынак
каля новых баракаў апошняя змена.
І да нас далятала
з-за далёкае вербы
ў пераборах баяна
гаворка на яць:
— Сербі...
Сербі...
Сербі...
яна...
Сербі...
янаўка мая...
І здавалася нам:
мы цягалі кашамі
скібы сонца
і торфу,
бо было гарачэй...

Мы дарылі жыццю
маладосці экзамен,
каб пылала яно
як мага ярчэй.
Таму сведкаю трос,
па якім несупынна,
быццам чорныя гусі,
праплывалі ракой,
беглі з торфам вагонкі,
і круцілі машыны,
(перайшоўшы агні)
электрычнай рукой.
З нас лілася вада,
што завецца потам,
ды свяцілася соль
па плячох у нас.
А над лесам гудзелі,
раўлі грымоты,
раскідаючы ў полі
шалёны бляск.
Вось тады падышла
камсамолка Ганна
і сказала:
— Андрэ! Ну, давай руку,
навальніца пужае
нас вельмі рана,
нам з табою работы
цэлы кут!
І гудзелі вятры,
узнімалі віхор
ды пляваліся кроплямі
дробнага граду.
Мы ж насілі ў кашох
фрэзерованы торф
і ўдарна спрачаліся
нашы брыгады.
Мы не ведалі працы
ўпартай такой,
нават кожны кашулю
ад сябе адкінуў,
каб, як чорныя гусі,
праплывалі ракой,
беглі нашы вагонкі
да матораў машыны.

## ПАГРАНІЧНІК

Каб СССР спакойна
Мог будаваць і жыць —
Чырвоны пагранічнік
Стаіць на мяжы.
Ў лясох непераходных,
Дзе толькі вые звер,
Чырвоны пагранічнік
Вартуе СССР.
І ў стэпах нескапчоных,
Дзе так вятры пяюць,
Вартуе пагранічнік
Рэспубліку сваю.
На морах, рэках, горах,
На кожнай мяжы
Вартуе пагранічнік
Свае рубяжы.
Калі ж узніме вораг
Па СССР агонь —
Чырвоны пагранічнік
Адкіне яго.
Мы ж не дамо рэспубліку
Каб знішчыў газ,
І клікне пагранічнік
Пасобіць нас.
І будзем дружна разам
Мы ворага біць
За СССР сусветны
Без межаў і граніц!

## ПЛЫТНІКІ

З пагуркаў каціліся бёрны,
акуналіся вадой,
толькі рэчкай
гул усплёсканы ішоў...

А плыты раслі,
прычаленыя да берага ўздоўж,
стогадовымі соснамі лёгшы
на дужыя спіны дубоў.
І тады над прылівамі хваль
ледзь прыкметна гайдалі,
быццам шлях свой далёкі
пачыналі ўжо...

І калі на апошніх
ліповыя скрэпы звязалі
і над хойкай плывучай
загарэўся сцяжок —
тры вядры аж па контар
язёў наварылі
і пасталі плытнікі
з лыжкамі кругом...

Позна ж на вячэры,
узмахнуўшы крыллем,
песня памчала
проста над Дняпром.
Першы раз так летам
гаманіла прыстань,
першы раз так выпала,
што ніжэй травы
тры разы схіляўся
перад гарманістам,
просячы «Лявоніху»,
стары старпавы.

А назаўтра раніцай,
яснаю і роснай,
плытнікі, націснуўшы
на доўгія багры,
павялі на поўдзень
і дубы і сосны,
дзе чакаюць фабрык
гулкія двары.

## КЛІЧ НАРОДНЫ

Беларусь, сястра з заходу,
Чуцен кліч твайго народу,
Ты паўстала для расплаты
З крывасмокамі-панамі.
Ліхвярамі,
Махлярамі.

Не пачуеш жальбы слёзнай,
Гнеў твой смелы, гнеў твой грозны,
Гнеў магутны, навальнічны.
Ты пад штандарам чырвоным
Аж да скону
Б'еш карону!

Б'еш касой, сякерай вострай,
Каб жылі бацькі і сёстры,
Каб пазбавіцца навечна
Долі горкае, ланцюжнай,
Б'еш ты дружна,
Б'еш ты мужна!

Ты, народ, прагоніш катаў,
Прэч з уласнай, роднай хаты,
Аб'яднаешся з сястрою!
А не ўзяць панам ніколі
Вашай долі,
Вашай волі.

Каб жа знішчыць панства злога —
Мы прыйшлі на дапамогу.
Нам ніхто цяпер не страшны,
Знаем добра — перамога
Будзе ваша,
Будзе наша!

## 1941 ГОД

Колькі гіне людзей
на свеце,
Колькі кінута сіл
на звод!
Толькі мы,
як заўсёды, сустрэцім
Па-святочнаму
Новы год.
Год стары
адыходзіць з пашанай.
За яго мы ўздымаем
тост!
Пяць рэспублік —
сясцёр адданых —
Узвышаюць
радзімы рост.
Узраслі мы
на сушы і моры,
А для ворага скажам:
— Знай!
На Балтыйскім
стаяць лінкоры,
І не дрэмле
сівы Дунай.
Самі знаем,
што многім прысніцца,
Праканаліся
ў тым не раз,—
Наша нафта
і наша пшаніца.
Толькі наша —
яно для нас!
Мы багаты яшчэ
і па порах,
Нагатове
і танкаў строй,

Нават неба
        дрыжыць ад матораў...
Вось на сэрцы таму
        спакой.
З мудрым словам,
        як быццам з паходняй,
І між мораку бур
        відно.
Сабярэмся, таварышы,
        сёння,
Сорак першы
        глядзіць у акно.
Сядзем разам
І ёлкі засвецім,
Вып'ем чаркі
        за горды народ!
Хай жа нашы
        шчаслівыя дзеці
Свой вясёлы вядуць карагод!

## ЛЫЖНІКІ

Перад намі белы дол,
Снег пад лыжамі рыпіць,
Шлях прасторны навакол...
Слаўна лыжнікамі быць!

Мы праносімся стралой,
Аж мільгаюць у вачах
То сувеі над ракой,
То кусты па раўчуках.

А прарваўшы гушчары,
Прамінуўшы звонкі бор,
Мчым з высокае гары
Злым вятрам наперакор.

Перайшоўшы дальні шлях,
Адчувалі мы не раз —
Папрасторнела ў грудзях,
Завастрыўся зрок у нас.

Ясна ўсім —
На лыжы стаў,
Будзеш ведаць хутка сам —
Не для ўцехі і забаў
Лыжы дадзены байцам.

Па завеях снегавых,
Як пакліча грозны год,
Мы на лыжах баявых
Возьмем ворага ў абход.

## МАТРОСЫ

Пра флот,
Пра наша мора
Мы слухалі не раз,—
На крэйсеры «Аўрора»
Таварыш ёсць у нас.

Праводзілі мы з вёскі
Антона юнаком,
А ён вярнуўся з войска
Адважным мараком.

Былі мы вельмі горды,
Як ён размовы вёў
Пра слаўныя паходы
Савецкіх караблёў.

Як, ломячы ільдзіны,
Спаўнялі свой загад,
Як беглі белафіны
Пад грозны гул гармат.

Праходзілі таросы,
Знішчалі іх нашчэнт,
Бо нашыя матросы
Найлепшыя на свет.

Не засланілі сцюжы,
Ні міны пэўны шлях,—
З іх кожны целам дужы
І здольны у баях.

Мы знаем, строй флатылій
Мацнее з году ў год!
І самі мы рашылі
Пайсці ў чырвоны флот.

Пайсці на абарону
Савецкае зямлі,—

Таварышу Антону
Мы слова ў тым далі.

Каб лепей спадзявацца,
Што возьмуць на мары —
Мы сталі рыхтавацца
Адразу з той пары.

Плывём без перадышкі
Па некалькі гадзін,
То ластаўкамі з вышкі
Мы скачам як адзін.

На чоўнах мы заўзята
Праносімся стралой,
Мы ходзім па канату
Над самай глыбінёй.

З няшчасця добра самі
Умеем ратаваць,
Вайсковымі сцяжкамі
Сігналы падаваць.

Мы не баімся зморы,
Ні розных перашкод —
Таварыша з «Аўроры»
Чакаем цераз год.

Хай скажа не на жарты,
Ці добра мы раслі?
Ці здольны мы,
Ці варты
Ісці на караблі?

## ПАМЯТКА

Я не верыў ладанкам ніколі,
Але ўсё ж,
Калі пайду на бой,
За гумнішчам у жытнёвым полі
Горстачку зямлі вазьму з сабой.
Можа, часам дзе на адпачынку,
Расхінуўшы памятку цішком,
Прыгадаю з радасцю хацінку,
Двор у ліпах
З нізкім журавом.
Можа, там у памяці спаткаю
На світанку веснавога дня
Дзеўчыну, каторую кахаю,
Хоць аб тым
Не ведае яна.
І тады,
Каб хлопцы не пачулі,
Адшукаю схованы ў кусту
Цвет рамонак,
Не кранутый куляй,
І ласкава ў косы запляту.
Зноў зямлю далонямі сваімі
Прыхіну, а думка агарне,
Што сябры
Далёка на радзіме
Недзе ўспамінаюць пра мяне.
Свой паклон у месцы дарагія
Накажу вандроўнікам-вятрам:
Кожную крупінку перамыю
Я крывёй,
А ворагу не здам!

## ГАЛУБЫ

Нас пяцёра ўсіх сяброў —
Мы разводзім галубоў.

Для прыгожых летуноў,
Што пяюць: вур-ку... вур-ку...
Кожны скрыначкі завёў
У сябе на чардаку.

Раніцой, як сонца ўсход,—
Варкуны ідуць ў палёт,
Узляціць увысь,
Як бач,—
Ці то просты,
Ці трубач.

Толькі відны кропкі нам,
Што як мятлікі плывуць...
Ці як часам турман там
Дасць круга праз галаву.

Кожны з нас глядзець гатоў
Дзень за лётам галубоў.

———

Раз паехаў наш Пятрок
У бліжэйшы гарадок.
Ён прасіў нас, каб паўднём
Пад яго прыйшлі мы дом.

— Сёння,— кажа,— вас адна
Там чакае навіна.

Развітаўся з намі ён...

. . . . . . . . . . .

Вось прыйшоў
І той паўдзён.

Мы на прызбе ўсе сядзім,
На ягоны дом глядзім,
Хоць бы што,
Нібы знарок...
Падмануў, відаць, Пятрок.

Раптам сумнівам канец!
Бачым мы —
Ляціць ганец,
Пад імклівым галубком
На назе шнурок з кальцом.

Здабылі кальцо мы ўміг
І знайшлі пісьмо для ўсіх:
«Пасылаю вам здалёк
Прывітанне.—
Ваш Пятрок».

## ПЕРШЫ ПРЫЗ

Быў я ў Мінску першы раз,—
На скачкі паслаў калгас.

Заявіўся я з канём
На вялізны іпадром.

Праз мінуту быў парад...
Еду з коннікамі ў рад.

Праскакалі мы кругом,
Сталі роўненька, ладком.

Заіграў аркестр,
Як гром,
Узмахнуў старцёр
Сцяжком!

На адну з блізкіх застаў
Я наважыў —
І памчаў.

І, як коннік-піянер,
Ўмік узяў адзін бар'ер.

Я на выскачкі пайшоў,
Пераскочыў цераз роў...

А пасля як шугану
Праз каменную сцяну,—

Ні цагліны, ні шнурок
Не кранўў на валасок.

Скончыў я,
На месца стаў.
Хтосьці голасна сказаў:
— Піянер на справе спрыт,
Будзе слаўны ён джыгіт!
Заіграў ў трубу гарніст...
Старшыня падаў мне прыз.

## ПЕРШАЯ СПРАВА

З лесу да лесу
калгасная вёска
Кліч пераносіць,
падхоплены жвава:
Лесапіленне
і лесаадвозка
Сёння ў рэспубліцы —
першая справа.
Вёсны.
Заняты пасевамі хлеба.
Звозім у свірны
праз доўгую восень.
А нашай радзіме
такая ж патрэба
Многа мець дубу,
і грабу,
і сосен!
Радасна нам —
з беларускага бору,
Годна драўніна,
куды ні паставіць:
З ёю высока
ўзлятаюць маторы,
З ёю ідуць
караблі
акіяніць!
Ясна адно —
матэр'ял адмысловы.
Многапатрэбны
для новай будовы;
Варта ж успомніць
і рэчы малыя —
Столікі, шафы
ці крэслы якія!
Гэта ж
вядомыя ўсім разуменні.

Наш абавязак —
калгаснымі сіламі,
Добра з'яднаўшыся
ў дружныя звенні,
Выйсці у пушчы
з вострымі піламі.
Наш абавязак
імкнуцца наперад
Скончыць работу,
што вельмі наспела —
Хай між сабою
гавораць сякеры,
Каб аж над голлямі
рэха гудзела.
Потым здабыткі
сабраць мы павінны,
Сані і кары
накладываць спорна,
Каб па аснежаных
зімніх пуцінах
Бесперапынна
каціліся бёрны.
Хай жа
барамі ідзе пагалоска —
Кожнай брыгадай
падхопіцца жвава:
Лесапіленне
і лесаадвозка
Сёння ў рэспубліцы —
Першая справа!

## НАША ГАСПАДАРКА

Разраслася шпарка
Наша гаспадарка.
Пад паветкаю адной
Шмат у нас багацця,—
Два трусы жылі вясной,
А цяпер дванаццаць.

Бегае між матак
Многа трусянятак —
Трусяняткі быстрыя,
Белыя, пушыстыя.

Мы гадуем статак свой
Дружнай грамадою —
Сёмка ходзіць за травой,
Грышка за вадою.

Мые, чэша — Ганка,
Пасвіць гоніць — Янка.
Скача шмат трусят малых
Белымі клубкамі...
Скора будзе столькі іх,
Што не злічым самі.

## МАХАЕДЫ

Было яно з даўніх часоў,
Такое месца на Палессі —
Туды з вясны да маразоў,
Каб як хацеў, не дабярэшся.

Аб краю змрочлівым сваім
Ніхто, ніколі там не ведаў,
Адно было вядома ім,
Што вёску звалі Махаеды.

Ні добрай нівы, ні травы,
Ані дарогі выйсці ў людзі,—
Багнішча, твань і паплавы
Са ўсіх бакоў сціскалі грудзі.

У Махаедах чалавек
Не ведаў радасці ніколі,
Як нараджаўся, дык навек
Прымаў у спадчыну нядолю.

Губіла трасца з ранніх год,
Каўтун зліваўся карынаю.
Зямля давала недарод,
Запаланёная багною.

Не мог узняць ад стомы рук
Забіты горам паляшук.

Сяўба.
Наладзіўшы плыток —
Каня паставіць з бараною;
І з астраўка на астравок
Плыве галоднаю вясною.

А што сабраць з пустэчы мог?
Адмокне ўсё.

А скрозь адзіны
Займецца толькі горкі мох...
І Махаеды з той прычыны.

Гібела вёска ў дні свае,
Адкуль было ратунак стрэціць?
І свет не ведаў пра яе,
Яна ж не ведала аб свеце.

Бяжыць прасторлівая гаць
Паміж нізін,
Паміж узлесся...
Ніяк цяпер не адшукаць
Такога месца на Палессі.

З былым пакутніцкім жыццём
Мінулі жудасці і беды;
Багаццем славіцца кругом
Калгас у вёсцы Махаеды.

І дзіўна,
Восеньскай парой,
Там, дзе было заўсёды пуста,—
Каноплі ў сажань вышынёй
І па вядру качан капусты.

Там сад
І нават вінаград,
Як меддзю жыта налітое...
Але яшчэ прастораў шмат
Пад забалочанай зямлёю [...]

А працы й тэхнікі саюз
Пакорыць дзікія балоты —
Уся выходзіць Беларусь,
Бярэцца дружна за работу.

Пятнаццаць год.
Дрыгвы нідзе
Не застанецца нават следу...
І сыдзе з памяці людзей
Нядоля вёскі Махаеды.

## МАЛЫЯ САДОЎНІКІ

У Юрыка і Наты
Заўсёды працы шмат, —
Пад вокнамі ля хаты
У іх маленькі сад:

Тры яблыні налівы,
Пяць сёлетніх шчапоў,
Дзве грушыны,
дзве слівы,
Сем ягадных кустоў.

І дзеці вельмі рады,
Што ўжо чацвёрты год,
Як гэту даў параду
Калгасны садавод.

Няздарма Ната шчыра
Упэўнена сама —
Такіх,
як дзед Няміра,
На свеце больш няма.

Не раз ён сам праверыў
Прышчэпы,
каб раслі...
Расла дзічынка,
Бэры —
З ім разам прывілі.

Садоўніку прыемна
На сэрцы адчуваць,
Што вучні так старанна
За дрэвамі глядзяць.

Стаіць садок прыбраны.
Вясновая пара —

Сухое пазразана,
Пабелена кара.

Ідуць між дрэў паволі
Малыя,
З імі дзед —
Глядзяць, што ўжо на голлі
Успыхнуў белы цвет.

# КАМЕНТАРЫІ[1]

У першы том Збору твораў Петруся Броўкі ўключаны вершы і паэмы 1926—1941 гадоў.

Том складаецца з трох раздзелаў: у першы і другі ўваходзяць вершы і паэмы, якія былі ўключаны паэтам у апошняе прыжыццёвае выданне; у трэці — творы, якія друкаваліся толькі ў перыядычным друку і ранніх зборніках, але не ўваходзілі ў пасляваенныя выданні і ўключаюцца ў Збор твораў упершыню.

Творы размяшчаюцца ў томе паводле жанрава-храналагічнага прынцыпу.

За асноўны тэкст вершаў і паэм дадзенага выдання прыняты адпаведныя тэксты апошняга прыжыццёвага Збору твораў — Броўка Пятрусь. Збор твораў: У 7 т.— Мн.: Маст. літ., 1975—1979.— Т. I.— 394 с.

Паколькі для ўсіх твораў, уключаных у том, крыніца асноўнага тэксту адна і тая ж — першы том Збору твораў, у каментарыях да кожнага верша і паэмы яна не ўказваецца. Выключэнні агавораны.

У выпадках, калі крыніцу першадруку таго ці іншага твора ўстанавіць не ўдалося, указваецца першы па часе зборнік, у якім гэты верш быў змешчаны.

Пры падрыхтоўцы да друку вершаў і паэм іх тэксты былі зверапы па ўсіх прыжыццёвых друкаваных крыніцах і архіўных матэрыялах.

1. Перыядычныя выданні: газеты «Чырвоная Полаччына», «Звязда», «Савецкая Беларусь», «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», «Чырвонаармейская праўда» і часопісы «Наддзвінне», «Росквіт», «Зарніцы» (літ.-маст. дадаткі-альманахі), «Беларусь калгасная», «Чырвоная Беларусь», «Росквіт», «Полымя рэвалюцыі», «Маладняк», «Работніца і калгасніца Беларусі», «Іскры Ільіча»;

2. Зборнікі і асобныя выданні:

Гады, як шторм: Вершы.— Мн.: Белдзяржвыд, 1930;

Цэхавыя будні: Вершы.— Мн.: Белдзяржвыд, 1931, 1932 (2-е выд.);

Паэзія: Вершы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1932;

Выбраныя вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1934;

Прыход героя: Вершы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1935;

---

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:

Вершы 1926—1934 гг.— Золавай Э. А.;

Вершы 1935—1937 гг. і паэма «Кацярына» — Піліповіч К. В.;

Вершы 1938—1940 гг. і паэмы «Прамова фактамі», «Праз горы і стэп», «1914», «З паэмы «Так пачыналася маладосць», «З паэмы «Мінск», «Дзед і ўнук» — Мазанік Л. М.;

Вершы 1941 г.— Голуб Т. С.

Вясна радзімы: Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1937;
Кацярына: Паэма.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1938;
Вызваленым братам: Ад пісьменнікаў Савецкай Беларусі.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1939;
У вянок Т. Р. Шаўчэнкі/Пад рэд. Я. Коласа і М. Лынькова.— Мн.: Выд-ва АН БССР, 1939;
Шляхамі баравымі: Вершы.— Мн.: Дзяржвыд пры СНК БССР, 1940;
Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд пры СНК БССР, 1940;
Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1945;
Вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1946;
Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1947;
Выбраныя вершы і паэмы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1948;
Выбраныя творы.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1951;
Кацярына. Выд 2-е.— Мн.: Вучпедвыд БССР, 1953;
Збор твораў: У 2 т. Т. I.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1957;
Маладым сябрам: — Мн.: Дзяржвыд БССР, 1961;
Па сакрэту: Сатыра і гумар.— Мн. [Звязда], 1961;
Калі ласка: Вершы.— Мн.: Беларусь, 1972;
Збор твораў: У 4 т. Т. I.— Мн.: Беларусь, 1965;
Вершы і паэмы.— Мн.: Нар. асвета, 1966;
Ты — мая пчолка: [Лірыка].— Мн.: Беларусь, 1972.

3. Наборны экземпляр Збору твораў у 2-х тамах (1957), які захоўваецца ў Інстытуце літаратуры АН БССР. На тытуле першага тома паметка: «У набор: 26. XI. 56 г.». Двухтомнік складаецца з расклееных на лістах вершаў з розных зборнікаў, а таксама машынапісаў вершаў, якія друкаваліся ўпершыню або мелі значныя папраўкі.

4. Машынапісы вершаў, якія захоўваюцца ў Літаратурным музеі П. Броўкі: «Залатымі зоркамі...», «*** Майскім раннем я вас пакідаў», «Наперад маладых», «Чырвонай змене», «Пра вайну», «Чырвонаармейцам», «Янку Купалу», «Прадвясновае», «Якубу Коласу», «Апошні хлеб», «На скрыжаванні», «Маабіт», «Янка-коннік», «Лагерная», «Дукорскія партызаны», «Плыві, наша песня, далёка!», «Палессе», «Песня дзяржынцаў» і інш. У тэкстах адсутнічаюць аўтарскія праўкі, даты супадаюць з датамі прыжыццёвых выданняў.

5. Машынапісы перакладаў некаторых вершаў («Дарагое», «На новыя мы сталі рубяжы», «Палессе»).

Зверка асноўных тэкстаў па названых крыніцах дала магчымасць выправіць у творах недакладнасці, якія пераходзілі з выдання ў выданне на працягу звыш дваццаці гадоў, удакладніць і канкрэтызаваць даты напісання асобных вершаў, паўней раскрыць асаблівасці творчага працэсу.

Звесткі тэксталагічнага, рэальнага, гісторыка-літаратурнага характару даюцца ў каментарыях, дзе таксама, па магчымасці, агаворваецца найбольш канкрэтны час і месца працы аўтара над творам. Упершыню зроблена спроба да асобных вершаў, паэм названага перыяду даць гісторыю іх тэксту.

У першы том першага навуковага 9-томнага Збору твораў Петруся Броўкі ўваходзяць вершы і паэмы даваеннага перыяду творчасці. Гэта былі гады творчага станаўлення, узмужнення таленту, прыходу пісьменніцкай сталасці.

У жыццё нашага народа тыя гады ўвайшлі як пераможны поступ краіны па шляху сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на сяле, час узнёслай рамантыкі і цвярозага рэалізму. Разам з тым гэта быў час гераічных намаганняў савецкіх людзей па ўмацаванню ваеннай магутнасці краіны, на якую шчэрылі зубы імперыялістычныя акулы і з захаду і з усходу. Высокі напал працоўных здзяйсненняў савецкіх людзей, іх рашучасць стаць на абарону Радзімы — пафас Броўкавай паэзіі з самых першых вершаваных вопытаў аж да Вялікай Айчыннай.

Тут хочацца згадаць пранікнёныя словы малодшага сябра паэта Пімена Панчанкі: «Побач была дзяржаўная граніца. Часта сярод ночы гучалі стрэлы, і за нешматлікімі тады камуністамі і камсамольцамі ўзнімалася па трывозе вясковая бедната і тыя мужчыны, што яшчэ насілі будзёнаўкі. Усё гэта перажываў і Пятрусь Броўка... У тыя гады, калі не сціхала жорсткая класавая барацьба, паэт напісаў: «Не буду я стаяць на раздарожжы, вачамі сумнымі глядзець удалячынь». І тое, што сказаў дваццацігадовы юнак, паэт пацвердзіў усім сваім жыццём. Ён ніколі не стаяў на раздарожжы. Рэзка акрэсленая пазіцыя, выразная мэтанакіраванасць жыцця і творчасці, трапяткая любоў да роднай зямлі і свайго народа, вернасць рэвалюцыі і справе Леніна — гэта прайшло праз усе гады, праз дзесяткі кніг, напісаных паэтам» [1].

На пытанне анкеты «Калі з'явілася цяга да творчасці, якія былі перадумовы, што натхняе?» — Пятрусь Броўка адказаў: «Пісаць я пачаў допісы ў газету. Пісаў у Барысаўскую павятовую «Бядняк», у «Беларускую вёску», у «Савецкую Беларусь», у «Звязду». У 1923 быў нават выклікаsuccessfully на 1-ы з'езд селькораў Беларусі, але баяўся, што трэба ехаць за свой кошт, а сродкаў у мяне не было, таму і не паехаў. Што натхніла на вершы? Новае жыццё, якое я адчуваў, што захапленне ім немагчыма выказаць толькі допісам. А яшчэ паэзія Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якою я пазнаёміўся па асобных творах яшчэ да рэвалюцыі. Моцна ўздзейнічала на мяне і паэзія Міхася Чарота сваім рэвалюцыйным пафасам, магутным замахам да новага жыцця, жыццярадаснасцю, маладосцю.

Спрабаваў пісаць яшчэ ў 1924—1925 гадах, але некалькі вершаў, напісаных тады, саромеўся пасылаць у газеты і каму-небудзь паказваць» [2].

---

[1] Броўка П. Збор твораў: У 7 т. Т. І.— Мн.: Маст. літ., 1975.— С. 5—6.

[2] Адказы на анкету ад 23.6.1974.

Творчай актыўнасці маладога Петруся Броўкі можна пазайздросціць. Першае выступленне ў друку — 1926 год. У 1930 г. выходзяць адразу два зборнікі «Гады, як шторм» і «Прамова фактамі», далей — «Цэхавыя будні» (1931), «Паэзія» (1932), «Так пачыналася маладосць» (1934), «Прыход героя» (1935), «Вясна Радзімы» (1937), паэма «Кацярына» (1938), і нарэшце ў 1940 г. зноў дзве кнігі — «Вершы і паэмы» і «Шляхамі баравымі».

Алесь Звонак, які прыйшоў у літаратуру ў адзін час з Броўкам, так характарызуе тагачасную грамадска-палітычную і творчую атмасферу: «Была гэта шумлівая і радасная пара маладосці. Маладосці рэспублікі, разбуджанай Кастрычнікам, якая ўзнёсла будавала сваё жыццё, атрымала сваю дзяржаўнасць, стварала сваю ўласную культуру, літаратуру, мастацтва.

Была гэта пара і нашай маладосці, дружнай, вясёлай, упэўненай у сваёй будучыні, творчай і натхнёнай. Была гэта пара гарачых спрэчак і дыскусій, надзвычайнай творчай актыўнасці, росту і накаплення сіл, упартай вучобы і шырокай грамадскай дзейнасці — раз'ездаў па гарадах і мястэчках Беларусі, выступленняў на літаратурных вечарах у перапоўненых клубах і студэнцкіх аўдыторыях»[1].

На быстрыні часу быў і малады Пятрусь Броўка. Ён апяваў савецкі лад жыцця, услаўляў камуністычны ідэал. У 30-я гады Броўка выступае як адзін з найбольш актыўных беларускіх камсамольскіх паэтаў, піша творы па гарачых слядах падзей («Сёння слова бяру»). Цікавым літаратурным дакументам з'яўляецца яго «прамова вершам» на X з'ездзе ЛКСМБ 10 студзеня 1931 года «Слова ў камсамольскіх спрэчках».

У бойках
за права
быць сынам камуны
мускулы б'юцца
у плане сустрэчным,
Дазвольце, таварышы,
вершам з трыбуны
слова ўзяць
ў камсамольскіх спрэчках[2].

У гэтым творы паэт выказаў сваё захапленне велічнымі справамі камсамольскага племя, высмеяў лодыраў і рвачоў, што, на жаль, сустракаліся яшчэ сярод моладзі, клікаў маладых будаўнікоў сацыялізма да новых гераічных працоўных здзяйсненняў.

Не ўсё, створанае Броўкам на пачатку творчага шляху, стала набыткам нашай паэзіі, не ўсё ўвайшло і ў актыў самога паэта. Апяваючы «ходу падзей», «цэхавыя будні» рабочых, паэт раіць «машыну любіць, як сябе». У полі зроку пісьменніка ўвесь час — агульныя карціны жыцця і працы савецкіх людзей пры поўнай няўвазе да канкрэтнага чалавека, стваральніка і будаўніка сацыялістычнай явы.

Нясталасць мастацкага мыслення Броўкі выявілася і ў тым, што ён адмовіўся ад выяўлення інтымнага, асабістага свету сучасніка, заклікаючы пісьменнікаў пісаць выключна аб яго вытворчых справах. Паэт настойліва абараняе паэзію «чыста грамадзян-

---

[1] Пяцьдзесят чатыры дарогі.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1963.— С. 224.

[2] Броўка П. Паэзія.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1932.— С. 161.

скую», задачы якой вызначае вузка, аднабакова: «Няхай і верш чорнарабочы ідзе ударнікам да горнаў». Адмаўляючы «альбомную» — ва ўласным разуменні — інтымную лірыку, паэт тым самым аказваўся яўна не ў ладах з лірыкай пачуцця, роздуму, настрою. Характэрны ў гэтым плане верш «Тады пачынаю з пачуццямі спрэчкі...» (1930).

Я гэтай рамантыкі
вырасту вышай.
Мне трэба, каб слова
падносіла цэглу,
а вершы ў альбом
і другія напішуць[1].

Лозунгавая патэтыка, мысленне «касмічнымі» вобразамі, дэкларатыўнасць і рыторыка, характэрныя для маладнякоўскай паэзіі, у значнай меры ўласцівы для лірыкі Броўкі на пачатку 30-х гадоў. Як і ў кожнага пачаткоўца, а пасля ўжо і аўтара першых кніг паэзіі, не хапала валодання сакрэтамі творчасці, мастакоўскага майстэрства, затое была апантанасць стаяць на пярэдніх рубяжах сацыялістычнага будаўніцтва, ісці ў нагу з бурлівым часам. І гэтая няўрымслівасць, творчае гарэнне з кожным годам прыносілі ўсё больш плён. У надпісе на экземпляры кніжкі «Паэзія», падораным Пятру Глебку, чытаем: «Гэта толькі ўступ да паэзіі, будзем чакаць новага»; на кнізе «Прыход героя» — «Пакуль што крыху крануў, трэба глыбей» [2].

Пра імкненне Петруся Броўкі да новага, пра жаданне глыбей асэнсаваць мінулае і сучаснае сведчаць яго ўласныя прызнанні. Згадаем два, пра паэмы даваеннага часу. Першае — «Праз горы і стэп» напісаны ў выніку таго, што я быў на зборах у 7-й Самарскай кавалерыйскай дывізіі, якая размяшчалася ў Ждановічах. Азнаёміўшыся з армейскім жыццём, з гісторыяй дывізіі, адчуваў, як яе мінулы баявы шлях уплывае на выхаванне маладых байцоў і не мог не напісаць» [3].

Другое — «Я памятаю першую сусветную вайну. Бачыў, як пражывала тады вёска. Пісаў пісьмы салдаткам на фронт. Чытаў ім адказы франтавікоў. Гора народа запала глыбока ў маю дзіцячую душу, так што я ўжо не мог не выказацца пра гэта пасля. Вось як была напісана паэма «1914» [4]. З успамінаў П. Глебкі: «Памятаю, як абрадавала нас паэма П. Броўкі «1914». Ён чытаў яе ўпершыню на кватэры Кузьмы Чорнага. Мякка ступаючы, усхвалявана хадзіў па пакоі гаспадар кватэры. Маўкліва і засяроджана слухаў Кандрат Крапіва» [5].

Тэндэнцыя да канкрэтнасці паэтычнага малюнка, да выяўлення паэзіі чалавечага сэрца, якая намецілася раней, значна пашырылася, умацавалася ў кнізе «Шляхамі баравымі» (1940). Броўка цяпер убачыў сапраўдную паэзію вакол сябе — у мнагастайнасці і непаўторнасці праяўлення прыродных з'яў («Бор», «Паляванне», «Дождж», «Крыніца»), адчуў яе ў сэрцах закаханых («Мы з табой хадзілі часта ў поле»), прыкмеціў у вачах дзяўчынкі, што чакае з панскай турмы бацьку («Сустрэча»). Менавіта прымаючы пад

---

[1] Броўка П. Паэзія.— С. 194.
[2] Літ. і мастацтва.— 1965.— 25 чэрв.
[3] Адказы на анкету.
[4] Тамсама.
[5] Літ. і мастацтва.— 1965.— 25 чэрв.

увагу гэтыя вершы, можна гаварыць аб далейшым развіцці таленту паэта.

Пятрусь Броўка з'яўляўся гарачым прыхільнікам інтэрнацыянальнага яднання працоўных. Аб гэтым гавораць вершы «Браты» і «З армянскіх матываў» напісаныя яшчэ ў сярэдзіне 30-х гадоў. У зборніку «Шляхамі баравымі» паэт змясціў два вершы, прысвечаныя Тарасу Шаўчэнку («Праз Беларусь» і «У Каніве»).

Упершыню пазнаёміўся Броўка з песняй Шаўчэнкі ў раннім школьным узросце, дзякуючы добраму настаўніку, які вучыў дзяцей і чытаць і пець песні на словы вершаў Кабзара. «Старанна хлапечымі галасамі выводзілі мы шаўчэнкаўскі «Заповіт», і здавалася нам у той час, што невялікая рэчка Ушачка быццам шырэе, а вылецеўшы аднекуль свежы вецер, нібы і сапраўды ўздымае грозныя хвалі. Спявалі і чулі, што сіла гэтых слоў дае моц грудзям, і хацелася зрабіць у той час нешта вялікае і грознае»[1]. Як даніна высокай павагі да Шаўчэнкі, улюбёнасці ў яго творчасць, успрымаюцца вершы Броўкі, прысвечаныя Кабзару.

У паэзіі Петруся Броўкі, пачынаючы з сярэдзіны 30-х гадоў, нельга, аднак, не заўважыць і асобных адмоўных тэндэнцый, якія нараджаліся негатыўнымі з'явамі ў грамадскім жыцці. У зборніку «Прыход героя» гэта было яшчэ ледзь-ледзь прыкметна. Зборнік «Вясна Радзімы», дзе побач з ранейшымі вершамі змешчаны і новыя, сведчыў не толькі аб далейшым плённым развіцці творчасці таленавітага паэта, але і аб тым, што тагачасная грамадская атмасфера пэўным чынам скоўвала яго творчыя сілы. Гэта міжвольныя выдаткі на плённым шляху паэта.

У віншаванні праўлення Саюза пісьменнікаў СССР з нагоды 60-гадовага юбілею народнага паэта гаварылася: «Сабраны Вамі ўраджай — багаты і слаўны. Ён прыкметным і магутным патокам уліваецца ў рэчышча многанацыянальнай савецкай літаратуры.

З самага пачатку літаратурнага шляху Вы крочыце ў нагу з народам, памагаеце яму будаваць новае жыццё. На гэтым шляху Вы знайшлі прызнанне свайго шчодрага, яркага таленту»[2].

Тады ж Эдуардас Межэлайціс пісаў: «Патрыятычныя акорды заўсёды магутна гучалі ў творчасці народнага паэта-камуніста. І ярка паўстаюць у строфах Петруся Броўкі карціны беларускай прыроды, такой падобнай на нашу літоўскую. Мы нібы робім разам з ім няспыннае паломніцтва да «хаціны дзіцячых гадоў», да некалі дрымучага кутка, дзе курныя хаты бедна карміла крывуля-саха. І радуемся разам невыказанаму шчасцю новага жыцця, якое прыйшло ў Беларусь і Літву, на ўсе неабсяжныя прасторы савецкай зямлі»[3].

Творы Петруся Броўкі, што ўвайшлі ў першы том, даюць чытачу магчымасць прайсці па ранніх пуцявінах паэта, глыбей зразумець шляхі станаўлення беларускай савецкай паэзіі.

Каментарыі дазволяць чытачу пабываць у яго творчай лабараторыі, даззнацца, як пісаліся, як публікаваліся вершы і паэмы маладога Петруся Броўкі.

МІХАСЬ ЯРОШ

---

[1] Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура.— Мн.: Навука і тэхніка, 1964.— С. 106.

[2] Літ. і мастацтва.— 1965.— 25 чэрв.

[3] Тамсама.

## I
## ВЕРШЫ

Пятрусь Броўка пачаў творчую дзейнасць у 1926 годзе. У газ. «Чырвоная Полаччына» ад 18 жніўня быў апублікаваны верш «Ой, не шапчы, бярозка...». На працягу двух гадоў (з жніўня 1926 года па жнівень 1928 года, калі паэт пакідае г. Полацк і едзе вучыцца ў Мінск) ён актыўна супрацоўнічаў у гэтай газеце, пісаў вершы, апавяданні і фельетоны, прымаў непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы да друку літаратурна-мастацкіх дадаткаў-альманахаў «Наддзвінне», 1926, «Росквіт», 1927 і «Зарніцы», 1928. Для Броўкі «полацкі» перыяд быў вельмі плённым. Сам паэт успамінаў: «Працаваў я тады ў акруговай газеце горада Полацка «Чырвоная Полаччына» спачатку літработнікам, а пасля сакратаром. Проста скажу, што работа ў газеце з'явілася для мяне першай літаратурнай школай. Яна навучыла мяне актыўна цікавіцца ўсімі бакамі жыцця, не замыкацца ў вузкім коле літаратурных інтарэсаў. Памятаю, калі я працаваў у «Чырвонай Полаччыне», мне даводзілася пісаць усё: заметкі, нарысы, справаздачы аб пасяджэннях, перадавыя» [1]. У альманахах і газеце было змешчана каля 30 вершаў. Некаторыя з іх напісаны ў сааўтарстве з Я. Відуком (Ян Скрыган), частка твораў апублікавана пад псеўданімамі (Сымон Ракіта, Пятро Зарэчны, Юрка Баравы). Вершы ранняга перыяду розныя па зместу, форме і мастацкіх якасцях. У лепшых з іх прываблівають лірычнае пачуццё, юнацкая шчырасць, непасрэднасць і маладзы камсамольскі запал, народжаны вялікімі гістарычнымі падзеямі і сацыялістычнай перабудовай грамадства. Адчуваецца імкненне аўтара да разнастайнасці паэтычнай формы.

Так атрымалася, што амаль ніводны твор з надрукаваных у газ. «Чырвоная Полаччына» і альманахах не ўвайшоў у даваенныя зборнікі паэта, і толькі некалькі з іх («Ой, не шапчы, мая бярозка...», «Залатымі зоркамі...», «Не буду я стаяць на раздарожжы...», «*** Майскім раннем я вас пакідаў...») паэт уключыў у першае найбольш поўнае выданне — «Выбраныя творы», 1947 — і наступныя Зборы твораў. Відаць, гэта тлумачыцца не толькі высокай патрабавальнасцю аўтара да твораў ранняга перыяду. Паэтычныя зборнікі «Гады, як шторм», 1930, «Цэхавыя будні», 1931, 1932, «Паэзія», 1932, «Прыход героя», 1935 складаліся паэтам не адвольна, а былі задуманы і ствараліся як тэматычныя цыклы. Нават назвы першых зборнікаў цалкам адпавядалі пэўнай тэме, якая знаходзіла адлюстраванне і ў назвах раздзелаў і ў саміх вершах. Наяўнасць такіх цыклаў — адметная рыса ранніх паэтычных зборнікаў П. Броўкі. Нягледзячы на некаторую дэкларацыйнасць і спрошчанасць, а часам нават прасталінейнасць і наіўнасць, ім нельга адмовіць ва ўсхваляванасці, актуальнасці і надзённасці. У некаторых цыклах заўважаецца неакрэсленасць ідэі і празмер-

[1] Броўка П. Збор твораў: У 7 т. Т. 7.— Мн.: Маст. літ., 1978.— С. 332.

ная абагуленасць вобразаў, якую не выратоўвае нават грамадскі пафас. І ўсё ж можна сцвярджаць, што паэтычныя зборнікі П. Броўкі — гэта гістарычны і мастацкі дакумент сваёй эпохі.

Першы зборнік «Гады, як шторм» складаўся з 4 раздзелаў: 1. Варштат кліча; 2. Межы бунтуюць; 3. Слова пра бойкі; 4. Маладосць. Такая колькасць раздзелаў была захавана і ў зборніку «Паэзія»: 1. Мая рэканструкцыя; 2. Паэмы зямлі; 3. Заўсёды гатоў; 4. Маладосць. Зборнік «Цэхавыя будні», які выдаваўся двойчы (1931, 1932), не меў раздзелаў, бо цалкам быў прысвечаны адной тэме. Але ўжо пры падрыхтоўцы да друку наступнага зборніка — «Прыход героя», 1935 — П. Броўка зноў згрупаваў вершы па тэмах: «Вясна і людзі», «Кастрычніцкі марш», «Мінск», «1914». У пазнейшых выданнях некаторым з іх паэт даў жанравае вызначэнне: паэма.

У 1929 годзе на старонках часопіса «Маладняк», № 7 П. Броўка паведаміў, што рыхтуе да друку зборнік вершаў пад назваю «Бомы». Так спачатку называўся першы зборнік паэта «Гады, як шторм». Нягледзячы на тое, што ўжо ў № 10 за 1929 год часопіс «Маладняк» змясціў паведамленне аб тым, што Броўка здае ў друк зборнік вершаў, большая частка з іх датуецца 1930 годам.

Раннія зборнікі П. Броўкі прадстаўлены ў пасляваенных выданнях далёка не ў поўным аб'ёме, і тэкст многіх вершаў істотна адрозніваецца ад першай публікацыі. Можна меркаваць, што адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны П. Броўка проста не меў магчымасці праглядзець усё напісанае да яе пачатку з-за адсутнасці ўласнага архіва, а бібліятэкі толькі пачыналі збіраць і аднаўляць свае газетныя і кніжныя фонды. Імкнучыся як мага паўней прадставіць свой ранні творчы перыяд, паэт пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947 уключыў некалькі самых ранніх вершаў, якія ў даваенных зборніках не друкаваліся. Але, за выключэннем верша «Ой, не шапчы, мая бярозка...», яны былі прадстаўлены ў новых рэдакцыях. Падвергліся значнаму скарачэнню і некаторыя вершы з даваенных зборнікаў, у далейшых выданнях частка з іх пасля дапрацоўкі атрымала новую назву («Мой кірунак», «Вясковая размова», «*** Хай ноч» і інш.).

Трэба адзначыць, што большая частка вершаў 1926—1934 гг. даволі істотна перапрацоўвалася да выдання «Выбраныя вершы», 1947. Гэта датычыцца твораў ранняга перыяду. Вершы 1932—1934 гг. пераглядаліся і правіліся П. Броўкам пры падрыхтоўцы да выдання першага Збору твораў, 1957. У асноўным, праўкі насілі стылёва-моўны характар. Амаль у кожны наступны Збор твораў П. Броўка ўключаў верш з даваеннага перыяду. У выданне 1965 года — «*** Майскім раннем я вас пакідаў», «Наперад маладых», «Чырвонай змене» і інш.; у апошні Збор твораў, 1975 — «*** Хай ноч», «Прадвясновае», «Вясна на стадыёне». Гэта значна пашырала ўяўленне пра пачатковы этап творчай дзейнасці паэта, яго творчыя задумы і ідэйна-мастацкія пошукі, мела выключнае значэнне для разумення вытокаў паэтычнага майстэрства.

У 1935 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве ў Маскве выйшла першая кніга твораў П. Броўкі ў перакладзе на рускую мову «Избранные стихи». Вось што пісаў паэт пра той час у 1974 годзе: «Усе мы шчыра былі ўдзячны рускім сябрам за пераклады. З'яўленне ж нашых твораў на рускай мове адкрывала нам дарогу да сэрцаў мільёнаў чытачоў ва ўсіх рэспубліках і за рубяжом. Я быў шчаслівы, калі мой верш паяўляўся ў Маскве, а ў дні Першага з'езда

ўжо рыхтаваўся да выдання мой першы зборнік у маскоўскім Дзяржлітвыдаце»[1]. Ён з'явіўся адзінай кнігай перакладаў даваеннага часу. У ёй былі прадстаўлены усе раннія зборнікі. Гэта быў вялікі гонар для маладога паэта і значная падзея не толькі ў творчасці Броўкі, але і ва ўсёй беларускай савецкай літаратуры.

*Ой, не шапчы, мая бярозка...* (с. 25)

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1926, 18 жн. пад назвай «Ой, не шапчы, бярозка...».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1926 годам.

У даваенныя зборнікі не ўключаўся. Друкаваўся ў «Выбраных творах», 1947, 1951 і ва ўсіх Зборах твораў з нешматлікімі праўкамі.

С. 25, радкі 14, 17:

А сонца яснае ўстане —
Хай сонца косы заплятае,
*(«Чырвоная Полаччына»)*

Гэты верш з'явіўся пачаткам творчай дзейнасці П. Броўкі, пазней паэт пісаў: «Вершы я пісаў увесь час, але баяўся прызнацца ў гэтым таварышам. Рэдакцыя акруговай газеты «Чырвоная Полаччына» знаходзілася за два кварталы ад акругкома ЛКСМБ, дзе я працаваў, але аднесці туды вершы саромеўся. І толькі калі адзін з блізкіх сяброў, якому я адкрыўся, сказаў, што зробіць гэта за мяне, я рашыўся і поштай адправіў у рэдакцыю свой верш. Калі б можна было перадаць словамі, з якой нецярплівасцю я разгортваў кожны новы нумар газеты. І нарэшце, о, дзіва! На трэцяй старонцы ўпершыню друкаванымі літарамі: «Пятрусь Броўка. «Ой, не шапчы, мая бярозка...».

Верш быў пакладзены на музыку Н. Ларковым.

*Не буду-я стаяць на раздарожжы...* (с. 26)

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1926, 15 снеж. Друкаваўся таксама ў альманаху «Наддзвінне», 1926; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

У даваенныя зборнікі не ўключаўся. Рыхтуючы да выдання «Выбраныя творы», 1947, П. Броўка ўключыў верш пад гэтай назвай, але ў новай рэдакцыі. З 6-ці строф першапачатковага варыянта паэт захаваў толькі 2 радкі, у якіх найбольш выразна фармулявалася асноўная думка верша. Па сутнасці, у іх было вызначана паэтычнае крэда паэта.

Першапачатковы варыянт:

Лісты, лісты бяроз сягоння мне спяваюць,
А я паклоны б'ю адказам на прывет.
Хай радасць дум маіх у полі разліваюць
Ракой бурліваю ў пахучы ружацвет.

К табе, кудравая, што вісне над лагчынай,
Прыйду, прыйду кахання піць віно.
Мо ты на радасці ды страсянеш чупрынай
І заплюскочам даль мы песняю адной.

Туманнай раніцай спяваць мне хочацца
Пад той бярозкаю ды слухаць салаўёў,
Дзе спеў палёў у зелені палошчацца...
І дораг той напеў, хоць і няма ў ім слоў.

---

[1] Броўка П.— Т. 7.— С. 174.

Сцюдзёная журба і крыўда ў сэрцы нікне,
Калі у шырыні бурлівіць спеў вясны,
І знік сівы туман у даліні блакітнай
Пад куплам сінявы радзімай стараны.

Не буду я стаяць, стаяць на раздарожжы,
Вачмі маркотнымі блукаць у далячынь,
Ў шляху квітнеючым, ды ў колерах прыгожых
Ніколі не авее мяне увосень стынь.

Дык пакланюсь зямлі і стану на калені
Пад росквітам тваім, прыгожы ў кветках дзень,
Няхай ў палёх маіх адвагай радасць пеніць,
Каб крыўды ды й журбы не засталось нідзе.

*Залатымі зоркамі...* (с. 27)

Упершыню — Наддзвінне, 1926 без назвы, пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

Пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947 з 4-х строф, падзеленых зорачкамі ў альманаху на 3 часткі, П. Броўка пакідае толькі першую і чацвёртую, дае вершу назву. Па свайму зместу і своеасаблівай рытміцы ўсе тры часткі ўспрымаюцца як адзін верш. Гэта дае падставы меркаваць, што скарачэнне і нязначныя праўкі ў пакінутых радках не былі звычайнай аўтарскай перапрацоўкай, а з'явіліся ўзнаўленнем па памяці першапачатковага варыянта верша. Тое ж адбылося і з вершамі «Не буду я стаяць на раздарожжы...» (гл. с. 26) і «*** Майскім раннем я вас пакідаў» (гл. с. 29).

З ранніх рэдакцый.

Першая страфа, радок трэці:

Закахаўся зоркаю

Пасля першай страфы:

У ночанькі ліпнёвыя,
ночанькі квяцістыя
пахі піў сасновыя
з зоркай прамяністаю.
Пілі ды ўпіваліся
шырынёй пахучаю...
Ой, ды любаваліся
зоранькай бліскучаю.

Другая страфа, радок першы:

Сёння ж за ўзгоркамі

*(«Наддзвінне»)*

*Дарагое* (с. 28)

Упершыню — зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Межы бунтуюць»; пад тэкстам: Мінск, 1929 г. Тая ж дата і ў зб. «Паэзія», 1932, дзе верш быў змешчаны ў раздзеле «Паэмы зямлі».

У «Выбраных творах», 1947 і ва ўсіх наступных выданнях верш памылкова датуецца 1928 годам і друкуецца ў скарочаным варыянце. Нязначныя праўкі ў тэкст былі ўнесены ў Збор твораў, 1957. Было:

С. 28, радкі 1 і 6:

Бяжыць няскончаная гаць,
ліецца ў песні-падарункі,

Апошнюю праўку паэт зрабіў у Зборы твораў, 1965. Было:

С. 28, радок 15:

Калісьці ў сто капалі сох,

*** *Майскім раннем я вас пакідаў...* (с. 29)

Упершыню — Наддзвінне, 1926; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

Упершыню ў новай рэдакцыі верш быў апублікаваны ў Зборы твораў, 1965. П. Броўка істотна скараціў верш, з 4-х строф захаваўшы толькі першую, з праўкамі ў трэцім і чацвёртым радках. Для гэтага выдання была дапісана і другая страфа. Такім чынам, датыроўку верша можна ўдакладніць датай апублікавання новай рэдакцыі: 1965.

Першапачатковы варыянт:

Майскім раннем я вас пакідаў,
Аксамітна-зялёныя ўзмежкі.
Майскім раннем прыйду прывітаць,
Радасць дум па загонах разнесці.

Ой, ты, рэчка, паяс серабра!..
Што купаешся ў траўцы шаўковай!
Ля цябе я свой сум разганяў,
Варажыўшы аб вёснах аб новых...

Сэрца там не скрыпела тугой,
У грудзёх не сціскала ад болю.
З ціхім шэптам радных мурагоў
У радзімых прасторах сваволіў.

Хоць клякоча, бурлівіць жыццё,
Б'е і пеніць агнём ў камяніцах,
Прад табою, зялёны прастор,
Я схіляюся сёння ніцма.

*На новыя мы сталі рубяжы* (с. 30)

Упершыню — Сав. Беларусь, 1929, 13 кастр. пад назвай «На новыя мы селі рубяжы»; Чырв. змена, 1929, 13 кастр. пад назвай «На вёсцы»; пад тэкстам: г. Мінск, кастр. 1929.

Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Межы бунтуюць» без даты. У зб. «Паэзія», 1932 быў змешчаны ў раздзеле «Паэмы зямлі» таксама без даты.

Пачынаючы з «Выбраных твораў», 1947 друкуецца ў скарочаным варыянце.

*Памяці Паўлюка Труса* (с. 31)

Упершыню — Чырв. Беларусь, 1930, № 18, 25 верасня пад назвай «Таварышу» з падзагалоўкам «Памяці Паўлюка Труса». Друкаваўся пад той жа назвай у зб. «Гады, як шторм», 1930 і «Паэзія», 1932 без даты.

Пачынаючы з «Выбраных твораў», 1947 і ва ўсіх наступных выданнях верш датуецца 1929 годам.

Напісаны з выпадку смерці беларускага паэта П. Труса (памёр 30 жніўня 1929 года).

Пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947 П. Броўка дае вершу новую назву.

З ранніх рэдакцый.

С. 31, радкі 5—8:

Паэт — чалавек штурмуе вышыні,
Чаму ж гэтак рана сціскаюцца векі?
Кожны дзень сэрца мяняе машына,
Толькі адно — ў чалавека.

*(«Чырвоная Беларусь»)*

Законы суровы. Мы ж чым награшылі?
Чаму гэтак рана сціскаюцца векі?
Кожны дзень сэрца мяняе машына,
Толькі адно — ў чалавека.

*(«Гады, як шторм», «Паэзія»)*

Радкі 13—14:

Мне крыўдна, што моладасць кінулі сілы

*(«Чырвоная Беларусь», «Гады, як шторм», «Паэзія», «Выбраныя творы», 1947)*

Жывога хачу зноў, такога, як ты.

*(«Чырвоная Беларусь», «Гады, як шторм», «Паэзія»)*

Пасля радка 21:

Памяць, пастой!
Не трывож больш,
не кратай:—
— (плыве дамавіна
з апошнім вянком)
балючая ростань
з таварышам, братам,
балюча да смерці
і паэтам-байцом.

*(«Чырвоная Полаччына», «Гады, як шторм», «Паэзія»)*

*Наперад маладых* (с. 32)

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 11 лют. Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Маладосць» і «Паэзія», 1932 у тым жа раздзеле і з аднолькавай датай: 1930.

Да 1965 года верш не перадрукоўваўся. Пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў, 1965 паэт скараціў яго і ўнёс праўкі ў апошнія пяць строф:

С. 32, радкі 21—24:

А там, у сіні вечар,
дзе снег ў абоймах зор,
— завееныя клеці
чакаюць нас даўно.

радкі 25—28:

Стаяць бабулі-хаты,
а золь імжыць, імжыць.
І быццам з па-за кратаў
не выйдуць з-за мяжы.

Пасля радка 28:

Там клічуць, клічуць стрэхі
бязмежжамі дарог...

Таварышы па цэху,
на межы у палёх!

*Гады, як шторм* (с. 34)

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 22 сак.; пад тэкстам: Мінск, 1930. Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Варштат кліча» з аднолькавай паметай: Мінск, 1930. Уваходзіў у зб. «Цэхавыя будні», 1932 (2-е выд.), кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934.

Пад назвай «Смерць правадыра» ў перакладзе Б. Турганава на рускую мову быў змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935, дзе памылкова датаваўся 1933 годам.

З ранніх рэдакцый.

С. 35, радок 15:

А сэрца калоціцца
У тысячы зор.

С. 35, радок 31:

Імчыць цягнік,
хоць тысячы праталін
дарогу рвуць.

С. 35, радкі 41—42:

Мы выйшлі ўсе:
вінтоўкаю і ломам
пабудаваць жыццё
і даглядзець.

*(«Гады, як шторм», «Паэзія», «Цэхавыя будні», «Выбраныя вершы і паэмы»)*

Рыхтуючы да друку «Выбраныя творы», 1947, П. Броўка значна скарачае верш, перапрацоўвае канцоўку:

Мы выйшлі ўсе паміж раскатаў грому —
пабудаваць жыццё
і даглядзець.

Канчатковы варыянт апошніх радкоў з'явіўся ў Зборы твораў, 1957.

*«Чырвонай змене»* (с. 36)

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 26 крас. Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 і «Паэзія», 1932 у раздзелах «Маладосць»; пад тэкстам: Мінск, 1930.

Напісаны да 9-гадовага юбілею газеты, які шырока адзначаўся грамадскасцю.

У першыя пасляваенныя выданні не ўключаўся. Пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў, 1965 П. Броўка скараціў верш і ўнёс некаторыя змены ў тэкст.

Пасля радка 12:

Ты мне гаворыш пра Парыж,
Шанхай, пра Лондан, пра Канаду,
— Там камсамол душой гарыць
Купіць жыццё на барыкадах.

— А ў нас зусім другое тут,—
На бой з адвечнаю палоскай
Палкі юнацкія ідуць
Шарэнгай стройнаю на вёску.

*(«Гады, як шторм», «Паэзія»)*

*Вясновая размова* (с. 37)

Упершыню — Маладняк, 1930, № 4 пад назвай «Ідзе вясна» з падзагалоўкам «Урывак з паэмы «Савецкая вясна». Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Межы бунтуюць» з паметай: сакавік, 1930; «Паэзія», 1932 у раздзеле «Паэмы зямлі» з аднолькавай паметай і «Цэхавыя будні», 1932.

У пасляваенныя выданні П. Броўка не ўключаў гэты верш. І толькі пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў, 1965 паэт значна перапрацаваў і скараціў твор, змясціўшы толькі другую частку пад новай назвай «Веснавая размова».

З ранніх рэдакцый.

С. 37, радок 6:

а) Страчай апошні пераход,

*(«Маладняк»)*

б) Ідзі ў апошні пераход,

радкі 11—12:

пакуль не раскахаў!
— Дзікунцам казачных часоў

радкі 14—16:

Пайшоў бабыль,
кудлаты дзед,
пакункі дум панёс.

радок 27:

Ты красак потым нам дасі.

*(«Маладняк», «Гады, як шторм», «Паэзія»)*

*Мой кірунак* (с. 38)

Упершыню — Полымя, 1930, № 7 пад назвай «Песня пра партфель»; пад тэкстам: Мінск, 1930 г. Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Слова пра бойкі» і зб. «Паэзія», 1932 у раздзеле «Заўсёды гатоў» з той жа назвай і паметай.

У першыя пасляваенныя выданні П. Броўка гэты верш не ўключаў. І толькі пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў (1965) паэт скараціў верш і прадставіў чытачу толькі ўрывак з другой часткі пад новай назвай «Мой кірунак». Гэта адзіны твор з раздзела «Слова пра бойкі» («Гады, як шторм»), які ў перапрацаваным варыянце перадрукоўваўся ў Зборы твораў, 1965, 1975. Акрамя гэтых публікацый, верш у апошняй рэдакцыі быў змешчаны ў час. «Беларусь», 1978, № 12, які быў прысвечаны 60-годдзю БССР і КПБ.

З ранніх рэдакцый.

Пасля радка 18:

партфель каля боку
лагодна трымаю.
Твайму, ваенком,
падарунку я рады:
ён месца аховы
канспектаў, дакладаў,
няхай стараваты,—
я ім не пагрэбаў!

а) Як цвік на будоўлі,
і мне ён патрэбен.

*(«Полымя», «Гады, як шторм»)*

б) У нашай будоўлі,
і мне ён патрэбен.

*(«Паэзія»)*

Ён разам са мною —
да новых трафей.
Ты сябра сягоння,
мой стары партфель.
*(«Полымя», «Гады, як шторм», «Паэзія»)*

*Сёння слова бяру* (с. 39)
(Пра Усебеларускую выстаўку)

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 10 жн. з падзагалоўкам «Нізка настрояў пасля агляду 1-й Усебеларускай выстаўкі»; пад тэкстам: Мінск, жнівень, 1930 г.

Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Варштат кліча» і «Паэзія», 1932 у раздзеле «Мая рэканструкцыя» з аднолькавай паметай: Мінск, жнівень, 1930 г.

Верш прысвечаны адкрыццю ў Мінску Першай Усебеларускай выстаўкі сельскай гаспадаркі і прамысловасці, якое адбылося 10 жніўня 1930 года. Пасля вайны П. Броўка ўключыў твор толькі ў першы Збор твораў, 1957, дзе скараціў і перапрацаваў яго. У такой рэдакцыі верш друкаваўся ў далейшых выданнях.

З ранніх рэдакцый.

С. 39, радкі 18—20:

І сцены гарацъ
у агні перамог
і ў баявым настроі.

Пасля радка 20:

Ды хіба мы самі
ніц ляглі?
— Нас маладзіць
не трэба!
Морам бушуе
ў грудзёх разліў,
вочы —
як сіняе неба.
*(«Гады, як шторм», «Паэзія»)*

*Камсамольцам* (с. 42)

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 7 верас. пад назвай «Камсамольцам у XVI МЮД».

Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Маладосць» і «Паэзія», 1932 у тым жа раздзеле і з аднолькавай паметай: Мінск, 1930. Уваходзіў у кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934.

Верш быў напісаны да Міжнароднага юнацкага дня, які шырока адзначаўся ў нашай краіне 7 верасня 1930 года.

Пры падрыхтоўцы да выдання «Выбраныя творы», 1947 П. Броўка скараціў верш. У апошні Збор твораў, 1975 была ўнесена адзіная праўка: Поўны агню, як гартоўныя домны.//Поўны агню, як калёныя домны.

Скарочаны тэкст:

Пасля радка 18:

Вочы на Захад!
Захад гарыць!
Бачыш? —
агні ліюцца!

Там у пажарах
рабочай крыві
новыя дні
куюцца.
На кожным завулку —
смерці зніч
ходзіць,
гуляе брухам...
Цераз равы
і драты граніц,
давай, камсамольцы, рукі!..
Я знаю:
такую мы сілу
нясём,
што задрыжыць
планета.
Будзем упарта змагацца ўсе
за
пяцігодку свету!...

*(«Гады, як шторм», «Паэзія», «Выбраныя вершы і паэмы»)*

*** *Хай ноч...* (с. 43)

Упершыню — зб. «Гады, як шторм», 1930 пад назвай «Наперад!» у раздзеле «Варштат кліча»; пад тэкстам: г. Мінск, кастрычнік, 1930. Друкаваўся ў зб. «Паэзія» пад той жа назвай і паметай у раздзеле «Маладосць». Уваходзіў у кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934 з датай: 1930.

Верш з'явіўся водгукам паэта на заклік ЦК КП(б)Б да беларускіх пралетарскіх пісьменнікаў: «БелАПП — тварам да вытворчасці». Матэрыялы, прысвечаныя гэтай тэме, былі змешчаны ў газ. «Звязда», 1930, 5 кастр.

У пасляваенныя выданні не ўключаўся. Толькі ў апошнім Зборы твораў, 1975 П. Броўка змясціў верш у скарочаным варыянце і з нязначнымі праўкамі.

*Асінбуд* — будаўніцтва раённай электрастанцыі (БелДРЭС) пад Оршай. 8 кастрычніка 1930 года газ. «Звязда» паведаміла, што электрастанцыя пачала працаваць.

*Чырвонаармейцам* (с. 44)

Тэкст друкуецца з папраўкай па выданню «Выбраныя творы», 1951. Радок 11, замест: Мы пойдзем, кулямётчыкі,//Мы пройдзем, кулямётчыкі.

Упершыню — Полымя, 1931, № 1; пад тэкстам: Мінск, снежань, 1930. Друкаваўся ў зб. «Цэхавыя будні» (1931, 1932), «Паэзія», 1932, у раздзеле «Заўсёды гатоў» і «Вясна радзімы», 1937 без даты. Пачынаючы з выдання «Выбраныя вершы і паэмы», 1934 памылкова датуецца 1931 годам.

Пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947 П. Броўка значна скараціў верш, пакінуўшы толькі яго пачатак. У такім варыянце ён друкаваўся да апошняга Збору твораў, 1975, дзе паэт унёс адзіную праўку: радок 4, замест: На стомленым прывале.// У кароткія прывалы.

Верш быў перакладзены на рускую мову Турганавым і друкаваўся ў «Избранных стихах», 1935, дзе памылкова датаваўся 1933 годам.

### *Зямля* (с. 45)

Упершыню — Беларусь калгасная, 1932, № 1, пад тэкстам: Мінск, 1931. Друкаваўся ў зб. «Паэзія», 1932 у раздзеле «Паэмы зямлі» і ва ўсіх даваенных выданнях, акрамя зб. «Шляхамі баравымі», 1940.

Тэкст верша быў скарочаны пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1947 і ў такой рэдакцыі друкаваўся ва ўсіх наступных выданнях.

На рускую мову верш пераклаў Б. Ясенскі. Друкаваўся ў перакладзе ў газ. «Рабочий», 1934, 8 чэрв.; у кн.: «Избранные стихи», 1935.

Цікавасць Б. Ясенскага да беларускай літаратуры не была выпадковай. У канцы лістапада і пачатку снежня 1933 года ў складзе дэлегацыі ён знаходзіўся ў Мінску ў сувязі з падрыхтоўкай да з'езда пісьменнікаў. У наступным годзе прымаў удзел у Першым Усебеларускім з'ездзе пісьменнікаў, які праходзіў з 8—14 чэрвеня.

### *Пра вайну* (с. 47)

Упершыню — зб. «Паэзія», 1932 у раздзеле «Заўсёды гатоў» з паметай: Мінск.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, за выключэннем першадруку, датуецца 1931 годам.

У першым варыянце ў вершы кожная частка мела назву: 1. Кароткія абрысы вайны; 2. Некалькі строф да заходніх братоў; 3. Толькі малы процант таго, чым жывем.

Пры падрыхтоўцы да друку зб. «Вясна радзімы», 1937 П. Броўка скараціў апошнюю частку, зняў назвы частак і ўнёс некалькі правак. Пасля выдання «Выбраныя творы», 1947 гэты верш не перадрукоўваўся. І толькі ў апошні Збор твораў, 1975 паэт уключыў твор у варыянце папярэдняй публікацыі.

С. 47. *Гэта з першым жніўнем прывітаў вас кат.*— Размова ідзе пра першую сусветную вайну (1914—1918), калі 19 ліп. (1 жн.) Германія абвясціла вайну Расіі.

*Негарэлае* — пагранічная станцыя СССР да 1939 года. Ад Мінска ў адлегласці 48 км.

### *Янку Купалу* (с. 50)

Упершыню — Беларусь калгасная, 1932, № 6—7 з падзагалоўкам «Да 50-годдзя з дня нараджэння»; пад тэкстам: Ліпень, 1932.

Друкаваўся ў час. «Чырвоная Беларусь», 1932, № 17, верасень з той жа паметай. У скарочаным варыянце і з памылковай датай: 1931 быў змешчаны ў зб. «Шляхамі баравымі», 1940. У такой рэдакцыі і з недакладнай датай друкаваўся ва ўсіх пасляваенных выданнях.

З ранніх рэдакцый.

С. 50, радкі 5—6:

І людзі ішлі
на змаганне нястомна,

*(«Беларусь калгасная», «Чырвоная Беларусь»)*

С. 50, пасля радка 31:

І ў гэтыя дні,
калі выраслі мы,
і сталі на варце камуны —

Заўсёды ўважна
лістаем тамы
вашага сэрца
і думак.
Мы вашыя песні
шчыра віталі,
што клікалі буйна
да перамогі,
бо майстрамі
партыя нас ўзгадавала
на ўпартую працу
вялікай эпохі.
А трэба —
мы выйдзем
і ў маршах удалых,
як порах, запалім
гарачыя сэрцы.
Мы выстраім песні,
Янка Купала,
шарэнгамі слаўных
крылатых армейцаў.
Мінулі вы песень
пануры залом,
І там, дзе шырока
ўзнімаюцца гоні,
з вялікай сяўнёю
гарачых слоў
вы нашыя вёсны
страчаеце сёння.
Калі ж забушуе
вайны пажар
і вораг сцяною
абкружыць Саветы —
Вы будзеце з першых
у бойках, пясняр,
ў кагортах байцоў,
мастакоў
і паэтаў.

*(«Беларусь калгасная», «Чырвоная Беларусь»)*

С. 50. *Курлоўскія ночы над краем гасцілі...*— Маецца на ўвазе мінскі губернатар Курлоў П. Р., адзін з найбольш жорсткіх душыцеляў рэвалюцыі 1905 года, па яго загаду 18 кастрычніка былі расстраляны ўдзельнікі мітынгу.

С. 50. *Вы клікалі нас, маладых арлянят, па песню, па сонца, па шчасце камуны.*— П. Броўка мае на ўвазе верш Я. Купалы «Арлянятам» (1923), успрымаючы яго як наказ старэйшага майстра маладым таварышам па пяру.

*Кастрычніцкі марш* (с. 51)

Упершыню — кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934 пад тэкстам: Кастр. 1932. Друкаваўся таксама ў зб. «Прыход героя», 1935, «Вясна радзімы», 1937 без даты. У «Выбраных творах», 1951 быў змешчаны з памылковай датай: 1933. Гэта недакладная датыроўка захавалася і ў далейшых выданнях.

Верш, відаць, быў напісаны да 15-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

У першым варыянце твор быў падзелены на 5 частак, кожная мела назву: 1. Гэта ішла рэвалюцыя; 2. Разбілі мы вякоў прымус; 3. Будзе Кастрычнік, таварышы, у вас; 4. Вышай, песня юнацкая, вышай! 5. Праверце, набоі, чырвонаармейцы! У зб. «Прыход героя», 1935 П. Броўка скарачае дзве апошнія часткі, пакінуўшы назвы першых трох частак без змен. Але пры падрыхтоўцы да друку «Выбраных твораў», 1951 паэт адмаўляецца і ад другой і трэцяй частак, першая атрымлівае назву «Кастрычніцкі марш» і ў такой рэдакцыі верш перадрукоўваўся ў далейшых выданнях. Рыхтуючы свой першы Збор твораў у 2-х тамах, 1957, П. Броўка ўнёс некалькі правак.

Упершыню твор перакладзены па частках як асобныя вершы і рознымі перакладчыкамі. Увайшоў у зб. «Избранные стихи», 1935. Першую частку перакладаў С. Олендэр, другую і трэцюю — К. Архіпаў. Датуюцца першыя дзве часткі 1932 годам, трэцяя — памылкова 1934 годам.

З ранніх рэдакцый.

С. 52, радок 6:

Шалёныя штормы

радкі 25—26:

Падстрыжаны ёрш
Аляксандр Керэнскі,

С. 53, радок 17:

Гэта заводаў

*(«Выбраныя вершы і паэмы», «Прыход героя», «Вясна радзімы»)*

С. 51. *Охта* — рабочы пасёлак у Ленінградзе.

С. 52. *Керэнскі А. Ф.* (1881—1970), рускі буржуазны палітычны дзеяч, у той час глава буржуазнага Часовага ўрада.

*Прадвясновае* (с. 54)

Упершыню — кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934 пад назвай «Уступ да вясны і герояў» у цыкле «Вясна і людзі», з датай: 1933. Друкаваўся ў зб. «Прыход героя», 1935; пад тэкстам: Мінск, 1933. Цыкл напісаны да Першага Усебеларускага з'езда калгаснікаў-ударнікаў, які праходзіў 21—23 сакавіка 1933 года і быў прысвечаны калгасніку Сцяпану Байлуку.

Складаўся з 6-ці частак: 1. Уступ да вясны і герояў; 2. Вясна; 3. Людзі; 4. Байлук Сцяпан; 5. Брыгада Байлука; 6. Будзе горды ўраджай!

Пасля 1935 года не перадрукоўваўся. Пры падрыхтоўцы да друку апошняга Збору твораў, 1975 П. Броўка перагледзеў ранні цыкл і ўключыў толькі адну частку пад новай назвай «Прадвясновае».

*Ачмут* — дурман, цемра.

*Браты* (с. 55)

Упершыню — кн. «Выбраныя вершы і паэмы», 1934 з датай: 1933. Друкаваўся ў зб. «Прыход героя», 1935 і «Вясна радзімы», 1937 без даты. Пачынаючы з выдання «Выбраныя творы», 1947 недакладна датуецца 1934 годам.

Верш быў напісаны ў перыяд падрыхтоўкі да аб'яднанага пле-

нума ЦК і ЦКК КП(б)Б, якi прыняў пастанову па выніках і бліжэйшых задачах правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў БССР.

Першы варыянт верша істотна адрозніваўся ад далейшых публікацый. Рыхтуючы зб. «Прыход героя», П. Броўка, акрамя іншых правак, выдзеліў апошнюю частку ў самастойны верш пад назвай «Містэр Тарнтон». Напісаны ён быў у сувязі з працэсам у Маскве над замежнымі спецыялістамі, якія, прыехаўшы ў Савецкі Саюз на працу, займаліся шкодніцтвам. З 1935 года гэты верш не перадрукоўваўся. Акрамя скарачэння, другая публікацыя амаль не адрознівалася ад папярэдняй. Найбольш істотныя праўкі П. Броўка ўнёс у Збор твораў, 1957. Але пры падрыхтоўцы да друку апошняга Збору твораў паэт працягваў дапрацоўваць верш.

С. 56. *Рыён* — рака ў Грузінскай ССР, дзе пабудавана вялікая электрастанцыя.

С. 57. *Ненасыцец* — парог на Дняпры.

С. 58. *Мінарэт* — вежа мячэці.

*Зурна* — музычны ўсходні інструмент.

*Турксіб* — чыгунка, пабудаваная ў гады першай пяцігодкі (1929—1932). Праходзіць па тэрыторыі Казахскай ССР, злучаючы раёны Сібіры з рэспублікамі Сярэдняй Азіі.

*Красавік* (с. 61)

Упершыню — зб. «Прыход героя», 1935; пад тэкстам: Масква, красавік 1934. Друкаваўся ў зб. «Вясна радзімы», 1937 з датай: 1934.

Верш значна не перапрацоўваўся. Апошнія істотныя праўкі былі ўнесены П. Броўкам пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў, 1957. Было:

С. 61, радок 18:

Ручайкамі булькае кроў

радкі 31—32:

Наўсцяж,
Наўскось —

С. 62, радкі 5—6:

А потым — набухне зярно
І праймецца сілай вялізнай,

*На Чырвонай плошчы* (с. 63)

Упершыню — Полымя, 1934, № 10 з падзагалоўкам «1 верасня 1934». Друкаваўся ў зб. «Прыход героя», 1935 з тым жа падзагалоўкам. У зб. «Вясна радзімы», 1937 падзагаловак быў зняты. У пасляваенных выданнях друкаваўся без падзагалоўка.

Верш быў напісаны пад уражаннем знаходжання ў Маскве, дзе ў складзе дэлегацыі пісьменнікаў БССР П. Броўка прымаў удзел у рабоце Першага з'езда пісьменнікаў СССР, які праходзіў з 17 жніўня па 1 верасня 1934 года.

Істотныя праўкі і скарачэнне паэт унёс пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў, 1957.

У перакладзе на рускую мову М. Дуброўскага быў змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935.

*Ужо верасень* (с. 65)

Упершыню — Полымя, 1934, № 10; пад тэкстам: Мінск, 1934 г. Друкаваўся ў зб. «Прыход героя», 1935; «Вясна радзімы», 1937 з той жа паметай.

Верш не перапрацоўваўся, і толькі ў Збор твораў, 1957 П. Броўка ўнёс некалькі правак.

На рускую мову верш быў перакладзены М. Дуброўскім і змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935.

*Радзіме* (с. 67)

Упершыню — «Прыход героя», 1935 без даты. У зб. «Вясна радзімы», 1937, «Вершы і паэмы», 1940, «Выбраныя творы», 1947 датуецца 1934 годам. У «Выбраных творах», 1951 і ў Зборы твораў, 1957 пад тэкстам верша была пастаўлена памылковая дата: 1939. Гэта памылка была выпраўлена, магчыма П. Броўкам, у Зборы твораў, 1965—1966. Але звестак, якія пацвердзілі б дакладнасць апошняй даты, пакуль што не знойдзена. Таму верш датуецца 1934 годам.

Верш значна не перапрацоўваўся. Даваенная рэдакцыя захоўвалася да першага Збору твораў, 1957. Рыхтуючы яго, паэт унёс некаторыя праўкі. У такім варыянце верш перадрукоўваўся ў далейшых выданнях. Быў перакладзены на рускую мову і ўвайшоў у кн. «Избранные стихи», 1935 з датай: 1933.

*Вясна на стадыёне* (с. 69)

Упершыню — зб. «Прыход героя», 1935 як апошняя частка паэмы «Мінск», пад тэкстам: Мінск, 1934. Друкаваўся як самастойны верш у зб. «Вясна радзімы», 1937.

У пасляваенныя выданні не ўключаўся. Быў апублікаваны толькі ў апошнім Зборы твораў, 1975 амаль без дапрацовак. Перакладаўся на рускую мову М. Дуброўскім, змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935.

Гісторыя тэксту вершаў 1935—1940 гг. небагатая, але цікавая для вывучэння псіхалогіі творчасці мастака. Паэт неаднаразова вяртаўся да надрукаваных ужо твораў у сувязі з іх перавыданнямі ў зборніках і зборах твораў.

Знешні бок дапрацовак выяўляецца праз перастаноўкі паасобных слоў, радкоў, праз замены, скарачэнні, увядзенне новага тэксту. Гэты тэкст розны па свайму аб'ёму, але вынікі перагляду станоўча ўплывалі на мастацкі ўзровень вершаў.

Найбольш дапрацоўваліся вершы пры падрыхтоўцы іх да публікацыі ў зборніках «Вясна Радзімы», «Шляхамі баравымі», у «Выбраных творах», 1951 і Зборах твораў, 1957; 1965—1966; 1975—1978 гг.

Па характары (спосабах, прыёмах) і кірунках працэс дапрацоўкі адрозніваецца пры кожным канкрэтным аўтарскім вяртанні, але ўсе праўкі падпарадкаваны агульнай мэце — больш дакладна ўвасобіць думку, паглыбіць ідэйна-мастацкую задуму, удасканаліць моўна-стылёвыя сродкі.

Дапрацоўка вершаў пры падрыхтоўцы іх да публікацыі ў зборніках «Вясна Радзімы», «Шляхамі баравымі» характарызуецца пошукамі больш дакладнага слова («Садоўнік», «Песня дзяржынцаў», «Шчорс», «Пятру Глебку»), канкрэтызацыяй гістарычных падзей («У Каніве» — «А ён прайшоў пустэльняў многа... /Між турмаў/ Дні яго плылі...»//«Прайшоў ён дзікія мясціны, /Прыволжа шумныя палі...»/, а таксама іншай больш глыбокай трактоўкай падзей псіхалагічнага стану лірычнага героя («Вечар» — «Як тады загадкавым паглядам /Мне сама надзею падала»//«Я ж пэд тым загадкавым паглядам /Сам сябе не знаў як разглядаць»).

У параўнанні з метафарычнасцю і расквечанасцю мастацкага ўвасаблення думкі ў вершах «Вясна рэспублікі», «Вясна Радзімы», «Вечар» іх дапрацаваны варыянт да зборніка «Вясна Радзімы» характарызуецца таксама больш стрыманай манерай раскрыцця думкі, канкрэтызацыяй падзейнага боку твораў.

Аўтарская дапрацоўка вершаў пры падрыхтоўцы «Выбраных твораў» колькасна небагатая. Але яна дае магчымасць прасачыць за станаўленнем майстэрства вершаскладання, эвалюцыяй мастацкага стылю паэта. У прыватнасці, П. Броўка пераадольвае павярхоўнае пераймание паэтычнай формы Маякоўскага. У выніку праўкі пэўным чынам змянілася рытмічная арганізацыя некаторых вершаў. Паэт стаў звяртаць больш увагі на акцэнтнае слова ў радку, якое ўплывае на выразнасць галоўнай думкі. У сувязі з гэтым было зроблена шэраг перастановак слоў, як, напрыклад, у вершы «Скрыпач» («Мы беглі крадком пад акном...»//«Крадком мы беглі пад акном...»). Аўтара цікавіць не столькі само дзеянне, колькі тое, якім чынам яно адбываецца, г. зн. сам працэс яго («Мы з табой хадзілі часта ў поле»).

Найбольш істотна пераглядаліся вершы 1935—1940 гг. пры падрыхтоўцы іх да публікацыі ў першым Зборы твораў. Прычынай таму было не толькі ўсведамленне вялікай адказнасці паэта перад чытачом, якому адрасаваўся першы Збор твораў, але і ўзрослае майстэрства паэта, узрослая патрабавальнасць.

У выніку перапрацовак паглыбляецца ідэйны змест вершаў узмацняецца маштабнасць думкі. Лірычны герой звязваецца з цэлым светам, а думка яго віруе не толькі да горада, але і за акіян («Палеская дарога»). Чалавек разумеецца як арганічная і актыўная частка сусвету.

У вершы «Паэт», напрыклад, голас паэта-трыбуна гучыць не «па песенных садах», як было раней, а «Адкрыўшы даль нязведаных шляхоў, /Па роднае зямлі праходзіць Маякоўскі/ Паміж палёў і гулкіх гарадоў». Больш глыбока і рознабакова паказаны ўплыў рэвалюцыйных ідэй «партыйных мудрых кніг» Маякоўскага на народную свядомасць.

У некаторых творах выразнасць аўтарскай думкі ўзмацнілася дзякуючы яе эмацыянальнаму напаўненню. Аўтара цікавіць псіхалагічны настрой, стан герояў («Маланка», «Сустрэча»), працэс нараджэння ў характары савецкага салдата рысаў гераізму, непераможнасці («Заходнім беларусам», «Танкісты», «З паходаў»), а таксама паглыбляюцца абставіны, у якіх адбываецца дзеянне («Пасіянарыя»). У вершах «Раніца», «Рыбак», «Развітанне» эмацыянальнае напаўненне адбываецца за кошт увядзення асабовых канструкцый тыпу: «я чую», «я захапляюся», бо асабовыя якасці ў сваёй прычыннай узаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці ствараюць у вершах настрой эмацыянальнага ўспрыняцця хараства, напрыклад, ранішняга абуджэння ў вершы «Раніца» або яркі нацыянальны каларыт, як у вершы «З армянскіх матываў».

Паглыбляецца агульная ідэя твора ў выніку замены ў тэксце «там» на «скрозь», што адпавядае праўдзе гістарычнага мінулага прыгоннай Беларусі: «скрозь турмы» — нязменны яе атрыбут таго часу. Удакладняюцца дзеяслоўныя часавыя формы («Канец лета», «Радасць», «Праз Беларусь»), што ў сваю чаргу канкрэтызуе працягласць вымушаных вандровак героя.

Працягваецца ўдасканаленне вершаванай формы: увага да

больш дакладнай унутранай рыфмы, рытмікі («Радасць», «Дзед Тарас», «Пасіянарыя», «У Каніве», «Шчорс»).

Да выдання ў Зборы твораў, 1965—1966 з вершаў дадзенага перыяду найбольш дапрацоўваліся «Праводзіны», «Апошні хлеб», «З паходаў». Так у «Праводзінах» увага аўтара першапачаткова была звернута на месца падзей — герой загінуў «на палетках Беларусі». У новым тэксце аўтар акцэнтуе ўвагу на важнасці ідэі пераемнасці ў барацьбе за свабоду Беларусі, што нараджаецца ў характары сына.

Дапрацоўка верша «Апошні хлеб» звязана з пераасэнсаваннем тэмы горкай і бязмерна цяжкай долі заходняга беларуса дaверасnёўскага часу.

У вершы «З паходаў» аўтарская ўвага да псіхалагічнага стану чырвонаармейцаў выклікала замену іх характарыстык у адным з радкоў:

| Было: | Выпраўлена: |
| --- | --- |
| «Бабылку ўзнялі на руках,— <br> Пакутніцу сваю». | «Бабылку ўзнялі на руках,— <br> І слёзы у вачах». |

Чырвонаармейцы спачуваюць гору бабылкі, у якой загінуў сын.

Аўтарскую праўку тэксту, які рыхтаваўся да апошняга Збору твораў, можна аднесці да моўна-стылёвага кірунку. Гэта — пошукі дакладнага слова, што характарызуе выразнасць думкі ў выніку звароту да глыбокіх беларускіх моўных каранёў, народна-паэтычнага слова, якое найбольш адлюстроўвае народны вопыт ва ўспрыняцці рэчаіснасці: «*Села* чырвань-зара»//«Пала чырвань-зара». Пчала *вылятала* ў поле, а зараз «руліцца ў поле жыцця раніцой» («Маланка», «З паходаў», «Гэты кветкамі-пухам абсыпаны сад»).

На працягу ўсіх дапрацовак тэксту вершаў аўтар пазбаўляўся ад русізмаў і запазычаных моўных канструкцый.

Станоўчае значэнне паправак відавочнае. Ідэя многіх вершаў стала больш выразна акрэсленай, палепшылася моўна-стылёвая сістэма, кампазіцыйна-рытмічная арганізацыя твора, знікла ўскладнёнасць прачытання і ўспрыняцця ідэйна-эстэтычнай задумы. Адчуваецца сталасць паэтычнай аўтарскай думкі, яе гістарычнай праўдзівасці і паўнаты.

*Садоўнік* (с. 70)

Упершыню — Звязда, 1935, 8 ліп.; пад тэкстам: чэрвень 1935 г., Ляўкі, Аршаншчына.

У першадруку чацвёртая страфа верша гучала так:

Ён падслухаў усіх.
Зразумеў іх гаворак багацце,
Ён пачуў, як ўздымаецца
Звонкі іх гімн.
Гэта ён маладым
Апранаў саламяныя плацці,
Каб спакойны быў сон,
Калі дол усцілаюць снягі.

У далейшыя выданні гэтыя радкі паэт не ўключаў.

*Вясна рэспублікі* (с. 72)

Упершыню — Звязда, 1935, 10 ліп.; пад тэкстам: Ляўкі, Аршаншчына. Чэрвень, 1935 г.

Верш быў значна перапрацаваны для выдання ў зб. «Вясна

радзімы», 1937. Перапрацоўка ішла за кошт скарачэння некаторых нязначных радкоў, як, напрыклад:

Вось яна, маладосць!
Іх застала світанне —
Як падвёў,
Як падвёў іх гусляр-салавей...
Гэта ж цэлую ноч
Прашаптаў пра каханне
Камсамолец-ударнік
Каханай сваёй.
Ён прызваў яе любай,
Прыгожай і роднай,
Ён казаў, што яна —
Гэта толькі адно,—
Ах, як добра,
Што сёння падскочыў выходны,
Гэта ж можна памарыць
Яшчэ перад сном.

У першадруку канец верша быў такі:

Мы ж яе абаронім
На працы, ў паходзе,
На ўсіх скрыжаваннях
Вялікіх дарог...
Глянь, на сцягах яе
Светлы ленінскі ордэн
За пятнаццаць гадоў
Барацьбы й перамог.

*Дукорскія партызаны* (с. 76)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1935, 16 ліп. пад загалоўкам «Песня пра дукорскіх партызан».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1935 годам.

На словы верша напісана музыка кампазітарам І. Любанам (назва песні «Дукорская партызанская»).

*Двайня* (с. 77)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1935, № 7; пад тэкстам: чэрвень, 1935, Аршаншчына.

Верш быў перапрацаваны для выдання, прынятага намі за асноўны тэкст.

*Мышасты* (с. 79)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1935, № 7; пад тэкстам: чэрвень, 1935 г., Ляўкі, Аршаншчына.

*Вечар* (с. 81)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1935, № 7 без даты.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, за выключэннем першадруку, датуецца 1935 годам.

*Канец лета* (с. 82)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1935, 22 жн.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1935 годам.

*Радасць* (с. 84)

Упершыню — Звязда, 1935, 12 кастр.; пад тэкстам: кастрычнік, 1935 г.

*Здрада* (с. 86)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1935, 16 кастр.; пад тэкстам: Мар'іна Горка, кастрычнік, 1935 г.

*Над лепельскім возерам* (с. 88)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1935, 31 снеж.; пад тэкстам: лістапад, 1935 г.

*Палессе* (с. 89)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1936, № 2; пад тэкстам: лістапад, 1935 г.

Для выдання ў зб. «Вясна радзімы», 1937 верш быў нязначна перапрацаваны.

У тэксце выпраўлена памылка па першадруку, а таксама па выданнях: «Вясна радзімы», 1937, «Вершы і паэмы», 1940, «Выбраныя творы», 1945, «Вершы і паэмы», 1946.

С. 90, радок 9. Замест: «Праз акно, як толькі рушыць вечар»// «Праз акно, як толькі рушыць вецер».

Гэтая памылка была дапушчана ў «Выбраных творах», 1947.

На словы верша напісана музыка кампазітарам А. Чараднічэнкам.

*Дзед Тарас* (с. 91)

Упершыню — Звязда, 1936, 16 лют. пад загалоўкам «Заможнасць» без даты.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, за выключэннем першадруку, датуецца 1935 годам.

*Янка-коннік* (с. 95)

Упершыню — зб. «Вясна радзімы», 1937.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1935 годам.

У зб. «Вясна радзімы», 1937 верш заканчваўся так:

І цяпер часамі,
Як ляціць праз хмары,
А над ім калышацца
Парашутны шоўк,—
Прыгадае:
Бацьку павялі жандары,
І дахаты
Бацька болей не прыйшоў.

У далейшыя выданні гэтыя радкі паэт не ўключаў.

*Ураджай* (с. 97)

Упершыню — зб. «Вясна радзімы», 1937.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1935 годам.

*З армянскіх матываў* (с. 99)

Упершыню — Звязда, 1936, 8 студз. без даты.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, акрамя першадруку, датуецца 1936 годам.

Верш быў значна перапрацаваны ў моўна-стылёвых адносінах для выдання ў зб. «Вясна радзімы», 1937.

У зб. «Вясна радзімы», 1937 даюцца наступныя тлумачэнні:

*«Ардашат* — адзін з лепшых калгасаў Камарлінскага раёна ССР Арменіі. Свята, якое адбывалася ў Ардашаце, было прысвечана 15-годдзю вызвалення Арменіі ад дашнакаў.

*Зурна, тара* — усходнія музычныя інструменты.

*Мкрчан* —вядомая армянская спявачка, былая беспрытульная.

*Зангезур* — адзін з раёнаў Арменіі, у якім адбылося магутнае паўстанне супроць дашнацкай улады.

*Севан* — возера ў Арменіі, якое знаходзіцца на вялікай вышыні над узроўнем мора.

*Занга* — рэчка ў Арменіі.»

*Абавян Хачатур* (1805—1848) — армянскі пісьменнік, заснавальнік армянскай літаратуры.

*Наіры Зар'ян* (1901—1969) — армянскі савецкі паэт.

*Лагерная* (с. 101)

Упершыню — Звязда, 1936, 18 студз. без даты.

У часоп. «Іскры Ільіча», 1936, № 5 верш друкаваўся пад назвай «Лагерная песенька» без апошніх трох строф.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, за выключэннем першадруку, датуецца 1936 годам.

У газ. «Звязда» перад тэкстам верша быў змешчаны адкрыты ліст П. Броўкі да пісьменнікаў БССР з заклікам стварыць піянерскую песню, а ў часоп. «Іскры Ільіча» — паўторны прызыў П. Броўкі пад назваю: «Дамо піянерскую песню, таварышы паэты!»

*Самая шчаслівая* (с. 102)

Упершыню — Звязда, 1936, 10 сак.; Чырв. змена, 1936, 10 сак. з паметкай: Мінск.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

*На полі першая раса* (с. 104)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1936, № 11 пад загалоўкам «Мы толькі ўвайшлі ў сад»; пад тэкстам: май, 1936 г.

У першадруку адсутнічала апошняя страфа верша, відаць, дапісаная паэтам пры падрыхтоўцы зб. «Вясна радзімы», 1937. У далейшым ва ўсіх выданнях верш друкаваўся поўнасцю.

*Вясной птушыны звонкі лёт...* (с. 105)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1936, № 11; пад тэкстам: май, 1936 г.

На словы верша напісана музыка кампазітарам А. Туранковым.

*Пасіянарыя* (с. 106)

Упершыню — Звязда, 1936, 27 верас.; пад тэкстам: верасень, 1936 г.

Верш прысвечаны Далорэс Ібаруры.

*Ібаруры Далорэс* (н. 9.12.1895), дзеяч іспанскага і міжнароднага рабочага руху. Выступала ў рабочым друку пад імем Пасіянарыя (Палымяная). Адна з арганізатараў Камуністычнай партыі Іспаніі. У нацыянальна-рэвалюцыйную вайну іспанскага народа (1936—1939) узначальвала аддзел масавай работы ЦК, была намеснікам генеральнага сакратара ЦК КПІ, шмат зрабіла для стварэння рэспубліканскай арміі.

*Валенсія* — галоўны горад вобласці і правінцыі Валенсія ў Іспаніі.

*Якубу Коласу* (с. 109)

Упершыню — Звязда, 1936, 11 кастр.; пад тэкстам: 10 кастрычніка 1936 г. У зб. «Шляхамі баравымі», 1940 памылкова датуецца 1937 г.

Верш прысвечаны 30-годдзю літаратурнай дзейнасці народнага паэта БССР Якуба Коласа.

*Песня дзяржынцаў* (с. 110)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1936, № 11 пад загалоўкам «Песня пагранічнікаў».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

У першадруку адсутнічала першая страфа верша, пазней дапісаная, відаць, пры падрыхтоўцы зб. «Вясна радзімы», 1937. У далейшым верш друкаваўся з гэтай страфой.

*Маабіт* (с. 111)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1937, 30 ліп. пад загалоўкам «Быць Тэльману на волі».

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

У першадруку верш заканчваўся наступнымі радкамі:

Яна магутная расце,
Няхай
Праз горы болю,
Яна пакрышыць гмахі сцен,
Быць Тэльману
На волі!

У далейшыя выданні гэтыя радкі паэт не ўключаў.

*Маабіт* — Берлінская турма.

*Пагранічнае* (с. 112)

Упершыню — зб. «Вясна радзімы», 1937.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

У першадруку верш заканчваўся наступнымі радкамі:

Ноччу цёмнай восеньскай
Дождж халодны ліў...
Мае кулі меткімі,
Вернымі былі.
Я страляў па ворагу
Ранены як мог —
Лёг бандыт-чужынец,
На балоце лёг.

У далейшыя выданні гэтыя радкі паэт не ўключаў.

*Год дваццаты* (с. 114)

Упершыню — зб. «Вясна радзімы», 1937, дзе памылкова датуецца 1931 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

*Плыві, наша песня, далёка* (с. 116)

Упершыню — зб. «Вясна радзімы», 1937.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1936 годам.

*Раніца* (с. 117)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1937, 23 крас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1937 годам.

*Смерць таварыша Хахлова* (с. 119)

Упершыню — Звязда, 1937, 12 ліп.; пад тэкстам: 1937 г.

Прысвечаны 17-й гадавіне вызвалення Беларусі ад белапалякаў.

Пасля значных дапрацовак верш быў надрукаваны толькі ў апошнім прыжыццёвым Зборы твораў.

*Рыбак* (с. 121)

Упершыню — зб. «Шляхамі баравымі»; пад тэкстам: 1937 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1937 годам.

Верш быў дапрацаваны да выдання першага Збору твораў.

*Шчорс* (с. 122)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1938, 22 лют.; пад тэкстам: Мар'іна Горка, люты, 1938.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1938 годам.

*Шчорс Мікалай Аляксандравіч* (1895—1919), герой грамадзянскай вайны.

*Мікола Шчорс вядзе калоны /Багунскія на бой...*— У лютым 1918 г. Шчорс стварыў у Сноўску і ўзначаліў чырвонагвардзейскі атрад, які змагаўся супраць войск нямецкіх акупантаў на Украіне. З верасня 1918 г. Шчорс ужо быў камандзірам Багунскага палка.

*Неўміручы* (с. 124)

Тэкст друкуецца з папраўкай па выданню «Шляхамі баравымі», 1940 і «Вершы і паэмы», 1940. С. 124, радок 10, замест: Каціўся пеннай галавой//Каціўся грознаю гарой,/Скараўся пеннай галавой.

Упершыню — Звязда, 1938, 28 сак.; пад тэкстам: Сакавік, 1938 г.

Верш напісаны да 70-годдзя з дня нараджэння Максіма Горкага (1868—1936).

*Развітанне* (с. 126)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1938, 17 снеж.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1938 годам.

Верш прысвечаны памяці лётчыка Героя Савецкага Саюза Валерыя Паўлавіча Чкалава (1904—1938), які загінуў 15 снежня 1938 г. пры выпрабаванні новага самалёта.

Аўтар неаднаразова вяртаўся да тэксту верша, і апошняя праўка была зроблена да выдання ў першым Зборы твораў. Галоўная ўвага паэта была скіравана на большую мастацкую выразнасць думкі ў адлюстраванні падзей, на яе канкрэтызацыю праз асабістыя перажыванні.

*Палеская дарога* (с. 127)

Упершыню — зб. «Шляхамі баравымі»; пад тэкстам: 1938 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1938 годам.

Верш дапрацоўваўся некалькі разоў, пачынаючы з выдання «Выбраныя творы», 1947.

*Праводзіны* (с. 129)

Упершыню — зб. «Шляхамі баравымі»; пад тэкстам: 1938 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1938 годам.

*Праз Беларусь* (с. 131)

Упершыню — Звязда, 1939, 6 сак.; пад тэкстам: 15 студзеня 1939 г.

Ва ўсіх прыжыццёвых публікацыях, у зборніках і зборах твораў датуецца 1939 годам.

Верш прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння ўкраінскага паэта, мастака, рэвалюцыянера-дэмакрата Т. Р. Шаўчэнкі (1814—1861). Аўтар узнаўляе той момант з жыцця славутага кабзара, калі ён «шаснаццацігадовым юнаком, будучы казачком у пана Энгельгардта, пехатою ішоў за яго абозам з Вільні ў Пецярбург праз Беларусь» (з эпіграфа да верша, які быў у газетнай і часопіснай публікацыях. «Полымя», 1939, № 3).

*У Каніве* (с. 133)

Упершыню — Звязда, 1939, 9 сак.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1939 годам.

Верш прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі. У Каневе (Чаркаская вобл.) на Тарасавай гары адкрыты дзяржаўны музей-запаведнік «Магіла Т. Р. Шаўчэнкі».

*«Заповіт»*, 1845.— Верш Т. Шаўчэнкі, у якім паэт заклікаў таксама і да рэвалюцыйнага звяржэння самадзяржаўя.

*Вось гэтаю сцяжынкай, мусіць,/Хадзіў ён ночы давідна.../ І можа быць на Беларусі/Такая сцежка не адна...*— Вядома, што Т. Шаўчэнка не раз праязджаў праз Беларусь, цікавіўся беларускай літаратурай і фальклорам, быў знаёмы з беларускімі літаратарамі Я. Баршчэўскім і Р. Падбярэскім.

*«Ідуць дзяўчаты ў поле жаты,/Та, знай співають, ідучы...»* — радкі з верша Т. Шаўчэнкі «Причинна», 1838.

Верш вядомы і пад назвай «У Каневе». У апошніх выданнях аўтар пакінуў у назве ўкраінскае напісанне. З сямі публікацый верша на беларускай мове, у тым ліку ў зборніку «У вянок Т. Г. Шаўчэнка», 1939 дапрацоўваўся два разы: да выдання ў зб. «Шляхамі баравымі», 1940 і да Збору твораў, 1957. У першым выпадку аўтар звярнуў увагу на большую канкрэтызацыю падзей. Пазнейшая праўка адлюстроўвае надзвычай уважлівыя адносіны паэта да лексічнага адбору слоў, да іх значэння.

*Заходнім беларусам* (с. 135)

Упершыню — Звязда, Чырв. змена, 1939, 18 верас.

Друкаваўся ў гэтым жа годзе ў «Літ. і мастацтве», 21 верас. і ў «Полымі», № 9; пад тэкстам: 17 верасня 1939 г. Такая дата стаіць і ва ўсіх прыжыццёвых выданнях верша.

Верш напісаны ў дзень вызвалення заходніх абласцей Беларусі і Украіны і з'яўляўся своеасаблівым прывітаннем вызваленым.

*Песня вызваленай жанчыны* (с. 136)

Упершыню — Звязда, 1939, 3 кастр.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1939 годам.

*Танкісты* (с. 137)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*З паходаў* (с. 139)

Упершыню — Звязда, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Пятру Глебку* (с. 142)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Глебка Пётр Фёдаравіч* (1905—1969), беларускі паэт.

*Маланка* (с. 143)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

Верш быў пакладзены на музыку А. Туранковым («Ах, маланка!» — Беларусь, 1961, № 4).

П. Броўка вярнуўся да твора пры падрыхтоўцы да першага тома Збору твораў, 1957. Была зроблена замена «А яна мне плескача» на «Плескача мне з рукаўца». Прымаўка тут выконвае не толькі

функцыянальную ролю — узмацняе жартаўліва-іранічную настраёвасць абранага паэтам жанру, але лаканічна ў падтэксце сцвярджае новыя рысы характару гераіні — спрадвеку такім чынам характарызавалася ў народзе здольнасць чалавека да нечаканых дзеянняў.

*Мяцеліца* (с. 144)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Крыніца* (с. 145)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Купалле* — старажытнае свята летняга сонцастаяння ва ўсходніх славян, якое святкавалася ў ноч з 23 на 24 чэрвеня ст.ст.

*Дождж* (с. 146)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 23 лют.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Паэт* (с. 148)

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1940, 11 крас.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

Верш прысвечаны 10-годдзю з дня смерці У. У. Маякоўскага (1893—1930).

Ранняга Броўку-паэта вабіла мужная паэзія Маякоўскага, тая своеасаблівая паэтычная манера, што нараджала трыбуна і прапагандыста рэвалюцыйных ідэй. Гэта значна паўплывала на фарміраванне творчага почырку Броўкі. Асабліва відавочным было знешняе падабенства ранніх паэм «Прамова фактамі», «Праз горы і стэп», а таксама некаторых вершаў. Спасціжэнне паэтычнага майстэрства Маякоўскага адбывалася і праз непасрэднае судакрананне Броўкі з творчай лабараторыяй паэта, у прыватнасці, праз пераклад на беларускую мову паэмы «Уладзімір Ільіч Ленін» і іншых твораў.

Крытыкай зазначалася, што культурныя традыцыі іншых літаратур, асабліва рускай, пачынаюць глыбей асэнсоўвацца беларускімі мастакамі слова ў другой палове 30-х гадоў. Гэта заўважаецца і ў творчасці П. Броўкі. Больш глыбокае асэнсаванне манеры паэтычнага пісьма Маякоўскага праходзіла ў Броўкі і праз даследаванне творчасці паэта ў крытычных і літаратуразнаўчых працах, як «Вучыцца ў Маякоўскага», 1937; «Мы вучымся ў Маякоўскага», 1939; «Маякоўскі на беларускай мове», 1940; «Маякоўскі і савецкая паэзія», 1940; «Як навальнічны дождж», 1973.

*Сустрэча* (с. 149)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1939 годам.

Прысвечаны ўз'яднанню Заходняй Беларусі ў адзінай савецкай дзяржаве.

Вядома дзевяць публікацый верша ў беларускіх зборніках паэта. У «Выбраных творах», 1947 верш падрукаваны ў скарочаным варыянце да слоў: «Хусцінку падорыць такую».

Значная праўка звязана з падрыхтоўкай да выдання верша ў Зборы твораў, 1957.

*Апошні хлеб* (с. 151)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*На скрыжаванні* (с. 152)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Магіла* (с. 153)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

З сямі публікацый верша, акрамя першадруку, праўка была зроблена да выдання ў Зборы твораў, 1957, вялася ў некалькіх напрамках і звязана з імкненнем найбольш глыбока і выразна раскрыць ідэю твора, праўдзіва асэнсаваць і канкрэтызаваць у ім час падзей.

*Скрыпач* (с. 155)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Бор* (с. 157)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*** *Мы з табой хадзілі часта ў поле...* (с. 158)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*** *Гэты, кветкамі-пухам абсыпаны сад...* (с. 159)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Застольная* (с. 160)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

*Паляванне* (с. 161)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1940 годам.

## II

## ПАЭМЫ

*Прамова фактамі* (с. 165)

Упершыню — Маладняк, 1930, № 6—7 з падзагалоўкам: «Да дня вызвалення Беларусі ад белапалякаў»; пад тэкстам: Мінск, 1930.

Упершыню ўрывак пад назвай «Краты гавораць...» — Чырв. змена, 1930, 10 ліп.

У гэтым жа годзе паэма выйшла асобным выданнем.

Рыхтуючы «Прамову фактамі» да выдання ў «Выбраных творах», 1947, аўтар зняў вялікую частку тэксту. У выніку такога скарачэння (29 радкоў з першага і другога раздзелаў і поўныя тры апошнія раздзелы) у падзагалоўку адбылася замена слова «Паэма» на «З паэмы». Прычынай такіх значных скарачэнняў была незадаволенасць аўтара мастацкім узроўнем твора, паэтычнай формай увасаблення яго ідэйна-мастацкай задумы.

Ёсць скарачэнні, зробленыя аўтарам у сувязі з пераасэнсаваннем некаторых сацыяльных праблем з пазіцый сённяшняга часу.

Пазней «Прамова фактамі» друкавалася яшчэ тры разы, але без аўтарскай акцэнтацыі на тым, што гэта скарочаны варыянт (г. зн. за аснову быў узяты варыянт 1947 г. без пазначэння — «З паэмы»).

П. Броўка вяртаўся да паэмы пры падрыхтоўцы да выдання яе ў 1951, 1965, 1975 гг. Дапрацоўка тэксту паэмы звязана ў першую чаргу з паглыбленнем яе ідэйнай задумы, паколькі з вышыні творчага вопыту ўжо па-іншаму бачылася Броўку і тая гістарычная эпоха, і літаратурныя традыцыі, у плыні якіх ён працаваў. «Традыцыя Маякоўскага цяпер не «сілком» прыцягваецца ў верш, ■ жыве побач з нацыянальнай, побач з традыцыямі рускіх паэтаў у самім мастацкім светаадчуванні аўтара... У падыходзе да ранейшых твораў Броўка кіраваўся жаданнем адсеяць яўна эксперыментатарскае, дабіцца натуральнасці — вобразнай і рытмічнай»[1].

Акрамя скарачэнняў, тэкст першадруку дапрацоўваўся да ўсіх перавыданняў твора:

| | | |
|---|---|---|
| 1930/1947 | Увага да мастацкай дэталі, да больш канкрэтнай формы выяўлення працэсу актывізацыі дзейнасці барацьбітоў за свабоду. | «Сцяг узялі атаманы» //«Сцяг паднялі атаманы». |
| 1930/1951 | Удакладненне таго ці іншага паняцця, азначэння дзеяння, дзякуючы больш строгаму, карпатліваму адбору, увагі да лексічнага значэння слова, яго адценняў. | «Так разбіліся атрады»//«Так стварыліся атрады». |
| 1930/1965 | Праўка найбольш значная:<br>— увага да гістарычнай праўды падзей;<br>— змена інтанацыйных акцэнтаў у радку, фразе, дзеля выразнасці аўтарскай думкі;<br>— унікненне русізмаў. | «Біў татарын»//«беларус біў»<br>«У лесе вольнымі мы сталі».//«Вольнымі мы ў лесе сталі».<br><br>Скора//хутка |

*Праз горы і стэп* (с. 169)

Упершыню — альманах «Атака», 1935, № 1 пад загалоўкам «Мінеральныя воды»; пад тэкстам: 1932 г. Некаторыя раздзелы тут мелі і іншыя назвы, чым у пазнейшых выданнях: Мачыха-стэп// Чулі вы, што такое бурун?; Кізляр-Бандарэнка//Кізляр.

У зб. «Прыход героя», 1935 раздзел «Забуранілася стэп» адпавядае раздзелу «Маздок» у асноўным тэксце. Акрамя гэтага, у зборнік уваходзяць яшчэ тры раздзелы: Мінеральныя воды, Мачыха-стэп, Кізляр-Бандарэнка.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1932 годам.

Паэма друкавалася ў розных выданнях адзінаццаць разоў і без асаблівых тэкстуальных змен.

---

[1] Ярош М. Пятрусь Броўка: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн.: Нар. асвета, 1981.— С. 26.

*1914* (с. 175)

Упершыню — зб. «Прыход героя», дзе датуецца 1935 г.

Урывак з паэмы пад назвай «Атака 327 Сімбірскага палка» друкаваўся ў «Полымі рэвалюцыі», 1935, № 4 і, у асноўным, тэкстуальна адпавядае раздзелу «Атака» ў першадруку.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях, акрамя «Прыход героя», датуецца 1933 годам. У зб. «Вясна Радзімы» пад тэкстам: 1933—1934 г.

«Спроба паэтычнага асэнсавання П. Броўкам непазбежнасці Кастрычніцкай рэвалюцыі... вытокі і характар народна-салдацкага руху напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі» [1],— такую ідэйную характарыстыку атрымала паэма ў крытыцы.

Паэма перадрукоўвалася шэсць разоў, акрамя названых выданняў: у зборніках «Вясна радзімы», 1937, «Вершы і паэмы», 1940, «Выбраныя творы», 1947, 1951, у першых тамах Збораў твораў, 1965, 1975.

У першых трох публікацыях паэмы быў эпіграф з паэмы У. Маякоўскага «Вайна і мір»: «...Никто не просил,/Чтоб была победа/родине начертана/ Безрукому огрызку кровавого обеда/на черта она?!» Гэта дало магчымасць некаторым крытыкам зрабіць вывад, што тэма паэмы «1914» навеяна творам У. Маякоўскага «Вайна і мір» (Н. Перкін, І. Жданові́ч).

Аўтарская дапрацоўка вялася да кожнага выдання. Тэкст твора пасля публікацый у 1935, 1937, 1940 гг. значна адрозніваецца не толькі сваім аб'ёмам, але і інтэрпрэтацыяй галоўнай думкі.

Для прыкладу. Тэкст, які да выдання 1947 г. быў зняты:

С. 179, пасля апошняй страфы:

Я не маю звычкі,
мушкаю каб меціць,
пальну так з акопаў,
і ляці, гудзі...
Недзе на Украіне
мяне клічуць дзеці,
хочацца дадому...—
праказаў адзін.

— Мне ж дык усё роўна,
дзе ад сцюжы корчыцца,
зоры ўсюды злосныя
па начах гарэць...
У матушку Расію
няма чаго варочацца,
толькі не жадаю
«рана паміраць».

С. 183, пасля другой страфы:

«Каб паддацца немцам...
Не, ніколі...
Трасцу!..
Ах, як дзіўна коле
спрытная рука,

І канае вораг
У сталёвай касцы —
Гамбургскі рабочы
ад яго штыка».

С. 190, пасля першай страфы:

«Яго свяцейшая зямля
Ў абдымкі кінула
галецтва —
Сваё геройства
ён пракляў
І горка думаў
«пра калецтва».

---

[1] Міцкевіч У. Уступны артыкул //П. Броўка. Вершы і паэмы.— Мн., 1966.— С. 4.

Пасля другой страфы:

«Ён прыгадаў часіны тыя,
пакуты знесенай цяжар:
Дык вось, дзе матушка-Расія,
вялікі бог і белы цар!
Сірот бяздомных ім не шкода,
вакол адзін пануе жах:
Дык вось яна дзе, нагарода,
Цана медалям і крыжам»

Канцоўка:

«Калекай цар
мяне зрабіў.
Пазнаў праз мукі
я адно:
Што ваяваць
павінен быў
супраць цара,
супраць папоў!
1933—1934 г.»

*Месія* — у іудзейскай і хрысціянскай рэлігіі — пасланец бога, які павінен прыйсці на зямлю і выратаваць род чалавечы ад зла і пакут.

*З паэмы «Так пачыналася маладосць»* (с. 191)

Упершыню — Так пачыналася маладосць: Паэма.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1934. У канцы кнігі аўтарскія «Заўвагі да тэксту». Гэта адзіная поўная публікацыя паэмы.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1934 годам.

У першадруку паэма складалася з адзінаццаці раздзелаў: 1. Ноч Зайдэнвара; 2. Сходка на рэчцы; 3. У падпольнай друкарні; 4. Праккламацыі; 5. Перад Кастрычнікам; 6. Камсамольская варта; 7. У турме; 8. Ліст расійскім таварышам; 9. Камсамолец з Бабруйска; 10. Расце чырвоны фронт; 11. Ты прыйшла, мая раніца.

Урыўкі з паэмы «Камсамольская варта», «Ліст расійскім таварышам», «Расце чырвоны фронт» друкаваліся ў «Полымі рэвалюцыі», 1934, № 1.

Аўтар вярнуўся да паэмы толькі пры падрыхтоўцы яе да выдання ў першым томе Збору твораў, 1965. У выніку значных скарачэнняў і дапрацоўкі чытачу былі прапанаваны наступныя раздзелы: Сходка на рэчцы. У падпольнай друкарні. Расце чырвоны фронт. У загалоўку было пазначана: «З паэмы «Так пачыналася маладосць».

*Яшка-правакатар* — «Яшка Розеншайн — правакатар, які раней у Менску, а потым у Вільні прадаў шмат актыўных камуністаў».— З аўтарскіх «Заўваг да тэксту».

*З паэмы «Мінск»* (с. 202)

Упершыню — зб. «Прыход героя», дзе паэма друкавалася поўнасцю і складалася з дзевяці асобных вершаў-раздзелаў, якія былі размешчаны ў наступнай паслядоўнасці: Тры слупы імперыі. Была Няміга пеклам. Плыў вецер чарнасоценны. Паліцэйская ёлка. Так кіравалі тады губернатары. Вырастала светлае жыццё. Калі пачынаецца толькі дзень. Калі эскадрыллі пад сонцам гудуць. Вясна на стадыёне.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1934 годам.

Ужо ў зборніку «Вясна радзімы» адчуваецца распад кампазіцыйнай формы паэмы. Тут тэкст твора друкаваўся як асобныя вершы, прычым у рознай паслядоўнасці.

С. 106. «Калі пачынаецца толькі дзень».

С. 110. «Вясна на стадыёне».

С. 115. Пазначана ў загалоўку: «З мінулага» — «Плыў вецер чарнасоценны».

С. 116. «Паліцэйская ёлка».

Астатнія вершы-раздзелы зусім не ўвайшлі ў зборнік.

Акрамя названых публікацый пад загалоўкам «З паэмы «Мінск», твор друкаваўся ў першых тамах Збораў твораў, 1965, 1975 у іншай тэкставай паслядоўнасці раздзелаў, што рабіла твор больш кампазіцыйна стройным з паслядоўным акцэнтам на асноўных гістарычных вехах сацыяльнага развіцця горада, рэспублікі.

Значная тэкстуальная аўтарская дапрацоўка, скарачэнні першадруку вяліся ў некалькіх напрамках:

— уважлівы адбор слова, для пазначэння таго ці іншага паняцця, раскрыцця аўтарскай думкі;

— увага да мастацкай дэталі;

— значныя скарачэнні тэксту, выкліканыя тэкстуальнымі паўтарэннямі (датычыць характарыстык багатай вярхушкі), а таксама аўтарскім разуменнем павярхоўнага ілюстрацыйнага адлюстравання жыцця рабочага 30-х гадоў. Здымаўся просты пералік магчымых прафесій і заняткаў людзей.

*Губернатар* — начальнік губерні. Губерня — асноўная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў дарэвалюцыйнай Расіі з пачатку 18 ст. і ў СССР да 1924—1929 гг. (уст.).

*Кавярня* — кафэ, чайная (уст.).

*Чарнасоценец* — удзельнік рэакцыйна-манархісцкіх пагромных банд — чорных сотень у царскай Расіі.

*Кацярына* (с. 211)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1938, №№ 7—8, 9.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях датуецца 1937—1938 гадамі. У асобным выданні паэмы 1938 года ёсць паметка: Пухавічы — Мінск.

Урыўкі з паэмы друкаваліся:

1) Чырв. змена, 1938, 20 крас. пад загалоўкам «У Сталіна».

2) Звязда, 1938, 23 крас. пад загалоўкам «У Маскве».

15 красавіка 1938 года ў «Чырв. змене» быў апублікаваны артыкул П. Броўкі «Над чым я працую», у якім адзначаецца: «Гэтымі днямі канчаю паэму «Кацярына». Над гэтай паэмай я працаваў блізка двух год. Мне хацелася паказаць у ёй вобраз беларускай жанчыны праз усё яе жыццё».

*Дзед і ўнук* (с. 291)

Упершыню — Полымя рэвалюцыі, 1940, № 4.

Паэма друкавалася таксама ў зб. «Шляхамі баравымі», 1940 і ў першых тамах Збораў твораў, 1965, 1975, дзе датуецца 1940 годам.

Аўтар вяртаўся да кожнага з выданняў, але праўкі нязначныя і звязаны з удасканаленнем мастацкага ўвасаблення задумы твора.

С. 291, радок 15. «На снеданне спаймаць» (1940) // «Сабе яду шукаць» (1965).

С. 292, радок 23. «Як сом узмахіваў хвастом» (1940, 1965) // «Ды як палохаў сом хвастом» (1975).

С. 295, радок 13. «Калі на змучаных плячах» (1940) // «Калі на ссечаных плячах» (1965).

## III
## ВЕРШЫ

*** *Не, сягоння мы не заплачам...* (с. 303)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1926, 15 верас., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Эпіграф да верша — радкі з паэмы М. Чарота «Беларусь лапцюжная» (1924).

*** *Засмяялася чырванню раніца...* (с. 304)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1926, 20 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны з прысвячэннем Якубу Коласу; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

*Дням новым песня* (с. 305)

Друкуецца па літ.-маст. дадатку «Наддзвінне» да газ. «Чырв. Полаччына», 1926, 26 лістап.; дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

Верш прысвечаны трохгадоваму юбілею Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» (створана ў 1923 годзе).

*** *Стары друг мой! — стальная каса...* (с. 306)

Друкуецца па альманаху «Надзвінне», 1926, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

*** *Гудок прарэзліва гудзіць...* (с. 307)

Друкуецца па альманаху «Зарніцы», 1928; пад тэкстам: г. Полацк, 1926 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 26 лістап. пад псеўданімам Пятро Зарэчны.

*Зіма* (с. 308)

Друкуецца па альманаху «Роскбіт», 1927; пад тэкстам: 11 студзеня, 1927 г., г. Полацк.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 15 студз.

*Камсамол* (с. 310)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 4 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: 24 студз., 1927 г., г. Полацк.

*Мы на Ленінскім шляху* (с. 312)

Друкуецца па альманаху «Роскбіт», 1927; пад тэкстам: Студзень, 1927 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 21 студз.

Верш напісаны да 3-й гадавіны з дня смерці У. І. Леніна.

*Думы* (с. 314)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 12 лют., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк.

Датуецца годам апублікавання.

*Горад* (с. 316)

Друкуецца па альманаху «Роскбіт», 1927; пад тэкстам: г. Полацк, 8-3-27 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 16 крас.

*Прывет вясне* (с. 318)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 16 сак., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Адышоўшай* (с. 319)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: Полацк, 29/III—1927 г.

*Аб сабе* (с. 321)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927; пад тэкстам: г. Полацк. Сакавік, 1927 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 16 крас.

**** У брыльянтных росах...* (с. 324)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927; пад тэкстам: г. Полацк, 23 красавіка 1927 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 2 мая.

*М. Багдановічу* (с. 326)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927; пад тэкстам: 13/V—1927 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 21 мая на літаратурнай старонцы, прысвечанай 10-годдзю з дня смерці М. Багдановіча. (Памёр 25 мая 1917.)

*Аб чым звініць душа...* (с. 327)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: 10/VI—1927 г., г. Полацк.

*О, Беларусь...* (с. 329)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927; пад тэкстам: Ліпень, 1927.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 13 ліп.

*Звоны сэрца* (с. 331)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 16 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк.

Датуецца годам апублікавання.

*Таганы* (с. 332)

Друкуецца па альманаху «Росквіт», 1927; пад тэкстам: Полацк, 1927.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 20 жн.

*Не сумуй, матуля!..* (с. 333)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 14 верас., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк.

Датуецца годам апублікавання.

*Чую звон...* (с. 334)

Друкуецца па часоп. «Росквіт», № 1, снеж. 1927 — студз. 1928; пад тэкстам: г. Полацк, 1927 г.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1927, 15 кастр.

*10 год* (с. 336)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 7 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Успаміны* (с. 337)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1927, 28 снеж., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк, 1927 г.

*Чырвонаармейцу* (с. 339)

Друкуецца па альманаху «Зарніцы», 1928, № 3.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1928, 25 студз. пад назвай «Ліст чырвонаармейцу».

Датуецца годам апублікавання.

*Дайнейшае* (с. 341)

Друкуецца па зб. «Гады, як шторм», 1930; пад тэкстам: Полацк, 1928.

Упершыню — Чырв. Полаччына, 1928, 23 лют. пад псеўданімам Сымон Ракіта. Друкаваўся ў часоп. «Росквіт», 1928, № 2, сак.— крас.

*Чаканне* (с. 343)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1928, 17 сак., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк.

Датуецца годам апублікавання.

*Не выгінай свае далоні* (с. 345)

Друкуецца па часоп. «Росквіт», 1928, № 2, сак.— крас., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк, 1928 г.

*Дайце новую музыку* (с. 347)

Друкуецца па часоп. «Росквіт», 1928, № 2, сак.— крас., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Полацк, 1928 г.

*** *Разлівайся, вясёлы гімн...* (с. 348)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1928, 9 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны з прысвячэннем VI выпуску Полацкага педтэхнікума; пад тэкстам: г. Полацк.

Датуецца годам апублікавання.

*Пра новае* (с. 349)

Друкуецца па газ. «Чырв. Полаччына», 1928, 21 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*На вучобу* (с. 352)

Друкуецца па зб. «Гады, як шторм», 1930, дзе ўпершыню апублікаваны ў раздзеле «Маладосць», пад тэкстам: Полацк, жнівень, 1928 г.

Верш носіць аўтабіяграфічны характар: у жніўні 1928 года П. Броўка пакідае г. Полацк і едзе ў Мінск вучыцца ў Беларускі дзяржаўны універсітэт на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне.

*Зной на вёсцы* (с. 353)

Друкуецца па альманаху «Зарніцы», 1928, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: Полацк, 1928 г.

*** *Дні цякуць, нібы кроплі праз сіта...* (с. 355)

Друкуецца па часоп. «Маладняк», 1929, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: Полаччына, 1928 г.

*У вольны час* (с. 356)

Друкуецца па часоп. «Маладняк», 1929, № 5—6, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Мінск, 1929 г.

*Палі завуць* (с. 357)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Паэмы зямлі»; пад тэкстам: Мінск, 1930 г.

Упершыню — Чырв. змена, 1930, 1 крас. пад назвай «Апошні пераход»; пад тэкстам: Мінск, 1930 г.

Друкаваўся ў зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Межы бунтуюць»; пад тэкстам: Мінск, 1930 г.

*Савецкі парад* (с. 359)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1930, 5 мая, дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: г. Мінск, 1930 г.

*Цэхавыя будні* (с. 361)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчана ў раздзеле «Мая рэканструкцыя»; пад тэкстам: Добруш, лістапад 1930 г.

Упершыню — Маладняк, 1930, № 12 як цыкл вершаў з той жа паметай. Друкаваўся ў зб. «Цэхавыя будні», 1931. Паэма ўваходзіла ў другое выданне гэтага зборніка (1932).

Напісана ў выніку паездкі на фабрыкі і заводы рэспублікі ў складзе брыгады пісьменнікаў, аб чым паведаміла газ. «Звязда», 1930, 15 верасня.

*Тады пачынаю з пачуццямі спрэчкі...* (с. 372)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Маладосць».

Упершыню — Полымя, 1931, № 1; пад тэкстам: снежань, 1930 г., Мінск.

Друкаваўся ў зб. «Цэхавыя будні», 1931.

Пад назваю «Тады пачынаю спрэчкі...» быў змешчаны ў кн. «Избранные стихи» ў перакладзе на рускую мову Ю. Казарноўскага з памылковай датай: 1933.

*Атака* (с. 374)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчана ў раздзеле «Мая рэканструкцыя», пад тэкстам: гор. Мінск, 1930 г.

Упершыню — зб. «Гады, як шторм», 1930, у раздзеле «Варштат кліча», пад тэкстам: гор. Мінск, 1930 г.

*Парадны марш* (с. 375)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Маладосць»; пад тэкстам: г. Мінск.

Упершыню — зб. «Гады, як шторм», 1930 у раздзеле «Слова пра бойкі» з аднолькавай паметай: г. Мінск.

Датуецца годам апублікавання.

*Слова ў камсамольскіх спрэчках* (с. 377)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Маладосць» з падзагалоўкам «Прамова на X з'ездзе ЛКСМБ 10 студзеня 1931 г.».

Упершыню — Чырв. змена, 1931, 11 студз.

Датуецца годам апублікавання.

Уваходзіў у зб. «Большавіцкая моладзь», 1934. Урывак з прамовы друкаваўся ў газ. «Чырв. змена», 1934, 8 чэрв.

*Кавалі* (с. 382)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Мая рэканструкцыя».

Упершыню — Чырв. Беларусь, 1931, студзень, № 2 пад назвай «Каваль»; пад тэкстам: Завод «Камунар», 1930.
Друкаваўся ў зб. «Цэхавыя будні» (1931, 1932).

*Вечар* (с. 384)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Паэмы зямлі»; пад тэкстам: Мінск.
Упершыню — Чырв. Беларусь, 1931, № 17—18, верас. з падзагалоўкам «Штрыхі»; пад тэкстам: Мінск.
Датуецца годам апублікавання.
У перакладзе С. Радава на рускую мову быў змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935 з памылковай датай: 1933.

*У новы год* (с. 388)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Маладосць».
Упершыню — Чырвонаармейская праўда, 1932, 11 студз. пад назвай «У новы чацверты год».
Датуецца годам апублікавання.
Верш прысвечаны чацвёртаму году пяцігодкі. У прадмове да верша гаворыцца: «Гэтым вершам П. Броўка кладзе пачатак удзелу сваёй творчасцю ў нашай газеце, уключаючы гэтым сваю працу ў справу ўмацавання баяздольнасці Чырвонай Арміі».

*На пагрузачнай* (с. 391)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе змешчаны ў раздзеле «Мая рэканструкцыя»; пад тэкстам: Талька, 1931 г.
Упершыню — Беларусь калгасная, 1932, № 3.
У перакладзе на рускую мову (С. Леўман) быў змешчаны ў кн. «Избранные стихи», 1935 з памылковай датай: 1933.

*Пагранічнік* (с. 393)

Друкуецца па зб. «Паэзія», 1932, дзе ўпершыню апублікаваны і змешчаны ў раздзеле «Заўсёды гатоў».
Датуецца годам апублікавання.

*Плытнікі* (с. 394)

Друкуецца па газ. «Літ. і мастацтва», 1935, 28 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны; пад тэкстам: Ляўкі, Аршаншчына, 1935.

*Кліч народны* (с. 396)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1939, 21 верас., дзе ўпершыню апублікаваны.
Датуецца годам апублікавання.

*1941 год* (с. 397)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, 1 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.
Датуецца годам апублікавання.

*Лыжнікі* (с. 399)

Друкуецца па газ. «Чырв. змена», 1941, 5 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.
Датуецца годам апублікавання.

*Матросы* (с. 400)

Друкуецца па часоп. «Іскры Ільіча», 1941, № 2.
Упершыню — Піянер Беларусі, 1941, 5 студз. У сувязі з памылкай, дапушчанай па віне рэдакцыі газеты (адсутнічае 5 страфа) верш надрукаваны паўторна 9 студзеня.

Датуецца годам апублікавання.

*Тарос* — ледзяная глыба, якая ўтвараецца пры сцісканні льдоў у паўночных морах і рэках.

*Памятка* (с. 402)

Друкуецца па газ. «Чырв. змена», 1941, 10 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Галубы* (с. 403)

Друкуецца па часоп. «Іскры Ільіча», 1941, № 1.

Упершыню — Чырв. змена, 1941, 12 студз. на старонцы «Для маленькіх чытачоў».

Датуецца годам апублікавання.

*Першы прыз* (с. 405)

Друкуецца па часоп. «Іскры Ільіча», 1941, № 1.

Упершыню — Чырв. змена, 1941, 12 студз. на старонцы «Для маленькіх чытачоў».

Датуецца годам апублікавання.

*Першая справа* (с. 407)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, 26 студз., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

*Кары* — у дадзеным выпадку сані для перавозкі бярвення.

*Наша гаспадарка* (с. 409)

Друкуецца па газ. «Чырв. змена», 1941, 9 лют., дзе ўпершыню апублікаваны. Верш надрукаваны пад рубрыкай «Для маленькіх чытачоў».

Датуецца годам апублікавання.

*Махаеды* (с. 410)

Друкуецца па газ. «Звязда», 1941, 27 крас.; пад тэкстам: красавік, 1941 г.

Упершыню — Комсомольская правда, 1941, 2 крас, у перакладзе Б. Ірыніна на рускую мову пад назвай «Шумят на прежних топях нивы».

*Малыя садоўнікі* (с. 412)

Друкуецца па часоп. «Іскры Ільіча», 1941, № 4, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК

## ЗМЕСТ



## I

## ВЕРШЫ

## II

## ПАЭМЫ

## III

## ВЕРШЫ

**Броўка П.**

Б 88 Збор твораў: У 9-ці т. Т. 1. Вершы. Паэмы, 1926—1941/Прадм. М. Яроша.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 462 с., 1 л. партр., 4 л. іл.

Першы том Збору твораў народнага паэта Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР і БССР, акадэміка АН БССР Петруся (Пятра Усцінавіча) Броўкі (1905—1980) увайшлі вершы 1926—1941 гг., а таксама паэмы «Прамова фактамі», «Праз горы і стэп», «Кацярына» і інш.

Б $\frac{4702120200-089}{М302(03)-87}$ 103—86 ББК 84Бел7



**Петр Устинович (Петрусь) Бровка**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ДЕВЯТИ ТОМАХ

**Том 1**

*Стихи. Поэмы 1926—1941*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*На першым форзацы*
*Наваколле Ушач — радзіма П. Броўкі.*
*На другім форзацы*
*Будынак Лепельскага вучылішча, дзе вучыўся П. Броўка.*

Рэдактары Р. М. Яўсееў, Н. І. Семашкевіч
Мастак М. Р. Казлоў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал
Карэктар Я. Ф. Харко

ІБ № 2463

Здадзена ў набор 10.04.86. Падп. да друку 16.12.86. АТ 00720. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 24,36+0,53 укл. Ум. фарб.-адб. 27,41. Ул.-выд. арк. 22,02. Тыраж 8000 экз. Зак. 2362. Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.